**Т.М. Смольская, Л.У. Хрышчановіч**

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА.
# ЮРЫДЫЧНАЯ ЛЕКСІКА

**Мінск, 2011**

## Анатацыя

Дапаможнік складаецца з 19 раздзелаў, якія скіраваны на замацаванне і паглыбленне ведаў, на выпрацоўку навыкаў і ўменняў культуры маўлення ў сферы прафесійных зносін. Таксама ў дапаможніку прапаноўваюцца спецыяльныя тэксты для выпрацоўкі навыкаў перакладу, аддаецца ўвага разгляду і афармленню спецыяльных дакументаў правазнаўчага характару, тэрміналагічнай і прафесійнай лексіцы, падаецца руска-беларускі слоўнік юрыдычных тэрмінаў.

Прызначаецца студэнтам юрыдычных факультэтаў і юрыдычных каледжаў.

## Прадмова

Вучэбны дапаможнік “Беларуская мова. Юрыдычная лексіка” прызначаецца студэнтам юрыдычных факультэтаў і юрыдычных каледжаў. Ён мае на мэце сістэматызаваць веды навучэнцаў па беларускай мове, дапамагчы ім засвоіць пэўныя тэарэтычныя палажэнні, асэнсаваць ролю мовы ў грамадстве, вызначыць месца беларускай мовы сярод іншых моў свету, удасканаліць свае веды па спецыяльнай лексіцы, добра засвоіць пэўныя пытанні культуры мовы і маўлення, выпрацаваць навыкі і ўменні перакладу спецыяльных тэкстаў, а таксама афармлення афіцыйных дакументаў у сферы юрыдычна-справавых зносін.

Дапаможнік складаецца з 19 раздзелаў. Кожны раздзел уключае ў сябе пэўны комплекс пытанняў і практычных заданняў, якія скіраваны на замацаванне і паглыбленне ведаў, а таксама на выпрацоўку навыкаў і ўменняў культуры маўлення ў сферы прафесійных зносін.

У дапаможніку падаецца руска-беларускі слоўнік юрыдычных тэрмінаў, прапаноўваюцца спецыяльныя тэксты для выпрацоўкі навыкаў перакладу.

Пэўная ўвага ў вучэбным дапаможніку аддаецца разгляду і афармленню спецыяльных дакументаў правазнаўчага характару, тэрміналагічнай і прафесійнай лексіцы, засваенне якой – найпершы абавязак будучых адвакатаў, суддзяў, следчых.

# УВОДЗІНЫ Ў НАВУКУ АБ МОВЕ

## Мова і соцыум.
## Функцыі мовы ў грамадстве

Немагчыма ўявіць жыццё чалавека без мовы. Мы нават не задумваемся аб яе значнасці і каштоўнасці ў нашым жыцці, як не задумваемся пра паветра, без якога не можа існаваць ніводная жывая істота.

Мова – адметная форма культуры народа, у ёй найперш выяўляецца духоўная самабытнасць пэўнай грамадскай супольнасці людзей. Як катэгорыя грамадская (або сацыяльная), яна з'яўляецца неабходнай умовай існавання грамадства, тым падмуркам, на якім яно трымаецца. Разам з тым, без грамадства сама мова існаваць не можа. Яна з'яўляецца галоўным сродкам зносін людзей, ёй ахоплены ўсе сферы духоўнага і матэрыяльнага жыцця грамадства. Пры гэтым мова – важны кансалідуючы элемент любога грамадства. Са знікненнем мовы адбываецца працэс яго разбурэння і ўрэшце яно перастае існаваць. І такіх прыкладаў у гісторыі шмат. Узгадаем хаця б скіфскую, палабскую, прускую мовы, якія зніклі, а разам з мовамі – і супольнасці людзей, што былі асіміляваны іншымі народамі.

Мова яшчэ і з'ява індывідуальная, бо ўласціва пэўнаму чалавеку. Яна дапамагае кожнаму індывідууму заявіць аб сабе як пра арыгінальную асобу, са сваім духоўным светам, інтэлектуальным патэнцыялам. Прааналізаваўшы мову канкрэтнага чалавека, мы без вялікіх цяжкасцей можам вызначыць не толькі яго сацыяльную прыналежнасць, узровень культуры, але нават спецыяльнасць і род заняткаў.

Дасканалае валоданне мовай – адзін са складальнікаў поспеху афіцыйна-справавой практыкі юрыста.

Мова – складаная знакавая сістэма. І тое, што мы ведаем, як жылі нашы продкі тысячы гадоў таму, пра што яны марылі, аб чым рупіліся, і тое, што мы можам выказваць свае думкі, перадаваць пачуцці, – гэта ўсё дзякуючы яе універсальнаму характару і поліфункцыянальнасці.

Асноўнымі сярод функцый мовы вылучаюцца: камунікатыўная (ад лац. communicatio – зносіны, сувязь) – важнейшы сродак узаемаадносін паміж людзьмі, і кагнітыўная або пазнавальная (ад лац. cognitio – пазнанне), - адлюстроўвае пазнанне свету. Мова – інструмент пазнання. Працэс пазнання вядзе да назапашвання і фіксацыі ведаў з дапамогай мовы. Важнай фукнцыяй мовы з'яўляецца акумулятыўная (ад лац. accumulare – назапашваць, збіраць), якая дапамагае нам захаваць нашу багатую культурную

спадчыну, традыцыі, абрады, святы і, такім чынам, – нашу нацыянальную свядомасць.

Бясконцае мноства розных прадметаў, з'яў, іх уласцівасці патрабуюць таго альбо іншага наймення. Намінатыўная функцыя (ад лац. nominatio – называнне) выконвае функцыю наймення прадметаў, з'яў, рэчаіснасці.

Для любога чалавека вельмі важна не толькі тое, што мы гаворым, але і як мы гаворым. Для юрыста любой спецыяльнасці вельмі важна, у якую эмацыянальную афарбоўку ён "апране" сваё выказванне або паведамленне ці прысуд. Адно і тое ж выказванне па сваёй інфармацыйнай важкасці можа ўспрымацца па-рознаму ў залежнасці ад мілагучнасці выказвання, ад тэмбру голаса, яго тону і моцы. Такім чынам, мы можам гаварыць і пра эстэтычную функцыю мовы.

Мова служыць яшчэ і для ўсведамлення свайго этнічнага "я" ў агульнай супольнасці людзей (этнічная функцыя мовы).

Пералічаныя функцыі мовы часцей за ўсё праяўляюцца не паасобку, а ў комплексе з магчымай перавагай адной з іх у залежнасці ад мэты выказвання, складу суразмоўцаў або слухачоў і г.д.

Аднак, якія б функцыі мовы не былі задзейнічаныя, яны ўсе скіраваныя на паразуменне людзей у працэсе зносін і непасрэднага іх самавыяўлення.

**Пытанні**

1. Што такое мова? Якія сферы жыцця чалавека яна ахоплівае?
2. Якія функцыі выконвае мова? У чым іх сутнасць?
3. Якая функцыя мовы з'яўляецца асноўнай?
4. У чым выяўляецца сацыяльная прырода мовы?
5. Як вы разумееце выраз "Мова – інструмент пазнання"?
6. Якія сродкі зносін, акрамя мовы, вы ведаеце?

**Заданні**

1. Назавіце мовы, якія зніклі ў выніку асіміляцыі іх носьбітаў іншымі народамі.

2. Растлумачце выказванне: "Мова – адзенне душы чалавека".

3. Дакажыце на прыкладах неабходнасць дасканалага валодання мовай у афіцыйна-справавой дзейнасці юрыста.

4. Пазнаёмцеся з наступнымі выказваннямі пра мову. Прааналізуйце іх.

"Мова ёсць самая жывая, самая багатая і трывалая сувязь, якая злучае пакаленні, што аджылі, жывуць зараз і будуць жыць, у адну

велічную гістарычную, жывую цэласць. Яна не толькі выражае сабою жыццёвасць народа, але ёсць іменна само гэта жыццё”

*(К. Ушынскі; пер. М. Лужаніна)*

“Беларуская мова мілагучная, ласкавая, як песня”.

*(І. Мележ)*

“...Жыць з людзьмі, сустракацца з імі штодня, і не ведаць іх мовы – я лічу недастойным людскай годнасці. Апрача таго, гэта значыла б прызнацца ў сваёй бяздарнасці. Ці цяжка вывучыць яшчэ адну мову!”

*(У. Дубоўка)*

“Мова – не толькі сродак зносін. Яна – душа народа, аснова яе культуры. Пакуль жыве мова, жыве народ. Выбіраць мову зносін – права асобнага чалавека. Але такога права пазбаўлены народ, бо страта нацыянальнай мовы вядзе да знікнення яго як самабытнай этнакультурнай супольнасці. Кожная мова – гэта неацэнны скарб, які разам з тым належыць не толькі аднаму народу, а ўсяму чалавецтву, духоўна ўзбагачаючы яго.

*(Беларуская мова: энцыклапедыя)*

“...Мова – адна з асноўных, характэрных прымет нацыі. Гэта як бы сама тканіна нацыянальнасці, другая, унутраная радзіма, улонне душы, у якой нараджаюцца наша свядомасць і наша асоба.”

*(Паводле Б. Казанскага)*

“Мова Скарыны і Буднага, мова Багдановіча і Купалы, Багушэвіча і Коласа, мова соцень геніяў, што яшчэ прыйдуць...

Мова першай матчынай калыханкі і апошняга “бывай”... Мова, якая можа ўсё, можа сказаць словы невыказнай пяшчоты і можа ўдарыць так, што не ўстанеш. Гнуткі, спявучы, адвечна новы інструмент, без якога нельга ўявіць сабе сваё жыццё, як без хлеба, без якога радасць не ў радасць, каханне не ў каханне, бяседа не ў бяседу, сяброўства не ў сяброўства і нянавісць не ў нянавісць”.

*(У. Караткевіч)*

“Кожная мова ўбірае ў сябе нешта ад канкрэтнай своеасаблівасці сваёй нацыі і ў сваю чаргу дзейнічае на яе ў тым жа накірунку... Паколькі развіццё ў чалавеку яго чалавечай прыроды залежыць ад развіцця мовы, гэтай апошняй непасрэдна і вызначаецца паняцце нацыі як людскога згуртавання, якое ідзе ва ўтварэнні мовы сваім непаўторным шляхам”.

*(Вільгельм фон Гумбальт)*

5. Як вы разумееце гэты выраз старажытных грэкаў: “Загавары, каб я цябе ўбачыў”.

6. Выразна прачытайце верш Н. Гілевіча “Родная мова”. Вершы якіх яшчэ аўтараў, прысвечаныя роднай мове, Вы ведаеце?

Як ты дорага мне, мая родная мова!
Мілагучнае, звонкае, роднае слова!
Ты калісьці з калыскі мяне падымала
І вучыла ў бацькоў на руках гаварыць.
У жыцці маім слова найпершае "мама"
І цяпер для мяне сама міла гучыць.
Я па літарах родных вучыўся чытаць,
І буквар для мяне быў жыцця палавінай.
Быў шчаслівы я роднаю мовай сказаць
Першы раз:"Беларусь, мая Маці-краіна!"
І цяпер для мяне ты за ўсё прыгажэй,
Хоць, я ведаю, моваў на свеце нямала,
І з усіх песняроў мяне мілей і бліжэй
Роднай мовы пясняр – неўміручы Купала.
А задумае вораг з чужога далёкага краю
Адабраць у мяне, знішчыць родную мову маю –
Не дазволю. Не дам. Не прадам. Не змяняю.
І да смерці за волю яе пастаю!

*(Н. Гілевіч)*

## Агульныя звесткі пра мову і яе паходжанне

Як узнікла мова? Калі гэта адбылося і дзе?

Гукавая мова (у яе членападзельнай форме) – найбольш істотная і яскравая прыкмета чалавека, якая вылучае яго з усяго астатняга біялагічнага свету. Гэты факт дае падставу меркаваць, што само паходжанне і станаўленне чалавека адбылося дзякуючы мове. Паколькі пераважную большасць часу існавання чалавека мова ўжывалася толькі ў вуснай форме (дзесяткі тысяч гадоў), а пісьменства, якое фіксуе і захоўвае вынікі моўнай дзейнасці чалавека, існуе ўсяго каля 5000 гадоў, дакладныя і строга аргументаваныя доказы ўзнікнення мовы і этапы яе развіцця ў навуцы практычна адсутнічаюць. Таму праблема паходжання мовы з’яўляецца цалкам гіпатэтычнай.

У сучаснай навуцы існуюць як філасофская, так і філалагічная гіпотэзы паходжання мовы. Адной са старажытнах філасофскіх канцэпцый з’яўляецца ***лагасічная*** (*логасная*) тэорыя паходжання мовы. У яе аснове ляжыць міфалага-рэлігійнае ўяўленне пра мову як дар Бога. Паводле гэтай канцэпцыі мова (“слова”) існавала задоўга да з’яўлення чалавека, яно ўвасабляла сабой дух і валодала магічнай сілай. “Слова” разглядалася як першааснова ўсяго, што існавала ў прыродзе, як энергія і сродак, якія стварылі свет з першаснага хаосу. У “Бібліі” (“Евангелле ад Іаана”) чытаем: “У пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Бог. Яно было спачатку ў Бога. Усё праз Яго пачало быць, і без Яго нічога не пачало быць, што пачало быць”.

У XVI ст. у Еўропе з’явілася і стала пашырацца тэорыя т.зв. “**грамадскай дамоўленасці**”, паводле якой не Божае “Слова-Логас”, а сам чалавек з’яўляецца стваральнікам усяго існага на зямлі, у тым ліку і мовы. Менавіта грамадская дамоўленасць адрознівае чалавечае грамадства ад першабытнага статку. Аднак гэта тэорыя, называючы творцу мовы, не змагла растлумачыць прыроду яе ўзнікнення і як чалавек авалодаў ёю.

З цягам часу на аснове тэорыі “грамадскай дамоўленасці” былі распрацаваны натуралістычныя гіпотэзы паходжання мовы. Сярод іх: ***гукапераймальная*** і ***выклічнікавая***. Так, згодна з гукапераймальнай гіпотэзай мова паходзіць ад пераймання шматлікіх і разнастайных гукаў навакольнага свету (спеў птушак, шум ветру, плёскат вады, шапаценне лісця, гул грому і г.д.) і гэтыя гукаперайманні (тыпу гаў-гаў, мяў-мяў, ку-ка-рэ-ку, му-у-у... і інш.) сталі асновай слоў-назваў чалавечай мовы. Гэтай тэорыі ўпершыню прытрымліваўся старажытнарымскі паэт Лукрэцый:

Звонкому голосу птиц подражать научились устами

Люди задолго пред тем, как стали они в состоянье
Звонкие песни слагать и ушам доставлять наслажденье.

***Выклічнікавая*** гіпотэза звязвае паходжанне мовы з тымі натуральнымі, інстынктыўнымі гукамі, якімі насычана біялагічнае жыццё чалавека (кашаль, хрып, сапенне, гукі, выкліканыя пачуццём болю, радасці, абурэння: ой!, ай!, ах!, ох! і г.д.).

Вялікая ўвага праблемам паходжання і развіцця мовы адводзілася ў працах французскіх і нямецкіх філосафаў. Французскі даследчык XIX ст. Л. Нуарэ выказваў гіпотэзу пра тое, што мова ўзнікла ў час калектыўнай працы людзей, якія, выконваючы яе, дапамагалі сабе выкрыкамі. Ж.Ж. Русо распрацаваў гіпотэзу паходжання маўлення, згодна з якой прадметы і з'явы навакольнага свету атрымалі пэўныя моўныя адзінкі ў выніку дамовы старажытных людзей так іх называць. Канцэпцыя вядомага нямецкага філосафа і лінгвіста Вільгельма фон Гумбальта зводзілася да ідэі, што з'яўленне мовы абумоўлена ўнутранымі патрэбамі чалавецтва, "яна не толькі знешні сродак зносін людзей у грамадстве, але і закладзеная ў прыродзе саміх людзей і неабходная для развіцця іх духоўных сіл і стварэння светапогляду". Гумбальт пісаў: "Мова і духоўная сіла народа развіваюцца не асобна адна ад адной і не паслядоўна адна за другой, а складаюць выключна і непадзельна адно і тое ж дзеянне інтэлектуальнай здольнасці".

Аднак найбольшае пашырэнне атрымала распрацаваная ў тым жа XIX ст. так званая ***матэрыялістычная*** тэорыя паходжання мовы, альбо, як яе яшчэ называюць, "***працоўная***", ці "***сацыяльная***". Паводле гэтай тэорыі, мова ўзнікла як вынік супольнай дзейнасці першабытных людзей. Пад час працы выпадалі такія сітуацыі, калі неабходна было ўзгадніць свае дзеянні, што і прымусіла старажытнага чалавека падаваць гукавыя сігналы. Пры гэтым адбывалася перабудова органаў маўлення, якая і прывяла да іх здольнасці ствараць членападзельныя гукі. Пастулова з развіццём грамадства, з падзелам відаў працоўнай дзейнасці, з удасканаленнем працэсаў і сродкаў працы ўдасканальваліся мысленне чалавека і формы адлюстравання яго ў мове.

Некаторыя вучоныя лічаць, што этапы фарміравання і станаўлення мовы можна прасачыць на прыкладзе дзіцяці. За 3 гады дзіця паўтарае ўвесь шлях, які прайшло чалавецтва ад прымітыўных гукаў да членападзельнай мовы. Працэс развіцця мовы ў дзіцяці падзяляецца на падрыхтоўчы перыяд, які ўключае крык, гуленне і лепятанне; перыяд выкарыстання слоў-сказаў і, нарэшце, авалоданне фразавай мовай.

У пачатку 1989г. увесь свет абляцела сенсацыйная звестка: Афрыка з'яўляецца прарадзімай не толькі чалавека, але і ўсіх

вядомых сёння моў і гаворак. Такое меркаванне выказаў амерыканскі вучоны Алан Уілсан з Каліфарнійскага універсітэта. Пасля шматгадовых даследаванняў у галіне генетыкі Уілсан прыйшоў да высновы, што здольнасць зносінаў з дапамогай слова падаравала чалавецтву жанчына. Вучоны лічыць, што прыкладна 200 тысяч гадоў таму ў выніку генных мутацый менавіта жанчына набыла неабходныя задаткі да членападзельнай мовы. Ад яе ў далейшым "навучылася гаварыць" моцная палова чалавецтва. Біялагічную ўласцівасць развіваць мову перасяленцы з Афрыкі перадалі жыхарам Еўропы і Азіі.

Як бы ні вырашалася ў навуцы праблема паходжання мовы, відавочным для ўсіх з'яўляецца тое, што жыццё мовы цесна звязана з жыццём грамадства. Мова не толькі дапамагае людзям зразумець адзін аднаго, але і захаваць здабыткі чалавечай гісторыі, навукі і культуры.

**Пытанні**

1. Чаму праблема паходжання мовы з'яўляецца цалкам гіпатэтычнай?
2. Якія існуюць гіпотэзы паходжання мовы? У чым іх сутнасць?
3. Якія гіпотэзы паходжання мовы зарадзіліся яшчэ ў старажытнагрэчаскай філасофіі?

**Заданні**

1. Растлумачце сутнасць "працоўнай" (ці "сацыяльнай") тэорыі паходжання мовы.
2. Назавіце французскіх і нямецкіх вучоных XIX ст., якія займаліся праблемай паходжання мовы.
3. Выкажыце сваё ўласнае стаўленне да гіпотэзы амерыканскага вучонага Алана Уілсана аб паходжанні мовы.

## Беларуская мова сярод іншых моў свету

Па падліках вучоных, усяго ў свеце існуе каля 5 тыс. моў. З іх прыкладна дзве трэці моў не маюць пісьменнасці. Па колькасці носьбітаў адной мовы на першым месцы знаходзіцца Кітай (больш за 1 мільярд), а па колькасці моў у межах адной дзяржавы – Індыя (845 моў). Да прыкладу, у Інданезіі налічваецца каля 200 моў , у Дагестане – каля 30, у Швейцарыі 4 мовы – нямецкая, французская, італьянская і рэтараманская.

Усе мовы свету ў залежнасці ад паходжання і наяўнасці ці адсутнасці агульных рысаў падзяляюцца на роднасныя і няроднасныя. У сваю чаргу роднасныя мовы аб'ядноўваюцца ў вялікія групы, або сем'і, моў. Ёсць мовы, якія з прычыны свайго гістарычнага развіцця, не ўваходзяць у склад сем'яў ці груп. Да іх адносяцца японская, карэйская і інш.

Беларуская мова ўваходзіць у індаеўрапейскую моўную сям'ю, якая налічвае 16 *моўных груп*: германская (нямецкая, англійская, нідэрландская, або галандская, дацкая, нарвежская, шведская, ісландская, ідыш, або новаяўрэйская, і інш. мовы); раманская (французская, іспанская, італьянская, партугальская, румынская, малдаўская, "мёртвая" лацінская і інш. мовы); балцкая (літоўская, латышская, а таксама "мёртвыя" мовы: пруская і яцвяжская); іранская (персідская, таджыкская, курдская, афганская, або пушту; асецінская, "мёртвая" скіфская і іншыя мовы); індыйская (пенджабі, бенгалі, урду, хіндзі, цыганская мова і інш., а таксама "мёртвыя" мовы – ведыйская, санскрыт) і інш. Беларуская мова належыць да славянскай групы моў.

Славяне вылучыліся з індаеўрапейскага моўнага адзінства прыкладна на пачатку III тысячагоддзя да н.э. Доўгі час яны жылі разам на параўнальна невялікай тэрыторыі. Гэты перыяд у гісторыі славян прынята лічыць агульнаславянскім, яго мову называюць агульнаславянскай, або праславянскай. Праславянская мова-аснова сфармавалася да сярэдзіны I ст. да н.э. Пацверджаннем агульнага перыяду ў гісторыі славян з'яўляецца той факт, што ва ўсіх сучасных славянскіх мовах існуе вялікі пласт слоў, зразумелых кожнаму славяніну. Большая частка сучасных гісторыкаў і мовазнаўцаў лічыць, што ўжо ў I ст. н.э. славяне займалі тэрыторыю паміж 50 і 55 градусамі паўночнай шыраты, паміж рэкамі Дняпром і Одрай. Такое засяленне славянамі велізарных абшараў натуральна прывяло да паслаблення сувязей паміж славянскімі групамі, а нарэшце і да распаду агульнаславянскага адзінства, які адбыўся не пазней як у VI ст. н. э. У выніку чаго і склаліся тры славянскія

моўныя групы – усходнеславянская, заходнеславянская і паўднёваславянская.

Усходнеславянская група (руская, беларуская, украінская мовы) – самая малая па колькасці моў, але самая вялікая па колькасці славян, што гавораць на мовах гэтай групы (болей за 200 млн. чалавек).

Заходнеславянскую групу складаюць: польская, чэшская, славацкая, сербалужыцкая (верхня- і ніжнялужыцкая), а таксама мёртвая палабская мова.

Да паўднёваславянскай моўнай групы належаць: балгарская, македонская, славенская, сербская, харвацкая і “мёртвая” стараславянская мовы.

**Пытанні**

1. Колькі ўсяго моў існуе ў свеце?
2. Да якой моўнай сям’і належыць беларуская мова?
3. Калі сфармавалася праславянская мова-аснова?
4. Калі адбыўся распад агульнаславянскага моўнага адзінства?
5. У якую са славянскіх груп уваходзіць найменшая колькасць моў?
6. Якія мовы ўваходзяць у заходнеславянскую групу?

**Заданні**

1. Назавіце мовы, якія не ўваходзяць у склад сем’яў ці груп. Як вы думаеце чаму?

2. Пералічыце мовы, якія адносяцца да паўднёваславянскай групы славянскіх моў.

3. Назавіце “мёртвыя” славянскія мовы і вызначце да якой з трох груп славянскіх моў яны належаць.

4. Уявіце сітуацыю: да Вас у госці прыехалі прадстаўнікі розных славянскіх народаў. Ці зразумееце Вы адзін аднаго? Аргументуйце свой адказ.

5. Параўнайце ўрыўкі.

Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!
Не раз, утомлены дарогай,
Жыццём вясны мае убогай,
К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю.

О детства уголок мой милый!
С тобой расстаться я не в силах.
Как часто, утомлен дорогой,

Годами юности убогой,
К тебе я в думах улетаю
И там душою отдыхаю.

Kraju rodzinny, sercu miły!
Zapomniec ciebie nie mam siły!..
Nie raz, strudzony długa droga
I wiosna życia ma uboga
Do ceibie w myslach ulatuje
I spokoj w myslach ulatvuje
I spokoj dłucha odnajduje.

## Этапы фармавання і развіцця беларускай літаратурнай мовы
### Ля вытокаў беларускай мовы

Працэс узнікнення і развіцця любой мовы звязаны з фарміраванем народнасці. Як жа адбываўся працэс складвання беларускай народнасці?

Паводле звестак гісторыкаў, у сярэдзіне I тысячагоддзя н. э. на землі этнічнай Беларусі пачалі пранікаць першыя славянскія плямёны. Найбольш масавы характар такое засяленне мела месца на працягу VI - VIII стст. н.э. Хутчэй за ўсё славяне прыйшлі на беларускія этнічныя землі, якія былі ўжо заселены балтамі, з захаду (з тэрыторыі Польшчы і Германіі) ці з поўдня. Паступова, у выніку славяна-балцкага сінтэзу, на землях Беларусі склаліся племянныя аб’яднанні крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў. Племянныя дыялекты праславянскай мовы, якія прынеслі з сабой славяне, актыўна ўзаемадзейнічалі з балцкімі гаворкамі мясцовага насельніцтва. Славянскія дыялекты паступова асімілявалі балцкія. З тых часоў у беларускай мове засталося нямала т.зв. “балтызмаў”. Сярод іх шматлікія тапонімы і гідронімы (Арэса, Клёва, Рэста, Нарач і інш.); а таксама такія словы, як *свіран, клуня, дойлід, парсюк, пуня, дзёгаць, сцірта, шашок* і інш.

На аснове племянных саюзаў, у першую чаргу крывічоў і дрыгавічоў, утварыліся феадальныя княствы. Найбольш развітымі былі: Полацкае, Турава-Пінскае і Смаленскае. Асаблівае месца сярод іх займае Полацкае княства, якое было буйным цэнтрам, што аб’ядноўваў крывічоў. Ужо ў IX ст. Полацкае княства становіцца адным з самых магутных палітычных і культурных цэнтраў Усходняй Еўропы. У гэты ж час узмацняе свае пазіцыі другі цэнтр усходніх славян – Кіеў (Кіеўская Русь праіснавала да XIII ст.).

Значнай падзеяй, якая паўплывала на пашырэнне пісьменнасці ў нашым краі, было прыняцце хрысціянства (992 г., Полацк, 1005 г., Тураў). З Візантыі праз Балгарыю пачалі пранікаць неабходныя для набажэнства кнігі: “Евангелле” (з грэч. – “добрая вестка”), “Апостал” (з грэч. “пасол”), “Псалтыр” (з грэч. “зборнік псалмоў”). Гэтыя кнігі былі напісаны на стараславянскай мове тымі славянскімі літарамі, якія вынайшлі славянскія асветнікі Кірыл (Канстанцін) і Мяфодзій у 863 годзе.

Стараславянская мова сутыкнулася з вуснай моватворчасцю народа. У выніку чаго паступова выпрацоўваецца тая пісьмовая мова, якую мы традыцыйна называем агульнаўсходнеславянскай, або старажытнарускай. Яна існавала ў дзвюх разнавіднасцях (або

тыпах): кніжна-славянскай, якая склалася на грунце стараславянскай мовы, і народна-літаратурнай – на грунце народных гаворак.

Менавіта на гэтай мове былі створаны такія сусветна вядомыя помнікі пісьменства, як “Слова пра паход Ігаравы”, “Аповесць мінулых гадоў”, “Руская Праўда” і інш.

“Руская праўда” з’яўляецца сведчаннем існавання на Русі ў старажытныя часы дасканала распрацаванай юрыдычнай тэрміналогіі. У ёй юрыдычнымі тэрмінамі выступалі такія словы, як *правьда* ‘збор правілаў, законаў’, *судъ* ‘разбор справы’, *послухъ* ‘сведка’, *головьникъ* ‘забойца’, *добытъкъ* ‘маёмасць’, *вира* ‘штраф за забойства свабоднага чалавека’, *скотъ* ‘грошы’ і інш. Вялікая колькасць слоў, што сустракаюцца ў гэтым помніку, адносіцца да абазначэння розных сацыяльных груп тагачаснага грамадства, назваў пасад і г.д.: *бояринъ, князь, гридь* ‘княжы дружыннік’, *мужь* ‘прыбліжаны князя’, *староста, мытникъ* ‘зборшчык пошлін’, *купчина, огнищанинъ* ‘упраўнік вотчыны’, *тиунъ, тивунъ* ‘чыноўнік казначэйства пры князю’, *ябетникъ* ‘судовая асоба’, *смердъ* ‘селянін’, *холопъ, челядинъ* ‘слуга’ і г.д.

Самым даўнім па часе помнікам бытавога прызначэння, які сведчыць аб пашырэнні ў старажытнасці на Беларусі пісьменства, лічыцца пячатка з іменем Ізяслава, сына Рагнеды. Пасля пасудзіны з надпісам “гороушна” ці “гороухша” (“гарчыца”, “гарчычнае зерне” або ўвогуле “горкая прыправа”), знойдзенай пад Смаленскам (X ст.)[1], пячатка з надпісам з’яўляецца другім па часе помнікам ва ўсходніх славян. Да помнікаў пісьменства азначанага перыяду належаць:

надпіс на крыжы Ефрасінні Полацкай (1161г.);

надпіс на чарапку з глінянага гладыша, адкапанага ў Пінску ў 1955 г.: “(яр)о полчо вино” (XI - XII стст.);

надпіс на ручцы нажа, знойдзенага ў Драгічыне: “Ежъковъ ножъ, иже и украдет – прокляту бу…” (XII – XIII стст.);

надпіс на амфары, знойдзенай у Навагрудку ў 1958 годзе: “олекъси”;

надпісы на камянях, высечаныя ў гонар полацкага князя Барыса ў першай трэці XII ст.;

надпіс на камені 1171 г. у гонар князя Рагвалода;

берасцяныя граматы, знойдзеныя ў Віцебску (1959) і Мсціславе (1980) і інш.

Значная роля ў станаўленні беларускага пісьменства належыць асветнікам XII ст.: Кірылу Тураўскаму першаму еўрапейскага ўзроўню пісьменніку, які пакінуў нашчадкам арыгінальныя

---

[1] Некаторыя даследчыкі (А. Трубачоў, Р. Якабсон) лічаць, што гэты надпіс трэба чытаць як “гороуна”, гэта значыць – “гарунова, Гаруну прыналежная”.

рэлігійныя творы (словы-казанні, павучанні, малітвы), Кліменту Смаляцічу (“Пасланне Фаме-прасвітару”), Аўраамію Смаленскаму (“Жыціе Аўраамія Смаленскага”, напісанае яго вучнем Яфрэмам), Ефрасінні Полацкай, пра жыццё і дзейнасць якой было напісана “Жыціе Ефрасінні Полацкай”, што з’яўляецца ўзорам агіяграфічнай прозы XII ст.

Што да помнікаў пісьменства XIII ст., то найперш варта ўзгадаць, што ўсходнеславянскія землі ў гэты перыяд знаходзіліся ў розных палітычных і эканамічных умовах. Кіеўская Русь да гэтага часу распалася на асобныя княствы, большая частка якіх трапіла пад уладу татара-манголаў. А на землях сённяшняй Беларусі набывае моц Навагародская зямля (“Чорная Русь”, або “этнічная Літва”), якая паступова становіцца кансалідуючым ядром будучай дзяржавы. У гэты перыяд заключаюць розныя пагадненні, ствараюць граматы, акты – помнікі юрыдычнай літаратуры. Сярод іх захаваліся: “Дагаворная грамата смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча з Рыгай і Гоцкім берагам” (1229), “Грамата Гердзеня, князя Полацкага і Віцебскага” (1264), “Грамата полацкага князя Ізяслава” (каля 1265 г.), “Дагавор Полацка з Рыгай” (каля 1330 г.) і г. д. Гэтыя дакументы даюць магчымасць меркаваць аб тагачасным гандлёвым і праўным жыцці, паказваюць дачыненні паміж нашым краем і нямецкім. Так, “Смаленская грамата” – гэта двухбаковае гандлёва-палітычнае пагадненне, у якім абумоўлены пошліны, месца гандлю і пераезду. Знаходзім у гэтым дакументе і расцэнку калецтва людзей рознага сацыяльнага стану: “Аже будеть свободеныі человекъ убить 10 гривенъ серебра за голъву. Аже будете холъпъ убить одна гривна серьбра заплатити”. У Гердзеневай грамаце чытаем: “Немечькому гостю (купцу) в Полочьскую волно ехати и торговати, купити и продати, – такоже Полочаном и Видиблянину волно гостити (гандляваць) в Ригу и на Готъскы берег”.

Згаданыя помнікі з’яўляюцца ўзорам тагачаснай жывой народнай гаворкі.

Вучоныя лічаць, што гаворкі насельнікаў будучых беларускіх, рускіх і украінскіх земляў мелі ў гэты час столькі адметнага ў фанетычным і граматычным ладзе, лексічным складзе, што можна гаварыць аб трох самастойных усходнеславянскіх мовах.

**Пытанні**

1. Якая падзея паўплывала на пашырэнне пісьменства ў нашым краі?
2. На якой мове і якімі літарамі былі напісаны кнігі, што пачалі пранікаць на нашыя землі ў X ст.?
3. Калі і кім была створана славянская азбука?

4. Якія помнікі юрыдычнай літаратуры захаваліся да нашага часу?

**Заданні**

1. Назавіце асветнікаў, якім належыць вялікая роля ў станаўленні пісьменства на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў XII ст.
2. Прывядзіце прыклады «балтызмаў» і растлумачце прычыну іх з'яўлення ў беларускай мове.
3. Агульнаўсходнеславянская мова існавала ў некалькіх разнавіднасцях. Назавіце іх.
4. Пералічыце помнікі пісьменства, якія належаць тром усходнеславянскім народам.
5. Назавіце помнікі пісьменства, якія сведчаць аб пашырэнні ў старажытнасці на Беларусі пісьменства бытавога прызначэння.
6. Падрыхтуйце рэфератыўныя працы па тэмах: «Вытокі беларускай мовы», «Кірыл і Мяфодзій – стваральнікі славянскай пісьменнасці”.

## Беларуская мова ў часы Вялікага княства Літоўскага

Беларускія землі ў XIII – пач. XIV ст. апынуліся ў складзе Вялікага Княства Літоўскага.

У новых гістарычных умовах з канца XIII ст. пачалі фармавацца тры ўсходнеславянскія народнасці і адпаведна ім тры мовы – беларуская, руская і ўкраінская.

Беларуская мова (як і руская, і ўкраінская) складалася на аснове пісьмовай спадчыны старажытнай усходнеславянскай мовы і жывых народных гаворак. Вядучую ролю ў яе фарміраванні адыгралі гаворкі паўночных гарадоў Вялікага Княства Літоўскага – Полацка, Віцебска, Смаленска, а таксама гаворкі Віленшчыны.

У XIV ст. падчас валадарання князя Альгерда (1296–1377) мова продкаў сучасных беларусаў стала афіцыйнай мовай канцылярыі і справаводства ў ВКЛ. У той час яе называлі "простая мова", літоўская, ліцвінская або "русский язык" (у адрозненне ад "языка словенского" – царкоўнаславянскай мовы). Азначэнне "русский" у складзе гэтага тэрміна паходзіць ад назвы "Русь", якой у ВКЛ абазначалася тая частка ўсходнеславянскага насельніцтва, што ўваходзіла ў склад гэтага княства. Назва "белорусский языкъ" пачала ўжывацца толькі ў сярэдзіне XVII ст.

Старабеларуская мова выкарыстоўвалася ў пісьмовых зносінах на тэрыторыі ўсёй дзяржавы. Карысталіся ёю і літоўскія (жамойцкія) князі (першыя помнікі пісьменнасці на літоўскай мове адносяцца да сярэдзіны XVI ст.).

Вялікая роля ў развіцці старажытнага беларускага пісьменства належыць узнікламу ў XVI ст. кнігадрукаванню. Першым друкаром для ўсяго ўсходняга славянства быў Ф. Скарына, які 6 жніўня 1517 г. у Празе выдаў першую з 23 надрукаваных ім кніг Бібліі – "Псалтыр". Галоўнай мэтай для Ф. Скарыны было далучэнне чалавека простага ("паспалітага") да асветы, бо ў тыя часы чалавек, які ведаў псалтыр, мог чытаць і пісаць, лічыўся адукаваным. На "боцех" (палях) кніг аўтар тлумачыў незразумелыя старaславянскія і іншамоўныя словы адпаведнымі словамі старажытнай беларускай мовы: *кивоть – скрыня, холмъ – узгорак, горлица – сиваваронка* і інш. Гэтыя тлумачэнніатрымалі назву глосы (ад грэч. – мова, гаворка). Скарынаўскія глосы паклалі пачатак двухмоўным беларускім слоўнікам.

Распачатае Скарынам кнігадрукаванне было працягнута яго паслядоўнікамі. Так, аўтарам першай надрукаванай на беларускай мове на тэрыторыі Беларусі кнігі з’яўляецца Сымон Будны, які ў 1562 г. у Нясвіжы выдаў "Катэхізіс" (ад грэч. – настаўленне, навучанне), пабудаваны ў выглядзе кароткіх пытанняў і разгорнутых

адказаў па біблейскай тэматыцы. У 1580 г. Васіль Цяпінскі ў сваім родавым маёнтку Цяпіна (цяпер Чашніцкі р-н) выдаў "Евангелле", унікальнасць якога заключалася ў тым, што ўпершыню яно было надрукавана на царкоўнаславянскай і старажытнай беларускай мовах паралельна.

Амаль праз 50 гадоў пасля Ф. Скарыны ў 1564 г. Іван Фёдараў і Пётра Мсціславец пачалі друкаваць кнігі ў Маскоўскай дзяржаве.

У ВКЛ мова беларусаў была моваю дзяржаўных устаноў, дыпламатычных зносін. Гэта была мова законаў, суда, канцылярыі. На ёй пісаліся акты і граматы, сеймавыя пастановы і іншыя юрыдычныя дакументы. Да нашага часу дайшоў вялікі гістарычны архіў дакументаў, выдадзеных вялікімі князямі, каралямі, сеймамі, рознымі ўрадавымі асобамі, які вядомы пад назвай "Літоўская метрыка" ("Метрыка Вялікага Княства Літоўскага") і складае каля 600 кніг. Яна дае багатае ўяўленне пра палітычнае, эканамічнае і культурнае жыццё ў ВКЛ і разам з тым з'яўляецца крыніцай вывучэння беларускай мовы. У названых дакументах адбіліся спецыфічныя рысы народнай гаворкі, якія выявіліся як ў фанетыцы, так і ў граматыцы і лексіцы. Адбываўся працэс выпрацоўкі спефічных канцылярскіх зваротаў, юрыдычных формул, своеасаблівых сінтаксічных канструкцый. Мова хутка папаўнялася грамадска-палітычнай і юрыдычнай тэрміналогіяй.

**Мова юрыдычна-справавых зносін у ВКЛ**

Лепшыя ўзоры юрыдычна-справавога пісьменства пададзеныя перш за ўсё ў Статуце Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (1529, 1566 і 1588 гг.), "Трыбунале" (1581г.), а таксама ў "Судзебніку Казіміра Ягайлавіча" 1468г. і перакладзеным з лацінскай мовы ў пачатку XV ст. Вісліцкім статуце.

Статут ВКЛ быў адзіным зборам законаў у Еўропе XVI ст. Ім карысталіся ў Прусіі, Польшчы, Расіі, Латвіі, Эстоніі і інш. краінах.

Якой жа была мова юрыдычна-справавога пісьменства ў часы ВКЛ? Яна спазнала пэўныя змяненні, выпрацавала новыя сродкі і прыёмы, што было выклікана пэўнымі грамадска-палітычнымі ўмовамі тагачаснага жыцця. Так, у XIV ст. у прыёмах афармлення розных справавых папер адчуваўся моцны ўплыў старажытнарускага справавога пісьма. Выкарыстоўваліся асобныя юрыдычныя формулы і звароты, тыповыя яшчэ для "Рускай Праўды" (характэрны зварот *а се я* (можа быць язъ або азъ): *а се я староста…*; *се я князь…* і г.д.; звароты: *а при томъ были свѣдци і інш.*; спалучэнне слоў і сказаў з дапамогай злучальных злучнікаў ***а***, ***и*** (*а языкъ пускати*, *а коли товаръ на стану стаеть*, *отступити прочь*, *а рукою не примай*, *а весцеви крстъ целовати*), умоўныя сказы са злучнікамі ***а***, ***аже***, ***а***

***любо*** (*а кто не послушаетъ..*; *аже побегнеть русинъ…*; *а любо кто услышить…*). З цягам часу уплыў старажытнарускай традыцыі слабее, значнае месца ў мове пачынаюць займаць словы з народнай гаворкі, якія атрымлівалі тэрміналагічнае значэнне. Напрыклад, слова *свъдка* пачало ўжывацца замест ранейшага тэрміна *послухъ*; *забойца* – замест *головникъ*; *статъкъ*, *статки* ‘маёмасць’ – замест *добытъкъ*, *имъние*; *вижъ* – замест *видокъ*. Многія словы ствараліся пры дапамозе адпаведных словаўтваральных сродкаў: *держава*, *сотникъ*, *сотництво*, в*рядникъ*, *возный* ‘судовы прыстаў’, *ездокъ* ‘выязны суддзя’, *пригонъ*, *громада*, *данина*, *податокъ*, *позовъ* ‘позва ў суд’, *помста*, *звычай*, *вольность* ‘шляхецкі стан, ільгота, прывілея’, *бонда* ‘частка, выдзелены пай’, клетка ‘крама’, *камора* ‘таможня’, *новина* ‘новаўведзеныя налогі, новыя законы, правы і абавязкі’ і г.д. На працягу стагоддзяў асобныя тэрміны маглі не толькі замяняцца новымі, але і змяняць сваё значэнне; у некаторых выпадках развівалася тэрміналагічная сінанімія, напрыклад: грабежъ– *заимованье*, отзовъ – *апеляция* і г.д.

У старажытнай беларускай юрыдычна-справавой пісьменнасці выпрацаваліся і пэўныя юрыдычныя формулы, звязаныя са зваротам да асобы, якія выцяснялі некаторыя звароты з адценнем архаічнасці. У дзяржаўных дакументах гэтага часу сустракаюцца такія звароты, як: *милостью божию мы, князь… чинимъ знаменито и даемъ ведати симъ нашимъ листомъ каждому, хто на нь узрыть или чтучи въслышить, кому его будеть потребно”*. У канцы дакумента ставілася дата і прыпісвалася: *а на тоъ есмы мы дали своѣ печати.* Сустракаліся і такія юрыдычныя формулы, як: *мы нашли въ томъ правыхъ и виноватыхъ, слушали того дѣла (тую справу), дали есмо сей листъ, стояли есмо очевисто* (г.зн. асабіста).

Пэўная колькасць юрыдычных і справаводчых тэрмінаў былі запазычаны з польскай, лацінскай і іншых заходнееўрапейскіх моў (пераважная большасць праз польскую): *апеляцыя, аркушъ, актъ, авантюра, вага, грунтъ* 'аснова, падстава', *дэкрэтъ, конституция, коштъ, мандатъ, моцъ, пляцъ, рада, радца, рахунокъ, скарга, скарбникъ, справца і інш.*

Асноўная частка запазычаных тэрмінаў “прыжылася” і захавалася ў сучаснай беларускай тэрміналогіі.

Уплыў польска-лацінскага пісьменства на беларускае асабліва ўзрастае ў XVI-XVII стст., што часам прыводзіла да неапраўданага ўжывання паланізмаў і лацінізмаў у юрыдычна-справавой тэрміналогіі: *члонки* замест *члены*, *кроль* замест *кароль*, *вшелякий* замест *усякі*, *пенязи* замест *грошы*, *варунокъ* замест *умова* і інш.

Мова Статута ВКЛ 1588 г. дае нам падставы гаварыць пра арфаграфічныя, фанетычныя, марфалагічныя, лексічныя і сінтаксічныя асаблівасці тагачаснай беларускай мовы.

Сярод марфалагічных асаблівасцей мовы Статута ВКЛ адзначым наступныя: дзеяслоўныя формы інфінітыва на *–ть* з характэрным варыянтам на –ти (шкодить – шкодити, ходить – ходити і інш.), дзеясловы з асновай на зычны ў пераважнай большасці ўжываюцца з сучаснымі канчаткамі беларускай літаратурнай мовы *–ти (-чи)* (вести, мочи і г.д.), пашыраны канчаткі *–у (-ю)* для назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку роднага склону (посагу, скарбу, суду, огню, статуту і інш.), канчаткі *–ове (-еве)* у назоўніках мужчынскага роду множнага ліку назоўнага склону побач са старажытнарускімі канчаткамі *–ы (-и)* (*войтове, стрыеве* і інш.).

Аб пашырэнні жанравай разнавіднасці беларускага пісьменства ў Сярэднявеччы сведчаць шматлікія пераклады на беларускую мову такіх вядомых па тым часе свецкіх твораў, як “Александрыя” (XV ст.), “Аповесць пра Трышчана” (XVI ст.), “Аповесць аб Троі” (канец XV ст.). З’яўляюцца пераклады і розных твораў рэлігійнага характару: “Пакуты Хрыста” (XVст.), “Апакрысіс” (1598), “Жыціе Аляксея, чалавека божага” (XV ст.) і інш. Гэтыя пераклады сведчылі аб высокім творчым майстэрстве перакладчыкаў і вялікіх мажлівасцях беларускай мовы. Названая перакладная літаратура характарызуе духоўнае жыццё ў нашым краі і паказвае, на якім грунце развівалася наша самастойная літаратура таго часу.

Сярод жанраў у XV - пачатку XVI ст., якія ствараліся на беларускай мове, былі летапісы і хронікі: Беларуска-літоўскі летапіс 1446г., “Хроніка ВКЛ” (XVI ст.), “Летапісец вялікіх князёў літоўскіх”, “Баркулабаўская хроніка” (1563-1608), “Хроніка Быхаўца” і інш. З’яўляюцца ў азначаны перыяд мастацкія і гістарычныя аповесці, пашыраецца вершаскладанне (Андрэй Рымша, С. Полацкі). Спрыялі развіццю беларускай пісьменнасці і такія лінгвістычныя працы, як “Грамматіка Словенска...” Лаўрэнція Зізанія (1596), “Грамматіки словенския правилное Синтагма...” Мяленція Сматрыцкага (1619), слоўнікі Л. Зізанія і Памвы Бярынды (1627).

XV-XVI стст. увайшлі ў гісторыю беларускай культуры, прынамсі, літаратуры і мовы, як “залаты век”. Аднак тыя працэсы ў жыцці грамадства, якія мелі месца ў другой палове XVI ст., негатыўна адбіліся на далейшым развіцці беларускага пісьменства. Як вядома, у 1569годзе паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім быў заключаны саюз, гэтак званая Люблінская унія, паводле якой

названыя краіны аб'ядналіся ў межах адной дзяржавы – Рэчы Паспалітай. З гэтага часу пачаўся працэс паступовага і настойлівага апалячвання і акаталічвання беларусаў. У многіх гарадах, мястэчках і вёсках (перш за ўсё заходніх рэгіёнаў) насаджалася каталіцтва, ішло прымусовае "запісванне ў палякі" беларусаў, хаця першапачаткова юрыдычна ВКЛ уваходзіла ў саюз на правах аўтаноміі, г.зн. раўнапраўнага суб'екта дзяржавы, аднак паступова апынулася пад уладай польскай кароны. Да таго ж геапалітычнае становішча Беларусі (паміж Польшчай і Расіяй, якія вялі ваенныя дзеянні) стала прычынай спусташэння беларускіх земляў. Адразу пасля падпісання уніі абедзве мовы (беларуская і польская) былі ў афіцыйным ужытку, аднак неўзабаве сітуацыя змянілася. У 1696 годзе на Варшаўскім сойме беларуская мова была фактычна забаронена як дзяржаўная мова: пастанова сойма абавязвала пісаць справавыя дакументы толькі па-польску.

Другая палова XVII і ўсё XVIII ст. – перыяд заняпаду беларускай мовы. Гэта быў час пашырэння польска-лацінскай кніжнасці на нашых землях.

Аднак просты люд працягваў карыстацца сваёй роднай мовай. Ніякія пастановы і загады не маглі адлучыць яго ад матчынага слова. Беларуская мова працягвала жыць у фальклоры: у шматлікіх песнях, казках, легендах ды ў штодзённым ужытку, што выратавала беларускі народ ад поўнай асіміляцыі, ад сапраўднай моўнай смерці.

**Пытанні**

1. Калі і ў час праўлення якога князя беларуская мова ўпершыню становіцца афіцыйнай мовай канцылярыі і справаводства ў ВКЛ?
2. Чаму менавіта беларуская мова стала дзяржаўнай у ВКЛ?
3. Якую назву мела беларуская мова ў часы існавання ВКЛ? Пракаменціруйце свой адказ.
4. Які перыяд старажытнабеларускага пісьменства ўвайшоў у гісторыю культуры пад назвай "залаты век"?
5. Што Вы ведаеце пра пачатак кнігадрукавання ва ўсходніх славян?
6. Якія гістарычныя падзеі прывялі да заняпаду старабеларускай мовы? Як гэта адбілася на духоўнай культуры Беларусі?
7.

Заданні

1. Назавіце помнікі пісьменства на старажытнабеларускай мове, якія захаваліся да нашых часоў.

2. Пазнаёмцеся з артыкулам са Статута ВКЛ 1588г. Звярніце ўвагу на лексічны склад старажытнай мовы. Пракаменціруйце змест.

Раздел первый. О персоне нашой господарской

Артыкул 18

Не маеть нихто ни за кого терпети, только кождый сам за себе

Теж уставуем, иж нихто ни за чий кольвек учинок не маеть каран и сказован быти, только тот, который в чом сам винен зостанеть, гды ж того право божое и справедливость хрестияньская учить. Яко ж так хочем мети, абы ни отец за сына, ани сын за отца, кром ображенья маестату нашого и речи посполитое здрады, яко вышей около того ест описано, ани жона за мужа, ани муж за жону, так теж брат за брата, отец и матка за дочку, дочка за матку або отца, сестра за сестру, и жадный прирожоный и слуга за пана, пан за слугу, и нихто иный ни за чый выступ и вчинок не был каран, только кождый сам за свой выступ маеть терпети и каран быти.

*(Статут Вялікага княства Літоўскага 1588, Мн., 1989, с. 91).*

3. Растлумачце сэнс выказвання Ф. Скарыны, змешчанага ў прадмове да кнігі “Юдзіф”:

«…понеже от прирождения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по возъдуху, ведають гнёзда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчёлы и тым подобная боронять ульев своих, – тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають».

4. Назавіце аўтара першай беларускай кнігі, надрукаванай на тэрыторыі Беларусі. Дзе гэта адбылося і калі?
5. Пералічыце жанры фальклора, якія захавалі і данеслі да нашых часоў жывое беларускае слова.
6. Назавіце лінгвістычныя працы, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё старажытнага беларускага пісьменства.
7. Напішыце рэфераты па тэмах (на выбар):

“Ф.Скарына – асветнік эпохі Адраджэння”.

“Славутыя імёны ў гісторыі старажытнай Беларусі”

# НОВАЯ (НАЦЫЯНАЛЬНАЯ) БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА

## Беларуская мова ў перыяд знаходжання ў складзе Расійскай імперыі

У канцы ХУІІІ ст. у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) Беларусь апынулася ў складзе Расійскай імперыі. На аснове жывых народных гаворак, фактычна нанава, без непасрэднай сувязі са старажытнай літаратурнай мовай, складваецца новая літаратурная мова беларусаў. Гістарычныя рэаліі тагачаснага жыцця ўнеслі пэўнае ажыўленне ў працэс фарміравання літаратурнай пісьмовай мовы: была спынена гвалтоўная паланізацыя, што мела вялікае значэнне для далейшага лёсу беларускага народа. Аднак час паказаў, што на змену адной формы заняволення прыйшла другая: паланізацыя была заменена русіфікацыяй. Беларуская пісьменнасць павінна была прабіваць сабе дарогу ў выключна неспрыяльных умовах. Польскія ўлады імкнуліся даказаць, што Беларусь – гэта частка Польшчы, што не існуе ніякіх беларусаў як самастойнага народа, а рускі царызм даказваў, што беларусы – частка рускага народа. Беларускай культуры, у прыватнасці мове, адмаўлялі ў праве на самастойнае існаванне і развіццё. Праўда, такая сітуацыя мела не толькі адмоўны, але і станоўчы бок: для абгрунтавання правільнасці сваіх ідэй пачалося шырокае вывучэнне гісторыі, этнаграфіі, фальклору і мовы беларусаў. Гэты ўнікальны багацейшы матэрыял, які быў сабраны і апублікаваны ў ХІХ ст., з'явіўся асновай для глыбокага навуковага вывучэння гісторыі беларускага народа, яго культуры і мовы.

Разам з тым рускі царызм як мог стрымліваў права беларусаў на развіццё сваёй нацыянальнай культуры, у тым ліку і мовы. На працягу ўсяго ХІХ ст. на тэрыторыі Беларусі не існавала ніводнай навучальнай установы на беларускай мове. Вядома выказванне віленскага генерал-губернатара М.Мураўёва, які заяўляў, што для падпарадкавання беларусаў не трэба ўчыняць ніякіх ваенных дзеянняў: "сто тысяч рускіх штыкоў не зробяць таго, што зробіць адна руская школа". Цяжкі лёс народа не мог не выклікаць хвалю пратэсту супраць нацыянальнага прыгнёту: адно за адным успыхвалі нацыянальна-вызваленчыя паўстанні (1830 - 1831, 1863). У 1840г. указам Мікалая І ад 18 ліпеня было забаронена ў афіцыйных дакументах ужываць назву "Беларусь". У гэтым жа годзе было спынена дзеянне на Беларусі Статута ВКЛ 1588г., а годам раней, у 1839г., была ліквідавана грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква, якая

вяла набажэнства на беларускай мове (адноўлена ў 1989 годзе пры ўдзеле святара з Англіі  А. Надсана).

Пасля нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863г. царскі ўрад у 1867г. забараніў друкаваць кнігі на беларускай мове. На тэрыторыі Беларусі на працягу 30 гадоў не было надрукавана ніводнай беларускай кніжкі.

Вялікая роля ў адраджэнні беларускай мовы належыць пісьменнікам XIXст., якія першымі зразумелі, што лёс беларускага народа, яго культуры ў многім залежыць ад лёсу роднай мовы.

Выдатнай падзеяй у гісторыі развіцця беларускай літаратурнай мовы было з’яўленне ў першай палове XIXст. арыгінальных мастацкіх твораў “Энеіды навыварат” (надрукавана ў 1845 г., аўтарства прыпісваецца Вікенцію Равінскаму) і “Тараса на Парнасе” (надрукавана ў 1889 г., аўтар Канстанцін Вераніцын). Яны былі напісаны на жывой гутарковай мове беларускага селяніна, літаратурна цалкам не апрацаванай, з захаваннем рыс мясцовых дыялектаў. Сярод пачынальнікаў адраджэння беларускай мовы – А. Рыпінскі, Я. Чачот, В. Дуніна-Марцінкевіч, У. Сыракомля, Я. Баршчэўскі і інш.

Многія характэрныя рысы народнай гаворкі, якія ўлічваліся пазнейшымі пісьменнікамі былі адлюстраваны ў творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча, які паказаў мажлівасць выкарыстання беларускай мовы для напісання паўнакроўных мастацкіх твораў. Крыху пазней да адраджэння беларускай літаратурнай мовы далучыліся Ф.Багушэвіч, Я.Лучына, А.Гурыновіч, А.Пашкевіч (Цётка). Услед за В.Дунінымі-Марцінкевічам Ф.Багушэвіч адным з першых беларускіх пісьменнікаў загаварыў аб мове як важнейшым элеменце нацыянальнай культуры беларускага народа і ўзняў пытанне аб далейшым лёсе яе развіцця. У прадмове да сваёй “Дудкі беларускай” (1891 г., Кракаў) ён пісаў: “Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову зойме, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!..”

Аднак нягледзячы на творчасць пісьменнікаў, беларуская літаратурная мова па-ранейшаму заставалася неўнармаванаю, захоўвала рысы мясцовых дыялектаў. Агульны стан беларускай літаратурнай мовы XIX ст. выяўляецца ў першай нелегальнай газеце, якую выдаваў К. Каліноўскі, - “Мужыцкая праўда” (1862 г.): неўладкаванасць правапісу і графікі, адсутнасць агульнапрынятых фанетычных і граматычных нормаў.

## Пытанні

1. Якія падзеі канца XVIII ст. аказалі значны ўплыў на далейшы лёс беларускага пісьменства?
2. Чаму царскі ўрад забараніў друкаваць кнігі на беларускай мове і калі гэта адбылося?
3. Творчасць якіх пісьменнікаў унесла значны ўклад у развіццё новай беларускай літаратурнай мовы? У чым гэта выявілася?
4. Хто з першых беларускіх пісьменнікаў XIX ст. загаварыў аб беларускай мове як важнейшым элеменце нацыянальнай культуры?

## Заданні

1. Растлумачце сэнс слова “новая” ў тэрміне “новая беларуская літаратурная мова”.
2. Назавіце творы, якія паклалі пачатак новай беларускай (нацыянальнай) літаратурнай мовы.
3. Пазнаёмцеся з прадмовай да зб. Ф. Багушэвіча “Дудка беларуская” і выкажыце сваё ўласнае стаўленне да прадмета гаворкі.
4. Складзіце падрабязны план да тэмы “Новая (нацыяльная) беларуская літаратурная мова”.
5. Ахарактарызуйце агульны стан беларускай літаратурнай мовы ў канцы XIX ст.
6. Прааналізуйце з пункту гледжання лексічнага складу ніжэй прыведзены ўрывак з паэмы “Энеіда навыварат”:

Жыў-быў Эней, дзяцюк хупавы,
Хлапец няўвошта украсіў,
Хоць пан, але ўдаўсь ласкавы,
Даступен, вецел, неграбіў,
Ды грэкі вуйму нарабілі:
Як ляда, Трою ўсю спалілі.

## Беларуская літаратурная мова ў пачатку XX ст.

Рэвалюцыя 1905–1907 гг. зняла забарону з друкаванага беларускага слова. У пачатку XX ст. выйшла каля 250 выданняў на роднай мове, у той час як за ўсё XIX ст. толькі 75. З верасня 1906 г. пачала выдавацца беларуская газета “Наша доля” (выйшла 6 нумароў). З восені 1906 г. на 1915 год стала выходзіць газета “Наша ніва”. Вакол газеты гуртуецца тагачасная беларуская інтэлігенцыя. У “Нашай ніве” друкавалі свае творы выдатныя беларускія пісьменнікі, будучыя класікі беларускай літаратуры Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, М. Гарэцкі і інш. У 1906 г. у Пецярбургу было заснавана беларускае выдавецкае таварыства “Загляне сонца і ў наша ваконца”, якое праіснавала да Першай сусветнай вайны. У гэты час выходзілі такія перыядычныя выданні, як “Наша хата”, “Саха”, “Лучынка”, “Беларус” і інш. Нягледзячы на пэўны разнабой ва ўжыванні асобных форм слоў, непаслядоўнасць у перадачы тых ці іншых з’яў беларускай мовы, ужо можна гаварыць пра існаванне своеасаблівых правілаў правапісу і граматыкі беларускай мовы, якія склаліся стыхійна і выпрацаваліся беларускім кнігадрукаваннем у пачатку XX ст.

Першыя спробы кадыфікаваць арфаграфічныя і граматычныя нормы беларускай мовы былі зроблены братамі Антонам і Язэпам Лёсікамі, якія ў 1917 годзе апублікавалі лацінскім шрыфтам дапаможнік “Як правільна пісаць па-беларуску”, а ў 1918г. на яго аснове выдалі “Беларускі правапіс”. Аднак найбольш аўтарытэтным было выданне ў 1918 г. “Беларускай граматыкі для школ” Браніслава Тарашкевіча. Гэта выданне сапраўды у можна лічыць першай граматыкай сучаснай беларускай мовы. У ёй вызначаны граматычныя рысы беларускай мовы, дакладна сфармуляваны асноўныя прынцыпы і правілы беларускай арфаграфіі.

Граматыка хутка атрымала прызнанне. У сваёй працы над новымі падручнікамі на яе арыентаваліся наступныя пакаленні лінгвістаў. З 1918 па 1933 год выйшла 6 выданняў “Граматыкі...”

### Пытанні

1. Калі была знята забарона з друкаванага беларускага слова?
2. Якія перыядычныя выданні пачатку XX ст. Вы ведаеце?
3. Кім былі зроблены першыя спробы кадыфікаваць арфаграфічныя і граматычныя нормы беларускай мовы?
4. З імёнамі якіх пісьменнікаў звязаны пачатак нацыяльнага Адраджэння?

**Заданні**

1. Назавіце першыя легальныя беларускія газеты. Якім быў агульны стан мовы гэтых выданняў?
2. Назавіце найбольш аўтарытэтнае выданне сярод граматык, якія з’явіліся напачатку 20 ст.?
3. Пазнаёмцеся з прыказкамі і прымаўкамі, напісанымі паводле граматыкі Б.Тарашкевіча. Вызначце характэрныя рысы беларускага правапісу, што існаваў да арфаграфічнай рэформы 1933 года.

Няма тае хаткі, каб ня было звадкі. Адвага не зьнявага. Ад цяплосьці не баляць косьці. Распусьціўся, як старэцкая пуга. На сваім сьметніку і певень сьмелы. Цярпеньнем і працай горы пераносяць. За баляваньнем ходзіць галадаваньне.

## Беларуская літаратурная мова ў 20-30-ыя гады ХХ стагоддзя

20-ыя гады ХХ ст.– гады нацыянальнага Адраджэння. У гэты час прафесія мовазнаўцы была самай запатрабаванай і папулярнай у рэспубліцы, а праблемы, звязаныя з развіццём і далейшым удасканаленнем мовы, – у цэнтры ўсяго грамадства. Беларуская літаратурная мова пастунова станавілася мовай ўсёй сістэмы адукацыі, навукі і дзяржаўнага кіравання. Яна хутка папаўнялася словамі з мясцовых гаворак, са старабеларускай літаратуры, з іншых моў, неалагізмамі. Мільёны беларусаў схіліліся над сшыткамі, кнігамі, падручнікамі, вяртаючы сабе галоўную спадчыну беларусаў. Асноўнай задачай гэтага перыяду стала стварэнне беларускай нацыянальнай тэрміналогіі, якая змагла б абслугоўваць усе сферы сацыяльна-грамадскага і культурнага жыцця рэспублікі. Для выпрацоўкі беларускай тэрміналогіі ў 1921 годзе была зацверджана Навукова-тэрміналагічная камісія. На працягу 1922–1930-х гадоў яе супрацоўнікі апрацавалі і выдалі 24 тэрміналагічныя галіновыя слоўнікі: па граматыцы, логіцы, батаніцы, геаграфіі, псіхалогіі, матэматыцы і г.д.

На другой сесіі ЦВК БССР 15 ліпеня 1924г. была прынята пастанова "Аб практычных мерапрыемствах па правядзенні нацыяльнай палітыкі", якой быў пакладзены пачатак беларусізацыі ў краіне. Праграма беларусізацыі ўключала ў сябе: арганізацыю навучальных устаноў на роднай мове, развіццё нацыяльнай літаратуры, выданне беларускіх кніг, навукова-даследчую працу па ўсебаковым вывучэнні Беларусі, перавод партыйнага, дзяржаўнага, прафсаюзнага, кааператыўнага апарату, а таксама часцей Чырвонай Арміі на тэрыторыі рэспублікі на беларускую мову. У Канстытуцыі БССР 1927г. адзначалася, што беларуская мова з'яўляецца "пераважнай для зносін паміж дзяржаўнымі, прафесійнымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі".

Паколькі беларуская мова набывала такія шырокія функцыі ў жыцці грамадства, неабходна было уніфікаваць яе граматыка-правапісныя нормы. Асновай для выпрацоўкі літаратурных норм беларускай мовы сталі сярэднебеларускія гаворкі пераважна цэнтральных раёнаў Міншчыны і часткова ўсходніх раёнаў Гродзеншчыны. Немалаважную ролю ў выпрацоўцы норм беларускай літаратурнай мовы адыграў той факт, што большасць пісьменнікаў, якія распачыналі сваю творчасць яшчэ ў канцы 19 ст. і пачатку 20 ст. былі родам з цэнтральнай Беларусі (В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля, Цётка, Ц. Гартны і інш.).

У 20-ыя гады разгарнулася шырокая дыскусія па пытаннях кадыфікацыі беларускай літаратурнай мовы. Не ўсё было адладжана ў алфавіце, правапісе тых граматык, якія шырока выкарыстоўваліся ў школьнай сістэме адукацыі. Нават у самай папулярнай граматыцы Б. Тарашкевіча сустракаўся разнабой у выкарыстанні многіх граматычных формаў (*сталом* і *сталам* (Д.скл. наз.), *аб сталох* і *аб сталах* (М.скл. наз.); *пяцёх і пяцём*; *нясець, пячэць* побач з *нясе, пячэ*; *сядзім, маўчым, крычым* побач з формамі *сядзём, маўчом, крычом* і інш.). Для ўпарадкавання літаратурных норм беларускай мовы ў Менску ў 1926г. (14-21 лістапада) была праведзена так званая Акадэмічная канферэнцыя. Асноўная дыскусія вялася вакол рэформы беларускага алфавіту. Справа ў тым, што ў беларускім кнігадрукаванні на першыя пазіцыі выходзіць кірыліца (у пачатку XX ст. актыўна ўжывалася дзве графічныя сістэмы: лацінка і кірыліца). Аднак кірыліца не адлюстроўвала ўвесь гукавы склад беларускай мовы, яе літар не хапала на спецыфічныя гукі [дз] і [дж]. На канферэнцыі прагучалі самыя розныя думкі і меркаванні. Прапаноўвалася абазначаць гэтыя гукі на пісьме сербскімі літарамі, лацінскім “z”, “д” і “ж” і нават была прапанова зусім у духу часу: увесці новыя літары ў выглядзе сярпа і молата. Выбухны [г] рэкамендавалася абазначаць з хвосцікам справа [ґ]. Што тычыцца дыскусіі па правапісе, дык асноўная палеміка вялася вакол запазычаных слоў (як пісаць: *дэкада* ці *дакада*, *канонічны* ці *кананічны*), вакол якання у спрадвечна беларускіх словах (*нясьціханы* ці *несьціханы*). Правапісная камісія прыняла такую пастанову: не пашыраць фанетычны прынцып на напісанне зычных [казьба] ад “касіць” [ношка]ад “нага”), правапіс “я” толькі ў першым пераднаціскным складзе (*легкадумны* замест *лягкадумны*, *перакуліць* замест *пяракуліць*), часціцу **не** і прыназоўнік **без** пісаць праз *е*, словы **няхай** і **няма** пісаць праз *я* (былі прапановы пісаць німа і ніхай). Канферэнцыя ўпершыню абагульніла дасягненні беларускага мовазнаўства і акрэсліла галоўныя накірункі далейшага развіцця. І хаця пастановы аб рэформе беларускага правапісу і графікі, прынятыя канферэнцыяй, не набылі сілы закону, аднак некаторыя з іх былі ўлічаны пры распрацоўцы наступных правапісных праектаў.

## Арфаграфічная рэформа 1933 года “Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу”

У гісторыі беларускага пісьменства рэформа 1933 года “Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу” – з’ява неадназначная. З аднаго боку, яна абагульніла здабыткі беларускага мовазнаўства 20-х гадоў, а з другога – трапіла пад моцны палітыка-ідэалагічны ўплыў. Справа ў тым, што ўжо ў канцы 20-х гадоў палітычная сітуацыя змянілася. У краіне разгарнулася жорсткая барацьба супраць т. зв. “нацдэмаў” (нацыянал-дэмакратаў), якіх абвінавачвалі ў тым, што яны як быццам бы збіраліся аб’яднаць Савецкую і Заходнюю Беларусь, аднавіць буржуазны лад і выйсці са складу СССР. Многіх беларускіх пісьменнікаў і мовазнаўцаў, якія выкарыстоўвалі для ўзбагачэння літаратурнай мовы народныя гаворкі, таксама абвінавачвалі ў нацдэмаўшчыне. Адзін за другім былі арыштаваны Язэп і Антон Лёсікі, Вацлаў Ластоўскі, Сцяпан Некрашэвіч, Максім Гарэцкі, Янка Бялькевіч і шмат іншых дзеячаў беларускага Адраджэння.

Краінай быў узяты курс на збліжэнне народаў і зліццё іх культур у адну культуру з адной мовай. Таму важным стала не адлюстраванне нацыянальнай спецыфікі беларускай мовы, а, наадварот, прывядзенне яе правапісу ў адпаведнасць з рускай арфаграфічнай традыцыяй. Якія ж змены ў беларускім правапісе былі ўведзены ўрадавай пастановай 1933 года? Нагадаем некаторыя з іх, найбольш значныя і шырокавядомыя: было скасавана графічнае абазначэнне мяккасці зычных, у словах тыпу *сьлед, зьвер, сьмех, дзьверы*; ліквідаваны ь паміж падоўжанымі зычнымі *гальлё, жыцьцё, калосьсе*; бязлітасна зрусіфікаваны родны склон адзіночнага і множнага ліку ў назоўніках мужчынскага роду. Са сферы выкарыстання канчатка **–у–** выключаліся назвы грамадскіх фармацый, а таксама вучэнняў, хімічных элементаў, хоць у мове існавала традыцыя ўжываць іх з канчаткам –у– (гэта правіла было ўдакладнена ў 1957г.).

Відаць не навуковымі, а ідэалагічнымі меркаваннямі была прадыктавана рэкамендацыя: словы тыпу *камунізм, інтэрнацыяналізм* у Р. скл. пісаць з канчаткам **–а–**, а *капіталізм, імперыялізм* – з канчаткам **–у–**. Шырока ўводзіліся такія формы, як: *норм* замест *нормаў, форм* замест *формаў, народнасцей* замест *народнасцяў*, *метр* замест *метар*, *цыліндр* замест *цыліндар*, *тэатр* замест *тэатар* і інш. Натуральна, што гэта негатыўна адбівалася на мяккасці і мілагучнасці беларускай мовы. Рэформаю закраналася напісанне запазычаных словаў. Розніца паміж іх напісаннем і, адпаведна, вымаўленнем у рускай і беларускай мовах значная.

Паколькі наш народ непасрэдна кантактаваў з заходнееўрапейскімі народамі, а з ХУІ ст. у калегіумах і школах вывучалася лацінская мова, таму запазычваліся словы ў іх жывым вымаўленні, у той час як у рускую мову яны трапілі праз кнігі і вымаўляліся па літарах. У беларускай мове захоўвалася вымаўленне моў-арыгіналаў: *плян, пэнсія, газэта, Амэрыка, Галяндыя, клюб, фізыка* і інш. Пастанова ж Савета народных камісараў БССР абавязвала пісаць і гаварыць: *план, газета, Амерыка, Галандыя, клуб, фізіка* і г.д. Урадавая пастанова 1933 года замацавала і правапіс ненаціскных галосных у запазычаных словах паводле пастановы Акадэмічнай канферэнцыі 1926 г., аднак было зроблена выключэнне, якое, відавочна, было абумоўлена не лінгвістычнымі меркаваннямі. "Аканне" не распаўсюджвалася на некалькі дзесяткаў "інтэрнацыянальных рэвалюцыйных слоў": *рэволюцыя, совет, большэвік, комуніст* і г.д. (адменена ў 1957г.).

Пры напісанні геаграфічных назваў і імёнаў іншых народаў захоўвалася пачатковае О, В, Т: *Орджанікідзе, Терэхаў, Владзікаўказ* (адменена ў 1957 г.).

Пасля рэформы 1933 г. адбываецца планамерны працэс ніведіравання беларускай мовы, што выявілася ў паступовай змене ў слоўнікавым запасе шляхам калькавання слоў з рускай мовы. Да прыкладу, у 30-я гады выпалі словы *суполка, землятрус, фундатар, выдма, асадка, роўнік* замест іх сталі шырока ўжывацца *таварыства, землетрасенне, спонсар, дзюна, ручка, экватар* і інш.

У гэты перыяд беларусізацыя стала разглядацца партыйнымі органамі як памылка, а ў дзяржаўных установах, школах, інстытутах беларуская мова паступова замяняецца рускай мовай. У 1938г. выходзіць пастанова СНК і ЦК ВКП(б) "Аб абавязковым вывучэнні рускай мовы ў школах нацыянальных рэспублік і абласцей". Паступова крок за крокам пачалася страта роднай мовы з усіх сфераў грамадскага і культурнага жыцця, рэзка зменшылася колькасць школ з беларускай мовай навучання.

Аднак, распачатая ў канцы 30-х гадоў арфаграфічная дыскусія працягвалася і пасля вайны (канферэнцыі АН БССР 1950, 1952 гг.).

У 1957 г. Савет Міністраў БССР прыняў пастанову "Аб удакладненні і частковых зменах існуючага беларускага правапісу". У адпаведнасці з ёю Інстытут мовазнаўства АН БССР падрыхтаваў "Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" (1959г.), якімі мы карысталіся да верасня 2010 года.

## Пытанні

1. Што ўключала ў сябе праграма беларусізацыі?
2. На аснове якіх гаворак былі выпрацаваны літаратурныя нормы беларускай мовы?
3. Чым было выклікана правядзенне Акадэмічнай канферэнцыі? Калі яна праводзілася і якія пытанні разглядала?
4. Якія змены ў беларускім правапісе былі ўведзены ўрадавай пастановай 1933 года?
5. Калі былі прыняты "Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", якімі мы карысталіся да верасня 2010 года?

## Заданні

1. Назавіце змены ў беларускім правапісе, уведзеныя арфаграфічнай рэформай 1933 года, якія адмоўна адбіліся на мяккасці і мілагучнасці беларускай мовы.
2. Раскажыце пра вымаўленне і напісанне запазычаных слоў, якія разглядаліся арфаграфічнаю рэформаю 1933г
3. Растлумачце сутнасць працэсу "нівеліравання беларускай мовы", які быў распачаты пасля арфаграфічнай рэформы 1933 года.
4. Назавіце асноўныя палажэнні, якія тычацца беларускай мовы, зафіксаваныя ў Канстытуцыі БССР 1927 года.

## Беларуская літаратурная мова на сучасным этапе

Далейшы лёс беларускай мовы звязаны з паступовым узмацненнем дысгармоніі ў яе выкарыстанні. У 60-80-х гг. XX стагоддзя з'яўляецца цэлы шэраг навуковых выданняў, што, бясспрэчна, спрыяла вывучэнню нацыянальнай культуры (розныя слоўнікі: тлумачальныя, перакладныя, этымалагічныя, гістарычныя і інш., 12 тамоў БелСЭ, шматлікія граматыкі). Разам з тым жывая беларуская мова саступае раней заваяваныя пазіцыі рускай мове.

Адбываецца імклівае скарачэнне тыражоў беларускамоўных твораў мастацкай літаратуры, часопісаў, газет. Многія беларускамоўныя школы пераходзяць на рускую мову навучання. Да таго ж, калі яшчэ ў Канстытуцыі БССР 1927 г. народу гарантавалася права на адукацыю "навучаннем на роднай мове", то Канстытуцыя БССР 1978 г. гэта права абмежавала толькі абстрактнай "магчымасцю навучання на роднай мове". Русіфікатарская палітыка органаў улады прывяла да дэфармацыі нацыянальнай свядомасці, да страты пачуцця любові і пашаны да найвялікшага скарбу нацыянальнай культуры – да мовы. У выніку ў рэспубліцы склалася надзвычайная сітуацыя, якая магла прывесці да поўнай страты мовы. Аднак у канцы 80-х – пач. 90-х гадоў сітуацыя змянілася. Абвяшчэнне Беларусі незалежнай суверэннай дзяржавай, працэсы дэмакратызацыі грамадства абумовілі пачатак адраджэння беларускай мовы. Пашырэнне сферы яе выкарыстання і пытанні аб новым удакладненні і ўдасканаленні беларускага правапісу зноў сталі на парадак дня. На старонках перыядычных выданняў разгарнулася арфаграфічная дыскусія, у ходзе якой выказваліся прапановы перагледзець усё тое, што было зроблена рэформаю 1933г.. Асобныя газеты і часопісы пачалі друкаваць свае матэрыялы паводле правапісу Б. Тарашкевіча. Нават вядомы дзіцячы часопіс "Вясёлка" перайшоў на "тарашкевіцу".

У 1989г. была распрацавана рэспубліканская праграма "Родная мова" і створана Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны (ТБМ), якое ўзначаліў народны пісьменнік Ніл Гілевіч. У гэты час быў спынены перавод школ на рускую мову навучання, пачалі адкрывацца класы з беларускай мовай навучання і дашкольныя дзіцячыя ўстановы. Беларуская мова становіцца рабочай мовай у вышэйшых і спецыяльных навучальных установах, на ёй пачынаюць працаваць міністэрствы і ведамствы. У многіх дзяржаўных установах адкрываюцца курсы па вывучэнню беларускай мовы.

26 студзеня 1990г. быў прыняты закон "Аб мовах у Беларускай ССР" паводле якога беларуская мова стала адзінай дзяржаўнай мовай на тэрыторыі Беларусі.

У 1992г. (19-20 лістапада) у Мінску Інстытутам мовазнаўства АН Беларусі сумесна з Міністэрствам адукацыі, Саюзам пісьменнікаў, Таварыствам беларускай мовы імя Ф. Скарыны была праведзена рэспубліканская навуковая канферэнцыя “Праблемы беларускага правапісу”. Канферэнцыяй была асуджана пастанова СНК “Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу” і прызнана фактам палітычнага ўмяшальніцтва ў моўны працэс. Была адзначана мэтазгоднасць стварыць рабочую камісію, якая б падрыхтавала праект удакладненняў беларускага правапісу. Такая камісія была створана ў складзе 19 чалавек на чале з Н. Гілевічам.

Аднак майскі рэферэндум 1995г. змяніў моўную сітуацыю ў краіне. Па яго выніках статус дзяржаўнай мовы побач з беларускай набывае і руская мова. Сёння беларуская мова зноў трапіла ў цяжкае становішча. Яна практычна не выкарыстоўваецца ва ўсіх сферах жыцця краіны і фактычна не з’яўляецца рэальным сродкам зносін народа.

23 ліпеня 2008 года быў зацверджаны Закон Рэспублікі Беларусь “Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі”. Закон накіраваны на стабілізацыю правапісных нормаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы, забеспячэнне адзінага моўнага рэжыму ў рэспубліцы. “Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі”, выдадзеныя паводле прынятага закону, не нясуць каардынальных зменаў беларускага правапісу, іх асноўны напрамак – пашырэнне фанетычнага прынцыпу пісьма і падпарадкаванне слоў іншамоўнага паходжання беларускім моўным законам.

Звернем увагу на некаторыя найбольш істотныя змены і ўдакладненні. Да прыкладу, такая важная асаблівасць беларускай мовы, як аканне (правапіс на месцы гукаў ***[о], [э]*** пасля цвёрдых зычных у ненаціскных складах літары ***а***) <u>пашыраецца</u> ва ўсіх словах незалежна ад іх паходжання: адажы<u>а</u>, тры<u>а</u>, Токі<u>а</u>, Ватэрло<u>а</u>. Ненаціскныя фіналі *–эль, -эр* у запазычаных словах будуць перадавацца як *–аль, -ар*: грэйд<u>ар</u>, камп’ют<u>ар</u>, шніц<u>аль</u>, лід<u>ар</u>. Яканне (правапіс на месцы ***[э], [о]*** пасля мяккіх зычных у першым складзе перад націскам літары ***я***) <u>распаўсюджваецца </u>на словы і вытворныя ад іх, якія раней традыцыйна пісаліся праз *е*: дз<u>я</u>вяты, дз<u>я</u>сяты, с<u>я</u>мнаццаць, вас<u>я</u>мнаццаць.

Пэўныя змены <u>ўнесены</u> ў правапіс спалучэнняў галосных у запазычаных словах. Так, гукавое спалучэнне зычнага гука [й] з галоснымі ў словах іншамоўнага паходжання перадаецца ётавымі галоснымі, як і ў словах уласнабеларускіх: 1) на пачатку слова: <u>Ё</u>фе, Нью-<u>Ё</u>рк, <u>Ё</u>хансен, <u>ё</u>гурт, <u>ё</u>г; 2) пасля галоснага ў сярэдзіне слова: са<u>ё</u>ты, Ха<u>я</u>м, ма<u>я</u>нэз, ма<u>я</u>рат; 3) пасля галоснага на канцы слова: фа<u>е</u>, секво<u>я</u>, Ма<u>я</u>, папа<u>я</u> і інш.

Уведзена правіла напісання літары ***э*** на канцы запазычаных нязменных слоў, а таксама ўласных імёнаў і геаграфічных назваў пасля зычных, акрамя ***л, к***, якое раней не было сфармулявана: купэ, рэнамэ, фрыкасэ, кашнэ, Мерымэ, Морзэ, Душанбэ, Хасэ, *але*: філе, камюніке, піке, сальта-мартале.

Удакладняецца правапіс ***ў*** *(нескладовага)* і ***у*** *(складовага)*. Нескладовае ***ў*** пішацца згодна з беларускім літарным вымаўленнем пасля галосных пры чаргаванні [у] з [ў]: 1) у пачатку слова (калі гэта слова не пачынае сказ і перад ім няма знакаў прыпынку): ва ўніверсітэце (перад універсітэтам), ля ўніверсітэта (з універсітэта), па ўзнагароду (без узнагароды), за ўладу (без улады), да ўрача (з урачом); 2) у сярэдзіне слова пасля галосных перад зычнымі: аўдыторыя, аўдыенцыя, клаўзула, паўза, раўнд, аўра. Сфармулявана правіла напісання ненаціскнога ***у*** на канцы запаўзычаных слоў: фрау, ноу-хау, ток-шоу, Дахау, Ландау; правіла адносна фіналяў *–ум, -ус* у запазычаных словах, у якіх гук [у] не чаргуецца з [ў]: прэзідыум, кансіліум, калёквіум, медыум. Не чаргуецца гук [у] з [ў] і тады, калі знаходзіцца пад націскам: *да ýрны*, Люблінская *ýнія*, норма і *ýзус, аýл, баýл*.

Унесены ўдакладненні ў правапіс некаторых спалучэнняў зычных у назоўніках іншамоўнага паходжання ў бок іх спрашчэння: кантрасны (параўн.: кантраст), фарпосны (параўн.: фарпост), кампосны (параўн.: кампост), вялікай і малой літар, правапіс мяккага знака і апострафа, абрэвіятур, некаторых марфем (прыставак, суфіксаў) і інш.

Новы закон Рэспублікі Беларусь “Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі” уступіў у дзеянне з верасня 2010 года. Зразумела, што павінен прайсці некаторы час для замацавання новых ведаў па арфарграфічных нормах сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Не выключана, што моўная практыка па ўдакладненых правілах можа ўнесці пэўныя карэктывы па ўдасканаленню прынятага правапісу, аднак ужо сёння можна сказаць, што сваёй скіраванасцю на вырашэнне праблем арфаграфічнай нармалізацыі, Правілы – 2008 павінны станоўча адбіцца на агульным узроўні сістэмы нацыянальнай арфаграфіі і мовы ў цэлым.

### Пытанні

1. Ахарактарызуйце агульны стан беларускай мовы ў 60-80-ыя гады XX ст.
2. Якія падзеі 80-90-ых гадоў абумовілі пачатак адраджэння беларускай мовы?

3. Калі быў прыняты закон “Аб мовах у Беларускай ССР”?
4. Якая ацэнка была дадзена арфаграфічнай рэформе 1933 года на навуковай канферэнцыі “Праблемы беларускага правапісу”, праведзенай ў 1992 годзе?
5. Калі быў прыняты новы Закон Рэспублікі Беларусь “Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі”? Укажыце час уступлення яго ў сілу.

**Заданні**

1. Параўнайце артыкулы Канстытуцый БССР 1932 і 1978 і 1990 гадоў, у якіх разглядаецца права на адукацыю на беларускай мове.
2. Растлумачце сутнасць пастановы, прынятай Рэспубліканскай навуковай канферэнцыяй “Праблемы беларускага правапісу”, праведзенай у 1992г.
3. Выкажыце сваю пазіцыю да майскага рэферэндума 1995 года.
4. Зрабіце пераклад на беларускую мову і выкажыце сваё стаўленне да наступнага выказвання К.Паустоўскага:

“По отношению каждого человека к своему языку можно совершенно точно судить не только о его культурном уровне, но и о его гражданской ценности.

Истинная любовь к своей стране немыслима без любви к своему языку. Человек, равнодушный к родному языку, – дикарь. Он вредоносен по самой своей сути потому, что его безразличие к языку объясняется полнейшим безразличием к прошлому, настоящему и будущему своего народа”.

*(К. Паустовский)*

5. Пры спісванні ўстаўце патрэбныя літары, растлумачце іх правапіс.

Лід…р, Антоні…, фламаст…р, барт…р, менедж…р, Галіле… Галілей, Жалі…-Кюры, Юпіт…р, Генд…ль, дз…вяты, с…мнаццаты, дз…сятка, тры…, сальфеджы…, рэнам…, рэзюм…, камюнік…, Шэварнадз…, газ…та.

6. Запішыце словы па-беларуску. Растлумачце правапіс ***ў*** *(нескладовага)* і ***у*** *(складовага)*.

Штраус, локаут, симфоническая увертюра, медиум, полная урна, орфографическая унификация, государственный университет, журнал «Пралеска» наградили, имя Владимир.

7. Спішыце, ўстаўце замест кропак прапушчаныя літары; растлумачце іх правапіс.

Прэзіды…ум, ноу-ха…, Алата…, кансілі…м, рады…с, ска…т, фа…на, фра…, Фа…ст, а…каць, паўночна-…сходні, ла…рэат.

8. Запішыце сказы па-беларуску.

а) Даже вышестоящие суды, вплоть до Верховного суда, не руководят нижестоящими судами, не занимают форпостных позиций, а лишь осуществляют судебный надзор, т.е. в предусмотренном законом порядке проверяют решения нижестоящих судов на предмет их соответствия закону, всесторонности, объективности рассмотрения дел и вынесенных по ним решений.
б) С 1875 года неоднократно уточнялись структура и компетенция Верховного суда Англии и Уэльса, но контрастных изменений он так и не претерпел, как вообще вся английская правовая система.

## З гісторыі беларускай графікі

У гісторыі беларускага пісьменства было тры графічныя сістэмы: кірылічная (кірыліца), лацінская (лацініца) і арабская (кітабы).

Аснову сучаснай беларускай графічнай сістэмы складае кірыліца – старажытная славянская азбука, якая была створана ў 863 г. і названа ў гонар першага славянскага асветніка Кірыла (свецкае імя Канстанцін).

У славянскім кірылаўскім алфавіце было 43 літары, 24 з іх запазычаны з грэчаскага пісьма. Для спецыфічных славянскіх гукаў было ўведзена 19 новых літар, сярод іх: **б, ж, ч, ъ, ь, ю,** @ (юс вялікі), # (юс малы), літары **ц, ш** былі ўзяты з яўрэйскага пісьма. 27 літар кірылаўскага алфавіта выкарыстоўваліся для абазначэння лічбаў. У такіх выпадках над літарай ставіўся спецыяльны знак **[~]** цітла, а па баках літар – кропкі: ***·ã· - 1*** і г. д.

На землі ўсходніх славян кірыліца прыйшла ў канцы X – пачатку XI ст. з прыняццем хрысціянства (988 г. – Кіеў, 992 г. – Полацк, 1005 г. – Тураў). Першыя кнігі, якія прывозіліся на нашыя землі для правядзення багаслужэння былі напісаны на старaславянскай мове, тымі літарамі, якія вынайшлі асветнікі Кірыл і Мяфодзій у 863 годзе.

З канца XIII – пач. XIVст. пачынае развівацца беларускае пісьменства. Старажытным беларускім алфавітам была традыцыйная кірыліца.

Кірылічнае пісьмо на Беларусі было толькі рукапісным да XVI ст. У 1517 г. у чэшскай Празе Францыск Скарына выдаў першую для ўсходніх славян друкаваную кнігу “Псалтыр”. На аснове кірыліцы вялікі беларускі асветнік стварыў шрыфт, у якім былі як загалоўныя, так і радковыя літары. Скарынаўскі шрыфт стаў узорам і для іншых беларускіх і ўсходнеславянскіх друкароў: С. Буднага, В. Цяпінскага, І. Фёдарава, П. Мсціслаўца, братоў Мамонічаў. З XVI ст. у беларускім пісьменстве сталі ўжывацца і рукапісныя і друкаваныя літары.

Кірылаўскім пісьмом карысталіся на Беларусі да канца XVII ст., калі ў 1696 г. на Варшаўскім сойме было фактычна забаронена ўжываць беларускую мову ў афіцыйным справаводстве. Афіцыйнай мовай стала польская, у аснове графічнай сістэмы якой ляжыць лацінскае пісьмо (лацінка)[2]. Таму з канца XVIII ст. пачалі пісаць па-

[2] Нагадаем, што ў 1 тыс. да н. э. у выніку каланізацыі грэкамі Італіі з грэчаскім пісьмом пазнаёміліся розныя народы Італіі, у тым ліку і этрускі (VII ст. да н. э.). Ад этрускаў яно стала

беларуску лацінскімі літарамі. Беларускія пісьменнікі, што стаялі ля вытокаў новай (нацыянальнай) літаратурнай мовы – В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, пісалі свае творы лацінскімі літарамі. Першая нелегальная беларуская газета "Мужыцкая праўда", якую выдаваў напярэдадні паўстання 1863 г. К. Каліноўскі, таксама друкавалася лацінкай. Першыя легальныя беларускія газеты "Наша доля" і "Наша ніва" выкарыстоўвалі дзве графічныя сістэмы: кірыліцу і лацінку. Лацінка ў беларускім пісьменстве праіснавала да 20-х гадоў ХХ ст., а ў Заходняй Беларусі да 1939г.

Пісалі па-беларуску і арабскімі літарамі. З XIV ст. на нашых землях жылі татары, адны з іх былі палонныя, другія – перасяленцы. Ужо ў XVI – XVII ст. яны страцілі сваю мову і карысталіся беларускай.

Першыя беларускія тэксты, напісаныя арабскім пісьмом, з'явіліся ў сярэдзіне XVI ст. У асноўным гэта былі пераклады з усходніх моў, з цюркскіх (турэцкай, азербайджанскай, узбекскай, туркменскай, казахскай, татарскай) і арабскай. Мова гэтых тэкстаў вельмі блізкая да жывой народна-гутарковай беларускай мовы. У іх некаторыя фанетычныя асаблівасці беларускай мовы адлюстроўваюцца больш дакладна, чым у беларускіх помніках, напісаных кірылаўскім пісьмом.

Зборнікі разнастайных тэкстаў, напісаныя арабскім пісьмом вядомы пад назваю ***кітабы*** (аль-кітабы, ай-кітабы, кіцёбы). Урыўкі з татарскіх рукапісных кніг упершыню былі надрукаваны ў 1857 г. прафесарам Пецярбургскага ўніверсітэта А. Мухлінскім.

У 1708 г. загадам Пятра І была праведзена рэформа кірылаўскага пісьма. Асноўная мэта рэформы: наблізіць кірыліцу да лацінскага алфавіта. Новая азбука выкарыстоўвалася ў свецкай літаратуры, у дзяржаўных і грамадзянскіх кнігах, ад чаго яна і атрымала назву "гражданки" ("грамадзянкі"). Узоры літар грамадзянскага алфавіта стварыў беларус Ілья Капіевіч, асветнік і кнігавыдавец, якога лёс звёў з Пятром І у Галандыі[3].

З XVIII былі прынятыя і лацінскія назвы літар (а, бэ, вэ, гэ, дэ і г. д.) замест кірылаўскіх (азъ, буки, веди, глаголь, дабро). Акрамя гэтага было ўведзена некалькі новых літар. У рускім алфавіце гэта: ***э*** (узаконена Пятром І), літара ***й*** (зацверджана ў 1735 г. Расійскай Акадэміяй навук (у беларускіх тэкстах яна выкарыстоўвалася з XVI

---

вядома лацінам – італійскаму племені, якое заснавала Рым. У VI ст. да н. э. лаціны на аснове грэчаскага пісьма стварылі свой алфавіт – лацініцу.

[3] Ёсць меркаванне, што спробы рэфармавацькірыліцу, наблізіўшы яе да лацінкі, былі зроблены ў вялікім княстве Літоўскім яшчэ ў XVI ст. Ілья Капіевіч пазнаёміў Пятра І з двума ўзорамі рэфармаванай кірыліцы, якая ўжо ўжывалася ў ВКЛ. Пётр І увёў адну з іх, назваўшы "грамадзянкай2, каб адрозніваць яе ад традыцыйнай кірыліцы, якой працягвала карыстацца царква.

ст.), і літара ***ё***, якую ўвёў у 1797 г. пісьменнік М. Карамзін (замест спалучэння *іо*).

Пры станаўленні новай беларускай літаратурнай мовы ў беларускім варыянце кірыліцы замацаваліся літары ***ў, і***, *знак апострафа (‘)*, а таксама дыграфы ***дж, дз***, для передачы спецыфічна-беларускіх гукаў. Паколькі на працягу XIX ст. пераважная большасць беларускіх твораў друкавалася лацінкай, беларускі варыянт “грамадзянскай” графікі замацаваўся толькі ў пачатку XX ст.

У Вільні, калі з’явіліся першыя беларускія легальныя газеты “Наша доля” (1906 г.) і “Наша ніва” (1906 – 1915), а таксама ў Пецярбургу, Мінску і іншых гарадах былі створаны беларускія выдавецкія суполкі. У той час існавалі дзве графічныя сістэмы (кірыліца і лацінка), якія стваралі шматлікія цяжкасці ў выдавецкай справе. З 1912 г. газета “Наша ніва” перайшла на адзін шрыфт – грамадзянскі, а з 1913 г. грамадзянскім шрыфтам ужо карысталася пераважная большасць беларускіх выдавецтваў. У гэты перыяд замацавалася напісанне літар ***шч*** замест ***щ***, літары ***ў***, абавязковае напісанне ***ё***, замена ѣ (яць) на ***е***, апушчэнне літары **ъ** (ёр) у канцы слова, замена ѳ (фіты) і ѵ (іжыца) адпаведна літарамі ***ф*** і ***і***. Вядома, што ў рускай графіцы адмена літар яць, фіта, іжыца, ёр (у канцы слова) адбылася крыху пазней (у 1918 г.).

Вялікую ролю ў нармалізацыі беларускай графікі адыграла Акадэмічная канферэнцыя 1926 г. па рэформе беларускага алфавіту і правапісу. На канферэнцыі было прынята рашэнне пакінуць кірыліцу як графічную аснову беларускага пісьма. Так алфавіт, якім мы карыстаемся сёння, у аснове якога ляжыць рэфармаваная кірыліца, быў замацаваны як адзіны графічны сродак беларускай мовы.

**Пытанні**

1. Якія графічныя сістэмы былі ў гісторыі беларускага пісьменства?
2. Калі на землях усходніх славян з’явілася кірылаўскае пісьмо?
3. Калі і кім была праведзена рэформа кірылаўскага пісьма? Хто стварыў узоры літар грамадзянскага алфавіта?
4. Калі ў нашым краі пачалі пісаць па-беларуску лацінскімі літарамі? Да якога часу прыснавала лацінка ў беларускім пісьменстве?
5. Што вы ведаеце пра беларускія тэксты, напісаныя арабскім пісьмом? Як яны называюцца?

**Заданні**

1. Нашы продкі вучыліся чытаць, складваючы назвы літар кірылаўскага алфавіта: *буки + азъ = ба*. Улічваючы гэта, прачытайце наступныя словы:

пакой – рцы – азъ – веди – азъ;

дабро – азъ – глаголь – азъ – веди – он – рцы.

2. Прачытайце словы і прааналізуйце прынцыпы перадачы гукаў. Калі адбыліся змены ў беларускім алфавіце?

Артыкулъ, судъ, свѣтъ, человѣкъ, зълодѣй, прадѣдъ, пасынъкъ, скарбникъ, сотникъ.

3. Прачытайце ўрывак з прадмовы Ф. Багушэвіча да паэтычнага зборніка "Дудка беларуская", надрукаванага лацінкаю. Прааналізуйце наколькі поўна яна перадае фанетычныя асаблівасці беларускай мовы.

Bratcy miłyje, dzieci Ziamli-matki majej! Wam afiarujuczy pracy swaju, muszu z wami pahawaryc trochi ab naszaj doli-niadoli, ab naszaj backawaj zpradwiecznaj mowie, katoruju my sami, da j nie adny my, a usie ludzi ciomnyje, «muzyckaj» zawuc, a zawietca jana «biełaruskaj». Ja sam kalis dumau, szto mowa nasza — «muzyckaja» mowa i tolki taho! Ale, pazdarou Boze dobrch ludcou jak nauczyli mianie czytacpisac, z toj pary ja szmat hdzie byu, szmat czaho widzieu i czytau: i prakanausia, szto mowa naszaja josc takajaz ludzkaja i panskaja jak i francuzkaja, albo niamieckaja, albo i inszaja j jakaja.

## Літаратурная мова, яе асаблівасці і нормы

Нацыянальная мова беларускага народа складаецца з літаратурнай і народна-дыялектнай мовы.

Літаратурная мова – гэта мова апрацаваная, унармаваная і агульнапрынятая для ўсіх членаў грамадства. Прызначэнне літаратурнай мовы – абслугоўваць разнастайныя сферы грамадскай дзейнасці чалавека. Яна агульнанародны сродак моўных зносін, які садзейнічае матэрыяльнаму і духоўнаму прагрэсу народа, выхаванню ўсіх членаў грамадства і далучэнню іх да нацыянальнай культуры, навукі, тэхнікі.

Літаратурная мова з’яўляецца вышэйшай формай мовы нацыянальнай, носьбітам і пасрэднікам культуры і цывілізацыі. У ідэальным варыянце літаратурная мова заўсёўды разлічана на агульнанароднае ўжыванне. З гэтага выцякае прынцып генералізацыі форм і катэгорый. Наяўнасць для ўсёй нацыі адзінай унармаванай літаратурнай мовы з’яўляецца асноўнай адзнакай развітай нацыянальнай мовы ў адрозненне ад мовы народнасці.

Літаратурная мова – катэгорыя гістарычная: розныя ступені апрацаванасці, дакладнасць і строгасць адбору моўных сродкаў могуць быць рознымі не толькі ў розных літаратурных мовах, але і ў адной мове ў розныя перыяды яе развіцця. На ўсіх этапах развіцця абавязковай умовай узнікнення і фарміравання літаратурнай мовы з’яўляецца пісьменства. Складанасць і разнастайнасць сістэмы моўных сродкаў – адна з галоўных асаблівасцей літаратурнай мовы. Як вядома, літаратурная мова існуе ў дзвюх формах – вуснай і пісьмовай. Кожная з гэтых формаў мае свае спецыфічныя асаблівасці ў лексіцы і граматычнай структуры, таму што разлічана на розныя віды ўспрыняцця – слыхавое і зрокавае.

Неабходна заўважыць, што функцыянальная нагрузка літаратурнай мовы ў розных гістарычных умовах неаднолькавая, яна залежыць ад ўзроўню развіцця грамадства, ад агульнай культуры народа.

Нацыянальная літаратурная мова звычайна фарміруецца з мовы народнасці, з пэўнага дыялекту, што найбольш поўна адлюстроўвае агульныя тэндэнцыі развіцця адпаведнай мовы.

У аснову беларускай літаратурнай мовы ляглі цэнтральныя (сярэднебеларускія) або гаворкі цэнтральнай Беларусі.

Літаратурная мова добра ўзаемадзейнічае з дыялектнай, апошняя з’яўляецца пастаяннай невычэрпнай крыніцай яе папаўнення і ўзбагачэння.

Літаратурная мова апрацоўваецца і ўдасканальваецца паступова ў працэсе развіцця і ўзбагачэння ўсёй культуры народа.

Сучасная беларуская літаратурная мова - адметная і самабытная, са сваімі асаблівасцямі і толькі ёй уласцівымі рысамі.

## Асаблівасці беларускай літаратурнай мовы ў параўнанні з рускай

Параўнанне беларускай мовы з рускай праводзім з чыста практычнай мэтай і патрэбай. Па-першае, на сучасны момант у Беларусі дзве дзяржаўныя мовы – беларуская і руская. Па-другое, абедзве мовы паралельна вывучаюцца ў школах, тэхнікумах, ВНУ, таму супастаўленне іх дапаможа глыбейшаму, больш асэнсаванаму засваенню фанетыкі, арфаэпіі, граматыкі абедзвюх моў.

### 1. *Фанетычныя асаблівасці*

1. Беларускім мяккім свісцячым афрыкатам [*дз*], [*ц*] адпавядаюць у рускай мове мяккія зычныя [*д*], [*т*], так званае “дзеканне” і “цеканне”: дзень-дзень, дзіця- дитя, тесто-цеста. Беларускім [*дз*] і [*ц*] уласціва большая ступень палатальнасці, або мяккасці, чым рускім [*д*], [*т*].

2. Наяўнасць прыстаўнога зычнага [*в*] (зрэдку [*г*]) перад пачатковым [*о*], [*у*] (у тым ліку і пасля прыставак) у беларускай мове: *вока, вокны, восень, вуха, вуліца* і адсутнасць прыстаўнога *в(г)* у рускай мове (*окна, осень, ухо, улица*).

3. Зычны [*р*] у беларускай мове толькі цвёрды: *парадак, гавару, рыба, крык, грыва.*

4. Зычны [*в*] у беларускай мове чаргуецца з [*ў*]: [в] вымаўляецца перад галосным, [ў] – на канцы слова і перад наступным зычным: *галава – галоўка*, *галоўны; карова – кароўка*. У рускай мове [*в*] захоўваецца не толькі перад галоснымі, але і перад звонкімі і санорнымі зычнымі (*здоровый, здоровье, заздравная, главный, соврать*), а перад глухімі зычнымі і на канцы слова чаргуецца з [*ф*]: тра[*ф*]ка, [*ф*]перёд, [*ф*]сегда, коро[*ф*].

5.Зычны [*д*] у прыназоўніку і прыстаўцы [*ад*] вымаўляецца як [*д*] перад усімі звонкімі, у тым ліку і перад санорнымі *в, j*[*й*] *, л, м, н, р*: *адвесці, ад вады, ад лагера, адламаць, адрэзаць, ад Рудзенска, ад Рэчыцы*, ад іх ( ад [jіх] ), ад’ехаць [адjехац]. У рускай мове адпаведна вымаўляецца [*т*]: *отвести, от воды, от лагеря*.

6. Наяўнасць прыстаўных галосных *і, а* перад пачатковымі санорнымі *р, л, м*, калі пасля санорных ідзе які-небудзь іншы зычны: *іржавы, ільняны, імкненне, імгла, аржаны.*

7. Чаргаванне ў беларускай мове складоў *ро, ло, ле* з адпаведнымі *ры, лы, лі*: *кроў – крыві, гром – грымоты, глотка – глытаць*.

8. Беларускім словам з поўнагалоснымі спалучэннямі ( *серада, вораг, палон, сорам, галоўны, сярэдні, узнагарода*) адпавядаюць у

рускай мове запазычаныя стараславянскія з няпоўнагалоснымі спалучэннямі (*среда, враг*, *плен, срам, главный, средний, награда*).

9. Наяўнасць у беларускай мове так званага “якання” (пераход галосных *е, ё* ў першым складзе перад націскам у *я*): *сёлы – сяло, весці – вяду, несці – нясу, вёслы – вясло.*

10. Наяўнасць афрыкатаў *дж* і *дз* як самастойных гукаў: *хаджу, ваджу, падзяка, надзел*.

11. Беларускі зычны *г* працяжны, фрыкатыўны, адпавядае рускаму *г* выбухному: *горад, галава, нага*.

12. Падаўжэнне зычных у беларускай мове, за выключэннем губных і зычнага *р*, якое ўзнікла ў выніку асіміляцыі (прыпадабнення) гэтымі зычнымі гука *j*: *веселье – вяселле, житье – жыццё, ночью – ноччу, мышью – мышшу.*

13. Націскному галоснаму э [*е*]перад шыпячымі ў беларускай мове (*нясеш, ідзеш, бярэш*) адпавядае о [*ё*] у рускай мове: *несёшь [нес’ош]* , *идешь [ид’ош]*.

14. Захаванне цвёрдага вымаўлення зычных [*д*] і [*т*] у словах іншамоўнага паходжання перад галоснымі: *тэатр, тэма, тэорыя, дырэктар, дэкрэт, рэзалюцыя.*

15. Захаванне мяккага вымаўлення этымалагічнага [*ц’*] перад мяккім [*в’*]: *цвісці, цвік, цвіркаць*.

16. У беларускай мове ў словах тыпу *розум, розніца, роўнасць, роўныя* захавалася старажытнае ўсходнеславянскае спалучэнне *ро*, у рускай мове ў выніку ўплыву стараславянскай мовы замацавалася *ра* (*разум*, *разница, равенство*).

17. У беларускай мове ў дзеясловах загаднага ладу (*мый, шый, крый, лі,бі,ві*) і абвеснага ладу ( *мыю, шыю, крыю*) вымаўляюцца галосныя *ы, і*. У рускай мове ім адпавядаюць *о,е: мой, мою, шей, пей, лей*. Так вымаўляюцца галосныя і ў прыметніках і ў словах прыметнікавага тыпу мужчынскага роду ў назоўным і вінавальным склонах адзіночнага ліку: *такі, пусты, сляпы* (у беларускай мове); *такой, пустой, слепой* ( у рускай мове).

18. Наяўнасць чаргавання канцавых зычных *г,к,х* з адпаведнымі *з,ц,с* у назоўніках давальнага і меснага склонаў 1-га скланення і меснага склону 2-га скланення: *дарога – дарозе, нага – назе, рука – у руцэ, страха – страсе*.

19. Злучнік і часціца *і* пасля слоў, якія заканчваюцца на галосны, у беларускай мове вымаўляецца як *й*: *сястра й брат, добра й хутка, а я й не ведала*. У рускай мове такога змянення няма.

ІІ. ***Марфалагічныя асаблівасці***

1. Род назоўнікаў у беларускай і рускай мовах не заўседы супадае. Напрыклад, словы: *жаль, боль, гармонік, накіп, медаль, палын, пыл, сабака, стэп,шынель,цень* у беларускай мове

мужчынскага роду, у рускай – жаночага, слова *таполя* у беларускай мове жаночага роду, у рускай – мужчынскага. Зразумела, што часцей назіраюцца родавыя несупадзенні, калі адпаведныя словы ў дзвюх мовах маюць розныя карані: *жыта* (ніякі род) і *рожь* (жаночы), *пытанне* (ніякі род) і *вопрос* (мужчынскі).

2. Пэўныя назоўнікі адрозніваюцца лікам; у беларускай мове: *чарніла* (добрае, чорнае, чырвонае), *бяліла* (густое, сінтэтычнае), *дзверы* (шырокія, новыя), *крупы* (ячменныя, аўсяныя); у рускай мове: *чернила* (хорошие, черные, красные), *белила* (густые, синтетические), дверь (новая, широкая), *крупа* (ячневая, овсяная).

3. Даволі частае ўжыванне клічнай формы назоўнікаў 2-га скланення для выражэння звароткү: *браце, дружа, сынку*.

4. Уніфікаваная форма назоўнікаў назоўнага склону множнага ліку ў беларускай мове: канчаткі *-і, -ы,* (*лясы, бары, сыны, браты, лугі, шляхі, палі, заданні, пытанні*), толькі словы тыпу *армянін* маюць канчатак *-е* (*армяне*). У рускай мове – *-и,-ы (столы, ученики), -а, -я (леса, учителя), -ьја (сучья, братья,сыновья*), *-е* (*армяне*).

5. Наяўнасць у назоўнікаў жаночага і ніякага роду ў родным склоне множнага ліку канчаткаў *–аў(-яў*): *бітваў, забойстваў ,брытваў.*У рускай мове мове *битв, бритв, убийств*.

6. У беларускай мове назоўнікі мужчынскага роду, якія належаць да першага скланення (*дзядзька, ваявода, бацька, стараста*), у некаторых склонах маюць формы назоўнікаў другога скланення: *бацька-бацьку, дзядзька-дзядзьку* (давальны і месны склоны адзіночнага ліку), *бацька-бацькам, музыка-музыкам, мужчына-мужчынам* (творны склон адзіночнага ліку. У рускай мове: *воеводе, старосте; воеводой, старостой.*

7. Прыметнікі вышэйшай ступені параўнання ў беларускай мове маюць суфіксы *–эйш-,-ейш-, -ш-* і з'яўляюцца поўнымі зменнымі формамі*: разумнейшы за брата, прыгажэйшая за яе, дабрэйшыя за іншых; другі раздел карацейшы за першы; гэтая аповесць цікавейшая за тую*. У рускай мове прыметнікі вышэйшай ступені – закасцянелая, нязменная форма, якая граматычным складам не адрозніваецца ад прыслоўяў: *шире, громче, больше, умнее, талантливее, сильнее*.

8. Ужыванне формы назоўнага склону множнага ліку ў спалучэнні з лічэбнікамі 2, 3, 4: *два цікавыя раманы, чатыры драўляныя крэслы, дзве трэція, тры сёмыя.*

9. Асобныя формы скланення лічэбнікаў *два, дзве* для мужчынскага і жаночага роду ў адрозненне ад рускай мовы: *двух братьев – двух сестер; двух братоў – дзвюх сясцёр.*

10. Нескланяльнасць лічэбнікаў 90, паўтары, паўтара.

11. Утварэнне дзеепрыслоўяў незакончанага трывання з дапамогай суфіксаў *–учы, -ачы*: *гаворачы, пішучы, робячы*. У рускай мове ім адпавядаюць дзеепрыслоўі з суфіксамі *–а(-я): идя, неся, читая*. Беларускія дзеепрыслоўі на *–учы (-ючы), -ачы (-ячы*) – закасцянелыя кароткія дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу жаночага роду (*идучи,робячи*); рускія дзеепрыслоўі тыпу *идя, неся* – закасцянелыя кароткія дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу мужчынскага і ніякага роду (*ида, неса – идя, неся*).

12. У беларускай мове ўтвораны і ўжываюцца дзеепрыслоўі незакончанага трывання ад дзеясловаў тыпу *біць, піць, віць, ліць, шыць, жаць* (*б’ючы, п’ючы, л’ючы*), ад дзеясловаў тыпу *мазаць, пісаць, рэзаць, (мажучы, пішучы, рэжучы*). У рускай мове такіх дзеепрыслоўяў няма.

13. У беларускай мове амаль не ўжываюцца дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга і прошлага часу з суфіксамі *–уч-(-юч-), -ач-(-яч-), -ўш-, -ш-*. У рускай мове яны вельмі пашыраныя (*поступающий, обвиняющий, расходившийся, ответивший*). У беларускай мове сказам з дзеепрыметнікамі такога тыпу адпавядаюць складаназалежныя сказы з даданай азначальнай часткай: *поступающий на юридический факультет – які паступае на юрыдычны факультэт; обвиняющий его судья – суддзя, які яго абвінавачвае; ответивший на все вопросы подсудимый – падсудны, які адказаў на ўсе пытанні.*

## Пытанні

1. Чым адрозніваюцца паняцці “беларуская мова” і “беларуская літаратурная мова”?
2. Чаму літаратурная мова – з’ява гістарычная?
3. Што з’яўляецца абавязковай умовай узнікнення літаратурнай мовы?
4. Як вы растлумачыце палажэнне: “Літаратурная мова ўзаемадзейнічае з мовай дыялектнай”?
5. Што з’явілася асновай для фарміравання беларускай літаратурнай мовы?
6. У паняцце “сучасная беларуская літаратурная мова” уваходзіць азначэнне “сучасная”. Як вы яго разумееце? З якога моманту гісторыі развіцця мовы стала ўжывацца гэтае азначэнне?
7. Як вы ацэньваеце моўную сітуацыю ў нашай краіне на сучасным этапе?

## Заданні

1. Самастойна знайдзіце і запішыце некалькі цікавых выказванняў пісьменнікаў, журналістаў, вядомых дзеячоў пра беларускую мову, яе прыгажосць, прывабнасць, адметнасць.
2. Перакладзіце на беларускую мову наступныя словазлучэнні:

Молодой специалист, талантливый юрист, известный адвокат, толковый следователь, строгий защитник, профессиональный уровень, нанесенный ущерб, срочный вызов, криминальный случай, государственный обвинитель, опасный преступник, законный представитель.

3. Утварыць ад дадзеных прыметнікаў формы вышэйшай ступені параўнання з дапамогай суфіксаў ***–эйш-, -ейш-, -ш-*:** добры, высокі, вялікі, стары, новы, разумны, складаны, цікавы, сур’ёзны, вялікі.
4. Раскрыйце дужкі і запішыце словазлучэнні:

2 (складаная справа), 3 (малады юрыст), 2 (вядомы суддзя), 3 (тэарэтычнае палажэнне), 4 (цікавы выпадак), 2 (крымінальнае здарэнне), 3 (заканадаўчы акт), 4 (абраны дэпутат), 2 (сур’ёзнае парушэнне), 3 (дарожнае здарэнне), 2 (падазроная асоба), 4 (лепшы паставы), 4 (дзяржаўны акт).

5. Зрабіце пераклад на беларускую мову, утварыўшы ад дзеясловаў дзеепрыслоўі незакончанага трывання:

Зачитывать приговор, принимать решение, объявлять перерыв, собирать документы, анализировать факты, писать объяснительную записку, составлять протокол, предъявлять доверенность, делать обыск, проводить дознание, сопоставлять факты, вести дознание, описывать имущество, лишать права голоса, ссылаться на статью закона, осуществлять руководство.

6. Выпраўце памылкі, дапушчаныя пры ўтварэнні і ўжыванні дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга часу.

Адказваючы на пытанні суддзі чалавек; заслухоўваючы прыгавор падсудны; чытаючы пратакол суддзя; пішучыеся паказанні; працуючы падсудны; пішучы сакратар, адказваючы сведка; рашаючы складанае пытанне дырэктар; плывучы па хвалях лёсу чалавек; праходзячыя перад намі сведкі; носячыя зброю злачынцы.

## Нормы літаратурнай мовы

Адметная асаблівасць літаратурнай мовы – унармаванасць, наяўнасць нормы. Пад нормай мы разумеем выпрацаваныя грамадствам і пісьмова замацаваныя ў адпаведных даведніках, слоўніках, граматыках правілы, арыентуючыся на якія, мы вучымся пісаць без памылак, правільна ўжываць пры маўленні тыя ці іншыя словы і іх формы, пісьменна будаваць словазлучэнні і сказы.

Як сведчаць шматлікія навуковыя даследаванні, яшчэ ў пачатку XX ст. тэрмінам "літаратурная норма" карысталіся даволі рэдка, тым не менш, на ўсіх этапах развіцця мовы пытанне аб літаратурнай норме ўзнікала і пэўным чынам вырашалася. Спробу ўнармаваць беларускую мову зрабіў у 1918г. Б.Тарашкевіч у "Беларускай граматыцы для школ".

1933 год – год прыняцця першага афіцыйнага дакумента "Правапіс беларускай мовы". У1957 годзе гэты правапіс быў удасканалены і часткова зменены. Змены закраналі марфалагічныя нормы і напісанне слоў іншамоўнага паходжання.Трэба заўважыць, што моўная норма носіць аб'ектыўны характар, яна не ствараецца моваведамі, аўтарамі граматык, слоўнікаў. Усе моўныя нарматывы (правілы), што зафіксаваны ў рознага кшталту падручніках і навукова-метадычных распрацоўках, адлюстроўваюць сучасны стан беларускай літаратурнай мовы, прапагандуюць і падтрымліваюць тое, што выпрацавана моўнай практыкай.

У сувязі з тым, што мова жыве і развіваецца пад уплывам многіх, у тым ліку і пазалінгвістычных фактараў, моўныя нормы захоўваюцца і змяняюцца таксама ў залежнасці ад многіх умоў, сярод якіх можна выдзяліць:

- моўнае акружэнне
- уплыў кніг на грамадства
- ступень уздзеяння моўных стыляў на маўленчую дзейнасць людзей і іншыя

Пераемнасць у часе літаратурнай мовы забяспечвае менавіта норма, таму яна павінна быць устойлівай, стабільнай. Пад стабільнасцю нормы ў гэтым плане трэба разумець захаванне цэласнасці моўных сродкаў і ўстойлівасці правіл іх выкарыстання. Калі ж гэтую цэласнасць не захоўваць і не падтрымліваць, то і немагчыма будзе выпрацаваць трывалыя моўныя навыкі, а таксама дасягнуць узаемаразумення ўсіх носьбітаў мовы.

З другога боку, стабільнасць моўнай нормы не азначае яе нязменнасці, статычнасці. Асабліва яскрава гэта можа пацвердзіць працэс нарміравання беларускай літаратурнай мовы, які расцягнуўся да нашых дзён. Здарылася такая сітуацыя ў выніку ўплыву на

беларускую літаратурную мову ў большай ступені палітыка-ідэалагічных прычын, чым унутрымоўных. Шматлікія пацверджанні ёсць сёння таму, што спрыяльных умоў для свайго развіцця беларуская мова не мела і да нашых дзён, як не мае і цяпер.

У сістэму нормаў літаратурнай мовы ўваходзяць:

- арфаэпічныя і акцэнталагічныя нормы (замацоўваюць правільнае вымаўленне гукаў і правільную пастаноўку націску);
- арфаграфічныя нормы (забяспечваюць правільнасць перадачы вуснай мовы на пісьме адпаведна пэўным правілам);
- лексічныя нормы (прадугледжваюць ужыванне слоў ва ўласцівых ім значэннях і правільнае сэнсавае іх спалучэнне);
- граматычныя нормы (замацоўваюць правільнае ўжыванне формаў слоў і дакладную пабудову сказаў);
- стылістычныя нормы (вызначаюць правільнасць падбору моўных сродкаў у адпаведнасці з пэўным стылем);
- пунктуацыйныя нормы (забяспечваюць правільнасць пастаноўкі знакаў прыпынку).

Заўважым адразу, што літаратурная норма – з’ява не застылая. Сам працэс развіцця мовы прадугледжвае, што часам могуць у ёй суіснаваць элементы старой і новай якасці, г.зн. у межах моўнай нормы дапускаюцца варыянты.

Праз пэўны час жыццё пакажа, якім формам аддадзена перавага, а якія могуць выйсці з ужывання. Вывучэнне і засваенне нормаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы мае вялікае грамадска-практычнае значэнне. Парушэнні літаратурных нормаў з’яўляюцца перашкодамі ў моўных сувязях людзей. Дасканалае валоданне сучаснай беларускай мовай – адзін з істотных бакоў агульнай культуры чалавека.

## Норма і варыянтнасць

Варыянтнасць пэўных моўных нормаў, суіснаванне розных форм і спосабаў выражэння аднаго і таго ж паняцця – гэта вынік як натуральнага развіцця мовы, так і ўплыву многіх пазалінгвістычных фактараў. Напрыклад, варыянтнасць пэўных нормаў беларускай літаратурнай мовы тлумачыцца такім пазамоўным фактарам, як даволі працяглы перыяд абмежавання беларускай мовы шмат у якіх сферах ужывання, што ўскладняла і ўскладняе працэс нармалізацыі.

Вядома і відавочна, што адбор моўных сродкаў займае даволі працяглы час і можа прывесці або да знікнення аднаго з варыянтаў, або да іх размежавання, надаючы пры гэтым кожнаму варыянту

статут нормы, што функцыянуюць у якасці не тоеснай, а асобнай адзінкі. Пры наяўнасці варыянтаў увесь час існуе пытанне: які моўны сродак будзе найлепшым для ўжывання з пункту погляду яго распаўсюджанасці ў мове, стылістычнай абмежаванасці? У сувязі з тым, што беларуская літаратурная мова падуладна яшчэ моцнаму ўплыву мовы дыялектнай, таму побач з нарматыўнымі варыянтамі існуе пэўная колькасць не прызнаных нормай варыянтаў.

Арфаэпічны, лексічны, марфалагічны і шмат якія іншыя моўныя ўзроўні не пазбаўлены варыянтаў. Як жа выбраць найлепшы, чым пры гэтым кіравацца? Мовазнаўцы вылучаюць некалькі паказчыкаў моўных нормаў.

1. Фактар устойлівасці. Праўда, не заўсёды апраўданымі могуць быць спасылкі на гэты фактар, таму што, як паказвае моўная практыка, устойліва іншым разам замацоўваюцца і памылкі. Напрыклад, вымаўленне пачнем замест пачнём, д’эвяты замест дз’эвяты і інш.

2. Ступень ужывальнасці, распаўсюджанасці. У гэтым плане нас чакае таксама вялікая колькасць “расчараванняў” хаця б таму, што ўмовы білінгвізму даволі часта адмоўна ўплываюць на фарміраванне моўнай нормы ў беларускай літаратурнай мове. Напрыклад, па правілах у беларускай літаратурнай мове нормай лічыцца форма назоўнага склону множнага ліку пасля лічэбнікаў 2, 3 і 4: два лепшыя адвакаты, тры вядомыя юрысты, чатыры падпісаныя пратаколы, а досыць жа распаўсюджаным з’яўляецца памылковае ўжыванне формы роднага склону множнага (адзіночнага) ліку тыпу два заслужаных вучоных, тры зацверджаных пастановы і г.д.

2. Нярэдка пры вырашэнні пытання моўнай нормы кіруюцца індывідуальным, суб’ектыўным чуццём мовы, уласным густам. Адразу заўважым, што такі падыход даволі ненадзейны. Вось да прыкладу сітуацыя з перакладам твораў Янкі Брыля на рускую мову, калі відавочна, што перакладчык або дрэнна ведае беларускую мову, або кіраваўся меркаваннямі густу. Розная стылістычная афарбоўка слоў, выкарыстаных аўтарам і абраных перакладчыкам, прывяла да пэўных страт у перадачы асаблівасцей моўнай манеры пісьменніка. Ілюстрацыі наступныя:

“**Арыгінал**: *Пішу гэта, а здалёк* ***мармытнула думачка****: ат, усяго ўсё роўна* ***не пабачыш***”.

**Пераклад**: “*Пишу это, а издалека* ***бормотнула мыслишка:*** *ат всего все равно* ***не повидаешь”.***

Па-першае, у рускім тэксце ўжываюцца дзве размоўныя лексемы (*мыслишка, повидать*), суадносныя з беларускімі нейтральнымі (*думачка, пабачыць*); па-другое, назіраецца розная экспрэсіўная насычанасць лексем *думачка* ад *думка* – тое, што

склалася ў працэсе мыслення, разважанняў і *мыслишка* зневажальная да *мысль*. Па-другое, у беларускай мова суфікс *–ачк-* надае слову суб'ектыўна-ацэначнае значэнне ласкальнасці. Рускі ж суфікс *-ишк-* валодае яркай афарбоўкай суб'ектыўнай зніжанасці і выражае зневажальна-пагардлівыя адносіны. Цікава, што беларускі выклічнік *ат*, які ўжываецца пры выказванні незадаволенасці, прыкрасці, а таксама пры передачы непрыемнасці адчаю і якому ў рускай мове адпавядаюць *а, ну и пусть, ну и ладно,* палітарна перадаецца ў перакладзе, хаця ў рускіх слоўніках не зафіксаваны". (Астапчук А.М. Структурна-стылістычная арганізацыя мініяцюр Янкі Брыля і яе адлюстраванне ў рускіх перакладах. – Аўтарэферат дысертацыі на атрыманне вучонай ступені кандыдата філалагічных навук. Мн., 2002, с.12).

4. Сістэмны падыход пры выбары той ці іншай моўнай нормы, як паказала практыка, таксама не заўсёды бездакорны, хаця б таму, што ўсталяванне і замацаванне ў мове той ці іншай нормы – гэта адлюстраванне заканамернасці моўнай сістэмы ў яе бесперапынным развіцці і ўдасканаленні. Трэба яшчэ дадаць, што ў значнай ступені працэс унармавання мовы ўмоўны. Напрыклад, выбар канчаткаў у родным склоне для назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку *сацыялізма, камунізма,* але *капіталізму, імперыялізму* вытлумачыць даволі складана з пункту гледжання законаў моўнай сістэмы.

5. Аўтарытэт крыніцы, які таксама не можа быць адзіным паказчыкам і зыходным пунктам для вызначэння моўнай нормы. Праўда, для беларускай літаратурнай мовы ён адыгрывае выключную ролю, таму што даволі часта, мяркуючы па творах Янкі Купалы, Якуба Коласа і іншых майстраў слова, вызначаўся напрамак фарміравання і выпрацоўкі нормы, браўся пад увагу той моўны матэрыял, у межах якога павінен быў ісці выбар варыянта.

Такім чынам, усе разгледжаныя зыходныя пункты для выпрацоўкі моўных нормаў павінны брацца і дзейнічаць, хутчэй за ўсё, у комплексе. Для арганізацыі работы па выпрацоўцы і засваенню нормаў неабходна ведаць і прычыны іх парушэння.

**Пытанні**

1. Што такое літаратурная норма?
2. Назавіце нормы беларускай літаратурнай мовы.
3. Што значыць стабільнасць моўных нормаў?
4. Парушэнні якіх нормаў, на вашу думку, часцей за ўсё сустракаюцца ў беларускай мове? Абгрунтуйце ваш адказ.
5. Як вы растлумачыце паняцце "варыянтнасць моўнай нормы"?

6. Які з паказчыкаў моўных нормаў, на вашу думку, з’яўляецца самым грунтоўным?

## Заданні

1. Адзначце несупадзенні моўных нормаў у “Граматыцы...” Б.Тарашкевіча з нормамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

1) Шмат рэк пачынаецца ад сьнягоў, каторыя растайваюць у горах.

2) Яны цякуць у ніз гаманлівымі ручаямі й вадаспадамі.

3) Сеў гаспадар з сабакам у човен, ад’ехаў ад берагу і стаў прывязваць камень сабацы да шыі. Пасьля ўстаў і піхнуў нагой сабаку ў ваду, ды з размаху й сам туды-ж уваліўся.

4) Аднаго бацькі, аднае маткі ня роўныя бываюць дзіцяткі.

5) Мая зоранька ясная, маё сонейка пракраснае!

6) Зельле заглушыла ўсё поле.

7) Чужаземныя словы, нядаўна ўвайшоўшыя ў беларускую мову, асабліва-ж навуковыя тэрміны, пераважна перадаюцца, па магчымасьці, так, як у тэй мове, скуль яны ўзятыя.

2. Пазначце, якія гукі вымаўляюцца на месцы падкрэсленых літар і спалучэнняў літар.

Падчас, дзед, касьба, трубка, выкладчык, займаешся, нож, бярозка, падводчык, адцясніць, рыжскі, суражскі, чэшскі, просьба, кладка, на рэчцы, адцягваць, пражскі, агарод, дождж, кладка, стужка, у сутычцы, счарнець, на палачцы, на дошцы, адчысціць, луг, уздоўж, цётчын.

3. Пастаўце націск у словах.

Дакумент, мысленне, выпадак, пасланец, бытапіс, зачытаны, цяжар, навіна, пасяджэнне (паседжанне), рымляне, імя, грамадзянін, статут, слабы, хаос, эксперт, беларусы, абагульненне, ваганне, аркуш, ніякі, квартал, крыху, мабыць, чатырнаццаць, адзінаццаць.

4. Запішыце па-беларуску:

Клиент, реакция, специальность, идеал, шпион, пенсионный, социолог, диагноз, регион, реальность, аукцион, периодика, периодичность, радиация, инициатор, теория, материализм, район, аудиенция, диапазон, грандиозный, патриот, приоритет, иерархия, патриотизм, идеология, аукционер, библиотека.

5. Устаўце патрэбныя літары

Канст.туцыя. д.крэт, ц.р.монія, д.сцыпліна, п.станова, прыг.вор, д.баты, эк.номіка, юрыспруд.нцыя, прав.знаўства, прав.ахоўны, прав.абаронца, камп.тэнцыя, сведч.нне.

6. Устаўце ***і, ы*** або ***й***.

Без.менны, без.дэйны, дэз.нфармацыя, пера.начыць, пра.снаваць, пад.грываць, звыш.мклівы, контр.снаванне, пад.сці, раз.грацъ, пера.мацъ, аб.сці, аб.грацъ, за.шлі, звыш.дэйны, суб.нспектар, контр.гра, за.кацца, за.нтрыгаваць, с.грацъ, транс.арданскі.

7. Запішыце па тры-чатыры поўныя назвы:
   - юрыдычных дзяржаўных устаноў і арганізацый Беларусі;
   - ганаровых званняў і высокіх узнагарод;
   - газет і часопісаў;
   - ордэнаў і медалёў

Растлумачце напісанне вялікай літары.

8. Запішыце па-беларуску.

Собственность, судья, ответственность, несовершеннолетний, организованный, бесспорный, наказание, объединение, хозяйственный договор, общественное воздействие, доведение до самоубийства, судебное поручение, жилищное законодательство, конституционное право, имущественные преступления, меры сдерживания, решение суда, самодеятельность преступная, добросовестный приобретатель, незаконное лишение свободы.

9. Вызначце прамое и пераноснае значэнне слоў у наступных прыкладах.

Прамая дарога – прамы чалавек, прамы доказ; аддаць у рукі – аддаць пад суд; адкрыць дзверы – адкрыць спадчыну; аднаўленне палаца – аднаўленне крымінальнай справы; апошні ў чарзе – апошняе слова падсуднага; хірургічная аперацыя – валютная аперацыя; аб’яднанне змагароў – аб’яднанне вытворчае; сцюдзёная крыніца – крыніца права; паштовая марка – вытворчая марка; сустрэчны цягнік – сустрэчны іск; дарожны паварот – паварот выканання судовага рашэння; эксплуатацыя чалавека чалавекам – эксплуатацыя маёмасці; рашэнне задачы – судовае рашэнне.

10.Складзіце словазлучэнні з наступнымі словамі:

Абавязак, абавязацельства, абарона, агляд, адданне, адказнасць, акт, асоба, бяздзейнасць, вызваленне, галіна, гарантыі, канфіскацыя, маёмасць, злачынства, пакаранне, суд, пошліна, іск, звычай, тэрмін, налік, рахунак, шлюб, санкцыі, рэгуляванне, доказ, штраф.

11.Выпраўце тэрміналагічныя і граматычныя памылкі.

1) Некаторыя грамадзяне будуць дэпартаваны і высланы з краіны.

2) Дэпутаты не могуць быць пакараны крымінальнай адказнасцю.

3) Жыллёвы фонд – гэта сукупнасць жылых дамоў, жыхароў і жылых памяшканняў і іншых будынкаў (нежылых, грамадскіх).

4) Цяжкія злачынствы ўяўляюць сабой павышаную грамадскую бяспеку.

5) Знешнегандлёвае аб'яднанне выконвае экспертныя, імпартныя і звязаныя з імі аперацыі і ажжыццяўляе сваю дзейнасць на падставе дзяржаўнай манаполіі знешняга гандлю.

6) Права на імя з'яўляецца асабовым правам кожнага грамадзяніна.

7) Прынцыповая суддзя Вольга Васільеўна Іванова выслухала паказанні ўсіх запрошаных.

8) Камерцыйны акт – гэта дакумент, які складаецца ў адвольнай форме.

9) Кампетэнцыя судовая – гэта ўстаноўленыя законам паўнамоцтвы суддзі па разгляду спраў.

10) Акты цывільнага стану – гэта найбольш важныя факты ў жыцці грамадства.

12. Выпраўце граматычныя памылкі ў наступных сказах.

Двое прэзідэнтаў пакінулі свае водгукі ў кнізе ганаровых гасцей.

Выйшаўшы з кабінета следчага, мяне апанаваў страх.

Трое жанчын былі накіраваны на рэспубліканскую нараду адвакатаў.

Чатыры непаўналетніх хлопчыка абвінавачваліся ў забойстве.

Каля сто сорак старонак складаў вопіс маёмасці.

У двух кіламетрах ад горада знаходзіцца калонія для непаўналетніх.

Абвінаваўчае заключэнне чыталі каля двух гадзін.

Даючы паказанні, падсуднаму стала балець сэрца.

Супрацоўнікі натарыяльнай канторы ганарыліся і паважалі свайго загадчыка.

Трое лепшых участковых былі ўзнагароджаны медалямі "За адвагу".

13. Замяніце словы і спалучэнні слоў справавога стылю міжстылёвымі.

Прыцягнуць да адказнасці, давесці да ведама, мець месца, прыняць пад увагу, аказаць уплыў, выключыць магчымасць, мабілізаваць сілы, аказаць садзейнасць, даць дазвол, ажжыццяўляць кіраўніцтва, мець намер, аказваць давер, карыстацца падтрымкай, несці страты, даць згоду, весці гаспадарку, аказаць дапамогу.

14. Вызначце стыль прыведзенага твора. Абгрунтуйце свой адказ.

Чорнай навалаю коціцца зверху
Гвалт небывалы,
Раз'ятраны вэрхал.
У кіраўнічых суровых прамовах
Бэсціцца зноў беларуская мова:
Быццам бы наскія словы не здатны
Выказаць талент і розум выдатны.

Новай уладзе не пашанцавала –
Хоць да спадобы ёй бульба і сала,
І самазвалы,
І фермы,
І нівы,
Непераборлівы люд наш цярплівы,
Бор карабельны
І мёд верасовы, –
Косткаю ў горле –
Народная мова.

Колькі цкавалі яе і глумілі,
А не складае падбітае крылле,
А ўсё жыве і ніяк не канае –
Песня азёрная,
Казка лясная.

Перажыла наша родная мова
І Бенкендорфа, і Мураўёва,
Панскія здзекі,
Чэкісцкія чысткі,
Рогат імперскі,
Вырак фашысцкі…

Тых,
Што з трасянкаю ў галаве,
Перажыве!..

*(Г. Бураўкін. Зб. “Паміж зоркай і свечкай“*)

15. Знайдзіце ў вершы Г. Бураўкіна “Ну што, Беларусь, у цябе за сыны?” словы і выразы розных стыляў.

Ну што, Беларусь , у цябе за сыны? –
Хто быў паштаром,
Плугаром
Ці падпаскам,
Як толькі праб’ецца хоць трохі ў чыны,
Забыць цябе лічыць сваім абавязкам.

Ад хлева вясковага вернуць лычы,
Хоць бацькава сала ядуць як зазвычай
І матчыну мову гатовы лічыць
І “беднай“,
І “ хамскай“,
І проста “мужычай“.

Не лезе у вушы ім даўні назоў,
Псуецца настрой ад бабуліных  строяў.
Зусім ім не трэба
Ні нашых князёў,
Ні нашых пракаў,
Ні нашых герояў.

Хоць ты з іх і крыжык нацельны здымі,
Ніхто перад крыўдай тваёй не заплача…
Ну што тут паробіш –
У кожнай сям'і
І з сынам часамі бывае  няўдача.

Ну што ж,
Калі нехта гатоў і чалму
Надзець,
Каб на месцы сваім утрымацца
Адно толькі сэрца сціскае:
Чаму,
Чаму іх так многа ў цябе,
Мая Маці?..

*(Г. Бураўкін. Зб. "Паміж зоркай і свечкай"*)

16. Перакладзіце тэкст на беларускую мову і вызначце стыль выкладання.

Действующая в Республике Беларусь система юстиции сложилась еще в 30-е годы, когда была провозглашена полная и окончательная победа социализма в СССР. С тех пор она подвергалась лишь незначительным изменениям, не затрагивающим ее фундаментальных основ. Реформы "хрущевской оттепели", при всей их размашистости, не повлекли существенных преобразований. Они были изначально половинчатыми, ибо их вдохновители и исполнители сами были выходцами из того прошлого, от которого предлагали отказаться. Изменения в законодательстве, предпринятые в конце 80-х годов, шли преимущественно по пути частичного совершенствования системы юстиции. Впрочем, они способствовали в какой-то мере демократизации нашего судоустройства и судопроизводства, усилению гарантий охраны прав личности.

Государству, признававшему господство только одной идеологии и силовые методы управления, нужна была юстиция, которая, как и другие государственные органы, безоговорочно проводила бы в жизнь политику предержащей власти. Такая юстиция и была создана. Она выступала послушным инструментом

в руках партийно-государственной системы власти. Любое ослушание, отступление от "руководящих указаний" влекло вызов провинившихся судей, прокуроров, следователей в соответствующие инстанции и принятие мер воздействия, вплоть до увольнения.

*(И.И. Мартинович, М.И. Пастухов "Судебно-правовая реформа в Республике Беларусь")*.

17. Адзначце сказы, у якіх дапушчаны пунктуацыйныя памылкі.

Ахавальная задача гэта асноўная сацыяльна-вызначальная функцыя крымінальнага права. Для ажыццяўлення гэтай задачы Крымінальны кодэкс Беларусі вызначае які́я грамадска небяспечныя дзеянні з'яўляюцца злачынствамі, замацоўвае падставы і ўмовы крымінальнай адказнасці устанаўлівае пакаранні і іншыя меры крымінальнай адказнасці, што могуць быць прыменены да асоб, учыніўшых злачынствы, а таксама прымусовыя меры медыцынскага і выхаваўчага характару ў адносінах да асоб учыніўшых грамадска небяспечныя дзеянні.

Ахавальную задачу крымінальнае права выконвае шляхам усталявання і рэгулявання асобных грамадскіх адносін, якія па свайму зместу і накіраванасці маюць ахавальны характар, паколькі ўзнікаюць у сувязі з устанаўленнем пад пагрозай крымінальнай адказнасці забароны на ўчыненне злачынных дзеянняў (агульныя ахавальныя праваадносіны), а таксама адносін, якія ўзнікаюць у сувязі з учыненнем злачыннага дзеяння і магчымым прыцягненнем адпаведнай асобы да крымінальнай адказнасці (канфліктныя ахавальныя праваадносіны).

Крымінальнае права не можа выконваць сваю ахавальную задачу інакш як праз сістэму прававых адносін і іх адпаведнага рэгулявання. Задачы аховы грамадства ад злачынных пасягненняў і рэгуляванне так званых ахавальных праваадносін існуюць і рэалізуюцца побач і адначасова.

("*Крымінальнае права Беларусі" пад рэд. дацэнта А.У.Баркова)*

18. Перакладзіце тэкст на беларускую мову і пастаўце знакі прыпынку.

Трудовое право являясь инструментом преобразования общественных отношений содержит ряд норм с которыми эти отношения должны быть приведены в соответствие несмотря на действие препятствующих факторов. Таковыми например являются сегодня нормы законодательства о рабочем времени и времени отдыха повсеместному и неуклонному соблюдению которых противодействуют явления объективного характера излишек

рабочей силы недостатки в организации производства нарушения хозяйственных связей устаревшее законодательство. Методом принуждения проводником которого выступают органы надзора и контроля за соблюдением трудового законодательства нельзя добиться выполнения тех норм права которые не отвечают реалиям жизни. Из сказанного можно сделать вывод о необходимости установления более тесных связей между законодателем и органами надзора и контроля за соблюдением законодательства о труде. Хотя на эти органы не может быть возложена функция систематической оценки эффективности действия норм трудового права они все же располагают наиболее полной и достоверной информацией о тех нарушениях трудового законодательства которые чаще всего встречаются на практике. Информация о таких нарушениях должна оперативно доводиться до высших органов власти и управления для принятия необходимых мер. Это может быть отмена или изменение отдельных норм а в надлежащих случаях напротив их подкрепление дополнительными правовыми гарантиями увеличение санкций усиление надзора и контроля за их применением путем увеличения численности или расширения полномочий соответствующих органов.

*( "Трудовое право" под общ. ред. проф. Семенкова В.И.).*

19. Зрабіце пераклад тэксту.

Постановление
Пленума Высшего Хозяйственного Суда
Республики Беларусь
от 18 февраля 1993 г. № 4

О применении хозяйственными судами
процессуального законодательства

Пленум Высшего Хозяйственного Суда Республики Беларусь отмечает, что в практике применения хозяйственными судами хозяйственного процессуального законодательства имеются недостатки, а также неясности, требующие судебного толкования.

Применение ряда норм Хозяйственного процессуального кодекса должно осуществляться с учетом вновь принятых законодательных актов Республики Беларусь.

Все еще на низком уровне находится культура судебных процессов. Подготовка дел к слушанию во многих случаях проводится поверхностно, без выполнения требований статей 36, 65, 66 Кодекса, допускается упрощенчество установленного законом порядка ведения судебных заседаний, участникам процесса не всегда разъясняются их права и обязанности. В ходе судебных разбирательств судьи иногда заранее высказывают свое мнение в

отношении доказательств, безмотивно отклоняют вопросы сторон и уклоняются от разрешения заявленных ими ходатайств и заявлений, допускают нетактичность в отношении участников процесса.

Нередки случаи, когда назначенные судебные заседания без указания причин и вынесения процессуальных документов неоднократно переносятся, в результате чего теряется рабочее время представителей и иных лиц, вызываемых в суды. Участились факты вынесения немотивированных, без ссылок на закон судебных решений.

(“*Законы Республики Беларусь*“)

**Формы беларускай нацыянальнай мовы.
Дыялекты (дыялектная мова) на Беларусі і іх адметныя асаблівасці**

Падобна іншым нацыянальным мовам, беларуская мова існуе таксама ў дзвюх формах: літаратурнай і дыялектнай. Дыялектная мова (народна-дыялектная мова) – гэта мова народа, якая выступае ў выглядзе мясцовых гаворак. Дыялект (ад грэч. dialektos – размова, гаворка) – гэта сукупнасць гаворак, якія маюць некаторыя агульныя рысы. Гаворка – гэта мова аднаго ці некалькіх населеных пунктаў.

Як ужо адзначалася вышэй, дыялектная мова і літаратурная мова ўтвараюць адзіную сістэму мовы народа і з'яўляюцца яе разнавіднасцямі. Абедзве гэтыя часткі мовы народа маюць права прадстаўнічай роўнасці. Нельга лічыць дыялектную мову нейкай "нячыстай", "сапсаванай" варыяцыяй мовы літаратурнай. Як літаратурная мова, так і любая мясцовая гаворка з'яўляецца натуральным увасабленнем і прадстаўніком мовы пэўнага народа. Вядома, літаратурная мова мае пэўныя асаблівасці і адрозніваецца ад мовы дыялектнай. Па-першае, літаратурная мова існуе ў дзвюх формах, вуснай і пісьмовай, дыялекты – гэта вусная форма бытавання. Дыялектная мова характарызуецца тэрытарыяльнай неаднастайнасцю і абмежаванасцю, літаратурная мова – мова ўнармаваная, агульнапрынятая і абавязковая для ўсіх членаў грамадства. Літаратурная мова, калі можна так мовіць, істота жывая. Пэўныя моўныя працэсы, што адбываюцца ў літаратурнай мове, нагадваюць своеасаблівы арганізм, у якім увесь час "пульсуе" і "віруе" жыццё: пэўныя словы адыходзяць у нябыт у сувязі з аб'ектыўнымі абставінамі развіцця і прагрэсу грамадства, новыя словы прыходзяць у мову ў выніку, у першую чаргу, навукова-тэхнічнага прагрэсу, адназначныя словы з цягам часу набываюць новыя, пераносныя значэнні і г.д. Дыялектная ж мова – з'ява застылая, яна не развіваецца, больш таго, апошнім часам у беларускай дыялектнай мове развіваюцца значныя дэструктыўныя працэсы, калі разбураюцца межы паміж групамі мясцовых гаворак, нівеліруюцца і страчваюцца іх асаблівасці, выпадаюць з ужытку і знікаюць з памяці людзей мясцовыя словы і выразы.

Нягледзячы на пэўны прыярытэт літаратурнай мовы, беларуская дыялектная мова выконвала і працягвае выконваць даволі важкія функцыі ў складзе беларускай нацыянальнай мовы. На самым пачатку нацыянальнай гісторыі беларускага народа дыялектная мова, мясцовыя гаворкі былі адзіным уласна нацыянальным сродкам моўных зносін. Пазней, у працэсе фарміравання беларускай літаратурнай мовы, пэўная група

мясцовых гаворак стала асновай яе граматычнага ладу і фанетычнай сістэмы. Пачынальнікі беларускай мастацкай літаратуры і публіцыстыкі арыентаваліся ў свой час у сваёй пісьмовай моўнай дзейнасці на беларускія гаворкі.

Вышэй было адзначана, што лексічны запас літаратурнай мовы ўвесь час папаўняецца, а адной з асноўных крыніц гэтага папаўнення з'яўляецца жывая народная мова, жывыя народныя гаворкі.

У многіх краінах свету дыялекты ахоўваюцца як нацыянальнае багацце. На дыялектах друкуецца фальклор, выходзяць тэарэтычныя працы, прысвечаныя гісторыі існавання дыялектнай мовы. Дыялекты не павінны быць абдзелены ўвагай грамадства хаця б таму, што гэта – пэўны пласт гісторыі і культуры краіны і народа. Трэба вывучаць дыялекты яшчэ і для таго, каб пазбавіцца мешаніны літаратурнага і дыялектнага, пазбегнуць дыялектных звычак маўлення, добра адчуваць розніцу паміж літаратурнымі і дыялектнымі моўнымі сродкамі, трывала засвоіць літаратурныя нормы.

На аснове дэталёвага вывучэння дыялектнай мовы, асаблівасцей і агульных рысаў розных мясцовых гаворак быў складзены "Дыялектычны атлас беларускай мовы" (ДАБМ).

Аснову сучаснай беларускай дыялектнай мовы складаюць два дыялекты (паўночна-усходні і паўднёва-заходні), якія раздзяляюцца паласой сярэднебеларускіх гаворак, і адасобленая група заходнепалескіх, ці брэсцка-пінскіх, гаворак.

Кожны беларускі дыялект мае свае спецыфічныя асаблівасці.

**Паўночна-ўсходні дыялект** (тэрыторыя Віцебскай вобласці, большая частка Магілёўскай і паўночныя раёны Мінскай абласцей).

1. Дысімілятыўнае аканне (ад лац. dissimilis – непадобны) сутнасць якога заключаецца ў тым, што ненаціскныя галосныя *о, э, а* супадаюць у адным гуку *а* толькі тады, калі наступны склад не мае гука *а*: *вады, нагу, вясне*; калі ж у наступным складзе ёсць *а*, то ў папярэднім складзе ён дысімілюецца ў *ы*, *і* або блізкія да іх гукі: *выда, ныга, вісна*.

2. Дзве разнавіднасці вымаўлення гука *р*, як і ў рускай мове, прычым, мяккі *р* часта ўжываецца там, дзе яго і не павінна быць: *ряма, буряк, Мірён*.

3. Наяўнасць канчаткаў *–эй, -ей* (пад націскам) у прыметніках і займенніках мужчынскага роду назоўнага склону: *сляпэй, ліхэй, гэтэй*.

4. Сінгарманізацыя (ад грэч. syn – разам і harmonia – сугучча) ненаціскных галосных, што маюць уласцівасць прыпадабняцца да галосных верхняга (*і, у*), а часам і ніжняга (*а*) пад'ёму: *Магілёў –*

*Мігілёў – Мугулёў*; *кучаравы – кучуравы; баравікі – бырывікі; машыніст – мышаніст*.

5. Захаванне [*ц'*] у канчатках дзеясловаў 3-яй асобы адзіночнага ліку першага спражэння (у літаратурнай мове – толькі ў дзеясловаў другога спражэння): 1-ае спражэнне – *ідзець, нясець, будзець;* 2-ое спражэнне: *стаіць, сядзіць*.

**Паўднёва-заходні дыялект** (паўднёвыя раёны Мінскай вобласці, большая частка Гродзенскай і Гомельскай абласцей).

1. Умеранае, або слабае, недысімілятыўнае аканне (вымаўленне гука *о* не пад націскам): *некога, белога, або белого*.

2. Дыфтонг (двайны гук) *іе* ў закрытых складах на месцы *е* і ранейшага *ъ (ер)*: *дзіед, ліес, хліеб*.

3. Дыфтонг *уо* ў закрытых складах на месцы *о*: *вуол, стуол, мюод*.

4. Вымаўленне цвёрдага *с* у часціцы *–ся* зваротных дзеясловаў (так званае "саканне"): *мыўса, апрануўса, выспаўса*.

5. Ужыванне клічнай формы назоўнікаў не толькі другога, але і першага скланення: *дзядзько, тато*.

6. Адсутнасць падаўжэння зычных: *збож'е* ці *збожа*, *насен'е* ці *насеня*, *вясел'е* ці *вяселя*.

**Сярэднебеларускія (цэнтральныя) гаворкі** (праходзяць паласой праз цэнтральную частку Беларусі з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход, гэта гаворкі Ашмянскага, Валожынскага, Мядзельскага, Дзяржынскага, Лагойскага, Барысаўскага, Рагачоўскага і іншых раёнаў). Нагадаем, што сярэднебеларускія гаворкі сталі ў свой час асновай для фарміравання беларускай літаратурнай мовы.

1. Недысімілятыўнае моцнае аканне, сутнасць якога заключаецца ў тым, што тут ненаціскныя *о, э* змяняюцца на *а*, незалежна ад таго, які пасля іх ідзе гук пад націскам: *вада, вады, вадзе; вясна, вясны, вясне; галава, галавы, галаве.*

2. Лабіялізацыя (ад лац. labialis – губны) націскнога *а* ў становішчы перад *ў*. Вымаўленне *о* на месцы *а* перад *ў*: *проўда, узёў, казоў, доў.* Гэта з'ява даволі пашыраная ў цэнтральных гаворках.

3. Толькі цвёрдае вымаўленне зычнага *р: прама, рад, гавару*.

4. Ужыванне без канцавога мяккага *ц* дзеясловаў 3-яй асобы адзіночнага ліку другога спражэння (а не толькі першага, як у літаратурнай мове): 1-ае спражэнне – *ідзе, нясе*; 2-ае спражэнне – *ходзя, нося, робя*.

5. Назоўнікі, што абазначаюць назвы маладых істот, ужываюцца з канцавым *–ё*: *цялё, качанё, жарабё*.

Заўважым, што апошнім часам гэтыя формы падаюцца ўжо як варыянтнасць літаратурнай нормы: *лісяня (лісянё), парася (парасё), ваўчаня (ваўчанё)*.

**Адасобленая група заходнепалескіх (брэсца-пінскіх) гаворак** істотна адрозніваецца ад усіх іншых гаворак асноўнага дыялектнага масіву беларускай мовы. Напрыклад, у гэтай групе многа агульнага з украінскай мовай. Вучоныя лічаць, што палескія гаворкі – своеасаблівы этна-моўна-культурны масток паміж беларускім і ўкраінскім народамі, што ў найбольшай ступені гэтыя гаворкі захоўваюць памяць аб былой блізкасці з іншымі славянскімі мовамі. Палескай групе гаворак уласцівы:

1. Цвёрдае вымаўленне зычных: *вэчор, зыма*.
2. Вымаўленне спалучэння [*мн'*] перад [*а*]: *мнята, мнясо*.
3. Канчатак *–ові* ў давальным і месным склонах: *сынові, сватові*.
4. Ужыванне зычнага [*л*] у дзеясловах 3-яй асобы множнага ліку з асновай на губны: *роблять, сыплять, лоўлять*.

Зазначым, што беларускія дыялекты і асобныя гаворкі адрозніваюцца і лексікай. Напрыклад, літаратурным словам *музыкант, фатограф, ільгота, кропля* ў мінска-маладзечанскіх гаворках адпавядаюць *іграч, здымшчык, зніжка і капка*.

Як вядома, у дапісьмовы перыяд дыялекты былі адзінай формай зносін. Працэсы гуртавання гаворак у дыялекты з найбольшай інтэнсіўнасцю адбываліся ў перыяд кансалідацыі беларускіх земляў у межах Полацкага і Тураўскага княстваў. Самымі ж старажытнымі моўнымі адзінствамі з'яўляюцца тэрытарыяльныя дыялекты. Яны старэйшыя нават за саму беларускую мову.

У наш час новыя дыялекты не ўтвараюцца, больш таго, паступова сціраюцца адрозненні паміж існуючымі. З другога боку, нельга сказаць, што дыялектнай мовай не карыстаюцца зусім. Яна "жыве" яшчэ ў сямейнай ці сяброўскай гутарцы, пашырана сярод жыхароў старэйшага пакалення ў сельскай мясцовасці. Адным словам, дыялекты яшчэ запатрабаваныя. Яны – аснова мовы нацыянальнай, яе скарбніца, якую неабходна нам захоўваць і берагчы.

**Пытанні**

1. Што такое дыялект?
2. Чым адрозніваецца літаратурная мова ад дыялектнай?
3. Чаму ў многіх краінах свету дыялекты ахоўваюцца як нацыянальнае багацце?
4. Якія з дыялектаў былі самымі старажытнымі моўнымі адзінкамі?

5. Ці ўтвараюцца новыя дыялекты ў наш час? Чаму?
6. Чаму, на ваш погляд, менавіта сярэднебеларускія гаворкі сталі ў свой час асновай для фарміравання беларускай літаратурнай мовы?
7. Пад уплывам якіх акалічнасцей сфарміравалася адасобленая група брэсцка-пінскіх гаворак?

**Заданні**

1. Знайдзіце элементы дыялектнага маўлення ва ўрыўку з рамана Івана Мележа "Людзі на балоце".

Затое Міканор, які ўвайшоў першы і стаяў наперадзе, паводзіў сябе так, быццам быў у сваёй хаце.

–У вас усё правільна запісано? – сказаў ён строга, бязлітаснымі блакітнымі вачыма гледзячы на Глушакова.

- А што там запісано?
- Глушак…- Міканор павёў парэпаным пальцам па паперы, нібы не помніў. – Едакоў – семера… Якія ето ў вас семера едакоў?
- Семера? Семера і е. Калі запісано, то значыць, е… Я, Куліна, жонка,значыць, сын Яўхім,. Сцяпан, дачка Антося…
- Якая Антося?
- Якая? Дачка. Адна ў мяне дачка, Антося.
- Дак яна ж ужэ замужам. Замужам – не лічыцца.
- Чаму ето не лічыцца? Як усе адно ўжэ не мая. Була ж дасюль

мая. – Глушак, не тоячы крыўды, нават знарок паказваючы яе, прасіпеў:

- Адну аддаў, а другая от-от прыйдзе ў хату.

Глушак кіўнуў на Чарнушку, які ціха адгукнуўся:

- Змовіны булі…
- А спіскі, дзядзько, - улавіў Глушак у Хоневым голасе кпінку, – складалі шчэ ўвесну. Як ето вы загадзя вымеркавалі?..

Міканор зірнуў строга:

- Ну, няхай – пяць ужэ е, а дзе шчэ два?
- Шостая, казаў ужэ, Антося. – Глушак ледзь стрымліваў лютасць.

- Як бы яна ўсё адно і не дзіця маё. Як бы не я выгадаваў яе… - Ён жаласна заморгаў вачыма, ледзь не заплакаў. Уздыхнуў. – А астатні – Іван…

- Іван – не ваш . Іван – парабак.

- Мне бацько яго, зноў цверда загаварыў Глушак, - прыпаручыў як сына! Значыць, ён мне ўсе адно як сын!

*(І. Мележ “Людзі на балоце”)*

2. Прачытайце прыведзеныя тэксты і паспрабуйце вызначыць іх прыналежнасць да канкрэтных беларускіх дыялектаў. Якіх?

Можа й праўда

(Казка)

Ишоў йа л’есам. В’иджу, на тым баку рак’и воўк душыц’ къмара. Надо на тей бок п’ирайц’и, а н’иможна. Йа ўз’аў сам с’аб’е за въласы, раскруц’иў и к’инуў на тей бок рак’и и ўв’ас па самыйа пах’и. Надо самога с’аб’е аткапац’ , а пабл’изу н’има лупаты. Тады йа пашоў дамоў. А дома лупаты на м’есц’и н’и акъзалас’ .Лупата была ў шпакоў. Йаны ўз’ал’и йайе дз’елац’ гн’аздо. Йа ўзл’ес на б’ароску. А руку ў дупло ўсадз’иц’ н’аможна. Тады йа ўл’ес сам и вын’аў аттул’ лупату. В’арнуўс’а нъзат и аткыпаў сам с’аб’е..

Воўк къмара ўжо прыдушыў. Йа ўз’аў нош и прырезаў къмара, з йаго было многа м’аса. Кос’ц’и въл’ал’ис’ а на лугу. Прышл’и касцы кас’иц’ и зъстав’ил’и м’ин’е з’б’ирац’. Йа пъчаў саб’ирац’и к’идац’ их у раку. Нък’идаў стока, што можна было п’ирайсц’и раку б’из мъста.

*(“Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі“ пад рэд. Р.І Аванесава і М.В.Бірылы).*

3. Прыслухацейся ўважліва да мовы сваіх родных, блізкіх, сяброў, ці не заўважыце ў іх вусным маўленні пэўных разыходжанняў з мовай літаратурнай? Чаму?
4. Запішыце прыведзены ўрывак літаратурнай мовай.

Майе ш вы дз’етк'и! Ран’ей н’и так замуш выходз’ил’и и н’и ак жан’ил’ис’а. Ц’ап’ер пал’уб’уцца и жен’ацца – н’и гл’адз’ац’, ц’и багатайа, а б’аруц’, абы л’убайа. А ран’ей н’и жонку брал’и, а багац’ц’е: кал’и дз’еўка н’епрыгожайа, старайа, а багатайа, дык и добры хлап’ец йайе воз’м’иц’. Ран’ей б’из дазволу бац’коў н’а можна было жан’ицца , а бац’к’и тэш гл’адз’ел’и тол’к’и багацц’е. Йа сама была с’иратой: н’а м’ела мац’и, а бац’ка друг’и рас ажан’иўс’а. Хац’а быў багаты, ал’е быў скупы – и н’ичого мн’е н’и даў, и выдаў м’ан’е замуж пйан’ицу. Прышлос’а мн’е з им гора гаравац’.

*(“Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі“ пад рэд. Р.І Аванесава і М.В.Бірылы).*

5. Карыстаючыся матэрыяламі да “Слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак” пад рэдакцыяй прафесара

М.А.Жыдовіч (Мн., 1974), растлумачце значэнне наступных слоў:

Абада, аджур, апора, барэткі, бліскуха, дахаўка, знімшчык, зыр, савяк, ходзікі, шаплюк, шлялі, ярус, яха.

6. Знайдзіце ў прыведзеным урыўку рысы паўночна-ўсходняга дыялекту.

Йа съма мачъха . Целъйу п’еч дз’ац’ей выгъдавъла нъ свайих руках. Н’а буду грашыц’, нъ дз’ац’ей н’и скажу н’и слова - н’икол’и н’и збадз’ал’и. Йа йшла ўжо пъджълой дз’еўкай, дък йон мн’е у’со часта уск’идъвъў на вочы, што н’икому н’и надо была. Н’е - жънихоў хвътала, тол’к’и адна была б’ида, што была б’еднъйа, дък пъсаг’и н’и было; а п’ерш жа зъ з’амл’ой, зъ пъсагъй ган’ал’ис’а бол’и, йак за дз’еўкъм’и. Хоц’ йак’и корч, ал’и йак майиц’ дз’в’е валок’и з’амл’и, ды куфры дъбра, палътна, дък тайа ўжо й была ў пачоц’а. Вот йон мн’е и бразгайиц’ на вочы, што з граз’и выц’игнъў. Добра ц’ап’ер мъладым - абы тол’к’и серцы съшл’ис’а, дък и жъвуц’ шчас’л’ива.

*(“Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі“ пад рэд. Р.І Аванесава і М.В.Бірылы)*

7. Дакажыце, што прыведзены ўрывак запісаны на паўднёва-заходніх тэрыторыях Беларусі.

Йа вам раскажу, йак ран’ей жан’ил’и нас бац’к’и нашы. Значыц’ буў хлоп’ац Иван. Жан’ицца треба було. Пазвал’и йаго радз’иц’ел’и выб’ирац’ саб’е дзе’ўку. П’ац’ йаму п’ераказал’и, йон саглас’иўс’а. Тады радз’иц’ел’и пасылайуц’ к йой сватоў. Йана дайе рушн’ик’и. Йак падгатов’ацца да вас’ел’л’а, йедуц’ у церкву в’анчацца. А йак йедуц’ назад, их страчайуц’ йаго радз’иц’ал’и з иконайу и хлебам. Патом садз’ац удвох на кажух у куц’е. Йак зн’имуц’ з маладой в’анок, ложац’ палац’енца йой на галаву. И спац’ ложац’ на дваре, хац’а и з’имойу холадна. Назаўтра их выводз’ац’, маладой п’айуц’ п’есн’и, а йана даўжна ўжо што-н’ебудз’ дз’елац’. А за йойу ходз’иц патрол’ и прав’арайа, и св’акруха гл’адз’иц'. Адным словам, плоха було, в’ал’икайа дурнасц’. На чорта йана мн’е, йакуйу йа н’е хочу. А ц’ап’ер йакуйу хочаш, такуйу и в'адз’и б’ез ус’ак’их там прымхаў. Пал’уб’иц’ хлоп’ац и в’адз’е скарей да бац’к’и, хац’а йана можа н’а нарав’ицца радз’иц’ал’ам. Таму ц’ап’ер и жывуц’ добра.

*(“Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі“ пад рэд. Р.І Аванесава і М.В.Бірылы)*

## Функцыянальна-стылявая дыферэнцыяцыя беларускай мовы

Асновай для вылучэння функцыянальных стыляў ў кожнай мове з'яўляюцца спецыфічныя нормы ўжывання сінанімічных моўных сродкаў. Нормы гэтыя афармляюцца, фарміруюцца і замацоўваюцца на працягу развіцця мовы з улікам мэт, абставін і зместу выказвання.

Мова як спецыфічная грамадская з'ява выконвае разнастайныя функцыі. У якасці асноўных можна назваць наступныя:

– функцыя зносін
– функцыя паведамлення
– функцыя пабуджальная
– функцыя эстэтычная.

Гэтым важнейшым функцыям мовы адпавядае сістэма функцыянальных стыляў. "Функцыянальны стыль мовы – гэта грамадска ўсвядомленая, унутрана аб'яднаная спецыфічная сістэма моўных сродкаў, якая абумоўлена мэтамі і прынцыпамі адбору гэтых сродкаў у той ці іншай сферы грамадскай дзейнасці (навуковай, дзелавой, публіцыстычнай і г.д.) і найлепшым чынам абслугоўвае зносіны ў гэтай сферы" (Цікоцкі М.Я. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1995, с.243).

Кожны стыль характарызуецца пэўным наборам спецыфічных моўных сродкаў. Стыль фарміруецца на аснове ўзаемасувязі ўнутрымоўных і пазалінгвістычных (экстралінгвістычных) фактараў. Размежаванне стыляў заснавана не толькі на наяўнасці пэўных асаблівасцей (стылеўтваральных рысаў), але і тым, што кожны стыль пазбягае ўжывання тых элементаў, якія яму не ўласцівы.

Стылі мовы не з'яўляюцца замкнутымі сістэмамі, адасобленымі, адмежаванымі пэўнымі рамкамі адзін ад аднаго. Наадварот, яны ўзаемадзейнічаюць, узаемапранікаюць, кожны з іх можа ўключаць элементы іншых стыляў пры ўмовах, што выкліканы мэтамі зносін і эстэтычнымі задачамі, прычым, стылістычная цэласнасць тэксту пры гэтым не парушаецца. Для ўсіх стыляў характэрна агульная рыса – наяўнасць стылістычна нейтральных моўных сродкаў.

Прынцыпы вылучэння функцыянальных стыляў у розныя часы былі рознымі. Самымі распаўсюджанымі з'яўляюцца: сацыяльны, жанравы, эмацыянальна-экспрэсіўны і функцыянальны.

***Сацыяльны прынцып.*** Паводле гэтага прынцыпу стылі размяжоўваліся па тым, хто з'яўляецца іх носьбітам. Напрыклад, прызнавалася самастойным стылем мова простых сялян, пры гэтым яна процістаўлялася мове паноў, якая лічылася таксама асобым

стылем. Прафесійныя жаргоны былі прызнаны адным з сацыяльна-маўленчых стыляў.

Сацыяльны прынцып вылучэння стыляў не мае пад сабой трывалай навуковай асновы, таму што жаргоны, дыялекты (тэрытарыяльныя дыялекты называлі “стылем вёскі,” быў адпаведна і “стыль горада”) адносяцца да нацыянальнай мовы наогул, выходзяць за межы паняцця “літаратурная мова”. Функцыянальныя стылі мовы – гэта з’ява толькі літаратурнай мовы.

***Жанравы прынцып.*** У эпоху класіцызму, калі ўмоўнасці ў трактоўцы вобразаў і сітуацый распаўсюджваліся і на мову, стылі маўлення вылучаліся па разнавіднасцях літаратурных жанраў, пісьмовага маўлення наогул.

Большасць сучасных даследчыкаў прызнае немэтазгодным вылучэнне па жанраваму прынцыпу стыляў мовы. Рэалістычная літаратура з яе шырынёй тэматыкі твораў і іх шматпланавасцю стала патрабаваць у адным жанры розных планаў маўлення ў сувязі з індывідуалізацыяй мовы персанажаў. У пачатку XIX ст. жанравы прынцып вылучэння стыляў перастаў ужывацца.

***Эмацыянальна-экспрэсіўны прынцып.*** Самы даўні прынцып вылучэння стыляў. У аснову тут пакладзена адрозненне стыляў па іх эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўцы. Думка аб трох стылях маўлення ( высокім, сярэднім і нізкім) была выказана яшчэ антычнымі даследчыкамі (Арыстоцель).

Сучасныя вучоныя ў большасці сваёй выказваюцца супраць вылучэння стыляў па эмацыянальна-экспрэсіўных прыметах. “Ад наяўнасці той ці іншай стылістычнай афарбоўкі або танальнасці ў шэрагу слоў і выразаў да абагульняючага вываду аб існаванні экспрэсіўнага стылю або экспрэсіўнай сістэмы ў мове – дыстанцыя вялікага размеру” (Виноградов В.В. Итоги обсуждения вопросов стилистики. Вопросы языкознания. 1955. №1, с. 69).

У розных стылях вуснага і пісьмовага маўлення магчыма эмацыянальная афарбоўка выказвання або кантэксту, але яе нельга назваць устойлівай сістэмай сродкаў выражэння, якой з’яўляюцца стылі.

***Функцыянальны прынцып.*** Функцыянальны прынцып – найбольш пашыраны і навукова абгрунтаваны прынцып вылучэння стыляў. Стыль – гэта функцыянальная разнавіднасцць мовы, спецыфічная сістэма моўных сродкаў, якая найлепшым чынам функцыянуе ў той ці іншай сферы маўленчых зносін.

Моўныя зносіны рэалізуюцца ў дзвюх формах – вуснай і пісьмовай. На думку сучасных даследчыкаў навукова абгрунтаванымі лічацца наступныя суадносіны форм і стыляў маўлення: вуснай форме маўлення адпавядае размоўны (гутарковы)

функцыянальны стыль маўлення, пісьмовай форме – кніжныя функцыянальныя стылі (афіцыйна-справавы, навуковы, публіцыстычны, мастацкі).

Сістэма моўных стыляў з'яўляецца гістарычна зменлівай. У сучасным выглядзе і стане яна валодае надзвычайнай гнуткасцю. Немагчыма ўявіць, што "набор" пэўных лексічных, фанетычных і граматычных сродкаў належыць толькі да аднаго стылю. Нават самыя спецыфічныя для якога-небудзь стылю моўныя сродкі могуць ужывацца ў іншых стылях. Адзначым, што пры гэтым, як правіла, змяняецца іх функцыянальная роля. Садзейнічаюць гнуткасці моўных стыляў наступныя фактары: 1) пастаяннае міжстылёвае ўзаемадзеянне і ўзаемапранікненне; 2) з'яўленне новых адгалінаванняў унутры асобных стыляў; 3) рухомасць маўленчых стыляў, ці жанраў, што выклікае зрух, перамяшчэнне замацаваных за пэўнымі стылямі моўных сродкаў.

***Размоўны (гутарковы) стыль.*** Сістэма моўных сродкаў размоўнага стылю прызначана для абслугоўвання сферы бытавых зносін і выступае звычайна ў вуснай форме. Некаторыя аўтары часта атаясамліваюць два паняцці – размоўны стыль і вусная форма маўлення. Даволі просты прыклад дэманструе, што гэтыя два паняцці не тоесныя: навуковы даклад або лекцыя – жанры навуковага стылю, выступленне на мітынгу – жанр публіцыстычнага стылю, але адносяцца абодва да вуснага маўлення.

Размоўны (гутарковы) стыль функцыянуе ў вуснай форме, таму многія асаблівасці гэтага стылю тлумачацца менавіта спецыфікай жывога, вуснага маўлення. У размоўным стылі нормы свядома не ўстанаўліваюцца і не рэгламентуюцца, аднак у працэсе маўлення яны аўтаматычна ўзнаўляюцца ў выглядзе ўжо гатовых канструкцый, фразеалагічных зваротаў, featuring рознага роду штампаў, інакш кажучы, стандартызаваных моўных сродкаў, якія адпавядаюць пэўным стандартным маўленчым сітуацыям.

Шырэй за ўсё ў размоўным стылі прадстаўлены агульнаўжывальныя словы і выразы. Пасля іх ідуць пазалітаратурныя моўныя адзінкі: дыялектызмы, жарганізмы, прафесіяналізмы, прастамоўная лексіка. Прычым, даволі значная частка слоў і фразеалагізмаў тут маюць ярка выражаную эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку. Што датычыць марфалагічных асаблівасцей размоўнага стылю, то характэрнай яго прыкметай з'яўляецца ўжыванне часціц, выклічнікаў, дзеяслоўных форм, якія выражаюць імгненнасць дзеяння. Адзначым таксама, што дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі сустракаюцца даволі рэдка.

Асаблівасці сінтаксісу размоўнага стылю ў тым, што больш пашырана ўжыванне простых, няпоўных, эліптычных сказаў. Не

характэрны складаныя сказы са шматступеннай залежнасцю і адасобленымі зваротамі,пашыраны пытальныя і клічныя сказы.

Размоўны (гутарковы) стыль адрозніваецца ад астатніх функцыянальных стыляў мовы умовамі функцыянавання, пераважна вуснай формай праяўлення, сістэмай сродкаў. Разам з тым, ён знаходзіцца ва ўзаемадзеянні з іншымі стылямі. Значную ролю адыгрывае размоўны стыль у развіцці літаратурнай мовы. Пранікненне пэўных элементаў размоўнага стылю ў кніжныя – адзін з асноўных працэсаў развіцця мовы літаратурнай.

***Афіцыйна-справавы стыль.*** Афіцыйна-справавы стыль рэалізуецца пераважна ў пісьмовай форме. Мова афіцыйных дакументаў – статутаў, законаў, урадавых пастаноў, указаў, паведамленняў урадавых органаў, загадаў, рэзалюцый, міжнародных пагадненняў, дагавораў, юрыдычных дакументаў – гэта мова афіцыйна-справавога стылю.

Афіцыйна-справавы стыль мацуецца перш за ўсё на лагічнай, інтэлектуальнай аснове. Выкарыстоўваецца ў строга афіцыйных, надзвычай важных сферах чалавечых зносін, таму тут свая, асаблівая, спецыфіка:

- паслядоўнасць, дакладнасць выкладання фактаў;
- аб’ектыўнасць ацэнак;
- шырокае выкарыстанне абстрактнай, тэрміналагічнай і спецыяльнай лексікі;
- словы ўжываюцца толькі ў прамым значэнні;
- назвы людзей даюцца часцей за ўсё па іх спецыяльнасці або пасадзе;
- адсутнасць экспрэсіўных моўных сродкаў;
- пераважаюць безасабовыя канструкцыі, адсутнічаюць формы першай і другой асобы займеннікаў і дзеясловаў;
- шырока выкарыстоўваюцца складаныя сказы, канструкцыі са складанымі злучнікамі;
- шырока выкарыстоўваюцца канцылярызмы (канцылярскія штампы).

Афіцыйна-справавы стыль абслугоўвае сферу афіцыйных зносін. Замкнутая сістэма моўных сродкаў, што ўваходзяць у афіцыйна-дзелавы стыль, выконвае дзве асноўныя функцыі – інфармацыі і ўздзеяння.

У складзе афіцыйна-справавога стылю многія даследчыкі выдзяляюць пэўныя падстылі: 1) уласна заканадаўчы (закон, указ, грамадзянскія і крымінальныя акты, статуты); 2) дыпламатычны (нота, мемарандум, камюніке, пагадненне, канвенцыя); 3) адміністрацыйна-канцылярскі (акт, распараджэнне, загад, дзелавыя

паперы: заява, характарыстыка, аўтабіяграфія, даверанасць, распіска).

Адметнай рысай юрыдычна-справавых дакументаў з’яўляецца высокая ступень стандартызацыі. Аднатыпнасць і паўтаральнасць афіцыйна-дзелавых папер вымагае і стандартнага іх афармлення (прыняцце законаў, указаў, пастаноў; афармленне рознага кшталту грамадзянскіх актаў у юрыдычных кансультацыях; залічэнне на працу; афіцыйнае звяртанне да кіраўніка; аб’ява вымовы, падзякі і інш). Кожны дакумент складаецца па пэўнай стандартнай форме. У нашай краіне ў свой час была ўзаконена адзіная дзяржаўная сістэма справаводства, адпаведна якой разнастайныя дакументы маюць свае стандартныя формы афармлення і напісання. У юрыдычна-справавых паперах стандартызацыя закранае не асобныя элементы, а ўвесь дакумент у цэлым.

Лексіка юрыдычна-справавых дакументаў таксама мае сваю спецыфіку.

- Шырока ўжываюцца афіцыйна прынятыя складанаскарочаныя словы і абрэвіятуры, што часцей за ўсё абазначаюць назвы ўстаноў: Дзяржінспекцыя, гарвыканкам, ЗАГС, ЖЭК, ЖЭС, Белдзяржуніверсітэт, МУС.
- Пашырана ўжыванне назваў асоб па іх функцыі ў афіцыйна-дзелавых адносінах: сведка, ісцец, спажывец, падсудны, арандатар, наймальнік, прадпрымальнік.
- Даволі частае ўжыванне слоў-канцылярызмаў: вышэйадзначаны, прад’явіцель, ніжэйпамянёны.
- Ужыванне “узаконеных” назваў дакументаў: загад, пратакол, даведка, даверанасць, заява, указ, службовае пісьмо.

Сінтаксіс юрыдычна-справавых дакументаў адметны падкрэсленай кніжнасцю, “халоднасцю”. Пашырана выкарыстанне складаных канструкцый, напрыклад: “Сціслы аналіз гэтага закона паказвае, што ён практычна не ўплывае на пераўтварэнне існуючых зямельных адносін, таму што права прыватнай уласнасці на зямлю носіць вельмі абмежаваны характар”. Як бачым, складаназалежны сказ з дзвюма даданымі часткамі ў найбольш поўным аб’ёме перадае неабходную інфармацыю.

Простыя сказы часцей за ўсё развітыя, могуць быць яшчэ ўскладнены аднароднымі членамі, напрыклад: “На праве землекарыстання зямельныя ўчасткі выдзяляюцца ў асноўным для несельскагаспадарчых мэтаў – прамысловым, транспартным і іншым несельскагаспадарчым прадпрыемствам і арганізацыям, для патрэб абароны, рэлігійным арганізацыям, сумесным прадпрыемствам, арганізацыям з удзелам замежных юрыдычных асоб і ў некаторых іншых выпадках”.

Звычайна ў юрыдычна-справавых дакументах выкарыстоўваюцца безасабовыя і інфінітыўныя канструкцыі: неабходна звярнуць увагу на дысцыпліну; дазволіць выкарыстаць дні адпачынку; перадаць на часовае карыстанне; прыцягнуць да крымінальнай адказнасці.

Такім чынам, як бачым, дакладнасць дзелавога маўлення накіравана на тое, каб змест фармуліроўкі прачытваўся строга адназначна. Недапушчальная тут двухсэнсоўнасць, пэўная "размытасць" выкладання, недакладнасць. Усё павінна быць строга, трапна, сцісла, па-дзелавому.

***Навуковы стыль.*** Рэалізуецца навуковы стыль пераважна ў пісьмовай форме. Навуковы стыль – гэта сістэма моўных сродкаў, прызначаная для перадачы і захоўвання навуковых ведаў. Навуковы стыль – паняцце даволі шырокае. Ён выкарыстоўваецца ў галіне навукі і тэхнікі, аб'ядноўвае неаднародныя па форме віды літаратуры. Тыповыя рысы навуковага стылю абумоўлены характэрнай для яго функцыяй паведамлення.

Найбольш агульнымі ўласцівасцямі навуковага стылю з'яўляюцца аб'ектыўнасць, дакладнасць, лагічнасць і абстрактнасць выкладання. Лексічныя асаблівасці навуковага стылю наступныя:

- шырокае ўжыванне нейтральных слоў;
- пашыранае выкарыстанне агульнанавуковых слоў;
- вялікая колькасць тэрмінаў – слоў і словазлучэнняў, якія гранічна дакладна абазначаюць спецыяльныя паняцці або прадметы.

Фразеалогія, што мае хаджэнне ў навуковым стылі, таксама са сваёй спецыфікай, таму што значна абмежавана ва ўласных рэсурсах і экспрэсіўных магчымасцях. Шырэй за ўсё ў навуковым стылі прадстаўлены тэрміналагічныя словазлучэнні фразеалагічнага тыпу: дзяржаўнае права, крымінальны працэс, судовы іск, судовая прамова, грамадскае ўздзеянне і інш.

Спецыфічныя асаблівасці мае і сінтаксіс навуковага маўлення. Сказы тут поўныя, эліптычныя канструкцыі сустракаюцца даволі рэдка. Часцей ужываюцца складаныя сказы, даволі разнастайныя па сваёй будове.

Названыя вышэй асаблівасці навуковага стылю даюць падставу многім сцвярджаць аб пэўнай яго "сухасці", "недаступнасці", "халоднасці". Аднак, як паказвае практыка, усё залежыць ад індывідуальных здольнасцей аўтараў навуковых артыкулаў і манаграфій, ад іх магчымасцей даходліва, цікава і нават з пэўным захапленнем выкласці даволі складаныя моманты ў той ці іншай галіне, надаць свайму даследаванню пэўны эмацыянальны

“тонус”, карыстаючыся пры гэтым спецыяльнай тэрміналогіяй. Усё гэта ні ў якім разе не зніжае навуковай вартасці працы.

Як вядома, навука складаецца з розных галін ведаў. Яны адрозніваюцца прадметам даследавання, выкарыстаннем спецыфічных тэрмінаў і катэгорый, метадамі даследавання і аргументацыяй. У сувязі з гэтым у межах навуковага стылю можна выдзяліць некалькі разнавіднасцей, або падстыляў: акадэмічны (уласна навуковы), навукова-дзелавы, навукова-папулярны, вучэбна-навуковы, навукова-інфармацыйны, навукова-публіцыстычны і іншыя. Кожны з гэтых падстыляў мае свае спецыфічныя асаблівасці, але не настолькі істотныя, каб гаварыць пра кожны з падстыляў, як пра самастойны стыль.

***Публіцыстычны стыль.*** Публіцыстычны стыль – спецыфічная сістэма моўных сродкаў, якая прызначана абслугоўваць шырокую сферу грамадска-палітычных зносін. Найбольш яскрава асаблівасці і адметнасці публіцыстычнага стылю адлюстраваны ў сродках масавай інфармацыі: газетах, грамадска-палітычных часопісах, у інфармацыйных выпусках радыё і тэлебачання, таму гэты стыль інакш называюць газетна-публіцыстычным.

Любое публіцыстычнае выданне накіравана на фарміраванне светапогляду чытача. Як вядома, асноўная задача публіцыстыкі, яе найпершая функцыя – несці інфармацыю, даносіць да шырокіх колаў насельніцтва паведамленні пра найбольш важныя і актуальныя падзеі, з’явы і праблемы сучаснасці, уплываць на свядомасць людзей, фарміраваць грамадскую думку. Спецыфічныя абставіны функцыянавання публіцыстычнага стылю вымагаюць і пэўных яго асаблівасцей, у якасці галоўнай можна назваць сацыяльную ацэначнасць моўных сродкаў. Сутнасць ацэначнасці заключаецца ў выражэнні адносін да прадмета маўлення. Нягледзячы на тое, што ацэначнасць з’яўляецца катэгорыяй агульнамоўнай, у публіцыстыцы яна праяўляецца найбольш выразна і ўсебакова. Разглядаемую з’яву ці апісваемую падзею “высвечваюць” з розных бакоў, адсюль рэзкае размежаванне станоўчага і адмоўнага, адпаведна і дзяленне моўных сродкаў на станоўча-ацэначныя і негатыўна-ацэначныя. Уздзеянне публіцыстычнага твора накіравана на абуджэнне грамадзянскіх якасцей асобы. Відавочна, што публіцыстычнае маўленне звернута да шматлікай і разнастайнай аўдыторыі, таму яно павінна быць агульнапрынятым і агульназразумелым. У першую чаргу публіцыстычнае маўленне павінна адпавядаць нормам беларускай літаратурнай мовы, таму характэрныя асаблівасці яго наступныя:

- правільнасць, дакладнасць, лагічнасць, чысціня і дарэчнасць маўлення;

- выкарыстанне элементаў гутарковай лексікі, шырокае ўжыванне высокіх кніжных слоў, выкарыстанне архаізмаў, спецыяльнай лексікі;
- актыўнае выкарыстанне разнастайных словаўтваральных і граматычных сродкаў з экспрэсіўна-ацэначнай афарбоўкай;
- выкарыстанне шматлікіх сінтаксічных канструкцый (рытарычны зварот, рытарычнае пытанне, антытэза, інверсія, анафара, паралелізм).

Падсумоўваючы сказанае, адзначым, што спецыфіка сістэмы моўных сродкаў публіцыстычнага стылю звязана з яго функцыянальнымі асаблівасцямі: сродкамі публіцыстычнага маўлення передаецца актуальнасць інфармацыі і разам з тым паралельна ідзе ўздзеянне на чытача, слухача, гледача, на фарміраванне яго светапогляду. Відавочна, што значная роля тут адведзена пазіцыі аўтара, яго ацэнцы, вобразным сродкам, іх умеламу і дакладнаму выкарыстанню.

***Мастацкі стыль.*** Мастацкі (літаратурна-мастацкі) стыль займае асобае месца сярод іншых функцыянальных стыляў мовы. Гэта звязана з тым, што ў мастацкім творы слова выконвае дзве функцыі – камунікатыўную і эстэтычную. Менавіта з улікам дадзенай акалічнасці адна група даследчыкаў лічыць мастацкі стыль раўнапраўным у агульнай сістэме функцыянальных стыляў мовы, а некаторыя мовазнаўцы прызнаюць за стылем мастацкай літаратуры такую асаблівасць, якая не дазваляе ўключыць яго ў вышэй названую сістэму. Праўда, прыхільнікаў першай навуковай плыні ў беларускім мовазнаўстве значна больш, таму і мы будзем разглядаць літаратурна-мастацкі стыль у агульнай сістэме функцыянальных стыляў.

Вызначым, што адметнай асаблівасцю сучаснай беларускай літаратурнай мовы з’яўляецца менавіта арганічнае адзінства мастацкага і іншых функцыянальных стыляў, прычым, вядучая роля адводзіцца мастацкаму стылю. Прычынай гэтаму той факт, што так праходзіў працэс гістарычнага развіцця беларускай мовы, яе станаўленне працякала ў непасрэднай сувязі з развіццём нацыянальнай літаратуры.

На думку даследчыкаў, галоўная асаблівасць мастацкага стылю заключаецца ў тым, што ён у працэсе рэалізацыі сваёй галоўнай функцыі (функцыі ўздзеяння) выкарыстоўвае ўсе сродкі агульнанароднай мовы, калі гэта карысна і патрэбна з пункту гледжання стылістычнай апраўданасці.

У мастацкім стылі шырокае хаджэнне маюць сродкі іншых стыляў, таму можна сцвярджаць, што ён увабраў у сябе шматвыразную гаму розных стылявых афарбовак.

Мова мастацкай літаратуры, з’яўляючыся часткай агульналітаратурнай мовы, даволі часта дэманструе выкарыстанне нелітаратурных лексічных элементаў. Тут могуць быць ужыты дыялектызмы, жарганізмы, прафесіяналізмы, прастамоўная лексіка. Ужыванне пералічаных лексічных сродкаў патрэбна ў мастацкім творы для моўнай характарыстыкі персанажаў, для дасягнення пэўнай экспрэсіі апавядання.

Вышэй было адзначана, што ў мастацкім стылі “увасоблены” камунікатыўная і эстэтычная функцыі. Гэтая акалічнасць прадугледжвае, што мастацкі твор не проста нясе інфармацыю, але “нясе яе прыгожа” – уздзейнічае на волю, пачуцці, эстэтычныя ўяўленні чытача. Дасягаецца гэта выкарыстаннем разнастойных выяўленчых і выразных сродкаў (лексічных, марфалагічных, сінтаксічных).

Характэрныя асаблівасці мастацкага стылю, як бачым, эмацыянальнасць, экспрэсіўнасць і вобразнасць. Дасягаецца гэта выкарыстаннем разнастайных вобразна-выяўленчых адзінак.

У залежнасці ад творчай задумы і мастацкага таленту творцы рэалізуецца ў літаратурна-мастацкім стылі багацце лексічных, марфалагічных і сінтаксічных рэсурсаў мовы. Менавіта мастак слова, маючы на ўзбраенні шырокі арсенал моўных сродкаў, надае тэксту своеасаблівае “мастацкае гучанне”.

**Пытанні**

1. У сувязі з чым, на вашу думку, з’явілася неабходнасць дыферэнцыяцыі моўных сродкаў па пэўных стылях?
2. Дайце вызначэнне, што такое функцыянальны стыль мовы.
3. Назавіце агульную рысу, што характэрная для ўсіх стыляў мовы.
4. Ці тоесныя два паняцці:”гутарковы стыль” і “вусная форма маўлення”? Чаму?
5. Чаму ў афіцыйна-справавым стылі не дапускаецца выкарыстанне эмацыянальна-экспрэсіўных моўных сродкаў?
6. У чым спецыфіка публіцыстычнага стылю?
7. Чаму некаторыя даследчыкі не згаджаюцца разглядаць мастацкі стыль у агульнай сістэме класіфікацыі функцыянальных стыляў?

## Заданні

1. Да якога стылю можна аднесці наступны тэкст? Абгрунтуйце свой адказ.

Балгарская мова

На гэтай славянскай мове гавораць балгары (каля 10 млн. чалавек), народ, што жыве галоўным чынам у Балгарыі. Балгарскі народ роднасны беларускаму. Тэкст на балгарскай мове здаецца беларусу вельмі блізкім – ён напісаны як бы "рускімі" літарамі. Аднак больш справядліва будзе лічыць, што гэта ўсходнеславянскія народы пішуць "балгарскімі" літарамі – з улікам таго, што славянскае пісьмо было створана ў 9 ст. братамі Кірылам і Мяфодзіем, ураджэнцамі г.Солуні (тады – у Балгарыі), і толькі потым распаўсюдзілася па іншых паўднева- і ўсходнеславянскіх краінах.

Балгарская і беларуская мовы маюць шэраг агульных рыс, значная частка якіх узыходзіць да іх агульнаславянскіх гістарычных каранёў. Многія балгарскія словы зразумелыя беларусу без перакладу: *вода, сестра, небе, море, око, глава, хляб, нов, стар, славянски* і да т.п. У балгарскай мове падобная на беларускую сістэма часцін мовы і такіх граматычных катэгорый, як род, лік, асоба, стан і інш.

Балгарская мова займае ў славянскім свеце асаблівае становішча. Перш за ўсё гэта мова аналітычная: сувязі паміж словамі ў сказе выяўляюцца не столькі флексіямі ці канчаткамі слоў, колькі парадкам слоў і службовымі словамі (прыназоўнікамі, злучнікамі, часціцамі); назоўнік, прыметнік і лічэбнік у балгарскай мове не змяняецца па склонах. Параўнаем беларускі сказ *Начальнік аддзела папрасіў яго перадаць рэдактару газеты матэрыял пра адкрыццё выстаўкі* і яго пераклад на балгарскую мову: *Началникът на отдела го помоли да предаде на редактора на вестника материала за откриване на изложбата*.

Другая яркая асаблівасць балгарскай мовы – наяўнасць у ёй катэгорыі азначальнасці імені. Назоўнік і яго непасрэдныя вызначэнні могуць выступаць у балгарскай мове ці ў так званай агульнай форме: *жена, ухо, град* ці ў форме з артыклем (членам), які далучаецца ў канцы слова: *жената, ухото, градът*. Назоўнік тут абазначае канкрэтнае ці родавае паняцце: жената абазначае "гэта жанчына" ці "жанчына ўвогуле".

Дзеяслоў у балгарскай мове мае разгалінаваную сістэму з 9 часоў. Акрамя цяперашняга часу, яна ўключае ў сябе формы 4 будучых і 4 прошлых часоў. Сярод іх ёсць, у прыватнасці, плюсквамперфект ("прошлы папярэдні час"), якому можна знайсці адпаведнасць у беларускіх дыялектах. Параўнаем беларускі сказ

*Маці была пераехала да дачкі, але цяпер зноў вярнулася ў веску* і балгарскі пераклад: *Майката беше се премесила при дъщеря си, но сега пак се върна в селота.* У цэлым жа, напрыклад, дзеяслоў *преместя се* ‘пераехаць’ мае у балгарскай мове наступныя часавыя формы: *бях се преместил, премести съм се, преместих се, преместех се, преместя се, ще се преместя, щях да се преместя, ще съм се преместил, щях да съм се преместил.*

Цікава, што некаторыя моўныя асаблівасці, агульныя для балгарскай і беларускай моў, адсутнічаюць у рускай (ці наогул у іншых славянскіх мовах). Параўнаем, напрыклад, такія словы, як балгарскія *червен, говедо, глог, жужел, оклепя се* і беларускія *чырвоны, гавяда, глог, жужаль, абкляпацца* і да т.п. Тое самае датычыцца фанетычных, марфалагічных і іншых характарыстык дзвюх моў. Напрыклад, у балгарскай мове, як і ў беларускай, ёсць спецыфічныя зычныя *дж і дз;* (ц) цвёрды проціпастаўлены (ц’) мяккаму; ад адушаўлёных назоўнікаў без вялікіх перашкод утвараюцца прыналежныя прыметнікі: *брат – братов, Алеко – Алеко*в і да т.п. У размове шырока выкарыстоўваецца клічная форма назоўнікаў: Иване ад Иван, другарю ад другар ‘таварыш’ і да т.п. Адна з прычын такой з’явы заключаецца ў тым, што балгарская і беларуская мовы захавалі некаторыя архаічныя рысы лепш, чым іншыя мовы.

Асаблівасці балгарскай мовы ў значнай меры вызначаюцца яе прыналежнасцю да балканскага моўнага саюза. Ва ўсякім выпадку, такія адметныя асаблівасці, як наяўнасць артыкля, спецыяльнага пераказвальнага ладу, адсутнасць інфінітыва і г.д. з’яўляюцца агульнымі і для некаторых неславянскіх моў, распаўсюджаных на Балканскім паўвостраве: албанскай, румынскай, турэцкай.

Балгарская мова праз пасрэдніцтва царкоўнаславянскай зрабіла істотны ўплыў на ўсходнеславянскія мовы. Аднак у беларускай гэты ўплыў прыкметна слабейшы, чым у рускай. Напрыклад, у рускай поруч з так званымі поўнагалоснымі формамі з *–оло-, -оро-, -ере- (голова, сторож, берег*) існуюць і стылістычна ўзвышаныя няпоўнагалосныя форма з *–ла-*, *-ра-*, *-ре-*, па сваім паходжанні царкоўнаславянскія (*глава, страж, брег*); беларуская ж мова такога проціпастаўлення не ведае.

Вывучэнне балгарскай мовы ў Беларусі ўзыходзіць да пачатку 20 ст. перш за ўсё звязана з працамі Я.Ф. Карскага і П.А. Бузука. З 1960-х гадоў параўнальныя беларуска-балгарскія лінгвістычныя даследаванні вядуцца больш планамерна – у БДУ і ў Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі. Старажытныя і сучасныя асаблівасці балгарскай мовы даследуюцца ў рэспубліцы ў працах Г.А. Цыхуна,

Б.Ю. Нормана, У.А. Карпава, А.Я. Супруна, В.У. Мартынава, М.А. Муталімавай, А.М. Калюты і іншых.

Балгарская літаратура мае старажытныя карані і традыцыі, але найбольш актыўна яна развіваецца пасля вызвалення Балгарыі ад турэцкай няволі (з 1878 г.). Буйнейшыя балгарскія пісьменнікі канца 19 – пачатку 20 ст. – гэта І. Вазаў (яго раман “У ярме“ перакладзены на многія мовы свету, у тым ліку на беларускую), П.П Славейкаў, А. Канстанцінаў, Элін Пялін, П. Явараў, Дз. Дзебелянаў. У паслярэвалюцыйны час балгарская літаратура прадстаўлена такімі імёнамі, як Дз. Дзімаў, Э. Станеў, Дз. Талеў, Э. Багрына, П. Вежынаў, М. Хайтаў, Я. Радзічкаў і інш. Некаторыя з іх твораў вядомы і беларускаму чытачу. Плённа працуюць у Беларусі ў галіне мастацкага перакладу з балгарскай мовы Н. Гілевіч, А. Разанаў, У. Аніскові́ч і іншыя.

Беларуская літаратура таксама мае ў Балгарыі сваіх аматараў і перакладчыкаў. Балгарскі чытач добра знаёмы з творчасцю Я. Купалы і Я. Коласа, П. Броўкі і М. Танка, І. Мележа і В. Быкава. Актыўна займаліся ці займаюцца перакладамі ў Балгарыі з беларускай мовы А. Германаў, С. Паптонеў, Г. Вылчаў, Л. Лашкава, Р. Эўцімава і іншыя.

*(Энцыклапедыя “Беларуская мова“)*

**2.** Параўнайце два прыведзеныя ўрыўкі. Вызначце стылі, у якіх выкладзены дадзеныя тэксты. Назавіце адметныя асаблівасці і характэрныя рысы кожнага ўрыўка.

І. Дуб – род вечназялёных і лістападных дрэў і кустоў сямейства букавых. Вядома каля 600 відаў, пашыраных у паўночным паўшар’і і ў гарах трапічнага пояса…

Драўніна моцная і гнуткая, мае высокія тэхнічныя ўласцівасці і прыгожую тэкстуру. Выкарыстоўваецца ў розных галінах прамысловасці і гаспадаркі. Драўніна і кара дуба багатыя на дубільныя рэчывы (у кары да 12 %, у драўніне 5% танідаў). Кара ўжываецца ў медыцыне і ветэрынарыі. Жалуды ідуць на прыгатаванне сурагату кавы і на корм жывёле…

*(Бел СЭ)*

ІІ. Нельга не зачаравацца, гледзячы на высокі і стройны дуб. Гонкае і роўнае, як струна, дрэва выцягнулася ў вышыню, каб зялёнай шапкай верхавіны зірнуць на ваколіцу. Тоўстая кара, з глыбокімі раўчакамі маршчын, пакрыла яго, як сведка сталасці. Унізе на кары з’явіўся зялёны мох, але ўсё дрэва дыша яшчэ магутнасцю і веліччу.

Каля трыццаці метраў увысь цягнецца гонкі ствол без адзінага сучка і дупла, а потым раскідваецца пяццю вялікімі сукамі,

ствараючы пышную зялёную шапку. Адтуль яшчэ на дзесяць метраў уверх вабіць вока густая зелень вецця̆.

Каля шасцісот гадоў мае дуб. Шмат бачыў ён на сваім вяку. Бушавалі суровыя навальніцы над ім, змяніліся часы і падзеі, але жыла родная зямля з яе свабодалюбівым народам, непакорным, прагным да волі і жыцця, і дуб як бы ўвасобіў гэтую магутнасць і непакорнасць сваёй зямлі.

*(Паводле Т. Хадкевіча)*

**3.** Параўнайце тэксты (празаічны і вершаваны). Знайдзіце сродкі выражэння эмацыянальнасці, экспрэсіўнасці, вобразнасці.

Як многа гэта значыць – мець не толькі вёску ці горад, дзе ты нарадзіўся, дзе табе знаёма кожная вуліца, кожны дом, дзе ты ведаеш і цябе таксама ўсе ведаюць, але мець яшчэ і сваіх людзей, быць сярод іх сваім чалавекам, адчуць, што, адкуль бы ты і які ні вярнуўся, яны цябе прымуць, памогуць. Ніякая дружба, ніякае сяброўства не заменяць гэтага. Бо свае людзі помняць цябе змалку, помняць тое, чаго пра цябе ніхто не помніць. І не толькі пра цябе, але і пра ўсю радню тваю – маці, бацьку, дзядоў і прадзедаў. І калі нейкія іхнія высновы не пацвердзяцца – а гэта здараецца вельмі рэдка, – не бяда… Яны адкапаюць нешта ў тваім родзе такое, што супакоіць і іх, і цябе: яны не памыліліся. Як правіла, свае людзі рэдка ў кім памыляюцца.

*(Б. Сачанка)*

Ёсць у кожнага
свой незабыўны,
абжыты куток,
Дзе ніколі не страшаць
ніякія спёкі і сцюжы,
Дзе з калодзежа возьмеш
гаючай вадзіцы глыток
І адчуеш сябе
маладым,
і шчаслівым,
і дужым.
Кожны помніць
бярозу, рабіну ці клён пад акном,
Што садзіў яшчэ бацька
ў гады маладыя,
Каб сыны пазнавалі
здалёку бацькоўскі свой дом.

Каб канчаліся дома
вандроўкі даўгія.
Ёсць у кожнага ганак,
там стужкі зляжалых дарог
Уляглiся пад камнем,
што некалі трушчыў зярняты.
І калі ты аслаб,
і калі ты стаміўся, знямог,
Ты вяртайся на гэты парог,
Тут для рук сваіх знойдзеш
спачын і занятак.

*(Ю.Свірка)*

**4.** Зрабіце пісьмовы пераклад тэкста, вызначце стыль напісання.

Я только что сказал: “слова живут“. Как это надо понимать? Ведь слово не человек, не животное, не растение. Что может значить выражение: “жизнь слов“?

Слово живет потому, что живет народ, его создавший; живет – изменяется, растет, развивается – язык, которому оно принадлежат.

Слово, пока оно существует, не остается надолго неизменным. Оно рождается, когда это нужно народу; оно существует, меняя и свое значение и свой звуковой состав (значит, – “живет“!), пока народ нуждается в нем; оно исчезает, как только надобность в нем проходит.

Никто – ни один отдельный человек, как бы ни были велики его таланты, ум, могущество, – не может без согласия и утверждения всего народа дать жизнь даже самому маленькому словечку, хотя каждый из нас способен за полчаса изобрести сотни превосходных звучных слов.

Никто, действуя в одиночку, отдельно от всего народа, не в состоянии изменить в живущем слове ни единого звука. А народ-языкотворец переделывает по своей надобности любые слова так, что в новой их форме уже почти невозможно бывает узнать старое обличие.

Ни у кого нет власти истребить хотя бы одно-единственное слово, которое создано народом. В то же время сам народ-хозяин властной рукой выбрасывает в мусорный ящик забвения, когда это окажется необходимым, десятки и сотни, даже тысячи слов сразу, истребляет целые страницы словарей, целые словарные семьи и гнезда.

А вот мы и постараемся приглядеться к жизни живого слова.

*(Л.Успенский “Слово о словах“)*

5. Зрабіце пісьмовы пераклад тэксту, вызначце стыль напісання.

Все функции заголовка, свойственные ему как определенному явлению газетной речи, – рекламная, назывная, информативная, апеллятивная, эмотивная – отражает связь заголовка с текстом. Это связь непосредственная, открытая: заголовок называет текст (назывная функция), он является первой фразой, которая устанавливает контакт между автором и читателем (апеллятивная функция), в нем отражается отношение автора к сообщению (эмотивная функция), он признан привлечь внимание к тексту (рекламная функция).

Являясь как бы первой проверкой взаимопонимания автора и читателя, заголовок сам по себе обычно выразителен настолько, что вызывает активную реакцию читателя. Еще до знакомства с текстом читатель задумается, будет заинтригован, улыбнется, сравнит с известным, переключится на ожидание – одним словом, настроится на восприятие текста. И в этом – смысл заголовка как коммуникативной единицы. А его особые функции - передача стилистической и эстетической информации - прослеживаются уже на первом этапе знакомства, потому что стилистическая информация подчеркивается необходимостью, оригинальностью внешнего облика заголовка, а эстетическая – связана с передачей авторской оценки как результата объективного анализа исследуемого явления.

*(Л.Г. Кайда “Эффективность публицистического текста“)*

6. Якія “недарэчнасці”, з пункту гледжання стылёвай арыентацыі, вы заўважылі ў прыведзеных сказах?

1) Рэспубліка ахоўвае гонар, здароўе, правы і законныя інтарэсы сваіх грамадзян, як на сваёй квітнеючай усімі краскамі вясёлкі тэрыторыі, так і за яе межамі.

2) Дарагі і мілы нашаму сэрцу закон мае вышэйшую юрыдычную сілу ў параўнанні з іншымі нарматыўнымі актамі, што выдаюцца ўсімі дзяржаўнымі органамі.

3) Адпаведна агульным правілам мілыя, дарагія і любыя жанчыны маюць права на адачынак і карыстацца ім на тых жа ўмовах, што і мужчыны.

4) Ускладанне ненавіснай, нялюбай крымінальнай адказнасці і вызваленне ад яе павінна ажыццяўляцца толькі судом.

5) Правы падсуднага на абарону ў наш жорсткі, бесчалавечны час забяспечваюцца сістэмай працэсуальных гарантый.

6) Кампенсацыйныя выплаты адрозніваюцца ад заработнай платы у сувязі з тым, што іх памер не залежыць ад нецікавай штодзённай непасільнай працы і яе вынікаў.

7) Родавым аб’ектам асабліва небяспечных дзяржаўных злачынстваў з’яўляюцца дарагія нам і мілыя сэрцу асновы дзяржаўнага ці грамадскага ладу ці знешняя бяспека Рэспублікі Беларусь.

8) Шпіянажам лічыцца таксама перадача ці збіранне па заданню залежнай ненавіснай і прадажнай разведкі пэўных звестак для выкарыстання іх на шкоду інтарэсам Рэспублікі Беларусь.

9) Крадзеж лічыцца завершаным, калі маёмасць знаходзіцца ў нахабнага і жорсткага вінаватага і ён мае магчымасць карыстацца гэтай маёмасцю.

10) Да злачынстваў супраць дарагога і бясцэннага жыцця, адзін раз Богам дадзенага, адносяцца ўсе віды наўмыснага забойства, забойства па неасцярожнасці і давядзенне да самагубства.

**7.** Знайдзіце элементы розных стыляў у прыведзеным урыўку з камедыі Андрэя Макаёнка “Выбачайце, калі ласка” Якіх?

А н т а н і н а Ц і м а ф е е ў н а (*радасная, узбуджаная*). Сцёпа! А табе сюрпрыз. Вось, глядзі! У абласной газеце. Чытай…

К а л і б е р а ў. Што там? (*Разглядае газеты, якія яму толькі што перадала Антаніна Цімафееўна*.)

А н т а н і н а Ц і м а ф е е ў н а (*чытае* ) . “У гутарцы з нашым карэспандэнтам таварыш Калібераў заявіў…“ І яшчэ: “Перадавікі хлебаздачы…“ Ну Сцёпа, ты цяпер пайшоў угару. Я так рада, так рада! Нарэшце! Цяпер толькі не зявай, толькі не зявай, Не лаві варон – і ты будзеш зноў у Мінску. Мы вернемся туды з перамогай.

К а л і б е р а ў. А ў мяне,Тоня, для цябе таксама сюрпрыз. *(Глянуў на гадзіннік*.) Ах, ледзь не правароніў. (*Уключае радыё. З рэпрадуктара чуецца голас Сцяпана Васільевіча*.)

Г о л а с К а л і б е р а в а. … нашых поспехаў. Я бяру смеласць заявіць, ад імя працаўнікоў сацыялістычных палёў нашага раёна, што мы з чэсцю будзем трымаць першынство ў вобласці па выкананню дзяржаўных абавязательстваў па хлебапастаўках. Парукай гэтаму – зладжная арганізацыя працы, працоўная дысцыпліна і добрае надвор’е…

*(А. Макаёнак “Выбачайце, калі ласка“.*

**8.** Да якога стылю вы аднеслі б прыведзены ўрывак? Абгрунтуйце свой адказ.

За святам Вялікадня і Радаўніцы, а іншы раз і адначасова, наступае свята вясны – Лялі, або Ліолі, а ў заклічках песень яна называецца Лада. Гэтае імя багіні вясны з асабістага імені ў беларусаў ператварылася ў намінальнае: калі хочуць сказаць аб прыгажосці дзяўчыны, то гавораць: “Прыгожая, Ляля“ або “Якая харошая Ляля“. Гэтым іменем называюць і расліну, якая

распаўсюджваецца ў нізкіх месцах, у балотах і мае ля корня злучэнне пяшчотна-белага колеру з ружовым (“лялькі“). Свята прымяркоўваецца да пачатку свята св.Георгія Пераможца, г.зн. 22 красавіка.

На лузе каля гаю збіраюцца дзяўчаты, выбіраюць сярод сябе самую прыгожую або тую, хто мае імя Ліоля. Упрыгожваюць яе кветкамі, зеленню і ўстройваюць карагод, спяваюць песні. У адказ на гэта дзяўчына Ліоля дорыць ім вянкі і частуе.

На наступны дзень, г.зн. 23 красавіка, у дзень св.Георгія, пачынаецца свята Ярылы – сына Лады і Дажбога (сонца), у якасці якого ў хрысціянскую эпоху перанесены на св. Георгія, і ён па загаду сваёй маці адчыняе вароты неба і на белым кані спускаецца на зямлю, а з яго з’яўленнем і пачынаецца вясна.

*(Зб. “Гульні, забавы, ігрышчы“, укладальнік А.Ю Лозка)*

**9.** Знайдзіце ў прыведзеным урыўку элементы публіцыстычнага стылю.

Калі вучоныя людзі ведаюць трагічны лёс беларускага народа, яго культуры і мовы, ведаюць, якімі гулагамі і курапатамі заплаціў ён за сваю вернасць і любоў да роднага краю і роднага слова, і разумеюць, чаму павінен быў рана ці позна ўзнікнуць і разгарнуцца магутны рух за адраджэнне беларускай нацыі, і, значыць разумеюць, што ў такім выпадку без прававой асновы, без адпаведных законаў (аб мовах, аб культуры, аб адукацыі) не абысціся, калі яны ўсё гэта ведаюць і разумеюць, – тады ў чым жа рэч, скажыце, калі ласка? Адкуль жа тады, з якіх прынцыпаў і перакананняў зыходзіць ваяўнічы пратэст супраць пераводу адукацыі ў беларускай дзяржаве на дзяржаўную беларускую мову?

Упэўнены, што толькі з аднаго – з перакanання, што незалежнай беларускай дзяржавы не павінна быць і што беларускі народ павінен асіміляваццa, растварыцца ў рускім народзе. З разумення (так высока адукаваныя людзі не могуць не разумець), што, калі ва ўсе сферы грамадскага жыцця ўвойдзе і адчуе сябе гаспадаром становішча беларуская мова, - гэта будзе азначаць канчатковую перамогу нацыянальнай беларускай самасвядомасці ў грамадстве, перамогу нацыянальна-дзяржаўнай беларускай ідэі і што вяртання назад, у часы Кацярын, Мікалаяў, Аляксандраў, Іосіфаў і іншых Леанідаў, ужо не будзе. Вялікадзяржаўным шавіністам давядзецца назаўсёды пахаваць свае запаветныя мары. Панове! Дык чаму б гэтыя свае перакананні не выказаць адкрыта, як гэта робяць нейкія “славянасабораўцы”, што ўсё ездзяць у Маскву дамаўляцца аб “уз’яднанні”? Гэтыя апошнія паводзяць сябе, бадай, больш сумленна – прынамсі, не гуляюць у хованкі.

*(Н. Гілевіч “Любоў прасветлая“)*

**10.**Падрыхтуйце тэксты афіцыйна-справавога стылю, выкарыстаўшы прыведзеныя словы.

Пастанова, дагавор, сведка, заяўнік, вымова, адказчык, рашэнне.

**11.**У прыведзеным тэксце вызначце характэрныя прыкметы афіцыйна-справавога стылю.

Калі у час папярэдняга следства або судовага разгляду на тэрыторыі аднаго Дагаворнага Боку ўзнікае неабходнасць асабістай прысутнасці сведкі або эксперта, які знаходзіцца на тэрыторыі другога Дагаворнага Боку, то неабходна звярнуцца да адпаведнага органа гэтага Дагаворнага Боку з даручэннем аб уручэнні павесткі.

Павестка не можа змяшчаць указання на санкцыю ў выпадку няяўкі выкліканага.

Сведка або эксперт, які, незалежна ад яго грамадзянства, добраахвотна з’явіўся на выклік у адпаведны орган другога Дагаворнага Боку, не можа на тэрыторыі гэтага Дагаворнага Боку быць прыцягнуты да крымінальнай або адміністрацыйнай адказнасці, узяты пад варту або пакараны ў сувязі з якім-небудзь дзеяннем, учыненым да перасячэння яго дзяржаўнай мяжы. Такія асобы не могуць быць нават прыцягнуты да крымінальнай або адміністрацыйнай адказнасці, узяты пад варту або пакараны ў сувязі з іх паказаннямі або заключэннямі ў якасці экспертаў, або ў сувязі з учынкам, што ўяўляе прадмет разбору.

Гэтай прывілеяй не карыстаецца сведка або эксперт, калі ён на працягу 15 сутак з моманту паведамлення яму аб тым, што яго прысутнасць не з’яўляецца неабходнай, не пакіне тэрыторыю выклікаючага Дагаворнага Боку. У гэты тэрмін не залічваецца час, на працягу якого сведка або эксперт не мог пакінуць тэрыторыю выклікаючага Дагаворнага Боку па незалежных ад яго абставінах.

Сведкі або эксперты, якія з’явіліся па выкліку на тэрыторыю другога Дагаворнага Боку, маюць права на кампенсацыю органам, што выклікаў іх, расходаў, звязаных з праездам і прабываннем за мяжой, таксама на капенсацыю не атрыманай заработнай платы за дні неприсутнасці на працы; эксперты, акрамя таго, маюць права на ўзнагароджанне за выкананне экспертызы. У выкліку павінна быць указана, на якія віды выплат маюць права выкліканыя асобы; па іх хадайніцтву Дагаворны Бок, ад якога зыходзіць выклік, выплачвае аванс на пакрыцце адпаведных расходаў.

(*Зборнік “Законы Рэспублікі Беларусь”)*

**12.**Прачытайце тэкст. Да якога стылю ён належыць? Вашы аргументы.

Клён усё памятаў. Яму здавалася, што ён памятае яшчэ той час, калі быў семкай-крылаткай на галіне свайго разлогага бацькі з шырознымі далонямі лісцеў.

Ён памятаў той далёкі-далёкі дзень, калі ў лес прыйшоў чалавек з рыдлёўкаю і, асцярожна падкапаўшы кволыя карэньчыкі, панёс яго ў вёску, каб стаць яго першым гаспадаром.

Клён падымаўся ўжо вышэй хаты, калі аднойчы прачнуўся ад ляманту сваёй першай гаспадыні і ўбачыў, як нейкія людзі вывелі гаспадара на падворак, збілі з ног і доўга, з асалодаю дратавалі яго ботамі, раз-пораз выгукваючы: “Бе-ла-рус! Пся крэў!” Яны забралі гаспадара з сабою, і клён больш не ўгледзеў яго на дарозе, якою вярталіся з горада.

Яго цяперашні гаспадар быў тады белагаловым накольнікам, з якім ён дзяліўся ўвесну сваім салодкім сокам. Яны раслі разам. Яны разам бачылі, як аднаго дня паўз вёску, у той бок, куды ўвечар апускаецца сонца, ішлі танкі з чырвонымі зоркамі і як праз два гады стуль паўзлі іншыя з чорнымі павукамі. Клён памятаў, як гарэла вёска і ў начным чарноцці хаты цвілі велізарнымі і жудаснымі чырвонымі кветкамі.

Але найчасцей яму чамусьці прыгадваліся тыя дзіўныя патайныя ночы, у якія малады гаспадар пільнаваў сад у пастаўленым пры самым камлі будане і штоночы з цемры ўзнікала зграбная, як рабінка, дзявочая постаць.

Гаспадар браў дзяўчыну за рукі, яны сядалі поруч на шаматлівае сена, і клён узрушана і шчасліва адчуваў сябе сведкам нейкай найвышэйшае таямніцы і, поўны нязвыклага хвалявання, баяўся нават шапацець ліствою.

А пасля ў яго зялёнай засені падвешвалі ў летнія дні калыску: спярша са старэйшым, Волесем, а тады з малодшым, Вацем. Потым тыя навучыліся лазіць па ім, і клён неяк светла і падмалоджана чуў цеплыню іхніх дзіцячых рук, слухаў іх падобныя да шпачыных галасы і гадаў, каторы з малых стане яго трэцім гаспадаром.

Ён памятаў і дзень, як услед за старэйшым братам з пашарпанаю валізкай выправіўся ў вялікі свет малодшы, Вацік, і ён, клён, зразумеў, што трэцяга гаспадара ўжо не прычакае.

Клён усё памятаў.

*(У. Арлоў “Клён“)*

# ЮРЫДЫЧНАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ

Паводле сферы выкарыстання лексіка беларускай мовы падзяляецца на агульнаўжывальную і лексіку абмежаванага выкарыстання, у склад якой уваходзяць спецыяльныя, дыялектныя і жаргонныя словы. У сваю чаргу спецыяльная лексіка падзяляецца на тэрміналогію, прафесіяналізмы і наменклатуру.

Слова тэрміналогія мае два асноўныя значэнні: 1) сістэма тэрмінаў адной галіны (навукі, тэхнікі, мастацтва) і 2) сукупнасць усіх тэрмінаў пэўнай мовы.

Тэрміналогія пэўнай навукі – гэта штучна створаная сістэма моўных сродкаў, своеасаблівы лексічны пласт, кожная адзінка якога мае пэўныя абмежаванні для свайго ўжывання і спрыяльныя ўмовы для свайго існавання і развіцця.

Аналізуючы фарміраванне тэрміналогіі, трэба паслядоўна размяжоўваць працэс натуральнага папаўнення тэрміналагічнай лексікі ў ходзе развіцця пэўных галін навукі і ўласна тэрміналагічную работу па ўпарадкаванні гэтай лексікі. Пастаяннае натуральнае папаўненне тэрміналагічнай лексікі неаддзельна ад умоў развіцця і функцыянавання нацыянальнай мовы. Характэрным для беларускай мовы з’яўляецца працягласць і перарывістасць яе гістарычнага развіцця, таму, відавочна, натуральнае фарміраванне беларускай тэрміналогіі таксама з’яўляецца працяглым, але перарывістым.

Першапачатковай асновай фарміравання тэрміналагічнай лексікі старабеларускай мовы правамерна лічыць намінацыі розных прадметаў і з’яў прыроды ў народным маўленні і пазней фіксацыю гэтых намінацый у пісьмовых помніках старабеларускай мовы.

Фарміраванне грамадска-палітычнай і юрыдычнай тэрміналогіі было найбольш раннім і інтэнсіўным у параўнанні з іншымі галінамі старабеларускай тэрміналогіі дзякуючы функцыянаванню мовы ў якасці дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім.

Сучасная беларуская тэрміналогія вельмі разнастайная па паходжанні і спосабах утварэння. Працяглы гістарычны перыяд фарміравання беларускай тэрміналогіі абумоўлівае наяўнасць у яе складзе як старых слоў, зафіксаваных у першых помніках пісьменства (дзяржава, пасол, сведка), так і новых (аўтаадказчык, аўтатыповы).

На працягу ўсёй гісторыі развіцця фарміраванне беларускай тэрміналогіі адбывалася ва ўмовах кантактавання з іншымі мовамі, у тым ліку і неславянскімі. Гэтым тлумачыцца наяўнасць у складзе беларускай тэрміналогіі як спрадвечна беларускіх слоў (адмова,

адказ, благі, галіна), так і запазычаных (арышт, арэнда, асартымент, бюджэт, вэксаль).

Сучасная юрыспрудэнцыя мае сваю даволі трывалую, добра замацаваную, навукова і практычна абгрунтаваную тэрміналогію, інакш кажучы, тэрміналагічную сістэму, або тэрмінасістэму. Тэрміналагічная сістэма – гэта сукупнасць тэрміналагічных адзінак – тэрмінаў, якім прыпісваецца пэўнае паняцце і якія суаднесены з іншымі найменнямі ў дадзенай галіне навукі (у прыватнасці, юрыдычнай).

У сувязі з тым, што сучаснае правазнаўства мае шмат "прававых" адгалінаванняў", (грамадзянскае, адміністрацыйнае, крымінальнае, канстытуцыйнае, фінансавае, гаспадарчае, банкаўскае, жыллёвае, падатковае, працоўнае, экалагічнае права і пад.), то ў кожным праве свая сістэма тэрмінаў, хаця тут шырока выкарыстоўваюцца і агульнаюрыдычныя тэрміны.

***Тэрмін*** – гэта спецыяльнае слова ці спалучэнне слоў, якое існуе (створанае, запазычанае) для дакладнага выражэння спецыяльных паняццяў і абазначэння спецыяльных прадметаў. Напрыклад: арбітр – суддзя ў арбітражных, гаспадарчых і трацейскіх судах; даверанасць – пісьмовае ўпаўнаважанне адной асобы (даверніка) іншым асобам (даверанаму, прадстаўніку) для прадстаўніцтва ад яе імя перад трэцімі асобамі. Тэрмінамі называюцца спецыяльныя паняцці, якія ўзнікаюць у пэўнай галіне навукі. Можна сказаць, што тэрмін – гэта імя паняцця.

Слова тэрмін іншамоўнага паходжання: ад лац. terminus (канец, мяжа), які па значэнні і паходжанні звязаны з грэчаскім terua: 1) канечны слуп на рысталішчах; 2) канец, край, мяжа; 3) вынік, вывад, зыход.

Як было адзначана, тэрмін – гэта спецыяльнае слова ці спалучэнне слоў.

У правазнаўчай тэрміналогіі можна выдзеліць і словы-тэрміны, і словазлучэнні-тэрміны.

Тэрміны-назоўнікі: абшчына, абавязацельства, арбітраж, абскарджанне, абаронца, абвінавачванне, кодэкс, злачынства, крыміналізацыя, суд, сваяцтва і інш.

Тэрміны-дзеясловы: выключыць, асудзіць, абвінаваціць, скасаваць, інвентарызаваць, старшынстваваць, дэкваліфікаваць, дэмабілізаваць і інш.

Комплексныя тэрміны: акты цывільнага стану, акцыянернае таварыства, асабістая ўласнасць, перагляд прыгавора, прававое рэгуляванне, прававы акт, прававы статус асобы, прадстаўнік улады, спыненне грамадзянства, фінансавы кантроль, юрыдычная кансультацыя і інш.

Словы агульнай лексікі засвойваюцца людзьмі па меры іх авалодвання мовай. Тэрміны ж патрабуюць пэўнай падрыхтоўкі ў дадзенай галіне навукі. У сувязі з гэтым прыводзім даволі шырока ўжывальныя, на наш погляд, юрыдычныя тэрміны і тэрміналагічныя словазлучэнні.

1. ***Абавязак доказвання*** – пры вытворчасці па крымінальных і грамадзянскіх справах правілы размеркавання паміж удзельнікамі працэса абавязковасці абгрунтоўваць прысутнасць тых ці іншых абставін, значных для вырашэння справы.

2. ***Абавязацельнае права*** – сучасныя грамадзянска-прававыя нормы, якія рэгулююць абавязкі.

3. ***Абавязацельства аб яўцы*** (по-русски: об явке) – у сучасным крымінальным працэсе мера забеспячэння яўкі абвінавачваемага па выкліку органа папярэдняга расследавання і суда.

4. ***Абавязковая доля*** – у сучасным праве частка спадчыннай маёмасці, якая пераходзіць да вызначаных спадчыннікаў, незалежна ад зместу завяшчання.

5. ***Абаліцыя*** **–** (лац. abolition адмена) – 1) адмена закону, рашэння; 2) ліквідацыя пасады або вызваленне ад яе; 3) спыненне крымінальнай справы на стадыі, калі вінаватасць яшчэ юрыдычна не ўстаноўлена; 4) вяртанне гонару – афіцыйнае абвяржэнне паклёпу.

6. ***Абвінаваўчае заключэнне*** – у сучасным крымінальным працэсе дакумент, у якім выкладзена і абгрунтавана канчатковае рашэнне следчага аб фармулёўцы абвінавачвання асобы, якая прыцягнута да крымінальнай адказнасці.

7. ***Аб'ект права*** – грамадскія адносіны, якія маюць прававую прыроду – падлягаюць прававому рэгуляванню (эканамічныя, палітычныя, працоўныя і іншыя).

8. ***Абсалютныя правы*** – суб'ектыўныя правы, носьбітам якіх супрацьстаіць неазначаная колькасць абавязаных асоб.

9. ***Абскарджанне дзеянняў следчага*** – адна з важных гарантый законнасці ў крымінальнай судавытворчасці.

10. ***Абскарджанне дзеянняў службовай асобы*** – права грамадзян абскарджваць дзеянні службовых асоб, дзяржаўных органаў.

11. ***Абшчына, грамада*** **–** 1) устойлівае сацыяльнае аб'яднанне людзей з пэўнымі рысамі вытворчасці і ўласнасці, уласцівая галоўным чынам докласаваму грамадству. У класавым грамадстве абшчына існуе ў выглядзе рэлігійных, сямейных, гарадскіх, сельскіх, зямляцкіх і іншых аб'яднанняў; 2) у шырокім сэнсе абшчына азначае разнастайныя супольнасці: гарадскія камуны, сялянскія суполкі, прафесійныя аб'яднанні, рэлігійныя таварыствы і

г. д.; 3) у шэрагу краін (напрыклад, у Балгарыі) – нізавая адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка.

12. ***Аванс*** (франц. avanse) – грашовая сума або іншая маёмасная каштоўнасць, якая выдаецца ў залік будучых плацяжоў. Паводле грамадзянскага права аванс, як і задатак, служыць доказам заключэння дагавору. Аванс у адрозненне ад задатку не выконвае функцый забеспячэння абавязанняў і пацвярджэння заключэння дагавору і заўсёды падлягае звяртанню ў адзінарным памеры незалежна ад выканання абавязку тым, хто яго атрымаў.

13. ***Авіза*** (італ. avviso) – пісьмовае паведамленне аб выкананых аперацыях па рахунках кліентаў, якое адна ўстанова банка пасылае другой.

14. ***Агрэман*** (франц. agreement ад agreer ухваляць) – згода ўрада дзяржавы, якая прымае, на прызначэнне пэўнай асобы ў якасці дыпламатычнага прадстаўніка дзяржавы, якая акрэдытуе. Агрэман запатрабуецца толькі на кіраўніка дыпламатычнага прадстаўніцтва звычайна праз установу замежных спраў.

15. ***Агрэсія*** (ад лац. agressio нападзенне) – выкарыстанне ўзброенай сілы дзяржавай (агрэсарам) супраць суверэнітэту, тэрытарыяльнай недатыкальнасці або палітычнай незалежнасці другой дзяржавы, а таксама іншы замах з выкарыстаннем узброенай сілы адной дзяржавы на другую.

16. ***Адаралогія крыміналістычная*** (ад лац. odor пах + logos вучэнне) – вучэнне пра пах, на аснове якога ў крыміналістыцы даследуюцца заканамернасці ўзнікнення слядоў паху, распрацоўваюцца метады і тэхнічныя сродкі іх выяўлення, захоўвання і выкарыстання ў дзейнасці па вышуку злачынцаў, рашэнні іншых следчых і судовых задач.

17. ***Агляд месца здарэння*** – у сучасным крымінальным працэсе следчае дзеянне, якое заключаецца ў непасрэдным вывучэнні памяшкання ці мясцовасці, дзе было здзейснена злачынства ці выяўлены яго сляды.

18. ***Агульная ўласнасць*** – уласнасць на адну і тую ж маёмасць дзвюх ці больш асоб – удзельнікаў агульнай уласнасці.

19. ***Адваротнае патрабаванне*** – у грамадзянскім праве і працэсе патрабаванне крэдытора аб вяртанні грашовай сумы, якую ён заплаціў трэцяй асобе па віне даўжніка.

20. ***Адваротная сіла закону*** – распаўсюджанне дзеяння закону на выпадкі, якія маюць месца да ўступлення яго ў сілу.

21. ***Адвод суддзі*** – у сучасным судовым працэсе вывядзенне суддзі з удзелу ў судавядзенні, калі ён асабіста – прама ці ўскосна – зацікаўлены ў гэтай справе.

22. ***Адзыўная грамата*** – дакумент аб адкліканні пэўнага дыпламатычнага прадстаўніка. Падпісваецца кіраўніком і замацоўваецца подпісам міністра замежных спраў дзяржавы, якая прызначыла дыпламатычнага прадстаўніка, і накіроўваецца кіраўніку той дзяржавы, пры якой ён акрэдытаваны.

23. ***Адказнасць адміністрацыйная*** – адна з форм юрыдычнай адказнасці грамадзян і службовых асоб за здзейсненае імі адміністрацыйнае правапарушэнне.

24. ***Адказнасць долевая*** – у сучасным праве разнавіднасць грамадзянскай адказнасці пры наяўнасці вялікай колькасці даўжнікоў у абавязку.

25. ***Адказнасць дысцыплінарная*** – адна з прававых формаў уздзеяння на парушальнікаў працоўнай дысцыпліны.

26. ***Адказнасць крымінальная*** – адзін з відаў юрыдычнай адказнасці; прававыя вынікі здзяйснення злачынства, якія заключаны ў прымяненні дзяржаўнага прымусу ў форме пакарання.

27. ***Адказнасць матэрыяльная*** – рабочых і служачых – у сучасным працоўным праве абавязак работніка кампенсаваць страты, якія нанесены прадпрыемству, у межах і парадку, вызначаных заканадаўствам.

28. ***Адказнасць прадпрыемства*** – (за прычыненне шкоды працоўным) – матэрыяльная адказнасць прадпрыемства за шкоду, прычыненую рабочым і служачым калецтвам ці іншым пашкоджаннем здароўя, звязаным з выкананнем імі сваіх працоўных абавязкаў.

29. ***Адказнасць юрыдычная*** – дзяржаўны прымус да выканання патрабаванняў права, праваадносіны, кожны з бакоў якога абавязаны адказваць за свае дзеянні перад іншым бокам, дзяржавай і грамадствам.

30. ***Адкліканне суддзяў*** – форма вызвалення суддзяў і народных засядацеляў ад сваіх абавязкаў да сканчэння тэрміну іх паўнамоцтваў.

31. ***Адкрыццё спадчыны*** – дзень смерці спадчынадаўцы, пры аб’яўленні яго памерлым, дзень уступлення ў сілу рашэння суда ці дзень, указаны ў рашэнні суда.

32. ***Адміністрацыйнае права*** – галіна сучаснага права, якая рэгулюе грамадзянскія адносіны, што ўзнікаюць у працэсе арганізацыі і выканаўча-распараджальнай дзейнасці органаў дзяржаўнага кіравання.

33. ***Адміністрацыйны нагляд*** (за асобамі, вызваленымі з месцаў пазбаўлення волі). Устанаўліваецца для назірання за паводзінамі гэтых асоб, папярэджання здзяйснення імі новых злачынстваў, аказанне на іх неабходнага выхаваўчага ўздзеяння.

34. ***Аднаасобныя дзеянні суддзі*** – працэсуальныя дзеянні, якія здзяйсняюцца суддзёй аднаасобна, без удзелу народных засядацеляў (пасаджаных) ці іншых суддзяў, якія ўваходзяць у дадзены склад суда.

35. ***Аднаўленне крымінальнай справы па новаадкрытых акалічнасцях*** – выключная стадыя крымінальнага працэсу, у якой ажыццяўляецца праверка уступіўшага ў законную сілу прыгавору ці іншага судовага рашэння ў сувязі з устанаўленнем новых, невядомых пры следстве, і судовым разглядзе акалічнасцей.

36. ***Адносныя правы*** – від грамадзянскіх правоў, якія належаць асобе ў дачыненні да другой абавязнай асобы.

37. ***Адтэрміноўка выканання прыгавору*** – пытанне аб адтэрміноўцы выканання прыгавору вырашае суд па хадайніцтве асуджанага, яго законных прадстаўнікоў, блізкіх родзічаў ці па прадстаўленні пракурора, а таксама па асабістай ініцыятыве.

38. ***Акт юрыдычны*** – афіцыйны пісьмовы дакумент, які выклікае пэўныя прававыя вынікі, стварае юрыдычны стан і накіраваны на рэгуляванне грамадскіх адносін у мэтах забеспячэння станаўлення, умацавання і развіцця пануючага спосабу вытворчасці, рэалізацыі інтарэсаў кіруючых класаў.

39. ***Акты цывільнага стану*** – асноўныя здарэнні і дзеянні ў жыцці грамадзяніна, якія належаць абавязковай рэгістрацыі ў дзяржаўных органах запісу актаў цывільнага стану.

40. ***Арганічны закон –*** закон, які дапаўняе палажэнні канстытуцыі.

41. ***Апошняе слова падсуднага*** – у сучасным крымінальным працэсе выступленне падсуднага пасля заканчэння судовых спрэчак, звернутае да суда перад яго адыходам на нараду для вынясення прыгавору па крымінальнай справе.

42. ***Арышт адміністрацыйны*** – мера адміністрацыйнага спагнання, якая прымяняецца ў выключных выпадках за асобныя віды адміністрацыйных правапарушэнняў.

43. ***Арышт дысцыплінарны*** – від дысцыплінарнай адказнасці, якая прымяняецца за парушэнне службовай дысцыпліны ці грамадскага парадку.

44. ***Арышт маёмасці*** – у сучасным праве вопіс маёмасці і аб’яўленне забароны распараджацца ёю.

45. ***Асабістыя немаёмасныя правы*** – від суб’ектыўных правоў – правы, якія не маюць маёмаснага зместу.

46. ***Асоба юрыдычная*** – суб’ект грамадскага права. Арганізацыя, якая валодае абасобленай маёмасцю, можа ад свайго імя набываць маёмасныя і асабістыя немаёмасныя правы, несці

абавязкі, быць істцом і адказчыкам у народным, гаспадарчым або трацейскім судзе.

47. ***Афект*** (ад лац. affectus душэўнае хваляванне, запал) – кароткачасовае нервова-псіхічнае ўзрушэнне асобы са стратай валявога кантролю над сваімі дзеяннямі. Адрозніваюць 2 віды афекту: фізіялагічны і паталагічны.

48. ***Аферта*** (ад. лац. offero прапаную) – прапанова заключыць цывільна-прававы дагавор, які змяшчае ўсе істотныя ўмовы. Адрасуецца, як правіла, пэўнай асобе. Аферта, звернутая да неакрэсленага кола асобаў, называецца ***публічнай афертай*** (напрыклад, аб’ява магазіна аб продажы кніг накладной платай).

49. ***Балістыка судовая*** (ням. Ballestik ад грэч. ballo кідаю) – галіна крыміналістыкі, якая вывучае прыкметы вогнестрэльнай зброі, боепрыпасаў і заканамернасці ўтварэння слядоў іх выкарыстання, распрацоўвае сродкі і метады выяўлення, фіксацыі і даследавання гэтых слядоў з мэтай вырашэння пытанняў, што ўзнікаюць пры расследаванні крымінальных спраў.

50. ***Бандытызм*** – арганізацыя ўзброеных бандаў з мэтай нападу на дзяржаўныя або грамадскія прадпрыемствы, установы, арганізацыі ці на грамадзян, а таксама ўдзел у гэтых бандах і нападах, што ўчыняюцца імі.

51. ***Баніфікацыя*** (франц. bonification ад позналац. bonifico паляпшаю) – у дагаворах куплі-продажу надбаўка да ўстаноўленай цаны за пастаўку тавару, якасць якога вышэйшая за вызначаную дагаворам. Баніфікацыя ўжываецца пры нарыхтоўцы сельскагаспадарчых прадуктаў і ў міжнародным гандлі. Паніжэнне платы за тавар, калі яго якасць ніжэйшая за вызначаную, называецца ***рэфакцыяй.***

52. ***Бюджэтнае права*** – сукупнасць прававых нормаў, якія вызначаюць бюджэтнае ўладкаванне дзяржавы і рэгулююць грамадскія адносіны па ўтварэнні і выкарыстанні фонду грашовых сродкаў, якія канцэнтруюцца ў разнастайных звёнах бюджэтнай сістэмы.

53. ***Бяздзейснасць злачынная*** – разнастайнасць злачынных дзеянняў, якая ўяўляе сабой грамадска небяспечныя і супрацьпраўныя пасіўныя паводзіны, што выяўляюцца ў нездзяйсненні грамадска карыснага дзеяння, калі асоба магла і павінна была здзейсніць іх паводле ўскладзеных на яе прававых абавязкаў.

54. ***Бясспрэчныя факты*** – у грамадзянскім праве і працэсе абставіны, што маюць значэнне для правільнага вырашэння грамадзянскай справы, аб існаванні якіх бакі не спрачаюцца.

55. ***Валютнае заканадаўства*** – сістэма прававых нормаў, якія ўсталёўваюць парадак здзяйснення міжнародных разлікаў і інш. Аперацыі з валютнымі каштоўнасцямі як унутры дзяржавы, так і ва ўзаемаадносінах арганізацый і грамадзян адной дзяржавы з арганізацыямі і грамадзянамі другой дзяржавы.

56. ***Валютныя аперацыі*** – урэгуляваныя нацыянальным заканадаўствам ці міжнароднымі пагадненнямі аперацыі, прадметам якіх з'яўляюцца валютныя каштоўнасці.

57. ***Валютныя злачынствы*** – у сучасным крымінальным праве злачынствы, якія заключаюцца ў замахах на дзяржаўную валютную манаполію.

58. ***Вахтавы метад*** (ад ням. Wacht варта) – спецыфічная форма арганізацыі вытворчасці і пераразмеркаванне працоўных рэсурсаў, пры якой зменны персанал рэгулярна дастаўляецца, паводле ўстаноўленага графіка, на значна аддаленыя ад месца пастаяннага жыхарства аб'екты, дзе жыве ў спецыяльна створаных вахтавых пасёлках і працуе па рэжымах, заснаваных на падсумаваным уліку працоўнага часу.

59. ***Версія (ад позналац. versio паварот) –*** адно з некалькіх выкладанняў ці тлумачэнняў якога-небудзь факта, падзеі, якія адрозніваюцца адзін ад аднаго; у следчай і судовай практыцы меркаванне (гіпотэза) следчага або суда пра наяўнасць ці адсутнасць падзей або фактаў з тых, якія маюць значэнне для правільнага вырашэння справы і абгрунтаваны на доказах і матэрыялах пэўнай крымінальнай справы, а таксама магчымае тлумачэнне іх узнікнення і характару. Версія будуецца з улікам вопыту расследавання аналагічных спраў.

60. ***Вета*** (ад лац. veto забараняю) – у шырокім сэнсе слова вусная ці пісьмовая забарона якога-небудзь рашэння ўпаўнаважаным на гэта органам ці асобай; забарона, накладзеная адным огранам улады на пастанову другога. Адрозніваюць ***абсалютнае вета***, калі кіраўнік дзяржавы мае права канчатковага адхілення закону, і ***адноснае вета***, калі адмаўленне кіраўніка дзяржавы санкцыянаваць закон толькі прыпыняе ўступленне яго ў сілу.

61. ***Віды пакарання*** – у крымінальным праве віды асобых мер дзяржаўнага прымусу, якія прымяняюцца судом ад імя дзяржавы за здзяйсненне злачынства.

62. ***Вобыск*** – следчае дзеянне, накіраванае на атрыманне доказаў па крымінальнай справе, праводзіцца з мэтай пошукаў і адабрання прылад злачынства, прадметаў і каштоўнасцей, набытых злачынным шляхам, а таксама іншых рэчаў і дакументаў, якія могуць мець значэнне для справы.

63. ***Вопіс маёмасці*** – акт, складзены для забеспячэння спагнання маёмасці па выканаўчых дакументах судовым выканаўцам ці іншымі асобамі, якія маюць права налажыць арышт на маёмасць.

64. ***Вочная стаўка*** – у сучасным крымінальным працэсе допыт у прысутнасці адзін аднаго дзвюх раней апытаных асоб, у паказаннях якіх маюцца значныя супярэчнасці.

65. ***Вуснасць судовага разбору*** – у сучасным працэсуальным праве адна з агульных умоў судовага разбору, якая заключаецца ў тым, што усе асобы, выкліканыя ў суд, даюць свае паказанні і тлумачэнні вусна, даследуемыя матэрыялы і дакументы абмяркоўваюцца і агалошваюцца вусна.

66. ***Вызваленне датэрміновае*** – у сучасным праве вызваленне асуджанага ад далейшага адбывання пакарання да канца тэрміну, вызначанага прыгаворам суда.

67. ***Вызначэнне суда*** – у сучасным крымінальным працэсе усялякае, акрамя прыгавору, рашэнне, вынесенае судом першай інстанцыі пры вытворчасці па крымінальнай справе.

68. ***Выкананне абавязацельстваў*** – здзяйсненне дзеянняў, якія складаюць змест абавязацельства: перадача рэчаў, выкананне работ, аказанне паслуг і г.д.

69. ***Выканаўчыя дакументы*** – у сучасным праве падстава для ўзбуджэння выканаўчай вытворчасці і здзяйснення судовым выканаўцам дзеянняў па прымусовым выкананні судовых рашэнняў, а таксама пастанаўленняў і рашэнняў іншых органаў.

70. ***Выключная мера пакарання*** – сучаснае крымінальнае заканадаўства дапускае прымяненне смяротнага пакарання – расстрэлу – ў выглядзе выключнай меры пакарання аж да самай яго адмены.

71. ***Вэксаль*** (ад ням. Wechsel перамена, размен) – адзін з відаў каштоўных папер. Сведчыць пра нічым не абумоўленае абавязацельства вэксалядаўцы ***(просты вэксаль)*** або іншага пазначанага ў вэксалі плацельшчыка ***(пераводны вэксаль)*** выплаціць з надыходам прадугледжанага тэрміну пэўную суму вэксалетрымальніку.

72. ***Галіна права*** – адасобленая група прававых нормаў і інстытутаў, аб'яднаных агульнасцю рэгулюемых ці аднародных грамадскіх адносін.

73. ***Галоснасць судаводства*** – у сучасным праве канстытуцыйны прынцып судаводства, які прадугледжвае адкрыты разгляд спраў ва ўсіх судах.

74. ***Гарантыі працэсуальныя*** – сістэма прававых сродкаў, усталяваных законам для забеспячэння належнага адпраўлення

правасуддзя, ажыццяўлення задач судаводства па крымінальных і грамадзянскіх справах.

75. ***Гарантыйны тэрмін*** – тэрмін, на працягу якога даўжнік адказвае перад крэдыторам за дабраякаснасць переданай рэчы ці выкананай працы.

76. ***Гаспадарчае аб'яднанне*** – адзіны вытворча-гаспадарчы комплекс, у склад якога уваходзяць самастойныя прадпрыемствы ці вытворчыя адзінкі.

77. ***Гаспадарчае права*** – сукупнасць прававых нормаў, якія вызначаюць парадак кіраўніцтва гаспадарчай дзейнасцю ці яе ажыццяўленнем, рэгулююць узнікаючыя пры гэтым гаспадарчыя адносіны паміж арганізацыямі, а таксама паміж іх падраздзяленнямі.

78. ***Гаспадарчы разлік*** – метад планавага вядзення гаспадаркі і кіраўніцтва эканомікай, заснаваны на выкарыстанні дзеяння аб'ектыўных эканамічных законаў.

79. ***Гаспадарчыя злачынствы*** – грамадска небяспечныя пасягненні на грамадскія адносіны, якія складваюцца ў сферы вытворчасці, размеркавання і абмену тавараў, аказання паслуг, выкарыстання прыродных багаццяў.

80. ***Гіпотэза*** (ад лац. hypothesis аснова, меркаванне) – у праве: структурная частка нормы права.

81. ***Грамадзянскія правы і абавязкі*** – паняцце, якое ўжываецца ў грамадзянскім праве для вызначэння правоў і абавязкаў, што складаюць змест грамадзянскіх праваадносін.

82. ***Грамадзянства*** – палітычна-прававая прыналежнасць асобы да пэўнай дзяржавы, у сілу якой на асобу пашыраецца суверэнітэт гэтай дзяржавы і асоба карыстаецца дзяржаўнай аховай сваіх правоў і законных інтарэсаў як унутры краіны, так і за яе межамі.

83. ***Грамадская ахова правапарадку*** – ажыццяўляемая ў разнастайных формах дзейнасць грамадскіх арганізацый, працоўных калектываў і асобных грамадзян, накіраваная на прадухіленне і выкараненне правапарушэнняў.

84. ***Грамадская бяспека*** – сістэма грамадскіх адносін і юрыдычных нормаў, якая рэгулюе гэтыя адносіны ў мэтах забеспячэння грамадскага спакою, нармальнай працы і адпачынку грамадзян, нарматыўнай дзейнасці дзяржавы і грамадскіх арганізацый, устаноў і прадпрыемстваў.

85. ***Грамадскі абаронца*** – старшыня грамадскай арганізацыі працоўнага калектыву, які ўдзельнічае ў судовых разборах крымінальнай справы.

86. ***Грамадскі лад*** – сістэма грамадскіх адносін, уласцівая грамадству на канкрэтным этапе яго развіцця.

87. ***Грашовы налік*** – мера матэрыяльнага ўздзеяння, якая прымяняецца да службовых асоб у выпадках, прадугледжаных заканадаўствам.

88. ***Даведка*** – 1) пісьмова афармленыя звесткі аб чым-небудзь, дадзеныя ці атрыманыя ў адказ на запыт; 2) від афіцыйнага дакумента з пэўнымі звесткамі.

89. ***Давядзенне да самагубства*** – у сучасным крымінальным праве грамадска небяспечнае дзеянне, умовы адказнасці за якое ўстаноўлены заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

90. ***Дагавор на карысць трэцяй асобы*** – у сучасным грамадскім праве пагадненне бакоў, адпаведна з якім выкананне дагавора можа патрабаваць як асоба, што заключыла дагавор, так і трэцяя асоба, на карысць якой абумоўлена выкананне, паколькі іншае не прадугледжана законам, дагаворам і не выцякае з сутнасці абавязацельства.

91. ***Дарадчы голас*** – у адрозненне ад рашаючага голасу не мае юрыдычнага значэння. Права дарадчага голасу звычайна маюць асобы, якія не ўваходзяць у склад тых органаў, што прымаюць дадзенае рашэнне.

92. ***Даўнасць прыцяжэння да крымінальнай адказнасці*** – усталяваны крымінальным законам тэрмін, па зыходзе якога асоба не нясе крымінальнай адказнасці за здзейсненае ёю злачынства.

93. ***Дзяржаўнае права*** – галіна сучаснага права, якую ўтварае сукупнасць дзяржаўна-прававых нормаў, што замацоўваюць асновы грамадскага ладу, свабоды і абавязку, становішча грамадзян, іх правы.

94. ***Дзяржаўная пошліна*** – грашовы збор, які ажыццяўляецца адпаведнымі дзяржаўнымі органамі – судамі, арбітражам, натарыятам і інш. – пры выкананні імі пэўных функцый.

95. ***Дробнае хуліганства*** – адміністрацыйнае праваparушэнне, якое мяжуе з хуліганствам, за якое прадугледжана крымінальная адказнасць.

96. ***Дэпартацыя*** (ад лац. deportatio выгнанне, ссылка) – прымусовая высылка асобы ў іншую дзяржаву, звычайна пад канвоем.

97. ***Жыллёвае заканадаўства*** – у сучасным праве сукупнасць нормаў, рэгулюючых комплекс жыллёвых адносін – па кіраўніцтве, эксплуатацыі і рамонту жыллёвага фонду, уліку грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, правы асабістай маёмасці на жылы дом.

98. ***Жыллёвы кодэкс*** – комплексны закон, які ўтрымлівае нормы правоў, што рэгулююць жыллёвыя грамадскія адносіны, і тыя, што спадарожнічаюць ім.

99. ***Жылое памяшканне*** – складаецца з асобнай кватэры, аднаго або некалькіх пакояў у дамах розных жыллёвых фондаў, прызначана для пастаяннага пражывання грамадзян.

100. ***Забастоўка*** – спыненне працы як крайні сродак вырашэння калектыўных працоўных спрэчак.

101. ***Забеспячэнне іску*** – у сучасным праве прыняцце мер, якія забяспечваюць рэальнасць выканання будучага судовага ці арбітражнага рашэння.

102. ***Завочны разгляд справы*** – у крымінальным працэсе разгляд судом справы пры адсутнасці падсуднага.

103. ***Завяшчанне, тэстамент*** – асабістае распараджэнне грамадзяніна-спадчынадаўцы, зробленае ва ўстаноўленай законам форме, якім ён вызначае лёс сваёй маёмасці ў выпадку смерці.

104. ***Закон аб уласнасці*** – закон, які рэгулюе адносіны ўласнасці ў Рэспубліцы Беларусь, дзеля чаго вызначае кола ўласнікаў, формы ўласнасці, асновы ўзнікнення права ўласнасці, змест і аб’ект права ўласнасці, гарантыі права ўласнасці і яго абарону.

105. ***Залік сустрэчных патрабаванняў*** – у грамадзянскім праве адзін са спосабаў частковага спынення абавязкаў дзвюх асоб (адна перад адной).

106. ***Замах на злачынства*** – у сучасным крымінальным праве наўмыснае дзеянне, непасрэдна накіраванае на здзяйсненне злачынства, калі пры гэтым злачынства не было даведзена да канца па прычынах, незалежных ад волі таго, хто замахваўся.

107. ***Злоўжыванне правам*** – выкарыстанне канкрэтнага права, якое належыць суб’екту супраць інтарэсаў іншага суб’екта.

108. ***Злоўжыванне ўладай або службовым становішчам*** – наўмыснае выкарыстанне службовай асобай свайго службовага становішча насуперак інтарэсам службы, якое зроблена з карыслівай ці іншай асабістай зацікаўленасці і прычыніла істотную шкоду дзяржаўным або грамадскім інтарэсам грамадзян, што ахоўваюцца законам.

109. ***Зямельнае права*** – галіна права, якая рэгулюе зямельныя адносіны ў мэтах рацыянальнага і эфектыўнага выкарыстання і аховы земляў, утварэння умоў павышэння эфектыўнасці іх выкарыстання, ахову правоў арганізацый і грамадзян як землекарыстальнікаў.

110. ***Ідэнтыфікацыя*** (ад лац. identifico атаясамліваю) – пашыраны прыём пазнавальнай дзейнасці, які выкарыстоўваецца ў розных галінах ведаў. У крыміналістыцы ідэнтыфікацыя ўяўляе сабой вучэнне пра агульныя прынцыпы і правілы атаясамлівання

матэрыяльных аб’ектаў па іх слядах або іншых адбітках з мэтаю атрымання судовых доказаў.

111. ***Імпічмент*** (ад англ. impeachment прыцягненне да суда) – парламенцкая працэдура адхілення вышэйшых службовых асобаў дзяржавы ад пасады за іх проціпраўныя дзеянні.

112. ***Інвестыцыя*** (ням. Investition ад лац. investio надзяліць) – матэрыяльны рэсурс і іншая маёмасная і інтэлектуальная каштоўнасць, якая ўкладваецца ў аб’екты прадпрымальніцкай і іншых відаў дзейнасці, у выніку якой утвараецца прыбытак або дасягаецца сацыяльны эфект.

113. ***Іскавая заява*** – форма выражэння іску, якая павінна змяшчаць найменне суда, куды яно адрасавана, найменне адрасу бакоў, фактычныя падставы іску і пацвярджаючыя іх доказы, змест патрабавання і цану іску, пералік дадаваемых дакументаў.

114. ***Кааператыўная ўласнасць*** – калектыўная ўласнасць асобных кааператываў, іх аб’яднанняў.

115. ***Кампенсаваная выплата*** – у сучасным працоўным праве пакрыццё дадатковых выдаткаў рабочых і служачых у сувязі з выкананнем працоўных абавязкаў ці пры пераездзе на працу ў іншую мясцовасць.

116. ***Канстытуцыйнае права*** – у прававой сістэме рада замежных дзяржаў назва галіны права, прадметам прававога рэгулявання якога з’яўляюцца прынцыпы арганізацыі і парадак функцыянавання дзяржаўнай улады, прававое становішча грамадзян і іх узаемаадносіны з дзяржавай.

117. ***Касацыянай скарга*** – скарга на прыгавор або рашэнне суда, якія не ўступілі ў законную сілу.

118. ***Крымінальнае права*** – галіна права, якая ўяўляе сабой сукупнасць юрыдычных нормаў, што вызначаюць злачыннасць і пакаранне дзеянняў, небяспечных для дадзенай сістэмы права грамадскіх адносін.

119. ***Крыніца права*** – дзяржаўна-афіцыйная форма выяўлення, замацавання і існавання юрыдычных норм. Асноўныя крыніцы права: прававы звычай, юрыдычны прэцэдэнт, нарматыўна-прававы акт і нарматыўны дагавор.

120. ***Маёмасныя злачынствы*** – у сучасным крымінальным праве замах на маёмасныя правы і інтарэсы дзяржавы, прадпрыемстваў, устаноў, грамадскіх арганізацый і грамадзян.

121. ***Міжнароднае права*** – сукупнасць юрыдычных прынцыпаў і норм, рэгулюючых адносіны паміж дзяржавамі і іншымі ўдзельнікамі міжнародных зносін.

122. ***Нарматыўна-прававы акт*** – афіцыйны пісьмовы дакумент, які прымаецца ўпаўнаважаным органам дзяржавы; усталёўвае або змяняе нормы права.

123. ***Народны суд*** – асноўнае звяно судовай сістэмы Рэспублікі Беларусь, утвараецца ў раёне, горадзе. Разглядае усе грамадзянскія і крымінальныя справы, за выключэннем спраў, аднесеных законам да вядзення іншымі судамі.

124. ***Недапушчальнасць павароту да горшага*** – у сучасным крымінальным праве ўсталяваны законам недазвол пагоршыць становішча асуджанага, што падаў касацыйную скаргу, параўнальна з прыгаворам, які абскарджаны.

125. ***Норма права*** – усталяванае або санкцыянаванае дзяржавай і забяспечанае яе прымусовай сілай правіла, якое рэгулюе ўзаемаадносіны асобных людзей, органаў і арганізацый.

126. ***Паварот выканання судовага рашэння*** – у сучасным праве вяртанне адказчыку ўсяго таго, што было з яго спагнана на карысць істца па адмененым рашэнні.

127. ***Пазбаўленне волі*** – у сучасным крымінальным праве від пакарання, які заключаецца ў прымусовай ізаляцыі асуджанага ад грамадства і ўтрыманні яго пэўны тэрмін у папраўча-працоўных установах.

128. ***Пакіданне заявы без разгляду*** – спыненне або прыпыненне судаводства па цывільнай справе без вынясення рашэння пры наяўнасці перашкод да вядзення працэсу. Пералік падстаў: падача заявы ад недзеяздольнай асобы; падача заявы ад зацікаўленай асобы, якая не мае паўнамоцтваў для вядзення справы; знаходжанне ў вытворчасці суда аналагічнай справы; нез’яўленне без важкіх прычын па другім выкліку бакоў; другога нез’яўлення ў судовае паседжанне без важкіх прычын істца па справе аб скасаванні шлюбу, калі ад яго не паступіла заява аб разбіральніцтве справы ў яго адсутнасць.

129. ***Папярэдняе зняволенне*** – у сучасным крымінальным працэсе парадак утрымання пад вартай асоб, у адносінах да якіх абрана мера прысячэння ў выглядзе ўзяцця пад варту.

130. ***Пастанова следчага органа*** – у сучасным крымінальным працэсе рашэнне следчага, прынятае пры вядзенні папярэдняга следства, ці асобы, што робіць дазнанне.

131. ***Плацёжнае патрабаванне*** – разліковы дакумент, які змяшчае патрабаванне пастаўшчыка і іншых атрымальнікаў сродкаў плацёжніку аб праплаце азначанай сумы праз банк.

132. ***Прававое рэгуляванне*** – форма рэгулявання грамадскіх адносін, пры дапамозе якіх паводзіны іх удзельнікаў прыводзяцца ў

адпаведнасць з патрабаваннямі і дазваленнямі, што змешчаныя ў нормах права.

133. ***Працоўнае права*** – галіна права, якая рэгулюе працу рабочых і служачых на прадпрыемствах, ва ўстановах, арганізацыях.

134. ***Прэзумпцыя невінаватасці*** – у праве становішча, згодна з якім абвінавачваемы лічыцца невінаватым, пакуль яго віна не будзе даказана ва ўсталяваным законам парадку.

135. ***Публічнае права*** – сукупнасць галін права, якія рэгулююць адносіны, што забяспечваюць агульны сукупны інтарэс пануючага класа, накіраваных на абарону прыватнага інтарэсу індывідуальнай маёмасці ці аб'яднання.

136. ***Рашэнне судовае*** – у сучасным праве пастанаўленне суда 1-й інстанцыі, якім грамадзянская справа ажыццяўляецца па сутнасці.

137. ***Санкцыі дагаворныя*** – у сучасным грамадзянскім праве прадугледжаныя законам і дагаворам меры маёмаснага ўздзеяння, закліканыя забяспечваць належнае выкананне заключаных арганізацыямі гаспадарчых дагавораў.

138. ***Сістэма права*** – галіна нацыянальная. Права, заключанае ў падзеле адзіных па сваёй класавай накіраванасці і прызначэнні ў грамадзянскім жыцці ўнутрана ўзгодненых нормаў па азначанай частцы, называемай галінамі і інстытутамі права.

139. ***Спадчыннае права*** – частка грамадзянскага права, сукупнасць прававых нормаў, якія ўсталёўваюць парадак пераходу правоў і абавязкаў памерлай асобы па праве наследвання.

140. ***Суб'ект права*** – асоба, якая валодае па закону здольнасцю мець і ажыццяўляць непасрэдна або праз прадстаўніка правы і юрыдычныя абавязкі.

141. ***Судовы разбор*** – у сучасным крымінальным працэсе найгалоўнейшая стадыя працэсу, якая заключаецца ў разглядзе ва ўсталяваным законам парадку ў судовым пасяджэнні крымінальных спраў і ўжыванні ўсталяваных законам мер пакараня асоб, вінаватых у здзяйсненні злачынстваў, або апраўданні невінаватых.

142. ***Сустрэчны іск*** – самастойнае іскавае патрабаванне адказчыка да істца, заяўленае у судзе ці арбітражы ва ўзнікаючым ужо працэсе для самастойнага разгляду першапачатковага іску, сродак абароны адказчыка супраць прад'яўленага іску.

143. ***Тайнае галасаванне*** – від галасавання, пры якім адсутнічае кантроль за волевыяўленнем галасуючага.

144. ***Таварыскі суд*** – выбарны грамадскі орган, закліканы садзейнічаць выхаванню грамадзян, разглядае справы пра парушэнні працоўнай дысцыпліны, нязначныя злачынствы, ганебныя паводзіны ў грамадскіх месцах і інш.

145. ***Удзельнікі крымінальнага працэсу*** – удзельнікі працэсуальных правазносін, якія узнікаюць у сувязі з вытворчасцю па крымінальнай справе.

146. ***Узбуджэнне крымінальнай справы*** – першапачатковая стадыя крымінальнага працэсу, у якой пракурор, следчы, орган дазнання або суддзя, разгледзеўшы атрыманыя звесткі аб здзейсненым або рыхтуемым злачынстве, прымае рашэнне аб узбуджэнні крымінальнай справы або адмове ў гэтым.

147. ***Умоўнае асуджэнне*** – мера крымінальна-прававога ўздзеяння, якая прымяняецца судом да асобы, прыгаворанай судом да пазбаўлення волі ці выпраўных работ, з улікам усіх абставін справы і асобы вінаватага.

148. ***Фактычны шлюб*** – шлюбныя зносіны, не афармленыя ва ўстаноўленым законам парадку.

149. ***Цана іску*** – грашовае выражэнне маёмасных патрабаванняў, заяўленых істцом у судзе або арбітражы.

150. ***Цывільны абарот*** – цывільна-прававое выражэнне эканамічнага абароту у форме дагаворных і пазадагаворных абавязацельстваў.

151. ***Цывільны адказчык*** – у крымінальным працэсе асоба, якая нясе матэрыяльную адказнасць за шкоду, нанесеную злачынствам.

152. ***Цывільны ісцец*** – у сучасным крымінальным працэсе грамадзянін альбо юрыдычная асоба, якія панеслі матэрыяльную страту ад злачынства і прад’явілі патрабаванні аб яе кампенсаванні.

153. ***Цывільны іск*** – у сучасным праве патрабаванне грамадзяніна або юрыдычнай асобы аб кампенсацыі матэрыяльнай шкоды, панесенай ад злачынства, заяўленае ў працэсе па крымінальнай справе і разглядаемае разам з крымінальнай справай.

154. ***Цывільны працэс*** – усталяваны нормамі цывільна-працэсуальнага права парадак разбіральніцтва і вырашэння судом грамадзянскіх спраў, а таксама парадак выканання пастаноў судоў і некаторых іншых органаў.

## Пытанні

1. На якія дзве групы паводле выкарыстання падзяляецца лексіка беларускай мовы?
2. Якія групы слоў уваходзяць у склад лексікі абмежаванага ўжывання?
3. Дайце вызначэнні паняцця “тэрміналогія”.
4. Калі закладаліся асновы юрыдычнай тэрміналогіі ў беларускай мове?
5. Што такое тэрмінасістэма?

6. Растлумачце значэнне паняцця “тэрмін”.
7. Прывядзіце прыклады ўласнабеларускіх і запазычаных юрыдычных тэрмінаў.

**Заданні**

**1.** Параўнайце два ўрыўкі. Вызначце стыль мовы, знайдзіце тэрміны ў абодвух урыўках.

Старшыня зноў выклікаў Пошту:

- Вось сведка Відуцкі кажа, што ў тую ноч, калі пакралі коні, Даніла Наздрэйка цэлую ноч быў у млыне. Што вы на гэта скажаце?
- А што мне да таго. Мусіць, патрэба нейкая была.
- Як! – здзівіўся суддзя. – Вы ж толькі што казалі, што вы бачылі, як абодва Наздрэйкі позна ноччу выйшлі з хаты і, крадучыся, пайшлі на агарод.
- Я не казаў, што бачыў.
- Дык адкуль жа вы ведаеце, што яны выходзілі з хаты?
- Сам гаспадар, у каго каня ўкралі, Сомік гэта бачыў. Ён жа хлусіць не будзе.

У зале зноў засмяяліся. Старшыня таксама іранічна ўсміхнуўся і больш не дапытваўся.

Радзіліся нядоўга. Праз хвілін дваццаць абвясцілі прысуд, паводле якога вінаватасць Наздрэйкаў у крадзяжы коней лічылася недаведзенай. Справу пастаноўлена было спыніць, і судовыя выдаткі ў суме 10 рублёў 12 капеек спагнаць з Соміка.

Калі вышлі на двор, малады Наздрэйка спыніўся, чакаючы, пакуль будзе праходзіць Сомік.

– Не чапай ты яго, няхай яго сарочка не чапае, гэтага чалавека. Хадзем, - цягнуў бацька Міколу за рукаў.

Даніла баяўся суда і рад быў цяпер, што так яно скончылася. Але Мікола ніяк не мог забыцца ні тых двух тыдняў, калі яны з бацькам сядзелі ў каталажцы, пакуль скончылася следства па гэтай справе, ні таго, як на яго сёння глядзелі ўсе людзі з варожай зацікаўленасцю, як на злодзея, як ён не адважваўся падняць вачэй, каб глянуць на людзей, і як гарэлі яго вушы ад сораму і абурэння.

(*К.Крапіва* “*Мядзведзічы*“)

Суб’ектам крымінальнай адказнасці можа быць толькі фізічная асоба, якая дасягнула адпаведнага ўзросту і сваімі дзеяннямі ўчыніла злачынства. Крымінальная адказнасць заўсёды ўздзейнічае непасрэдна на асобу злачынца, нават калі яна суправаджаецца прымяненнем такіх мер пакарання, як штраф або канфіскацыя. Асаблівасцю крымінальнай адказнасці з’яўляецца і тое, што яе ўжыванне звязана з прымяненнем у адносінах да

злачынца дастаткова суровых, неспрыяльных для яго мер уздзеяння. З гэтым звязана і яшчэ адна яе асаблівасць. Ускладанне крымінальнай адказнасці ажыццяўляецца толькі судом – шляхам рэалізацыі судовай улады дзяржавы. Парадак ускладання і ўмовы рэалізацыі крымінальнай адказнасці адпаведна рэгламентуюцца нормамі крымінальна-працэсуальнага і крымінальна-выканаўчага права. Аднак сутнасць, змест і межы крымінальнай адказнасці вызначаюцца нормамі крымінальнага права.
*(А.У. Баркоў, І.А. Грунтоў, Т.І. Доўнар і інш.* "*Крымінальнае права Беларусі*").

**2.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Назавіце тэрміны.

**Статья 70.** Назначение более мягкого наказания, чем предусмотрено за данное преступление

Суд с учетом личности виновного при наличии исключительных обстоятельств, связанных с целями, мотивами, ролью лица и его поведением во время или после совершения преступления, которые существенно уменьшают степень общественной опасности деяния, может назначить наказание ниже низшего предела, предусмотренного соответствующей статьей Особенной части настоящего Кодекса, либо назначить более мягкий вид наказания, чем предусмотрено этой статьей, либо не применить дополнительное наказание, предусмотренное в качестве обязательного.

Исключительными могут быть признаны как отдельные смягчающие обстоятельства, так и совокупность таких обстоятельств.

**Статья 71.** Назначение наказания при повторности преступлений, не образующих совокупности

При совершении повторно преступления одного и того же вида, если каждое из них предусмотрено различными частями статьи Особенной части нашего Кодекса, либо при совершении в одном случае оконченного, а в другом – неоконченного такого же преступления, либо когда в одном случае лицо является исполнителем преступления, а в другом – иным соучастником такого же преступления, каждое из этих преступлений оценивается самостоятельно. Наказание в этих случаях назначается за каждое преступление отдельно, и окончательное наказание определяется путем поглощения менее строгого наказания более строгим.

("*Уголовный кодекс Республики Беларусь")*

**3.** Да прыведзеных тэрмінаў падбярыце антанімічныя:

Пазітыўны –... Знешні гандаль – ... Назначэнне пакарання – ... Адтэрміноўка прыгавору – ... Заключэнне шлюбу – ... Асуджэнне – ... Мірнае суіснаванне – ... Наўмысная віна – ... Множнасць злачынстваў – ... Прыватная маёмасць – ... Тайна перапіскі – ... Пакаранне – ... Здрада дзяржаве – ... Арышт – ...

***<u>Для даведак:</u>***

зняцце пакарання, выкананне прыгавору, апраўданне, варожыя адносіны, неасцярожная віна, агульная маёмасць, галоснасць перапіскі, памілаванне, адданасць дзяржаве, скасаванне шлюбу, адзінкавыя злачынствы, негатыўны, унутраны гандаль, вызваленне.

**4.** Зрабіце пераклад тэксту на беларускую мову. Назавіце тэрміны.

Компенсационные выплаты отличаются от заработной платы, так как их размер не зависит от труда и его результатов. В отличие от гарантийных выплат они имеют целью возместить работнику понесенные расходы. В пределах норм, установленных законодательством, компенсации относятся на себестоимость продукции ( работ, услуг) и не облагаются подоходным налогом. Предприятия и другие субъекты хозяйствования негосударственной формы либо государственные, но не получающие дотации из бюджета, вправе устанавливать более высокие размеры выплат, чем предусмотрено в законодательстве. Их повышенная часть не относится на себестоимость продукции, а выплачивается за счет прибыли предприятия и включается в доход работника, подлежащий обложению подоходным налогом. Основные виды компенсационных выплат следующие: командировочные; надбавки взамен командировочных расходов, в том числе за подвижной и разъездной характер работы; по переезду на работу в другую местность; за износ своего инструмента, автомобиля; невыданную спецодежду.

*(“Трудовое право“ под общ.ред. Семенкова В.И).*

**5.** Перакладзіце тэкст на сучасную беларускую літаратурную мову.

АРТЫКУЛЪ 11.

О дѣвкахъ и вдовахъ,
которіе за простыхъ людей замужъ идуть.

Уставуемъ, которая бы дhвка або вдова, будучы стану шляхецского, маючы имhнья отчызные або материстые, пошла замужъ за простого стану человhка не шляхтича; таковая отъ всихъ имhней своихъ якъ отчызныхъ такъ материстыхъ вhчности отпадываеть, але тые имhнья на близкихъ мають прійти, а по вдовh на дhти и тежъ на близкихъ ее, которые дhти яко близкіе предсе будуть повинни таковой дhвцh або вдовh за тые имhнья ее отложыти суму пенезей подлh ша- цунку статутового, але по половицы, то есть даючы за кождую службу людей пять копъ грошей, а иншые кгрунты сумы по половицы, яко въ томъ статутh о томъ шырей написано, а вhно описаное все тратятъ, и не повинни будуть дhти и близкіе таковой вhна откладати.

*(Статут Вялікага Княства Літоўскага 1566 г.)*

**6.** Прачытайце і перакажыце тэкст, як вы яго зразумелі

АРТЫКУЛЪ 2.

О опецh отцовской.

Тежъ уставуемъ, если бы отецъ мhлъ дhти недорослые лhтъ, которые бы мhли имhнье материстое обоимъ записа- ное; тогды якъ дhтьми самыми отецъ, такъ и таковымъ имhньемъ ихъ материстымъ и якимъ кольвекъ ихъ властнымъ, опекунъ маеть быти до лhтъ ихъ дорослыхъ, а кгды лhтъ доростутъ, маеть имъ тые имhнья зъ опеки своее пустити, и личбы ни которое имъ чинити не повиненъ. Одно жъ часу опеки своее не мають моцы ничого оныхъ имhнейвъ руки чужіе а ни вhчнымъ а ни заставнымъ правомъ и обычаемъ впущати; а хотя хъ бы и впустилъ, тогды то дhтемъ шкодити не маеть, але мають того на држачомъ доходити, толко бы давности, вышедшие зъ опеки, не омhшкали. А тежъ кгды бы которого сына его власного имhнье набытое въ готовыхъ пенезей або якихъ кольвекъ речахъ отецъ за живота своего на свои потребы выдалъ, а потомъ самъ умеръ и колько бы сыновъ зоставилъ; тогды наипервей нижли дhлъ

ровный во имѣнью отчизны межи сынми будеть, мають они долгъ отца своего вси сынове съ тымъ посполу братомъ своимъ, чiи речи будуть, межи себе на ровные части розняти, и такъ кождый части своее оный долгъ брату своему отложившы, тожъ мають имѣнья отчизные въ ровный дѣлъ подѣлити.

*(Статут Вялікага Княства Літоўскага 1566 г.)*

**7.** Перакладзіце на беларускую мову наступныя тэрміны, што абазначаюць асобу паводле прафесіі, сферы дзейнасці, утваральнага дзеяння.

Владелец, укрыватель, пользователь, наниматель, получатель, основатель, распространитель, заверитель, посетитель, похититель, расхититель, попуститель, нарушитель, содержатель.

**Словы для даведак:**

*Наведвальнік, выкрадальнік, раскрадальнік, патуральнік, наймальнік, атрымальнік, заснавальнік, парушальнік, распаўсюджвальнік, завяральнік, утрымальнік, уладальнік, укрывальнік.*

**8.** Падбярыце беларускія адпаведнікі да прыведзеных тэрмінаў.

Представитель, заявитель, предъявитель, руководитель, строитель, наблюдатель, завещатель, сопроводитель, уведомитель, совместитель, хранитель, доверитель.

**9.** Утварыце назоўнікі-тэрміны з назвай асобы ад наступных дзеясловаў.

Назіраць, завяшчаць, суправаджаць, паведамляць, сумяшчаць, ахоўваць, давяраць, наймаць, заяўляць, прадстаўляць, прад'яўляць, кіраваць, заступацца, уладаць.

**10.** Падбярыце беларускамоўныя сінонімы да наступных словазлучэнняў.

Народный мститель, тайный доброжелатель, сторонний наблюдатель, толковый распорядитель, поджигатель холодной войны, грубый подстрекатель, далёкий отправитель, ответственный исполнитель, рядовой избиратель, счастливый обладатель, богатый попечитель, надоедливый проситель, народный заседатель.

**11.** Пастаўце наступныя назоўнікі-тэрміны і прозвішчы ў творным склоне адзіночнага ліку.

Векселедаўца Іваноў, ссудадаўца Пятрова, падаткадаўца Кавалева, законадаўца Сідараў, работадаўца Новікаў, выканаўца Сазонава, пераможца Ратнікаў, вытворца

Кузняцоў, справаводца Мядзведзева, таваравытворца Найдзёнава, правазнаўца Паўлава, забойца Кандратаў.

**12.** Складзіце сказы з наступнымі назоўнікамі-тэрмінамі:

Страхаўшчык, пайшчык, узломшчык, падзёншчык, ацэншчык, перакупшчык, скупшчык, здзельшчык, плацельшчык, падпольшчык, прагульшчык.

## Асаблівасці перакладу на беларускую мову

Адзін з метадычна абгрунтаваных і добра засвоеных прыёмаў працы над тэкстам – пераклад. Пераклад тэкстаў з беларускай мовы на іншыя і пераклад з іншых моў (часцей за ўсё, з рускай) на беларускую. Перакладанне тэкстаў дазваляе вырашаць адразу некалькі задач:

- павышае ўзровень прафесійнай адукаванасці;
- пашырае лексічны запас навучэнцаў;
- прымушае добра арыентавацаа ў падборы сінонімаў, антонімаў, амонімаў, паронімаў;
- вымагае добрага ведання граматычных нормаў беларускай мовы;
- замацоўвае правілы культуры маўлення і стылістыкі;
- пашырае, несумненна, агульнаінтэлектуальны ўзровень асобы.

Пры перакладанні тэкстаў на беларускую мову неабходна ўлічваць наступныя асаблівасці:

1. Памятаць, што ў беларускай мове назіраецца несупадзенне родавай прыналежнасці пэўных назоўнікаў у параўнанні з рускай мовай: запіс (м.р.) – запись (ж.р.); медаль (м.р.) – медаль (ж.р.); вопіс (м.р.) – опись (ж.р.).
2. Склонавыя канчаткі назоўнікаў агульнага роду ў беларускай мове адрозныя (*сведкам Максімам*, але *сведкай Наталляй*, *забойцам Пятровым*, але *забойцай Івановай*, *дарадцам Сямёнавым*, але *дарадцай Сямёнавай*),
3. Добра ведаць групы назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку з канчаткам –а(-я), -у(-ю) у родным склоне (*адваката*, *акта*, *аркуша*, але *закону*, *шлюбу*).
4. Вельмі звужана ў беларускай мове ўжыванне кароткіх формаў прыметнікаў і дзеепрыметнікаў (утвержденный закон и закон утвержден, а па-беларуску толькі – закон зацверджаны; подготовленный документ и документ подготовлен, а па-беларуску дакумент падрыхтаваны; злой человек и человек зол, а па-беларуску злы чалавек),
5. Пасля лічэбнікаў 2, 3, 4 ужываецца форма назоўнага склону множнага ліку: два судебных заседания – два судовыя пасяджэнні; три законодательных акта – тры заканадаўчыя акты; четыре главных юриста – чатыры галоўныя юрысты.
6. Рэдка ўжываюцца ў беларускай мове дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу з суфіксамі –уч- (-юч-), -ач- (-яч-). Гэта абумоўлена немагчымасцю размежавання аманімічных дзеепрыметных і дзеепрыслоўных формаў:

адказваючы студэнт, выступаючы адвакат, рашаючы юрысконсульт –неўжывальныя ў беларускай мове формы.

7. Для беларускай мовы не характэрныя зваротныя дзеепрыметнікі: улучшившиеся жилищные условия, собравшиеся на обсуждение депутаты, отличившиеся на этом процессе адвокаты – паслоўна на беларускую мову перакласці нельга.
8. У беларускай і рускай мовах аднолькавыя па значэнні словы ў некаторых выпадках маюць разыходжанні ў дзеяслоўным кіраванні:

– дзеясловы са значэннем ветлівасці (*даравацъ, дзякаваць, прабачыць*) у беларускай мове кіруюць давальным склонам: *дараваць чалавеку, дзякаваць адвакату, прабачыць хулігану*;

– дзеясловы руху (*бегчы, ісці, ехаць, паслаць* і інш.) пры абазначэнні мэты дзеяння ў беларускай мове кіруюць вінавальным склонам (з прыназоўнікамі *па* ці *у*): *пайсці па сведку, паслаць па следчага, ехаць у дровы*;

– дзеясловы *глуміцца, дзівіцца, жартаваць, здзекавацца, кпіць, насміхацца, рагатаць, смяяцца* ў беларускай мове кіруюць родным склонам з прыназоўнікам *з*: *насміхацца з таварыша, здзекавацца з малалетніх, кпіць з дарослых*;

– пры дапамозе прыназоўніка *па* дзеясловы і назоўнікі са значэннем дзеяння ў беларускай мове кіруюць месным склонам назоўнікаў множнага ліку: па вядомых законах (*весці справу*); *патрабаваць па адпаведных палажэннях*;

– дзясловы *хварэць, захварэць*, а таксама прыметнік *хворы* ў беларускай мове кіруюць вінавальным склонам з прыназоўнікам *на*: *хварэць на запаленне легкіх; хварэць на грып; хворы на галаву*;

– пры дзеясловах *ажаніць, ажаніцца*, як правіла, дапаўненне ўжываецца з прыназоўнікам *з* і ставіцца ў творным склоне: *ажаніўся з дачкою адваката, ажэніцца багаты з беднаю;*

– пры вызначэнні прасторы, адлегласці ад аднаго прадмета да другога ўжываюцца спалучэнні з прыназоўнікам *за*: *за тры крокі ад меня, за чатыры кіламетры ад станцыі, за дваццаць кіламетраў ад сталіцы*.

**Пытанні**

1. Чаму ў беларускай мове мала выкарыстоўваюцца кароткія фромы прыметнікаў і дзеепрыметнікаў?

2. На якой падставе для беларускай літаратурнай мовы не характэрна ўжыванне дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга часу?
3. Назавіце асноўныя асаблівасці дзеяслоўнага кіравання ў беларускай мове.

**Заданні**

1. Запішыце 10-15 пар назоўнікаў, у якіх назіраюцца разыходжанні ў родавай прыналежнасці ў рускай і беларускай мовах.
2. Выпішыце з прыведзенага ўрыўка назоўнікі мужчынскага роду, што маюць канчатак *–у(-ю)* у родным склоне адзіночнага ліку.

Аб'ект злачынства – гэта тое, на што замахваецца злачыннае дзеянне, чаму яно нясе ці можа прынесці шкоду. Кожнае грамадска небяспечнае дзеянне робіць замах на пэўны аб'ект і прычыняе яму шкоду рэальна або ставіць яго ва ўмовы непасрэднай магчымасці прычынення шкоды. Не існуе злачынстваў, якія б не цягнулі за сабой ніякай шкоды аб'екту.

У дактрыне айчыннага крымінальнага права аб'ектам злачынства прызнаюцца грамадскія адносіны. Кожнае злачыннае дзеянне з'яўляецца грамадска небяспечным таму, што замахваецца на грамадскія адносіны. Нясе ці можа прынесці ім істотную шкоду і менавіта ў сілу гэтага прызнаецца злачынствам. Ступень грамадскай небяспечнасці злачынства знаходзіць сваё выяўленне ў тым, якая шкода прычыняецца існуючым у грамадстве адносінам і якую сацыяльную каштоўнасць маюць гэтыя адносіны. Парушэнне злачынствам грамадскіх адносін выражаецца ў іх знішчэнні або змене, а ў некаторых выпадках – у пагрозе прычынення ім істотнай шкоды. Напрыклад, крадзёж прычыняе шкоду грамадскім адносінам уласнасці; цялеснае пашкоджанне – грамадскім адносінам, якія забяспечваюць грамадзянам іх здароўе; хабар – грамадскім адносінам у сферы дакладнага функцыянавання дзяржаўнага і грамадскага апарату.

Аб'ектам злачынства з'яўляюцца менавіта грамадскія адносіны, а не нейкія матэрыяльныя рэчы ці фізічныя асобы. Так, пры раскраданні маёмасці дзеянні злачынца накіраваны супраць існуючых у грамадстве адносін уласнасці, а не супраць канкрэтнай рэчы, якой ён завалодае. Самой рэчы шкода можа і не прычыняцца, наадварот, злачынец у большасці выпадкаў зацікаўлены ў захаванні і нават паляпшэнні яе спажывецкіх якасцей. Пры раскраданні рэч выходзіць са сферы прававога

валодання ўласніка і менавіта ў парушэнні адносін уласнасці праяўляецца шкода: уласнік не мае магчымасці карыстацца рэччу.

*(“Крымінальнае права Беларусі” пад рэд. дацэнта А.У.Баркова)*

3. Перакладзіце тэкст на беларускую мову.

Социологическое исследование, проведенное в 1993 г. и связанное с подготовкой первоначального варианта проекта Трудового кодекса Республики Беларусь, фактически явилось продолжением предыдущих исследований. Это исследование проводилось по репрезентативной квотно-гнездовой выборке, в 39-ти населенных пунктах, расположенных во всех регионах республики.

При проведении исследования ставились следующие задачи:

1. Помочь законодателям найти сбалансированные решения правовых вопросов, учитывающие как интересы государства, так и личные интересы различных категорий граждан.
2. Выявить возможности адаптации к условиям республики заимствованных из зарубежного опыта правовых норм.
3. Определить наличие социальной базы для практической реализации отдельных концептуальных положений и новых правовых норм трудового законодательства.
4. Проанализировать и предотвратить возможные нежелательные ситуации, связанные с правоприменительной практикой.

Конечно, по тем правовым нормам и положениям, которые подверглись социально-правовой экспертизе, эти задачи были в основном решены. Так, исследование подтвердило, что в республике создана и динамично развивается социальная база рыночных трудовых отношений. Одновременно явно обнаруживаются и негативные явления, связанные с этим процессом: недостаточная социальная и правовая защищенность работников частных предприятий и фирм, усиление эксплуатации, выраженное в отсутствии должного регулирования режима труда (распорядка и продолжительности рабочего дня, времени и продолжительности отпусков, работы в выходные дни и др.). Все это вызывает неудовлетворенность значительной части работников, занятых в негосударственном секторе.

*(Сборник “Актуальные проблемы трудового права”)*

4. Зрабіце пераклад на беларускую мову наступных словазлучэнняў:

Два интересных дела, три сложных расследования, два одновременно совершенных преступления, четыре нераскрытых убийства, три отягчающих вину обстоятельства, четыре сложных

уголовных процесса, два разбойных нападения, три запутанных дела, двое пострадавших, четыре присутствующих, трое обвиняемых.

5. Перакладзіце тэкст на беларускую мову і вызначце адметнасці перакладу.

Как же предлагается реформировать судебную систему в соответствии с Концепцией судебно-правовой реформы? Какими соображениями разработчики при этом руководствовались?

Вместо вышеназванной трехзвенной судебной системы предусматривается более разветвленная четырехзвенная система. Согласно Концепции судебно-правовой реформы, иерархия общих судов следующая: мировые суды – межрайонные (окружные) суды – областные суды (Минский городской суд) – Верховный суд.

Мировой суд в качестве низового звена судебной системы станет рассматривать в составе судьи дела об административных правонарушениях, а также достаточно простые гражданские и уголовные дела. Судебный округ, в границах которого будет действовать межрайонный (окружной) суд, должен разделяться на 7 – 9 судебных участков. В каждом из этих участков, обслуживающих определенное число населенных пунктов, будет находиться мировой или участковый судья.

Этот судья должен избираться населением на альтернативной основе (вместе с другими кандидатами) из числа граждан Республики Беларусь, имеющих высшее юридическое образование и стаж работы по юридической специальности не менее двух лет или прошедший стажировку в суде не менее года.

Должность мирового судьи мыслится как первая ступень в судебной карьере, которую, по общему правилу, должны пройти все профессиональные судьи прежде чем их назначат на должность судьи бессрочно. По существу мировые суды станут школой подготовки и становления судебных кадров.

*(И.И. Мартинович, М.И. Пастухов “Судебно-правовая реформа в Республике Беларусь”)*

6. Параўнайце 2 артыкулы. Адзначце асаблівасці перакладу.

**Артыкул 15.** Гаспадарчыя спрэчкі, якія вырашаюцца Вышэйшым Гаспадарчым Судом Беларускай ССР

Вышэйшы Гаспадарчы Суд Беларускай ССР вырашае:

спрэчкі, якія ўзнікаюць пры заключэнні, змяненні і скасаванні дагавароў, а таксама па выкананню дагавароў і на іншых падставах паміж бакамі, што знаходзяцца на тэрыторыі розных саюзных рэспублік, калі пагадненнем паміж гэтымі рэспублікамі,

пагадненнем бакоў або заканадаўчымі актамі вырашэнне гэтых спрэчак аднесена да кампетэнцыі Вышэйшага Гаспадарчага Суда Беларускай ССР;

спрэчкі, якія ўзнікаюць пры заключэнні, змяненні і скасаванні дагавароў, калі бакі знаходзяцца на тэрыторыі розных абласцей Беларускай ССР, на суму звыш 5 млн. рублёў;

спрэчкі, якія ўзнікаюць пры выкананні дагавароў і на іншых падставах, калі бакі знаходзяцца на тэрыторыі розных абласцей, пры цане іску звыш 1 млн. рублёў;

іншыя спрэчкі, аднесеныя да ведання Вышэйшага Гаспадарчага Суда Беларускай ССР заканадаўчымі актамі Беларускай ССР.

Вышэйшы Гаспадарчы Суд Беларускай ССР мае права ў межах падведамнасці спрэчак гаспадарчым судам Беларускай ССР прыняць да свайго вядзення справы і вырашыць любую спрэчку.

**Статья 15**. Хозяйственные и другие споры, подсудные Высшему Хозяйственному Суду Республики Беларусь

Высший Хозяйственный Суд Республики Беларусь решает:

споры, которые возникают при заключении, изменении и расторжении договоров, а также по исполнению договоров и по другим причинам между сторонами, которые находятся на территории различных государств, когда соглашением между этими государствами, соглашением сторон либо законодательными актами решение этих споров отнесено к компетенции Высшего Хозяйственного Суда Республики Беларусь;

споры, возникающие при заключении, изменении и расторжении договоров, если стороны находятся на территории разных областей Республики Беларусь, на сумму свыше 5 млн. рублей;

споры, возникающие при исполнении договоров и по другим основаниям, если стороны находятся на территории разных областей Республики Беларусь, при цене иска свыше 1 млн. рублей;

другие споры, отнесенные к ведению Высшего Хозяйственного Суда Республики Беларусь законодательными актами Республики Беларусь.

Высший Хозяйственный Суд Республики Беларусь вправе в пределах подведомственности споров хозяйственным судам Республики Беларусь определять подсудность хозяйственных и других споров, принимать к своему производству и разрешать любой спор.

*(Сборник “Законы Рэспублікі Беларусь”)*

## Афіцыйныя дакументы ў сферы юрыдычна-справавых зносін

Кожны юрыст любога ўзроўню і спецыялізацыі павінен умець правільна і пісьменна афармляць неабходную дакументацыю, бездакорна валодаць мовай судаводства. Дакументамі ( ад лац. documentum – доказ) называюцца “адпаведным чынам складзеныя, падпісаныя і засведчаныя справавыя паперы, якімі афармляюцца розныя гаспадарчыя аперацыі, прававыя адносіны і дзеянні юрыдычных асоб і грамадзян” (Рабинович П.А. Корреспонденция и делопроизводство. М., 1970. С. 5).

Для афармлення дакументаў выкарыстоўваецца афіцыйна-справавы стыль літаратурнай мовы, які вызначаецца лаканічнасцю, дакладнасцю, аб’ектыўнасцю, недапушчэннем двухсэнсоўнасці, ужывання размоўнай лексікі і слоў з эмацыянальнай афарбоўкай.

Прадпісальны характар некаторых дакументаў патрабуе шырокага выкарыстання дзеясловаў у неазначальнай форме. Да прыкладу:

Пацярпелы абавязаны:

1) з’яўляцца па вызаву органа, які вядзе крымінальны працэс;
2) даваць паказанні...;
3) прадставіць прадметы і дакументы, якія ў яго ёсць, а таксама ўзоры для параўнальнага даследавання...;
4) падвяргацца агляду...;
5) падвяргацца... амбулаторнай экспертызе...;
6) падпарадкоўвацца законным распараджэнням органа, які вядзе крымінальны працэс.

(гл. арт. 50 УПК Рэспублікі Беларусь)

Адметнай асаблівасцю мовы юрыдычных дакументаў з’яўляецца наяўнасць складаных адыменных прыназоўнікаў: *у мэтах, у адносінах, па дасягненні*; нанізванне роднага склону ў ланцужку назоўнікаў: *у мэтах шырокай галоснасці органаў дзяржаўнага кантролю, у выпадку няяўкі бакоў, у выпадку выяўлення ...* і інш. Патрабаванне дакладнасці тэксту часам вымагае паўтору назоўнікаў, а не замену іх на займеннік: “Прадаўцом жылога памяшкання на праве ўласнасці з’яўляецца Вішнеўская Галіна Іванаўна. Права ўласнасці Вішнеўскай Галіны Іванаўны зарэгістравана ў Адзіным дзяржаўным рэестры праў на нерухомую маёмасць і здзелак з ёю”.

Першаступеннае значэнне для выражэння прававых катэгорый, заканадаўчых актаў адводзіцца спецыяльным словам-тэрмінам. Да прыкладу: *абвінаваўчы прыгавор, допыт пацярпелага, крымінальны вышук, эксгумацыя, экспертыза, санкцыя пракурора, паняты, прывод, падсуднасць, касацыя, ісцец, дыпламатычны,*

*імунітэт, адказчык* і інш. Афармленне юрыдычна-справавой дакументацыі вызначаецца наяўнасцю вялікай колькасці ўстойлівых спалучэнняў слоў, своеасаблівых штампаў, канцылярызмаў: *давесці да Вашага ведама, ніжэйпадпісаны, вышэйназваны, устаноўлены парадак, дысцыплінарныя спагнанні, прыняць рашэнне, з Вашага дазволу, вышэйстаячыя органы, у сувязі з неабходнасцю, на аснове кантролю, у мэтах уздзеяння* і да т.п.

Пры афармленні юрыдычна-справавой дакументацыі неабходна пазбягаць няўдалых, шаблонных моўных зваротаў, якія не абапіраюцца на закон і моўныя нормы. Такімі да прыкладу, могуць быць: *"непасрэдны відавічца", "прывёў сябе ў стан алькагольнага ап'янення", "маюць месца факты", "праходзіць па крымінальнай справе", "ні ў чым нядобрым заўважаны не быў", "па сустрэўшайся неабходнасці"* і да т.п.

У юрыдычна-справавой дакументацыі непажаданы скарачэнні, якімі часам карыстаюцца юрысты ў гутарковай мове ("бомж", "сізо", "рэчдок" і інш.).

Кожны дакумент складаецца з асобных элементаў-рэквізітаў (аўтар, адрасат, подпіс, дата і г.д.). Розныя віды юрыдычных дакументаў маюць розны набор рэквізітаў, які абумоўліваецца прызначэннем дакументаў. У сферы юрыдычна-справавых зносін вылучаецца вялікая колькасць дакументаў, звязаных з рознымі грамадзянскімі, а таксама крымінальнымі судовымі справамі. Перадусім разгледзім працэсуальныя дакументы, якія прызначаны для перадачы суду. Да іх належаць рознага кшталту заявы, скаргі, хадайніцтвы, вызначэнні, пратаколы і інш.

Кожны працэсуальны дакумент павінен мець:

1) назву суда, у які ён падаецца;
2) найменне і месца жыхарства (месца знаходжання) падаўца дакумента, а таксама яго прадстаўніка, калі працэсуальны дакумент падаецца прадстаўніком;
3) найменне і месца жыхарства (месца знаходжання) асоб, якія маюць непасрэдную зацікаўленасць у выніку справы...;
4) назву дакумента (іскавая заява, скарга, пярэчанне супраць іску і г.д.);
5) сутнасць заяўленага патрабавання альбо хадайніцтва, а таксама іх абгрунтаванне;
6) пералік дадатку;
7) подпіс падаўца дакумента альбо яго прадстаўніка і дату падачы.

(гл. арт. 109 ГПК Рэспублікі Беларусь)

Адным з самых пашыраных працэсуальных дакументаў з'яўляецца іскавая заява аб узбуджэнні справы. Яе змест павінен

адпавядаць агульным патрабаванням, якія прад'яўляюцца да працэсуальных дакументаў. Акрамя гэтага ў ёй павінны быць указаны дакладнае абазначэнне патрабаванняў істца, факты, якімі ісцец абгрунтоўвае сваё патрабаванне, доказы, якія пацвярджаюць кожны з названых фактаў і да т.п.

(гл.: арт. 243 ГПК Рэспублікі Беларусь)

Да іскавых заяў адносяцца наступныя: заява аб прызнанні грамадзяніна прапаўшым без вестак альбо аб аб'яўленні яго памерлым, заява аб прызнанні грамадзяніна абмежавана дзеяздольным або недзеяздольным, заява аб аб'яўленні непаўналетняга цалкам дзеяздольным (эмансіпацыя), заява аб прызнанні рухомай рэчы безгаспадарнай, заява аб прызнанні спадчыны вымарачнай, заява аб аднаўленні правоў па дакументах на прад'яўніка, заява аб прымусовай гаспіталізацыі і лячэнні і інш.

## УЗОР ІСКАВАЙ ЗАЯВЫ

Суд Кастрычніцкага р-на г.Мінска
*Ісцец:* Літвіненка Васіль Іванавіч,
які пражывае па адрасу: г.Мінск,
вул. Аэрадромная, д.19, кв.25
*Адказчык:* Літвіненка Алена Мікалаеўна, якая пражывае па адрасу: г.Мінск,
вул. Аэрадромная, д.19, кв. 25

## ІСКАВАЯ ЗАЯВА

аб ліквідацыі перашкод у ажыццяўленні права ўласнасці

Адказчыца Літвіненка А.М. – мая былая жонка, у шлюбе з якой я знаходзіўся з 1992 года па 2000 год.

Ад дадзенага шлюбу у нас ёсць сын Алесь, 1993 года нараджэння.

У перыяд шлюбу ў 1997 годзе сумесна з Літвіненка А.М. мы прыватызавалі аднапакаёвую кватэру №25 у доме №19 па вуліцы Аэрадромнай у г.Мінску, у якой былі прапісаны і пражывалі разам з сынам. Агульная плошча кватэры 32,0 кв.метры жылая – 12,5 кв.метра.

Права ўласнасці на кватэру было зарэгістравана за Літвіненка А.М.

17.01.2004 года ў Дзяржаўнай натарыяльнай канторы Кастрычніцкага раёна №1 г.Мінска мною было атрымана пасведчанне аб праве ўласнасці на ½ долю вышэйзгаданай кватэры, якую я зарэгістраваў у органах БРТІН на сваё імя 27.01.2004 года.

04.03.2004 года паміж мной і былой жонкай быў заключаны дагавор куплі-прадажу прыналежнай ёй ½ долі кватэры. Дадзены дагавор засведчаны натарыусам Дзяржаўнай натарыяльнай канторы Кастрычніцкага раёна №1 г.Мінска і 10.03.2004 года зарэгістраваны у КУП БРТІН г.Мінска.

Такім чынам, мне на праве прыватнай уласнасці належыць уся кватэра. Адказчыца Літвіненка А.М. абавязалася пасля адчужэння мне сваёй долі выселіцца і выпісацца разам з сынам з кватэры. Аднак яны не зрабілі гэтага.

Пражыванне і прапіска адказчыцы ў кватэры стварае для мяне праблемы: так, я нясу дадатковыя выдаткі па аплаце за камунальныя паслугі, акрамя гэтага, не магу рэалізаваць свайго намеру па продажы дадзенай кватэры.

Па месцы працы на Мінскім заводзе халадзільнікаў Літвіненка А.М. атрымала двухпакаёвую кватэру № 14 у доме № 24 па вул. Пуліхава ў г.Мінску агульнай плошчай 58,63 кв.метра, жылой – 32,34 кв.метра.

Такім чынам, Літвіненка А.М. з сынам забяспечана другім жылым памяшканнем.

На падставе выкладзенага згодна з п.4 арт.123 ЖК Рэспублікі Беларусь, артыкулаў 275, 285, 529 ГК Рэспублікі Беларусь

**ПРАШУ**

Ліквідаваць перашкоды ў выкарыстанні і валоданні прыналежнай мне на праве прыватнай уласнасці кватэры № 25 дома 19 па вул. Аэрадромнай у г.Мінску, перасяліўшы Літвіненка Алену Мікалаеўну і Літвіненка Алеся з вышэйзгаданага жылога памяшкання ў кватэру № 14 дома 24 па вул. Пуліхава ў г.Мінску.

Абавязаць АПВС Кастрычніцкага раёна г.Мінска выпісаць адказчыцу Літвіненка Алену Мікалаеўну з кватэры № 25, дома № 19 па вул. Аэрадромнай у г. Мінску.

Дадатак:

1. Копія іскавай заявы.
2. Квітанцыя аб аплаце дзяржпошліны.
3. Копія тэхнічнага пашпарта.
4. Копія асабовага рахунку.
5. Копіі рэгістрацыйнага пасведчання.
6. Копіі дагавора.
7. Копія пасведчання аб скасаванні шлюбу.
8. Даведка МЗХ.

17.04.2004г.
В.І.Літвіненка

**Скарга** – афіцыйная заява аб незаконным або няправільным дзеянні якой-небудзь асобы, установы, арганізацыі. У сферы юрыдычна-справавых зносін скаргі могуць быць пададзены як у вуснай, так і ў пісьмовай форме. Вусныя скаргі заносяцца ў пратакол, які падпісвае заявіцель і службовая асоба, што прыняла скаргу. У залежнасці ад зместу адрозніваюцца скаргі: на дзеянні выбарчых камісій у выпадках, прадугледжаных законам; на пастановы дзяржаўных органаў і службовых асоб па справах адміністрацыйных правапарушэнняў грамадзян; на адмову органаў запісу актаў грамадзянскага стану унесці выпраўленні альбо змяненні ў запіс актаў грамадзянскага стану; на натарыяльныя дзеянні альбо адмову ад іх выканання; на дзеянні (бяздзеянні) дзяржаўных органаў і іншых юрыдычных асобаў і г.д. У змест скаргі ўваходзяць такія абавязковыя рэквізіты, як: назва ўстановы альбо суда, якому яна адрасуецца, звесткі пра асобу, якая падала скаргу, з указаннем яе працэсуальнага становішча (калі гэта тычыцца суда), а таксама месца жыхарства або месца знаходжання. Затым прыводзяцца доказы таго, хто падае скаргу з указаннем на тое, у чым заключаецца няправільнасць тых альбо іншых дзеянняў ці рашэнняў і ў чым заключаецца пералік матэрыялаў, якія дадаюцца да скаргі. Пад тэкстам скаргі ставіцца дата (злева) і подпіс асобы (справы), якая падала скаргу.

Сярод скаргаў, звязаных з судовымі працэсамі, вылучаюцца прыватныя і касацыйныя скаргі.

**Прыватная скарга** – скарга на вызначэнне суда першай інстанцыі і пастанову суддзі, якія не ўступілі ў сілу (не набылі моцы).

**Касацыйная скарга** – скарга на прыгавор, які не набыў моцы.

У змест касацыйнай скаргі, акрамя вышэйпералічаных рэквізітаў, павінны быць уключаны пастанова або рашэнне, якое абскарджваецца і назва суда, які вынес гэтую пастанову або рашэнне.

**Хадайніцтва** – афіцыйная просьба, скіраваная да органа, які вядзе судовы працэс. Хадайніцтва можа быць пададзена як у вуснай, так і ў пісьмовай форме. Вусныя хадайніцтвы заносяцца ў пратакол следчага дзеяння альбо судовага паседжання. Пісьмовыя хадайніцтвы далучаюцца да судовай справы. Гэта можа быць хадайніцтва аб правядзенні пэўных працэсуальных дзеянняў альбо прыняцці працэсуальных рашэнняў для ўстанаўлення абставін, якія маюць значэнне па судовай справе, а таксама забеспячэння правоў і

законных інтарэсаў той асобы, якая звярнулася з хадайніцтвам. Хадайніцтва павінна мець тыя ж рэквізіты, што і любы працэсуальны дакумент: назву ўстановы, у якую яно падаецца, найменне і месца жыхарства падаўца хадайніцтва, пералік неабходнага дадатку, подпіс падаўца і дату падачы. У тэксце павінна быць выкладзена сутнасць хадайніцтва і яго абгрунтаванне, указана, для ўстанаўлення якіх абставін неабходна правесці пэўныя працэсуальныя дзеянні альбо прыняць працэсуальныя рашэнні.

**Вызначэнне** – любое, акрамя прыгавору і пастановы, рашэнне, якое вынесена калегіяльным складам суда. Гэта могуць быць вызначэнні як па грамадзянскіх справах, так і па крымінальных: вызначэнне аб адмене рашэння і перадачы справы на новы разгляд; вызначэнне суда па заяве альбо прадстаўленню; вызначэнне аб адхіленні касацыйнай скаргі альбо касацыйнага пратэсту, вызначэнне аб вышуку даўжніка і інш. Некаторыя з іх афармляюцца на тыповых бланках. Так, вызначэнне аб вышуку даўжніка афармляецца на тыповым бланку, яго тэкст складаецца з трох частак: уступ альбо ўводная частка, канстатавальная частка (“суд устанавіў”) і вывады (“суд вызначыў”). Ва ўступнай частцы павінна быць паказана:

1) поўная назва вызначэння;
2) месца і дата яго вынясення;
3) назва ўстановы (суда), дзе яно выносіцца;
4) прозвішча, імя, імя па бацьку суддзі, які разглядае матэрыялы па выкананні судовага рашэння аб спагнанні аліментаў з грамадзяніна;
5) прозвішча, імя, імя па бацьку, год і месца нараджэння грамадзяніна, у адносінах якога прымаецца вызначэнне.

У канцы трэцяй часткі (“вызначыў”) ставіцца подпіс суддзі. Напрыклад:

***ВЫЗНАЧЭННЕ***
***аб вышуку даўжніка***

“10” лютага 2004г. Суддзя Кастрычніцкага раённага (гарадскога) суда г.Мінска (вобласці) Рэспублікі Беларусь Русакевіч Галіна Іванаўна, разгледзеўшы матэрыялы па выкананню судовага рашэння аб спагнанні аліментаў з грамадзяніна(кі) Вераб’я Мікалая Аляксандравіча, 17.10.1958 г.н., урадж. в. Дзівін Кобрынскага р-на Брэсцкай вобл.

У С Т А Н А В І Ў:

Гр. Верабей М.А. на падставе рашэння Кастрычніцкага раённага (гарадскога) суда г. Мінска (вобласці) Рэспублікі Беларусь ад “12” мая 1998г. 2004г.абавязаны плаціць аліменты на дзіця (дзяцей): дачка Вераніка 15.07.90 г.н., сын Аляксандр 15.07.90 г.н. у памеры 1/3 часткі заробку (даходу) у карысць спагнальніка Верабей Алены Максімаўны

(прозвішча, імя, імя па бацьку)

які(якая) пражывае па адрасе: 220007 г.Мінск, вул. Талстога, д.26, кв.54 аднак ад выплаты аліментаў даўжнік ухіляецца. Месца яго (яе) жыхарства і работы невядомы.

Апошняе спагнанне аліментаў праведзена 13.02.99г. у

(назва прадпрыемства, установы, арганізацыі і яе адрас)

калі даўжнік пражываў па адрасе: вул. Караткевіча, д.58, кв. 24.

На “12” лістапада 2003г. запазычанасць па аліментах складае 2045126 руб.

Кіруючыся арт. 328 ГПК Рэспублікі Беларусь,

В Ы З Н А Ч Ы Ў:

Аб’явіць вышук гр. Враб’я Мікалая Аляксандравіча 17.10.1958 г. ураджэнца в. Дзівін Кобрынскага р-на Брэсцкай вобл.

(год і месца нараджэння)

Копію вызначэння у двух экземплярах накіраваць для выканання ў аддзел унутраных спраў Кастрычніцкага раёна г.Мінска

Выканаўчую вытворчасць № 3750 прыпыніць да вышуку даўжніка.

СУДДЗЯ (подпіс) (Г.І.Русакевіч)

Копія вызначэння завяраецца іншым суддзёй. Пад тэкстам вызначэння ўнізу пазначаецца “Копія дакладная. Суддзя (указваецца прозвішча суддзі і ставіцца подпіс)”.

Копія абавязкова завяраецца пячаткай.

Пра кожнае судовае пасяджэнне суда першай інстанцыі, а таксама пра кожнае асобнае працэсуальнае дзеянне, якое адбываецца па-за пасяджэннямі, складаецца пратакол.

**Пратакол** – дакумент, які сведчыць аб факце вытворчасці, змесце і выніках працэсуальных дзеянняў, складзены ва ўстаноўленай форме.

Акрамя пратакола судовага пасяджэння ў абавязковым парадку афармляецца: пратакол вобыску альбо адабрання, пратакол допыту, пратакол следчага дзеяння, пратакол агляду, пратакол прад’яўлення для апазнавання, пратакол працэсуальных дзеянняў як сродку даказвання і інш.

У пратаколе павінны быць зафіксаваны ўсе істотныя моманты разбору справы альбо выканання асобнага працэсуальнага дзеяння. У пратаколе судовага пасяджэння, у прыватнасці, указваецца:

1) год, месяц, дата і месца судовага пасяджэння;
2) час пачатку і час заканчэння судовага пасяджэння;
3) назва суда, прозвішча, імя, імя па бацьку суддзі і сакратара судовага пасяджэння;
4) назва справы;
5) звесткі аб яўцы ўдзельнікаў судаводства і дадзеныя пра іх;
6) звесткі аб растлумачэнні судом удзельнікам судаводства іх працэсуальных правоў і абавязкаў.

**П Р А Т А К О Л**
**судовага паседжання**

“21” верасня 2004 года судовая калегія па крымінальных справах Мінскага Абласнога суда ў складзе старшынствуючага Асташэнкі І.Р. і народных засядацеляў Пятроўскага С.К., Іваніцкай З.Ф., Ліцвіненка М.М. пры сакратары Кузняцовай В.К. з удзелам пракурора Сацукевіча С.Г. адваката Фёдарава І.М. разглядзеў у адкрытым судовым паседжанні ў гор. Мінску крымінальную справу па абвінавачванні грамадзян Міхасёва В.І. і Клімава М.Р. у кватэрным крадзяжы

Судовае паседжанне адкрыта а “9” гадзіне

На судовае паседжанне з’явіліся: 1. Прадстаўнікі пацярпелага боку (сям’я Кавалёнкаў).

2. Абвінавачваемыя Міхасёў В.І. і Клімаў М.Р.

3 Сведкі здарэння Хвашчэня В.Л., Міхаленя Г.Ф.

Ход судовага паседжання падрабязна пратакаліруецца і фіксуецца на паперы ў працэсе працы.

Прафесія юрыста вымагае добрага валодання афармленнем такіх дакументаў, як справавы ліст, распіска, даверанасць, аўтабіяграфія і інш.

***Справавы ліст*** — гэта ліст (пісьмо), накіраваны адной арганізацыяй або асобай у другую з мэтаю высветліць пэўныя пытанні. Справавыя лісты могуць мець як асабісты, так і службовы характар. Службовы ліст патрабуе засведчання пячаткай альбо можа мець толькі штамп установы, якая яго дасылае.

У юрыдычнай практыцы найбольш пашыранымі з’яўляюцца: суправаджальны ліст, ліст-запыт, ліст-адказ і інш.

***Суправаджальны ліст*** — ліст, які суправаджае дасыланне адрасату пэўных дакументаў. Арыгінал суправаджальнага ліста падпісваецца кіраўніком установы, а копія — сакратаром.

У суправаджальных лістах гэтаксама, як і ў лістах-запытах і лістах-адказах, звычайна выкарыстоўваюцца ўстойлівыя лагічныя і моўныя выразы, што надаюць ім афіцыйны характар, дакладнасць, стандартнасць, адназначнае разуменне. У такіх лістах не дапускаецца фамільярнасць, ужыванне побытавай лексікі, а ў звароце да адрасата павінны змяшчацца найбольш важныя сацыяльныя і прафесійныя характарыстыкі аўтара (следчы, адвакат, суддзя, начальнік РУУС і інш.).

Суправаджальны ліст уключае ў сябе абавязковыя рэквізіты: 1) назву адпраўніка (адрасанта); 2) адрас адпраўніка; 3) дату і нумар ліста і адпраўлення; 4) назву і адрас арганізацыі і службовай асобы-атрымальніка (адрасата); 5) тэкст ліста; 6) пералік матэрыялаў у дадатку з указаннем колькасці аркушаў; 7) подпіс адпраўніка.

Да прыкладу:

Упраўленне ўнутраных спраў адміністрацыі Савецкага
раёна г.Оршы
220033, г.Орша, вул. Караткевіча, 13.
15 лістапада 2005 г. № 36.

Начальніку Дэпартамента
па грамадзянству і міграцыі МУС
Рэспублікі Беларусь
палкоўніку міліцыі Іванову І.І.

Накіроўваем на Ваш адрас запыт, адрасаваны МУС Рэспублікі Арменія, па пытанні пацверджання грамадзянства Рэспублікі Арменія і факта выпіскі з ранейшага месца жыхарства Арбелян Вікторыі Армэнаўны.

Дадатак: на 1 аркушы.

Начальнік упраўлення
падпалкоўнік міліцыі Кавалёў К.В.

***Ліст-запыт*** павінен мець наступныя рэквізіты: 1) назву адпраўніка (адрасанта); 2) адрас адпраўніка; 3) нумар і дату адпраўкі; 4) назву атрымальніка (адрасата) ліста і яго адрас; 5) змест ліста; 6) подпіс. Да прыкладу:

Упраўленне ўнутраных спраў адміністрацыі Каст-
рычніцкага раёна г.Мінска
220000, г. Мінск, вул. Суражская, 10
14 снежня 2005 г. № 67

Дырэктару камунальнага
унітарнага прадпрыемства
“Бюро рэгістрацыі і тэхнічнай
інвентарызацыі нерухомасці
г. Мінска” спадару
Казлову Ф.І.

220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 17

У сувязі з узніклай неабходнасцю просім паведаміць на наш адрас, ці маюцца на праве асабістай уласнасці домаўладанне (доля домаўладання) альбо кватэра ў грамадзяніна Пятрова Івана Сцяпанавіча, 13.12.1965 г.н., ураджэнца г. Мінска, які пражывае па вул. Радыятарнай, 135- 13 у г. Мінску.

Начальнік Кастрычніцкага
РУУС г. Мінска
падпалкоўнік міліцыі Сідараў І.І.

Неабходнымі рэквізітамі ***ліста-адказу*** з’яўляюцца: 1) назва адпраўніка (адрасанта); 2) адрас адпраўніка; 3) дата і нумар адпраўкі; 4) назва атрымальніка (адрасата) ліста і яго адрас; 5) спасылка на нумар і дату ліста-запыту; 6) тэкст ліста; 7) подпіс службовай асобы. Напрыклад:

Упраўленне ўнутраных спраў адміністрацыі Маскоўскага раёна г. Мінска
220000, г. Мінск, вул. Маскоўская, 35
22 мая 2005 г. № 46

Дзяржаўнаму натарыусу
дзяржаўнай натарыяльнай канторы № 10
Маскоўскага раёна г. Мінска
Смірновай А.М.
220048 г. Мінск, вул. Забеліна, 78.

На Ваш запыт № 02-05/350 ад 19.05.2005 г. па спадчыннай справе № 54 за 2004 год паведамляем, што паводле звестак ЖЭС № 150 Маскоўскага раёна г.Мінска Мядзведзеў Васіль Іванавіч быў прапісаны з 19.05.1993 г. па адрасе: г. Мінск, вул. Дружная, дом 140, кв. 68. На пазначаны адрас Мядзведзеў В.І. прыбыў у 1993 годзе з вул. Карзухіна, дом 23, кв. 286 у г.Мінску. 05.02.2005 г. выпісаны ў сувязі са смерцю.

Начальнік Маскоўскага РУУС

г. Мінска

падпалкоўнік міліцыі Растаргуеў Д.С.

Сучасныя паштовыя правілы афармлення патрабуюць, каб канверт быў падпісаны наступным чынам: у левым верхнім рагу пішацца адрас адпраўніка (адрасанта) з абавязковым указаннем індэкса паштовага адцзялення, у правым — адрас атрымальніка (адрасата) таксама з указаннем індэкса паштовага адцзялення. Парадак напісання прадугледжвае спачатку указаць **каму**, а потым **куды** на кіроўваецца ліст (пісьмо). Напрыклад:

Каму: Падпалкоўніку Кастрычніцкага РУУС г. Мінска
Іванову Івану Іванавічу
Куды: 220000 г.Мінск, вул. Вакзальная, д. 8.

***Распіска*** — дакумент, які пацвярджае факт атрымання установай альбо пэўнай асобай важных дакументаў, матэрыяльных каштоўнасцей (грошай, рэчаў, кніг і інш.). У праве распіска з’яўляецца адным з відаў пісьмовых доказаў. Яна — сродак уліку матэрыяльных каштоўнасцей або сведчанне таго, што пэўны дакумент уручаны ў тэрмін і па прызначэнні. Неабходнымі рэквізітамі распіскі з’яўляюцца: 1) назва дакумента; 2) хто атрымаў; 3) ад каго атрымаў; 4) што атрымаў (пералік каштоўнасцяў, іх колькасць пішуцца словамі і лічбамі); 5) з якой мэтай; 6) дата, подпіс.

Распіска складаецца ў адным экземпляры і захоўваецца як каштоўны дакумент. Да прыкладу:

**Распіска**

Я, Фёдараў Іван Васільевіч, атрымаў ад Шалевіча Ігара Алегавіча 2 (дзве) тысячы долараў на набыццё аўтамабіля. Абавязуюся вярнуць пазначаную суму да 10 мая 2006 г.

10 лістапада 2005 г. Фёдараў.

***Даверанасць*** — дакумент, які дае каму-небудзь права дзейнічаць ад імя асобы, што выдала яго. Рэквізітамі даверанасці з’яўляюцца: 1) указанне ўстановы, якая давярае, або прозвішча, імя і імя па бацьку таго, хто давярае; 2) пасада, прозвішча, імя і імя па бацьку таго, каму давяраюць; 3) што і адкуль трэба атрымаць; 4) дата і подпіс.

У тых выпадках, калі даверанасць выдаецца ўстановай, яна падпісваецца яе кіраўніком. Калі ж даверанасць афармляецца прыватнай асобай, яе подпіс павінен быць засведчаны ў

натарыяльным парадку ці па месцы працы альбо вучобы (у аддзеле кадраў, канцылярыі або дэканаце). Да прыкладу:

**Даверанасць**

Я, Карпава Вольга Іванаўна, студэнтка 5-га курса юрыдычнага факультэта дзённай формы навучання Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, давяраю студэнтцы 4-га курса філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка атрымаць на пошце пасылку, дасланую на маё імя.

19 снежня 2005 г. Карпава

Подпіс студэнткі Карпавай В.І. сведчу.
Дэкан юрыдычнага факультэта
Белдзяржуніверсітэта Подпіс
19. 12. 2005

М.П.

***Аўтабіяграфія*** — дакумент, у якім змешчаны афіцыйныя звесткі пра жыццёвы шлях, напісаныя ад першай асобы. Агульнымі патрабавннямі да аўтабіяграфіі з’яўляюцца: 1)указанне прозвішча, імя і імя па бацьку; 2) час і месца нараджэння; 3) сацыяльнае становішча; 4) кароткі выклад галоўных этапаў жыцця: гады вучобы, працоўнай і грамадскай дзейнасці. У канцы тэксту ставіцца дата (злева) і подпіс (справа). Да прыкладу:

**Аўтабіяграфія**

Я, Барсукоў Уладзімір Андрэевіч, нарадзіўся ў 1972 годзе ў вёсцы Бярозаўка Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці ў сялянскай сям’і. Бацька, Барсукоў Андрэй Сцяпанавіч, працуе ў калгасе шафёрам, маці, Барсукова Галіна Мікалаеўна, — загадчыцай фермы. Мой брат Васіль — студэнт гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

У 1979 годзе я пайшоў вучыцца ў Бярозаўскую сярэднюю школу, якую скончыў у 1990 годзе. У тым жа годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт на юрыдычны факультэт. Пасля заканчэння вучобы ў 1995 годзе быў прызваны ў армію. Пасля дэмабілізацыі ў 1997 годзе ўладкаваўся на працу ў Фрунзенскі РУУС г. Мінска, дзе працягваю працаваць і сёння.

Сямейнае становішча — халасты.

Пражываю па адрасе: г. Мінск, вул. Зялёная, дом 13, кв. 25.

25 лістапада 2005 г. Барсукоў

**Пытанні**

1. Што такое дакументы?
2. Назавіце адметныя асаблівасці мовы юрыдычных дакументаў.
3. Якія словы і моўныя звароты непажадана выкарыстоўваць у юрыдычна-справавой дакументацыі?
4. Чаму, на Вашу думку, афармленне юрыдычна-справавой дакументацыі вызначаецца вялікай колькасцю штампаў і канцылярызмаў?
5. Які з працэсуальных дакументаў з’яўляецца самым пашыраным?
6. Пералічыце віды іскавых заяў.

**Заданні**

1. Напішыце скаргу аб незаконным дзеянні кіраўніка прадпрыемства або ўстановы.
2. Складзіце прыватную скаргу на вызначэнне суда першай інстанцыі.
3. Складзіце пратакол судовага пасяджэння.
4. Разыграйце на практычных занятках сітуацыі, пры якіх можна было б скласці:
   - пратакол вобыску;
   - пратакол адабрання;
   - пратакол допыту;
   - пратакол агляду месца здарэння.

# МОЎНЫ ЭТЫКЕТ

Прафесія юрыста цесна звязана з пастаянным кантактаваннем з рознымі людзьмі, з пэўным уздзеяннем на іх унутраны свет, лёс, з маральнымі ўзаемаадносінамі, што вымагае высокай культуры моўных зносін. Узровень моўных зносін сведчыць аб агульнай культуры чалавека, яго адукаванасці і выхаванасці. Моўны этыкет, які з’яўляецца неад’емнай часткай моўнай культуры, – гэта ўсталяваныя грамадствам правілы моўных паводзін, якія рэалізуюцца ў сістэме ўстойлівых формул і выразаў. У моўным этыкеце кожнага народа праяўляецца яго нацыянальная спецыфіка, адметнасць ладу жыцця, звычаі і традыцыі. Веданне моўнага этыкету свайго народа, уменне карыстацца ім у розных жыццёвых сітуацыях – адзін са складальнікаў прафесійнай этыкі юрыста.

У беларускім маўленчым этыкеце існуе цэлы шэраг выразаў, формул вітання: *Добры дзень! Дзень добры! Добры вечар! Вечар добры! Здароў! Здарова! Маё шанаванне! Прывітанне! Гады ў рады! Са святам!*

Звычайна пасля прывітання ўжываюцца такія пытанні-звароты ветлівасці, як: *Што чуваць? Як маешся (маецеся)? Што новага? Як працуецца? Як жыццё? Як здароўе? Як жывеш-гадуешся?*

У адказ пасля слоў падзякі ў залежнасці ад удзельнікаў гаворкі і абставін (*Дзякуй! Або: Дзякуй за памяць! Дзякуй за добрае слова! Дзякуй на добрым слове!*) могуць прагучаць наступныя словы альбо выразы: *Жывём, хлеб жуём! Нічога сабе! Так сабе! Добра. Някепска. Памаленьку. Ніштавата. От, то скокам, то бокам. То скачучы, то плачучы. От, жыву, як гарох пры дарозе, хто ідзе, той скубе. Жывем, як тыя бульбіны: не цяпер з’ядуць, дык на вясну пасадзяць.*

Асобая роля ў моўным этыкеце надаецца развітанню. Выказаныя з непадробнай шчырасцю, цеплынёй і добразычлівасцю словы развітання падразумявалі далейшыя прыязныя адносіны і будучыя сустрэчы. Нездарма ў народзе кажуць: *“Як развітаешся, так і прывітаешся”.*

*Бывай! Бывайце! Бывайце здаровы! Да сустрэчы! Усяго Вам добрага! Усяго найлешага! Даруйце (прабачце), калі што не так! Не памінайце ліхам! Да пабачэння! Да новага спаткання! Заставайцеся здаровенькі! Пабачымся! Пакуль! Усяго! Да заўтра! Шчасліва! Шчаслівай дарогі! Дазвольце з Вамі развітацца!*

У розных сітуацыях, калі ўзнікае неабходнасць выказаць пэўныя пажаданні могуць быць ужытыя наступныя словы і словазлучэнні народнага маўленчага этыкету: *Смачна есці! Хлеб-соль! Хлеб ды соль! Памагай Бог! Бог у помач! Спору ў працы! Вялікі расці! Дабранач!*

Пры просьбе зрабіць якую-небудзь паслугу звычайна гучаць наступныя ветлівыя словы: *Калі ласка! Будзьце ласкавы!*

У адказ за паслугу выкарыстоўваюцца такія словы падзякі, як: *Дзякую вам. Вельмі ўдзячны вам! Шчыры дзякуй вам! Шчыра дзякую! Вельмі дзякую!*

Як форма падзякі за гасцінец, падарунак альбо нейкую рэч найчасцей ужываецца: *Вялікі дзякуй! Дзякуй!*

У адказ на падзяку ў залежнасці ад сітуацыі можна адказаць: *Няма за што! Еш на здароўе! (за яблык) Пі на здароўе! (за малако) Насі здаровы! (за адзенне, абутак) Спажывай на здароўе! На спажытак Вам!*

Папрасіць прабачэння ў таго, каму прычынілі непрыемнасць, сказалі рэзкія, але справядлівыя словы можна, выкарыстоўваючы наступныя выразы моўнага этыкету: *Прабачце! Даруйце, калі ласка! Выбачайце! Не крыўдуйце!*

Пэўнай увагі патрабуе разгляд формаў-звароткаў да асобы. Самай распаўсюджанай формай зваротку ў савецкі час была безаблічная форма “таварыш”, якую вымаўлялі, звяртаючыся як да мужчыны, так і да жанчыны. Сёння гэта форма найбольш ужывальная ў асяродку вайскоўцаў (*таварыш генерал, таварышы афіцэры*).

У наш час у беларускі моўны этыкет вернуты да жыцця такія старабеларускія словы-звароты, як “*спадар*”, “*спадарыня*”, “*спадары*”, “*спадарства*”, “*шаноўны спадар*”. На захадзе Беларусі яшчэ і сёння бытуюць звароткі “*шаноўная спадарыня*”, “*шаноўнае спадарства*”, “*пан*”, “*пані*”, “*паненка*”, “*паніч*”, “*панове*”.

У беларускай народнай традыцыі захоўваецца і такая неафіцыйная форма зваротку: *Цётка! Дзядзька! Бабуля! Дзядуля!* Гэтыя словы ўжываюцца разам з імем або прозвішчам: *цётка Ганна, дзядзька Іван, бабуля Маня*.

Да маладзейшай асобы шырока ўжываецца наступная неафіцыйная форма звароту: *Сынок! Дачушка! Унучак!*

Нацыянальная спецыфіка моўнага этыкету праяўляецца ва ўжыванні клічных формаў зваротку (назоўнікі м.р.): *Алесю! Браце! Міхале! Сыне! Дзеду! Іване!*

Акрамя вышэйназваных формул беларускага моўнага этыкету існуе шэраг яго асаблівасцей, звязаных з прафесійнай дзейнасцю юрыста. Да прыкладу разгледзім некаторыя моманты судовага пасяджэння. Пры ўваходзе суда ў залу, дзе адбываецца судовае пасяджэнне, сакратар аб’яўляе: “Прашу ўстаць. Суд ідзе”. Усе, хто знаходзіцца ў гэты час у зале, павінны ўстаць. Пасля гэтага па запрашэнню старшынствуючага ўсе займаюць свае месцы.

Удзельнікі судовага разбору звяртаюцца да суда са словамі: “Высокі суд”.

**Пытанні**

2. Як Вы разумееце тэрмін “моўны этыкет”?
3. Якія формулы вітання Вы ведаеце?
4. Каму адрасуецца зварот-запытанне “Як жывеш-гадуешся?”
5. Якія словы альбо выразы могуць прагучаць у адказ на запытанне “Як жыццё?”
6. У якой сітуацыі могуць быць ужытыя наступныя пажаданні: *Вялікі расці! Хлеб-соль! Дабранач! Смачна есці! Бог у помач!*
7. Якімі словамі звяртаюцца да суда ўсе ўдзельнікі судовага разбору?
8. Якія словы прамаўляе сакратар пры ўваходзе суда ў залу, дзе адбываецца судовае пасяджэнне?
9. Як Вы растлумачыце звычай вітацца з незнаёмымі людзьмі, які бытуе ў нашых вёсках?
10. Якія формулы-звароткі да асобы Вы ведаеце? Як Вы да іх ставіцеся?
11. Чаму ў рабоце юрыста надаецца такая вялікая ўвага культуры моўных зносін?

**Заданні**

1. Перакладзіце на беларускую мову: *Как дела? Сколько лет, сколько зим! Мое почтение!*
2. Выкажыце пажаданне таму, хто працуе.
3. Укажыце на памылку, дапушчаную ў моўным этыкеце:

Шаноўныя спадары і спадарыні! Дазвольце павіншаваць Вас з нашым прафесійным святам – Днём юрыста.

4. Назавіце найбольш пашыраныя формулы развітання сярод моладзі.
5. Пералічыце формулы-звароткі, якія і сёння бытуюць на захадзе нашай краіны.
6. Дапоўніце словазлучэнні да сказаў:

Шаноўнае спадарства! Мы рады...

Прашу высокі суд улічыць...

Даруйце, калі ласка, але...

Будзьце ласкавы! Ці не маглі б...

Вялікі дзякуй Вам за...

7. Складзіце дыялогі паводле сітуацый:

Вы наведалі юрыдычную кансультацыю.

Вам неабходна памяняць пашпарт.

Выпадковая сустрэча з аднакласнікам.

Вы парушылі правілы дарожнага руху.

# СЛАВУТЫЯ ІМЁНЫ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

## ЕФРАСІННЯ ПОЛАЦКАЯ

Імя Ефрасінні Полацкай (1120 – 1173), апякункі Беларусі, займае асаблівае месца ў нашай старажытнай гісторыі. Яно стала сімвалам імкнення душы да ведаў, да веры, таму і перажыло стагоддзі.

Ефрасіння была ўнучкаю легендарнага князя Усяслава Чарадзея, дачкою князя Георгія Усяславіча. Яна нарадзілася ў Полацку. Першае (свецкае) яе імя – Прадслава. Прадслава ўмела чытаць і пісаць. Болей за ўсё на свеце яна шанавала кнігі. Да таго ж была дзяўчына надзвычай прыгожай.

Слава пра яе разнеслася далёка. Многія князі хацелі такую прыгажуню ўзяць за жонку. Аднак князёўна адмовіла ўсім жаніхам і таемна ўцякла ў манастыр, пастрыглася ў манашкі, узяла сабе імя Ефрасіння.

Доўгі час яна ў адзіноце перакладала і перапісвала кнігі. Яе пакойчык “галубніца” месціўся ў царкве, у Полацкай Сафіі, што была пабудавана Усяславам Чарадзеем і захавалася да нашага часу. Неўзабаве князёўна заснавала жаночы манастыр, стала ў ім ігуменняю.

Вакол Ефрасінні аб’ядналася шмат аднадумцаў, якія пашыралі ў Полацкім княстве асветніцтва. Пры манастыры працавала школа, дзе акрамя іншых навук, дзеці спасцігалі законы красамоўства, а таксама вывучалі гісторыю сваёй дзяржавы і слаўнага роду полацкіх князёў.

Дзякуючы Ефрасінні меў магчымасць працаваць адзін з першых беларускіх дойлідаў – Іаан. Ён пабудаваў цудоўную па сваёй прыгажосці Спаса-Ефрасіннеўскую царкву.

Славутаму ювеліру Лазару Богшу Ефрасіння заказала зрабіць шасціканцовы крыж, аздоблены залатымі і срэбранымі пласцінамі. Гэты найкаштоўнейшы помнік даўніны захаваўся аж да сярэдзіны XX стагоддзя і знік з музея ў гады II Сусветнай вайны. Да гэтага часу крыж так і не знойдзены, хоць яго шукае Інтэрпол.

Ефрасіння мела яшчэ адну неацэнную каштоўнасць – абраз Маці Боскай, які яна атрымала ў падарунак ад свайго сваяка, візантыйскага імператара Мануіла Камніна. Паводле легенды яго стварыў адзін з дванаццаці апосталаў Ісуса Хрыста – Лука. Гэтым цудоўным абразом бласлаўлялі ў Тарапцы траюрадную пляменніцу Ефрасінні Аляксандру Брачыславаўну і вялікага князя Аляксандра Неўскага – на іх вяселлі.

У канцы свайго зямнога жыцця Ефрасіння Полацкая здзейсніла паломніцтва ў Іерасулім да труны Ісуса Хрыста. У нялёгкай дарозе яе ў кожным горадзе сустракалі з вялікай пашанай. У Іерусаліме Ефрасіння Полацкая і памерла. Яе святыя мошчы з Іерусаліма былі перавезены ў Кіева-Пячорскую лаўру, а ў 1916 г. з вялікай пашанай дастаўлены ў Полацк і зараз пакояцца ў Спаса-Ефрасіннеўскай царкве, у якой некалі была келля Ефрасінні.

Пра гэтую самаадданую высакародную жанчыну сівая даўніна захавала унікальны помнік "Жыціе Ефрасінні Полацкай", якое, як лічаць некаторыя навукоўцы, напісала яе родная сястра. Яна таксама пастрыглася манашкай і заўсёды была побач з Ефрасінняй. У "Жыцці" апякунка Беларусі параўноўваецца з сонечным промнем, які асвяціў Беларусь. Яе дзейнасць пакінула след не толькі ў гісторыі, але і ў душы беларускага народа, народа, адвеку звязанага з кнігай, народа, што з тых далёкіх часоў пракладваў ва ўсходнеславянскіх землях шляхі асветніцтва і адукацыі.

(*Паводле Уладзіміра Бутрамеева*)

## КІРЫЛА ТУРАЎСКІ
## (каля 1130 – 1190 гг.)

Кірыла Тураўскі – першы еўрапейскага ўзроўню пісьменнік і прапаведнік, які жыў на нашай зямлі. Ён нарадзіўся ў слаўным горадзе Тураве, які быў сталіцай моцнага княства і адным з цэнтраў усходнеславянскай асветы. У родным горадзе Кірыла атрымаў высокую па тым часе адукацыю, засвоіўшы веды і ідэі рымскага і візантыйскага свету. Ён рана пастрыгся ў манахі, што давала яму мажлівасць глыбей спасцігаць мудрасць "божественных писаний".

Адмовіўшыся ад марнасці свету, Кірыла быў першы ва ўсходнім славянстве, хто здзейсніў стоўпніцтва. Зачыніўшыся ў высокай драўлянай вежы, што стаяла на прыпяцкім беразе каля манастыра, малады манах маліўся і пісаў свае творы, якія перапісваліся, чыталіся і завучваліся на памяць ва ўсіх усходнеславянскіх княствах. Кірыла Тураўскі набыў высокі аўтарытэт у родным горадзе і быў абраны тураўскім епіскапам. "Жыціе" паведамляе: "Славен бысть по всей земле той, умолением князя и людии града того, от митрополита поставлен бысть апископом граду Турову".

З творчай спадчыны Кірылы Тураўскага да нашых дзён зберагліся восем "словаў" – казанняў ("Слова на Вербніцу", "Слова на Вялікдзень", "Слова на Ўшэсце" і інш.), некалькі павучальных аповесцяў ("Аповесць пра беларызца і манаства", "Казанне пра чарнарызкі чын"), прыпавесцяў ("Прыпавесць пра душу і цела"), два каноны, каля трох дзесяткаў вершаў-малітваў.

Некаторыя творы Кірылы Тураўскага паэтычна-ўзнёслым светаўспрыманнем, багатай вобразнасцю, агульным рытмічным ладам нагадваюць вершы ў прозе. Хрэстаматыйным у гэтых адносінах з'яўляецца "Слова ў першую нядзелю па вялікадні": "Ныне солнце красуяся к высоте восходить и радуяся землю огреваеть… Ныне зима греховная покаянием престала есть и лёд неверия богоразумием растаяся… Днесь весна красуется, оживляющи земное естьство и бурнии ветри тихо повевающе плоды гобзують, и земля семена питающи зелёную траву ражаеть…

Ныне древа леторасли испущають, и цветы благоухания процветають, и се уже ограды сладку подавають воню, и делатели с надежею тружающеся плодадавца Христа призывають…"

Да нашых дзён дайшоў адзін з рукапісаў з малітвамі Тураўскага, які датуецца XIII стагоддзем.

У 1596 годзе ў друкарні Віленскага брацтва Сашэсця Святога Духа з'явілася першае друкаванае выданне малітваў геніяльнага тураўца. Яго творы на працягу многіх стагоддзяў карысталіся вялікай папулярнасцю на землях усходніх славян, перапісваліся да XIX ст. Сучаснікі называлі К.Тураўскага другім Златавустам "паче всех воссиявших нам на Руси".

Сёння многія яго творы перакладзены на сучасную беларускую мову.

## ФРАНЦІШАК СКАРЫНА
## (каля 1450 – 1540 гг.)

У гісторыі беларускага пісьменства Ф. Скарына – постаць велічная і значымая.

Заснавальнік беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання, вучоны, пісьменнік, перакладчык, доктар філасофіі і медыцыны, гуманіст і асветнік ён быў сапраўдным волатам эпохі Адраджэння.

Сын купца з Полацка, Ф. Скарына, атрымаўшы еўрапейскую адукацыю (Кракаўскі і Падуанскі універсітэты), прысвяціў свае жыццё народу простаму "паспалітаму". Ён пакінуў нашчадкам кнігі "Бібліі", тым самым далучыў Беларусь да еўрапейскай цывілізаванай сям'і. Першая друкаваная для ўсяго ўсходняга славянства кніга "Псалтыр" пабачыла свет 6 жніўня 1517г. у Празе. Скарынава "Біблія" з'явілася раней за нямецкую Лютэраву "Біблію" амаль на паўстагоддзя раней за польскую, на 47 гадоў раней за "Апостала" (1564) Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца. Ф.Скарына не абмяжоўваўся толькі перакладніцкай працай. Амаль да ўсіх сваіх кніг ён пісаў прадмовы і пасляслоўі, якія дапамагаюць нам,

сучаснікам, зразумець усю веліч выдатнага сына нашай зямлі. Яго прадмовы і пасляслоўі – роздум аўтара аб сэнсе жыцця, яго гарачае жаданне данесці слова Божае да простага чалавека.
На “боцех” (палях) сваіх кніг (“Бібліі”, 1517–1519 гг. і “Малой падарожнай кніжыцы” 1522г.) ён тлумачыў незразумелыя стараславянскія і іншамоўныя словы адпаведнымі словамі старажытнай беларускай мовы: кивотъ – скрыня, холмъ – узгорак, горлица – сіваваронка. Гэтыя тлумачэнні называліся глосамі (ад грэч. glossa – мова, гаворка). Менавіта глосы далі пачатак тлумачальным слоўнікам на Беларусі.

Усяго Ф.Скарына растлумачыў каля 200 слоў. Яго праца падрыхтавала глебу для з’яўлення першых друкаваных слоўнікаў: “Лексіса” Лаўрэнція Зізанія (1596 г.) і “Лексікона” Памвы Бярынды (1627г.)

Ф.Скарына аздобіў свае выданні высокамастацкімі гравюрамі, па якіх мы можам знаёміцца з тагачасным беларускім жыццём (побытам, адзеннем, тэхнікай будоўлі), флорай і фаўнай нашага краю. Парушаючы тагачасныя каноны, ён змясціў у Бібліі ўласны партрэт, дзякуючы якому мы ведаем, як выглядаў наш першадрукар.

Ф.Скарына многа падарожнічаў па Еўропе, але дзе б ён ні быў, з ім заўсёды была яго Бацькаўшчына, родная Полаччына. Пацверджаннем гэтаму гучаць геніяльна простыя словы любові да роднай зямлі: “Панеже ад прыраджэння звяры, ходзячыя ў пустыні, знаюць ямы свая, пціцы, лятаючыя па воздуху, ведаюць гнёзды свая, рыбы, плаваючыя па мору і ў рэках, чуюць віры свая, пчолы і тым падобная бароняць вулляў сваіх, – така ж і людзі, і гдзе зрадзіліся і ўскормлены суць на Бозе, к таму месту вялікую ласку імаюць”.

Яго імя стаіць у адным радзе з такімі выдатнейшымі асобамі еўрапейскага Адраджэння, як Эразм Ратэрдамскі, Леанарда да Вінчы, Томас Мор, Марцін Лютэр і інш.

З некаторымі з іх ён быў асабіста знаёмы. Ён сустракаўся з Лютэрам, вёў дыскусію з вядомым медыкам і алхімікам Парацэльсам у Вільні. У сваім жыцці ён зведаў узлёты і горкія расчараванні.

Быў сакратаром і прыдворным лекарам у віленскага біскупа Яна, запрашаўся на службу да апошняга магістра Тэўтонскага ордэна Альбрэхта Брандэнбургскага, браў удзел у працы над Статутам Вялікага княства Літоўскага 1529 г.

1990 г. быў абвешчаны ЮНЭСКА годам Ф. Скарыны. 500-годдзе Ф. Скарыны шырока азначалася ва ўсім цывілізаваным свеце. Сёння мы павінны ганарыцца тым, што належым да таго народа, на зямлі якога нарадзіўся гэты волат духу, і імкнуцца наблізіцца да таго

узроўню свядомасці і грамадзянскай пазіцыі, якія так высока ўзняў і пранёс праз усё сваё жыццё Ф. Скарына.

## ЛЕЎ САПЕГА
## (1557 – 1633)

На беларускай зямлі род Сапегаў – адзін з самых старадаўніх і знакамітых. Ён узяў пачатак яшчэ ў XIII стагоддзі і знаходзіўся ў далёкай кроўнай роднасці з Гедымінавічамі, вялікакняжацкая ўлада якіх не адно дзесяцігоддзе панавала ў старажытнай беларускай дзяржаве.

Нарадзіўся Леў Сапега ў 1557 годзе ў маёнтку Астравок на Віцебшчыне. Бацька – Іван Іванавіч – быў старастам драгічынскім і ваяводам падляскім, маці – княгіня Багдася Друцкая-Сакалінская. Акрамя Льва ў сям'і былі яшчэ два браты і тры сястры будучага канцлера.

Як адзначалі потым даследчыкі біяграфіі Льва, у Нясвіжы, у атмасферы рэлігійных навінак, юны Сапега неўзабаве пакінуў веравызнанне свайго роду і прыняў кальвінізм.

Таленавіты малады чалавек атрымаў асабістую прыхільнасць з боку Мікалая Радзівіла Чорнага. Магнат, чалавек мудры і разумны, убачыў у ім найвялікшыя патэнцыяльныя магчымасці і тайны. Найбольш жа цешыла сэрца Радзівіла Чорнага любоў падлетка да Айчыны, роднай старонкі. А ледзь мінула Льву ўсяго толькі трынаццаць (!) гадоў, як за кошт двара яго накіравалі вучыцца ў адзін з самых лепшых на той час універсітэтаў – Ляйпцыгскі. Разам з сынамі Мікалая Радзівіла юны Сапега стаў вывучаць замежныя мовы, юрыспрудэнцыю, філасофію, літаратуру. Мовы, між іншым, найбольш захапілі Льва: ён даволі хутка авалодаў пяццю вядучымі мовамі свету і свабодна размаўляў на іх.

Такім чынам, у родны бацькоўскі край ён вярнуўся бліскуча падрыхтаваным маладым чалавекам. Вялікі князь літоўскі Стэфан Баторый – рэфарматар і мецэнат, тонкі і хітры палітык – быў у незвычайным захапленні ад Льва, яго эрудыцыі. Ужо тады Льва Іванавіча вызначалі такія якасці дзяржаўнага чалавека, як уменне знайсці кампраміс паміж новым і традыцыйным светаўспрыманнем, аддаць перавагу інтарэсам княства перад інтарэсамі царквы. Такіх людзей было няшмат, іх жа патрабаваў сам час і тагачасны стыль дзяржаўнага ладу.

Баторый без асаблівых разваг і сумневу даручаў Сапегу самыя адказныя справы Вялікага княства Літоўскага. У 23 гады Леў па сутнасці кіраваў ужо сакратарыятам княства. Было ж гэта няпроста. Эрудыцыя, талент ад прыроды павінны былі дапаўняцца ведамі

рэалій жыцця, рэчаіснасці – неадназначнай, супярэчлівай, вельмі заблытанай.

Малады, аднак дасведчаны і тонкі палітык, Леў Сапега бачыў: польскія ўплывы на жыццё беларускай шляхты і магнатаў усё больш паглыбляюцца і пашыраюцца. Карона ўсяляк імкнулася да поўнай гегемоніі над ВКЛ. А з другога боку, ён адчуваў сепаратысцкія, антыпольскія настроі большай часткі пануючых класаў Вялікага княства. Адным словам, сітуацыя заклікала Льва Іванавіча да дзеяння.

І ён дзейнічаў – смела і рашуча. Сыноўняя любоў да Бацькаўшчыны натхняла яго на адстойванне інтарэсаў свайго народа. Сапега выдатна разумеў, што адзінай сілай, здольнай супрацьстаяць наступу Кароны, з’яўляўся ўсё яшчэ магутны і аўтарытэтны радзівілаўскі двор. І ён прыняў рашэнне, якое на першы погляд інакш як авантурным, і не назавеш: не дапусціць паразумення Радзівілаў з каралём. З тым самым каралём Стэфанам Баторыем (а потым і з ягоным пераемнікам Жыгімонтам III), які, кажучы сучаснай тэрміналогіяй, даў дарогу у жыццё яму, Льву Іванавічу Сапегу.

Але гэта не было здрадай. Паўторым: гэта была шчырая адданасць яго інтарэсам роднага краю. І менавіта таму сучаснікі часта называлі Сапегу сапраўдным “айцом Айчыны”.

Найбольш жа выразна і поўна праявілася барацьба Льва Сапегі супраць Люблінскай уніі ў працэсе работы над Статутам Вялікага княства Літоўскага трэцяй рэдакцыі.

Статут ВКЛ 1588 года ствараўся ва ўмовах фарміравання ў княстве культуры эпохі Адраджэння, пад вялікім уплывам і ва ўзаемадзеянні з рэнесансна-гуманістычнай філасофскай і грамадска-палітычнай думкамі. З аднаго боку, ён – дакумент феадальна-сярэдневяковага права, з другога – у ім надзвычай выразна прасочваюцца і тэндэнцыі новай, раннебуржуазнай прававой свядомасці.

Статут княства фармальна скасоўваў многія пастановы Люблінскай уніі, пацвярджаючы тым самым самастойнасць і незалежнасць ВКЛ ад Рэчы Паспалітай. У ім, па-першае, ніводнага разу не згадваецца сам акт уніі, а, па-другое, Вялікае княства паўстае з гэтага гістарычнага дакумента не толькі з самастойным заканадаўствам, але і са сваёй акрэсленай тэрыторыяй, а таксама з уласнымі фінансамі, войскам, апаратам.

У тым жа 1588 годзе Сапега за ўласныя сродкі выдаў Статут у друкарні Мамонічаў, самай буйной прыватнай беларускай друкарні. Яе гаспадары і супрацоўнікі асабліва ўлічвалі кніжна-пісьмовыя традыцыі беларускага кнігадрукавання, культурныя і грамадскія

запатрабаванні чытачоў. Выданне адрознівалася разнастайнасцю мастацкага і паліграфічнага афармлення, выкарыстаннем свецкіх гравюр.

У наступным, 1589 годзе, Леў Іванавіч заняў найвышэйшую ў сваёй дзяржаве пасаду – канцлера Вялікага княства Літоўскага. Ён быў ім на працягу ажно 34 гадоў! Сапега імкнуўся рабіць усё дзеля яднання тэрытарыяльнай цэласнасці дзяржавы, пашырэння правоў сваёй Бацькаўшчыны на тыя землі, якія належалі ёй гістарычна. Цэласнасць і самастойнасць княства канцлер бараніў не толькі сродкамі дыпламатыі, а і на полі бою непасрэдна. У 20-я гады XVII стагоддзя ён ахвяраваў сваю маёмасць на ўтрыманне арміі ў час вайны княства са шведамі, асабіста вызначыўся ў баявых дзеяннях.

У 1633 годзе ён атрымаў годнасць маршалка Вялікага княства. Льву Іванавічу было ўжо 76, і да палітычных спраў ён ставіўся спакойна і стрымана. Як прадстаўнік княства, Сапега вітаў уступленне на трон новага караля Уладзіслава IV. А праз два тыдні пасля гэтага, 7 ліпеня, ён памёр.

(*Паводле Анатоля Мяснікова*)

## БРАНІСЛАЎ АДАМАВІЧ ТАРАШКЕВІЧ (1892 – 1938)

Выдатны беларускі вучоны, таленавіты публіцыст і перакладчык, палымяны народны трыбун і абаронца нацыянальных інтарэсаў, чалавек высокай культуры і абаяльнасці.

Ён з тых, хто ўвасабляў беларускасць на пачатку XX ст., хто азваўся беларускім словам і напамінаў свету, што ёсць такі народ і такая мова, хто мужна змагаўся за свабоду гэтага народа. Лёс яго тыпова беларускі – і па жорсткім накаванні, і па здольнасці ўсё вынесці, захаваўшы пры гэтым сваю годнасць.

Нарадзіўся Тарашкевіч у засценку Мацюшкі, што на Віленшчыне, 20 студзеня 1892 г. Вучыўся ў Віленскай гімназіі, затым на гісторыка-філалагічным факультэце Пецярбургскага універсітэта. Ужо ў студэнцкія гады ён многа і напружана працуе: займаецца гісторыяй, філасофіяй, класічнай філалогіяй, слухае лекцыі па юрыспрудэнцыі. Адзін толькі пералік моў, якія вывучаў Браніслаў Тарашкевіч, дае ўяўленне пра яго эрудыцыю: грэчаская і латынь, французская і нямецкая, літоўская і санскрыт. Добра валодаў таксама польскай, рускай, чэшскай.

Але найгалоўнейшым у яго жыцці былі беларуская мова і беларуская справа. Ужо вучнем Віленскай гімназіі ён адкрыта называў сябе беларусам. Студэнтам 1-га курса ўступае Тарашкевіч у Беларускую Сацыялістычную Грамаду (БСГ), арганізоўвае ў Пецярбургу беларускае земляцтва, выступае з дакладамі па гісторыі

грамадскай думкі на Беларусі, гісторыі беларускай літаратуры і мовы.

Пасля заканчэння універсітэта (1916) Тарашкевіча пакідаюць на кафедры рускай мовы і літаратуры для навуковай працы. Вынікам гэтай працы стала першая “Беларуская граматыка для школ” (1918), у якой малады вучоны даў навукова распрацаваныя нататкі па фанетыцы, граматыцы беларускай мовы, а таксама навукова абгрунтаваныя правапісныя нормы – арфаграфічныя і пунктуацыйныя. “Граматыка” Тарашкевіча, якая, па сведчанні вучоных, “адкрыла цэлую эпоху ў гісторыі беларускага мовазнаўства”, на працягу дзесяцігоддзяў была адзіным падручнікам беларускай мовы ў школах. Наколькі добра была зроблена гэтая кніга, сведчыць той факт, што правапіс, унармаваны Тарашкевічам, па сутнасці, і сёння ляжыць у аснове правапісных нормаў беларускай мовы.

А затым было вяртанне на Радзіму – і актыўны ўдзел у грамадска-палітычным руху ў Заходняй Беларусі, навуковая і літаратурная праца, праца над перакладам Гамеравай “Іліяды”.

Многа выпрабаванняў выпала на долю Тарашкевіча. Польскія астрогі, судовыя працэсы, дзе яго абвінавачвалі ў замаху на канстытуцыйны лад Рэчы Паспалітай... Але ніколі не губляў ён чалавечай годнасці і веры ў свой народ, заставаўся страсным абаронцам яго правоў, дбаў пра ўзбагачэнне яго культуры і навукі. Сімвалічна тое, што, седзячы ў польскай турме ў 1932 – 1933 гг., ён дзень за днём перакладаў на беларускую мову шэдэўр Адама Міцкевіча – эпапею “Пан Тадэвуш”. Не хапала самага элементарнага: паперы (таму нельга было дазволіць сабе раскошу – мець чарнавік), слоўнікаў, даведнікаў. Была толькі фенаменальная памяць ды грунтоўныя, энцыклапедычныя веды перакладчыка.

Кажуць: “Вялікія – вялікія ва ўсім”. Гэта – пра Браніслава Тарашкевіча. У 26 год ён – аўтар першай “Беларускай граматыкі”; у 30 – кіраўнік парламенцкага беларускага прадстаўніцтва на сейме Рэчы Паспалітай; у 33 гады – старшыня 100-тысячнай Беларускай сялянска-работніцкай грамады; у 36 – акадэмік АН БССР. І ўсё, што ён пакінуў нам у спадчыну, – рэчы векапомныя, якія будуць жыць столькі, колькі будзе жыць беларускі народ.

Тарашкевіч не паспеў сказаць усяго, на што былі нацэлены яго дапытлівы розум, мастацкае светаадчуванне. Паверыўшы ў добрыя намеры савецкай улады, хацеў прыехаць у савецкую Беларусь, каб працаваць дзеля яе адраджэння. І памыліўся. У 1933 г. ён быў вызвалены з польскай турмы, каб затым назаўсёды знікнуць з палітычнага і філалагічнага гарызонту разам з многімі ахвярамі

сталінскіх рэпрэсій. Замест прызнання – заўчасная смерць у самым росквіце творчых сіл. Яму было ўсяго 46 гадоў.

Але імя Браніслава Адамавіча Тарашкевіча будзе заўсёды ззяць паміж велічных імёнаў тых, хто самаахвярна паклаў жыццё на алтар беларускай ідэі.

*(Паводле Л.І.Сямешкі)*

## СПЕЦЫЯЛЬНЫЯ ТЭКСТЫ ДЛЯ ПЕРАКЛАДУ

### Роль хозяйственного права в регулировании общественных отношений

Хозяйственные отношения составляют важнейшую часть общественных отношений. Хозяйственные отношения включают в себя не только осуществление хозяйственной деятельности, но и руководство ею. И та и другая деятельность осуществляется предприятиями, организациями и другими субъектами хозяйствования, а также хозяйственными органами управления. Хозяйственные отношения затрагивают важнейшую сферу общественных отношений: сферу материального производства, потребления и руководство ею. Отсюда правовое регулирование хозяйственных отношений играет важную роль в осуществлении экономической политики государства, в реализации его экономических программ, в удовлетворении, в конечном счете, материальных и духовных потребностей граждан. Правовое регулирование придает стабильность, устойчивость хозяйственным отношениям, создает строгий порядок в поведении субъектов хозяйствования и соответствующих органов управления. Четкость правового регулирования и реальность хозяйствования – это взаимосвязанные и взаимообусловленные понятия. Нельзя отрицать и тот факт, что правовое регулирование экономики осуществляется, в известной степени, и другими отраслями права: административным, гражданским, трудовым и т.д. Однако хозяйственное право занимает здесь ведущее место. Оно занимает основное место в правовой организации хозяйственных отношений.

В нормах хозяйственного права устанавливаются принципы, формы и методы хозяйствования. Хозяйственное право не только устанавливает общие начала хозяйствования, но и регулирует отдельные направления хозяйственной деятельности в сфере взаимного обмена товарами, приобретения товаров в собственность, временного пользования и управления, выполнения работ, оказания услуг. Например, поставка товаров, снабжение энергоресурсами через присоединенную сеть, подряд на капитальное строительство и т.д.

(*В.Н.Паращенко “Хозяйственное право“)*

## Понятие хозяйственного права

Вопрос о хозяйственном праве, его сущности, степени самостоятельности сложен, многообразен и имеет различные, в том числе и правовые, аспекты.

С одной стороны, хозяйственное право рассматривается как самостоятельная отрасль права; с другой – как отрасль законодательства, с третьей – как наука, с четвертой – как учебная дисциплина.

Если трактовка хозяйственного права как отрасли законодательства, как науки, как учебной дисциплины особых возражений не вызывает ни со стороны теоретиков, ни со стороны практиков, то вопрос о хозяйственном праве как самостоятельной отрасли права дискуссионен. Общепринято, что для самостоятельной отрасли права характерны самостоятельный предмет и метод правового регулирования, особая сфера применения.

Предмет правового регулирования хозяйственного права составляют хозяйственные отношения, которые складываются при осуществлении хозяйственной деятельности. С этой точки зрения, хозяйственные отношения – это самостоятельный вид общественных отношений. Это отношения между субъектами хозяйствования по горизонтали. Они включают в себя, как правило, отношения между предприятиями, хозяйственными организациями, в том числе и внутрихозяйственные отношения.

В условиях сохранения государственного руководства экономикой, функционирования новых, по своим юридическим качествам и методам хозяйствования, объединений, фирм, компаний хозяйственные отношения складываются между субъектами и по вертикали. Такие отношения также следует рассматривать как предмет регулирования хозяйственным правом.

Из сказанного вытекает, что хозяйственное право можно рассматривать как единую самостоятельную отрасль права.

Существует предложение рассматривать хозяйственное право как комплексную отрасль права, которая включает: 1) “гражданское хозяйственное право “ и 2) “ административное хозяйственное право“ (см. С.С. Алексеев. Структура советского права. М.: Юрид. лит., 1975), как комплексную отрасль законодательства (В.Ф. Яковлев, В.Т. Якушев. Правовые основы регулирования хозяйственной деятельности. Свердловск, 1979).

Существует концепция, согласно которой хозяйственное право регулирует отношения в государственном секторе экономики и складывающиеся между государственными организациями и их подразделениями (И.Е. Красько. Актуальные проблемы советского

хозяйственного права. Харьков, 1976), теория “Нормативного массива“.

(*В.Н. Паращенко* “*Хозяйственное право*“)

## Хозяйственное законодательство

Хозяйственное законодательство включает законы, постановления и другие нормативные акты, являющиеся источником хозяйственного права. Хозяйственное законодательство, таким образом, представляет собой совокупность нормативных актов в которых содержатся правовые нормы, регулирующие хозяйственные отношения с участием юридических и физических лиц. Следует отметить, что существуют нормативные акты, не относящиеся к чисто хозяйственному законодательству, но содержащие нормы хозяйственного права. В частности, к ним можно отнести отдельные нормативные акты, регулирующие предпринимательскую деятельность физических лиц. В хозяйственном законодательстве могут содержаться нормы других отраслей права, например, гражданского. К таким нормативным актам можно отнести транспортные уставы и кодексы. Это преимущественно акты хозяйственного законодательства. Однако в части перевозок пассажиров, багажа – это источники норм гражданского права.

Из сказанного следует, что хозяйственное законодательство представляет совокупность нормативных актов, составляющих юридический источник норм хозяйственного права. Независимо от формы и содержания хозяйственное законодательство во всех своих внешних и внутренних взаимосвязях и взаимозависимостях составляет единый нормативный массив, из которого произрастают хозяйственно-правовые нормы, составляющие фактически хозяйственное право как отрасль права.

Хозяйственно-правовые нормы независимо от того, в каких нормативных актах они помещены, – это единое целое и не могут рассматриваться как какой-то разношерстный правовой массив.

Система хозяйственного законодательства носит самостоятельный характер. Это часть законодательства страны. На него распространяются общие правила, принципы, как и на другие виды действующего в республике законодательства.

Особенностью хозяйственного законодательства является не только особая сфера его применения, но и то, что оно включает в себя достаточно много правовых актов, принятых на уровне министерств и ведомств. Такое положение вызвано прежде всего подвижностью, гибкостью и динамикой развития хозяйственных отношений. При этом ведомственные нормативные акты бывают

двух уровней. Одни из них имеют значение и распространяются на внутриведомственные отношения. Другие обязательны для субъектов хозяйствования и органов руководства ими других ведомств (межведомственные нормативные акты).

Нормативные акты первого уровня издаются в основном отраслевыми ведомствами для своих собственных нужд, второго – функциональными органами хозяйственного руководства.

Правовые акты, но локального характера, могут издаваться и непосредственно предприятиями, организациями, другими хозяйственными субъектами.

Таким образом, систему хозяйственного законодательства составляют: 1) законы; 2) нормативные постановления органов высшей государственной власти; 3) Декреты Президента; 4) нормативные Указы Президента; 5) постановления правительства; 6) ведомственные нормативные акты; 7) локальные правовые акты.

(*В.Н. Паращенко* “ *Хозяйственное право*“)

### Предмет и понятие финансового права

Под предметом финансового права, как и любой другой отрасли права, понимаются определенные общественные отношения. Предмет данной отрасли права отличают отношения, возникающие в результате финансовой деятельности государства. Однако следует иметь в виду, что при этом возникают не только чисто финансовые отношения, но и отношения другого рода, которые регулируются соответствующими отраслями права.

Отношения, составляющие предмет финансового права, исключительно многообразны и могут быть сгруппированы по различным признакам. Финансовые отношения отличает, прежде всего, то, что они возникают в связи с образованием, распределением и использованием государственных денежных фондов. Во-вторых, материальной основой этих отношений всегда выступают деньги или денежные обязательства. В-третьих, одной из сторон этих отношений обязательно выступает государство в лице органов, представляющих его интересы.

Именно указанные особенности выделяют финансовые отношения из денежных отношений. По функциональному признаку к предмету финансового права относятся: закрепление структуры финансовой системы государства, разграничение прав и обязанностей между участниками финансовых отношений, регулирование отношений, возникающих в ходе их финансовой деятельности.

К предмету финансового права относится наделение участников финансовых отношений определенным объемом прав и

обязанностей. Эти права и обязанности реализуются в процессе взаимоотношений Республики Беларусь и органов местного самоуправления, органов местного самоуправления, органов представительной и исполнительной власти, финансовых органов с субъектами налоговых и бюджетных отношений. Таким образом, предмет финансового права составляет экономические отношения, возникающие в процессе финансовой деятельности государства.

Отношения, относящиеся к предмету финансового права, исключительно многоплановые и разнообразные как в силу большого количества субъектов, в них участвующих, так вследствие всеоблагаемости распределительных отношений, в которых финансам принадлежит решающее значение.

В процессе финансовой деятельности складываются как внутригосударственные финансовые отношения, например, между правительством и исполкомом областных и Минского городского Советов, так и межгосударственные, в частности, между Министерством финансов Российской Федерации и Республики Беларусь. Классифицировать отношения можно и по другим признакам: функциональному, целеполагания и т.д. Однако какой бы признак не был положен в основу классификации, в конечном счете это отношения, связанные с образованием, распределением и использованием денежных средств.

Государство регулирует отношения в этой области, используя весь арсенал присущих ему форм и методов, устанавливаемых в законодательном порядке. Процессы, происходящие в финансовой сфере, хотя и подчинены интересам этой сферы, имеют, однако, самое непосредственное отношение к экономике в целом и социальной инфраструктуре. Поэтому государственное регулирование в области финансов является краеугольным камнем государственного управления.

Регулирование финансовых отношений осуществляется на основе юридических норм или норм финансового права. Соблюдение этих норм всеми участниками финансовых отношений является непременным условием нормального функционирования всех гражданских институтов, политической стабильности в государстве. Многочисленные примеры из древней, новой и новейшей истории убедительно говорят за то, что незаконопослушание в области финансов чревато самыми негативными последствиями для общества. Это справедливо и относительно Республики Беларусь. Преступления против экономики и финансовой системы в Беларуси достигли опасной черты. Декреты и Указы Президента направлены на предотвращение экономических преступлений и суровое наказание предприятий и

должностных лиц за правонарушения в области налогов, валютных операций, расчетных операций.

Государственная власть, регулируя финансовые отношения, опирается на нормы финансового права, которое можно определить как совокупность юридических норм, регулирующих отношения в сфере аккумуляции, распределения и использования денежных средств.

(*Л.А. Ханкевич* “ *Финансовое право Республики Беларусь*“)

**Понятие финансов. Наука о финансах**

Термин “финансы” происходит от латинского слова “financia”, что значит платеж, доход. Этот термин имеет широкое международное распространение и употребляется в связи с отношениями по поводу образования, распределения и использования денежных фондов.

Возникающие по поводу финансов общественные отношения, как и все другие, должны регулироваться определенными правовыми нормами. Государственные предписания относительно участия членов общества в формировании государственной казны – один из первых законодательных актов в истории как древних, так и современных государств. Потребность в регулировании функционирования финансов дает основание говорить, что финансы также категория правовая. Однако их правовая природа связана с финансовой деятельностью государства. При этом следует различать правовую и экономическую природу финансов.

Как экономическая категория, финансы подчинены объективным закономерностям развития экономики. Но, будучи особой сферой экономических отношений, они относительно самостоятельны и в рамках общих закономерностей имеют свои частные закономерности развития. В основе юридических законов, регулирующих экономические отношения, лежат объективные экономические законы. Юридические законы создаются по воле людей. Механизм их создания достаточно сложен и заключается в выявлении политических, экономических и социальных предпосылок, требующих принятия соответствующих правовых норм. Это означает, что, хотя юридические законы по своему характеру субъективны, содержание их объективно, поскольку их появление определяется объективными экономическими отношениями.

Изучением содержания финансов и закономерностей их развития занимается наука о финансах. Ее задачей является обобщение опыта функционирования финансового механизма в отдельных странах. Известен ряд школ в финансовой науке, которые

Артыкул 5. **Абарона моў**

Усякія прывілеі ці абмежаванне правоў па моўных прыметах недапушчальныя.

Публічная знявага, ганьбаванне дзяржаўнай і іншай мовы, стварэнне перашкод і абмежаванняў у карыстанні імі, пропаведзь варожасці на моўнай глебе цягнуць устаноўленую законам адказнасць.

Артыкул 6. **Арганізацыя выканання Закона аб мовах Беларускай ССР**

Арганізацыя выканання закона аб мовах у Беларускай ССР ускладаецца на Савет Міністраў Беларускай ССР і выканаўчы камітэт мясцовых Саветаў народных дэпутатаў.

## II. МОВА ДЗЯРЖАЎНЫХ, ПАРТЫЙНЫХ ОРГАНАЎ, ПРАДПРЫЕМСТВАЎ, УСТАНОЎ І ГРАМАДСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ

Артыкул 7. **Мова органаў дзяржаўнай улады і кіравання**

Акты вышэйшых орагнаў дзяржаўнай улады і кіравання Беларускай ССР прымаюцца на беларускай мове і публікуюцца на беларускай і рускай мовах.

Акты міністэрстваў і ведамстваў, мясцовых органаў дзяржаўнай улады і кіравання Беларускай ССР прымаюцца і публікуюцца на беларускай мове, а пры неабходнасці – і на нацыянальнай мове большасці насельніцтва той ці іншай мясцовасці.

Тэксты на пячатках, штампах, штэмпелях, фармулярах, афіцыйных бланках дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый у Беларускай ССР выконваюцца на беларускай мове; а пры неабходнасці – на беларускай і рускай або іншай мове.

Артыкул 8**. Мова справаводства і дакументацыі**

У Беларускай ССР мовай справаводства і дакументацыі, а таксама мовай узаемаадносін дзяожаўных, партыйных органаў, устаноў і грамадскіх арганізацый з’яўляецца беларуская мова.

Мовай справаводства і дакументацыі на прадпрыемствах (у тым ліку – саюзнага падпарадкавання) з’яўляецца беларуская мова, а пры неабходнасці – руская.

Артыкул 9. **Мова ўзаемаадносін рэспубліканскіх і мясцовых органаў з саюзнымі органамі і органамі іншых рэспублік**

Мовай узаемаадносін рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый з саюзнымі органамі з’яўляецца руская мова, а з

органамі, прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі іншых саюзных рэспублік – руская або іншая прымальная для бакоў мова.

Артыкул 10. **Мова тэхнічнай і праектнай дакументацыі**

Тэхнічная і праектная дакументацыя ў Беларускай ССР рыхтуецца на беларускай або рускай мове, а з улікам прызначэння – на іншай мове.

Артыкул 11. **Мова дакументаў аб статусе грамадзян Беларускай ССР**

Афіцыйныя дакументы, якія сведчаць статус грамадзяніна, – пашпарт, працоўная кніжка, дакументы аб адукацыі, пасведчанні аб нараджэнні, шлюбе, а таксама дакументацыя аб смерці асобы выконваюцца на беларускай і рускай мовах, а асобныя дакументы пры неабходнасці – на беларускай і іншай мовах.

Артыкул 12. **Мова з’ездаў, канферэнцый і іншых форумаў**

У Беларускай ССР рабочай мовай з’ездаў, сесій, канферэнцый, пленумаў, пасяджэнняў, нарад, іншых сходаў з’яўляецца беларуская мова.

Рабочай мовай міжрэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных сходаў і форумаў, якія праводзяцца на тэрыторыі Беларусі, з’яўляецца мова, вызначаная ўдзельнікамі форуму.

Удзельнікам мясцовых, рэспуліканскіх, усесаюзных і міжнародных сходаў і форумаў гарантуецца права выбіраць мову выступленняў з забеспячэннем перакладу на рабочую мову.

Артыкул 13**. Мова дакументаў па выбарах народных дэпутатаў**

Дакументацыя па выбарах народных дэпутатаў мясцовых, рэспубліканскіх і саюзных органаў дзяржаўнай улады афармляецца на беларускай мове.

Дакументацыя па выбарах народных дэпутатаў СССР падаецца ў Цэнтральную выбарчую камісію па выбарах народных дэпутатаў СССР на рускай мове.

Выбарчыя бюлетэні друкуюцца на беларускай мове або на нацыянальнай мове большасці насельніцтва выбарчай акругі.

Артыкул 14. **Мова ў сферы абслугоўвання**

На транспарце, у гандлі, у сферы медыцынскага і бытавога абслугоўвання ўжываецца беларуская мова або іншая, прымальная для бакоў мова.

Артыкул 15**. Мова судаводства**

У Беларускай ССР судаводства вядзецца на белдарускай мове або нацыянальнай мове большасці насельніцтва данай мясцовасці.

Пры разглядзе ў судах крымінальных і грамадзянскіх спраў асобам, якія прымаюць удзел у справе і не валодаюць мовай судавоства, забяспечваецца права азнаямлення з адпаведнымі

матэрыяламі, удзел у судовых дзеяннях праз перакладчыка, права выступпаць у судзе на роднай мове.

Следчыя і судовыя дакументы выдаюцца асобам, якія прымаюць удзел у справе, па іх патрабаванню, у перакладзе на родную мову, якой яны валодаюць.

Артыкул 16. **Мова вядзення спраў аб адміністрацыйных правапарушэннях**

Вядзенне спраў аб адміністрацыйных правапарушэннях у Беларускай ССР ажыццяўляецца на беларускай мове або нацыянальнай мове большасці насельніцтва той ці іншай мясцовасці.

Калі асоба, якая прыцягваецца да адміністрацыйнай адказнасці, не валодае мовай, на якой вядзецца справа, яна можа выступаць на роднай мове і карыстацца дапамогай перакладчыка.

Артыкул 17. **Мова натарыяльнага справаводства**

Натарыяльнае справаводства ў дзяржаўных натарыяльных канторах і выканаўчых камітэтах гарадскіх, пасялковых і сельскіх Саветаў народных дэпутатаў вядзецца на той мове, на якой вядзецца ў данай мясцовасці судаводства.

Калі асоба, якая звярнулася ў натарыяльную кантору, не ведае мовы, на якой вядзецца справаводства, тэксты дакументаў, што афармляюцца, павінны быць прадстаўлены ў перакладзе на рускую мову або іншую.

Артыкул 18. **Мова вядзення арбітражных спраў**

Вядзенне арбітражных спраў з удзелам бакоў, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларускай ССР, ажыццяўляецца на беларускай мове.

Вядзенне арбітражных спраў, у якіх удзельнічаюць бакі, што знаходзяцца на тэрыторыі іншай рэспулікі, ажыццяўляецца на рускай мове.

Калі справы накіроўваюцца ў Дзяржаўны арбітраж СССР або ў дзяржаўны арбітраж іншай рэспублікі, матэрыялы, аформленыя на беларускай мове, падлягаюць перакладу на рускую мову.

Артыкул 19. **Мова пракурорскага нагляду**

Акты пракурорскага нагляду ў Беларускай ССР складаюцца на беларускай мове. Адпаведна з ажыццяўленнем пракурорскага нагляду на гэтай мове вядзецца і перапіска з усімі ўстановамі, прадпрыемствамі і арганізацыямі, размешчанымі на тэрыторыі Беларускай ССР.

У зносінах з Пракуратурай СССР і іншымі саюзнымі органамі з органамі пракурорскага нагляду і іншымі ўстановамі саюзных рэспублік выкарыстоўваецца руская мова.

Артыкул 20. **Мова юрыдычнай дапамогі**

Юрыдычная дапамога грамадзянам і арганізацыям аказваецца на беларскай мове або на прымальнай для бакоў мове.

Артыкул 21. **Мова міжнародных дагавораў і пагадненняў**

Мовамі міжнародных дагавораў Беларускай ССР, а таксама пагадненняў прадпрыемстваў, установаў і грамадскіх арганізацый Беларускай ССР з прадпрыемствамі, установамі і грамадскімі арганізацыямі іншых дзяржаў з'яўляецца беларуская мова і мова другога боку дагавора або пагаднення.

## III. МОВА АДУКАЦЫІ, НАВУКІ І КУЛЬТУРЫ

Артыкул 22. **Права на выхаванне і атрыманне адукацыі на нацыянальнай мове**

Беларуская ССР гарантуе кожнаму жыхару рэспублікі неад'емнае права на выхаванне і атрыманне адукацыі на беларускай або рускай мове. Гэта права забяспечваецца сістэмай дашкольных установаў, агульнаадукацыйных школ, прафесіяльна-тэхнічных вучылішчаў, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установаў.

Права на выхаванне і атрыманне адукацыі на роднай мове маюць і грамадзяне іншых нацыянальнасцей, якія жывуць у рэспубліцы. Дзяржава стварае ўмовы для рэалізацыі гэтага права.

Кіраўнікі і іншыя супрацоўнікі сістэмы народнай адукацыі павінны валодаць мовай навучання, на якой працуе адпаведная ўстанова.

Артыкул 23. **Мова выхавання ў дзіцячых дашкольных установах**

У дзіцячых дашкольных установах, а таксама ў дзіцячых дамах у Беларускай ССР выхаванне вядзецца на беларускай мове.

У месцах кампактнага пасялення грамадзян іншых нацыянальнасцей ствараюцца дзіцячыя дашкольныя ўстановы, дзе выхаванне дзяцей вядзецца на рускай або іншай нацыянальнай мове.

У дзіцячых дашкольных установах пры неабходнасці могуць ствараюцца асобныя групы, у якіх выхаванне вядзецца на іншай мове.

Артыкул 24. **Мова навучання і выхавання ў агульнаадукацыйных школах**

У Беларускай ССР вучэбная і выхаваўчая праца ў агульнаадукацыйных школах вядзецца на беларускай мове.

У месцах кампактнага пасялення грамадзян іншых нацыянальнасцей ствараюцца агульнаадукацыйныя школы або класы, у якіх вучэбная і выхаваўчая праца вядзецца на рускай або іншай нацыянальнай мове.

У агульнаадукацыйных школах пры неабходнасці могуць стварацца класы, у якіх навучанне і выхаванне вядзецца на іншай мове.

Ва ўсіх агульнаадукацыйных школах Беларускай ССР вывучэнне беларускай і рускай моў з’яўляецца абавязковым.

Парадак вывучэння беларускай мовы вучнямі, якія часова знаходзяцца на тэрыторыі рэспублікі, вызначаецца Міністэрствам народнай адукацыі Беларускай ССР.

Артыкул 25. **Мова навучання ў прафесіянальна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах**

Навучанне і выхаванне ў прафесіянальна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах у Беларускай ССР ажыццяўляецца на беларускай мове, а па некаторых спецыяльнасцях і прафесіях – на беларускай, рускай або іншай мове. Пералік гэтых спецыяльнасцей і прафесій вызначаецца Саветам Міністраў Беларускай ССР.

Ва ўсіх навучальных установах Беларускай ССР з іншай мовай навучання беларуская мова вывучаецца незалежна ад ведамаснай прыналежнасці гэтых устаноў.

Артыкул 26. **Уступныя экзамены па мове**

Абітурыенты, якія паступаюць у вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы рэспублікі, здаюць уступны экзамен па беларускай мове, а тыя, хто не атэставаны па беларускай мове, здаюць экзамен на выбар – па беларускай або рускай мове.

Артыкул 27. **Мова ў сферы навукі**

У Беларускай ССР вынікі навукова-даследчых прац афармляюцца на беларускай мове, а з улікам іх прызначэння – на рускай мове.

Выканаўцы навукова-даследчых прац могуць выбіраць мову публікацый навуковых вынікаў.

Артыкул 28. **Мова ў сферы культуры**

У Беларускай ССР мовай у сферы культуры з’яўляецца беларуская мова. Гарантуецца таксама захаванне і развіццё культуры на мовах прадстаўнікоў іншых народаў, што жывуць у рэспубліцы.

З мэтай шырокага азнаямлення грамадзян рэспублікі з дасягненнямі культуры народаў СССР і сусветнай культуры Беларуская ССР забяспечвае пераклад і выданне на беларускай мове мастацкай, палітычнай, навуковай, вучэбнай і іншай літаратуры, вытворчасць і паказ фільмаў і аўдыявізуальных твораў.

## IV. МОВА ІНФАРМАЦЫІ І СУВЯЗІ

Артыкул 29. **Мова сродкаў масавай інфармацыі**

У Беларускай ССР мовай афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі з'яўляецца беларуская мова.

Мовай афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі могуць таксама быць руская мова і мовы іншых нацыянальнасцей.

Артыкул 30. **Мова работы пошты і тэлеграфа**

У межах Беларускай ССР паштова-тэлеграфная карэспандэнцыя ад грамадзян, дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў і ўстаноў, грамадскіх арганізацый прымаецца на беларускай або рускай мове.

Пошта і тэлеграф забяспечваюцца маркамі, канвертамі, паштоўкамі, бланкамі і да т.п., надпісы на якіх выконваюцца на беларускай або рускай мове і адпавядаюць патрабаванням Сусветнай паштовай канвенцыі.

Артыкул 31. **Мова аб'яў і паведамленняў**

Тэксты афіцыйных аб'яў, паведамленняў, плакатаў, афіш, рэклам і да т.п. выконваюцца на беларускай мове. Побач з беларускім тэкстам можа быць змешчаны яго пераклад на іншую мову.

Артыкул 32. **Мова маркіроўкі тавараў**

Маркіроўка тавараў, этыкеткі на таварах, інструкцыі аб карыстанні таварамі, зробленымі ў Беларускай ССР, выконваюцца на беларускай мове.

Маркіроўка тавараў на вываз за межы Беларускай ССР выконваецца на беларускай, рускай мове або на мове заказчыка.

Назвы ў таварных знаках даюцца на беларускай мове.

## V. МОВА НАЗВАЎ

Артыкул 33. **Мова назваў дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый**

Афіцыйныя назвы дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый даюцца на беларускай мове. З правага боку (або знізу) гэтыя назвы могуць давацца пры неабходнасці ў перакладзе на рускую або іншую мову.

Артыкул 34. **Мова тапонімаў і картаграфічных выданняў**

У Беларускай ССР тапонімы (назвы населеных пунктаў, адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, вуліц, плошчаў, рэк і да т.п.) даюцца на беларускай мове.

Тапонімы з-за межаў Беларускай ССР даюцца на беларускай мове адпаведна традыцыі, а новыя – у транскрыпцыі з мовы арыгінала.

Картаграфічныя выданні, прызначаныя для карыстання ў Беларускай ССР, рыхтуюцца і друкуюцца на беларускай мове.

Артыкул 35. **Мова асобовых імён**

Беларускія асабовыя імёны і прозвішчы ўжываюцца адпаведна нацыянальнай іменаслоўнай традыцыі і законам беларускай мовы.

Асабовыя імёны і прозвішчы з іншых моў пішуцца і ўжываюцца на беларускай мове адпаведна правілам перадачы іншамоўных уласных імён.

### VI. САДЗЕЙНІЧАННЕ НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАМУ РАЗВІЦЦЮ БЕЛАРУСАЎ, ЯКІЯ ЖЫВУЦЬ ЗА МЕЖАМІ БЕЛАРУСКАЙ ССР

Артыкул 36. **Садзейнічанне нацыянальна-культурнаму развіццю беларусаў, якія жывуць за межамі Беларускай ССР**

Беларуская ССР на аснове пагадненняў з іншымі саюзнымі рэспублікамі садзейнічае нацыянальна-культурнаму развіццю беларусаў, якія жывуць у гэтых рэспубліках.

Беларуская ССР адпаведна нормам міжнароднага права садзейнічае задавальненню нацыянальна-культурных інтарэсаў асоб беларускага паходжання, якія жывуць у замежных краінах.

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯЎ І ДАПАЎНЕННЯЎ У ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ “АБ МОВАХ У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ”»

Прыняты Палатай прадстаўнікоў 18 чэрвеня 1998 года
Адобраны Саветам Рэспублікі 29 чэрвеня 1998 года

**Артыкул 1.** Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 26 студзеня 1990 года “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь” (ЗЗ БССР, 1990 г., № 4, арт. 46) змяненні і дапаўненні і выкласці яго ў новай рэдакцыі:

# “ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АБ МОВАХ У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

## ГЛАВА 1. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 1. Мэты заканадаўства аб мовах у Рэспубліцы Беларусь**

Заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб мовах мае на мэце ўрэгуляванне адносін у галіне развіцця і ўжывання беларускай, рускай і іншых моў, якімі карыстаецца насельніцтва рэспублікі ў дзяржаўным, сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці, ахову канстытуцыйных правоў грамадзян у гэтай сферы, выхаванне

паважлівых адносін да нацыянальнай годнасці чалавека, яго культуры і мовы, далейшае ўмацаванне дружбы і супрацоўніцтва народаў.

**Артыкул 2. Дзяржаўныя мовы, іншыя мовы ў Рэспубліцы Беларусь**

У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь дзяржаўнымі мовамі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы.

Рэспубліка Беларусь забяспечвае ўсебаковае развіццё і функцыянаванне беларускай і рускай моў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

Рэспубліка Беларусь праяўляе дзяржаўны клопат аб свабодным развіцці і ўжыванні ўсіх нацыянальных моў, якімі карыстаецца насельніцтва рэспублікі.

Дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемствы, установы, арганізацыі і грамадскія аб'яднанні ствараюць грамадзянам Рэспублікі Беларусь неабходныя ўмовы для вывучэння беларускай і рускай моў і дасканалага валодання імі.

Закон не рэгламентуе ўжывання моў у неафіцыйных зносінах, у зносінах членаў працоўных калектываў паміж сабой.

**Артыкул 3. Права грамадзян карыстацца іх нацыянальнай мовай**

Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права карыстацца іх нацыянальнай мовай. Ім гарантуецца таксама права звяртацца ў дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, на прадпрыемствы, ва ўстановы, арганізацыі і грамадскія аб'яднанні на беларускай, рускай або іншай прымальнай для бакоў мове.

Рашэнне па сутнасці звароту афармляецца на беларускай або рускай мове.

**Артыкул 4. Абавязак кіраўнікоў, іншых работнікаў дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў валодаць беларускай і рускай мовамі**

Кіраўнікі, іншыя работнікі дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў павінны валодаць беларускай і рускай мовамі ў аб'ёме, неабходным для выканання імі сваіх службовых абавязкаў.

**Артыкул 5. Гарантыі правоў грамадзян пры разглядзе падаваемых імі дакументаў у дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемствы, установы, арганізацыі і грамадскія аб'яднанні**

Дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемствы, установы, арганізацыі і грамадскія

аб’яднанні павінны прымаць і разглядаць дакументы, якія падаюцца грамадзянамі на беларускай, рускай мовах.

Адмова службовай асобы прыняць і разгледзець зварот грамадзяніна на беларускай, рускай мовах са спасылкай на няведанне мовы звароту цягне за сабой адказнасць у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

**Артыкул 6. Абарона моў**

Усякія прывілеі ці абмежаванні правоў асобы па моўных прыкметах недапушчальныя.

Публічная знявага, ганьбаванне дзяржаўных і іншых нацыянальных моў, стварэнне перашкод і абмежаванняў у карыстанні імі, прапаведзь варожасці на моўнай глебе цягнуць устаноўленую законам адказнасць.

## ГЛАВА 2. МОВА ДЗЯРЖАЎНЫХ ОРГАНАЎ, ОРГАНАЎ МЯСЦОВАГА КІРАВАННЯ І САМАКІРАВАННЯ, ПРАДПРЫЕМСТВАЎ, УСТАНОЎ, АРГАНІЗАЦЫЙ І ГРАМАДСКІХ АБ’ЯДНАННЯЎ

**Артыкул 7. Мова актаў дзяржаўных органаў і органаў мясцовага кіравання і самакіравання**

Акты дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь прымаюцца і публікуюцца на беларускай і (або) рускай мовах.

Акты органаў мясцовага кіравання і самакіравання прымаюцца і публікуюцца на беларускай і (або) рускай мовах, а пры неабходнасці – і на нацыянальнай мове большасці насельніцтва той ці іншай мясцовасці.

**Артыкул 8. Мова справаводства і дакументацыі**

У Рэспубліцы Беларусь мовамі справаводства і дакументацыі, а таксама мовамі ўзаемаадносін дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб’яднанняў з’яўляюцца беларуская і (або) руская мовы.

Тэксты на пячатках, штампах, штэмпелях, фармулярах, афіцыйных бланках дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб’яднанняў выконваюцца на беларускай і (або) рускай мовах.

**Артыкул 9. Мова тэхнічнай і праектнай дакументацыі**

Тэхнічная і праектная дакументацыя ў Рэспубліцы Беларусь рыхтуецца на беларускай або рускай мове, а з улікам прызначэння – на іншай мове.

**Артыкул 10. Мова дакументаў аб статусе грамадзян Рэспублікі Беларусь**

Афіцыйныя дакументы, якія сведчаць статус грамадзяніна, – пашпарт, працоўная кніжка, дакументы аб адукацыі, пасведчанні аб нараджэнні, шлюбе, а таксама дакументы аб смерці асобы – выконваюцца на беларускай і (або) рускай мовах, а асобныя дакументы пры неабходнасці – на беларускай (рускай) і іншай мовах.

**Артыкул 11. Мова з’ездаў, канферэнцый і іншых форумаў**

У Рэспубліцы Беларусь рабочымі мовамі з’ездаў, сесій, канферэнцый, пленумаў, пасяджэнняў, нарад, іншых сходаў з’яўляюцца беларуская і (або) руская мовы.

Рабочай мовай міжнародных сходаў і форумаў, якія праводзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, з’яўляецца мова, вызначаная ўдзельнікамі сходу ці форуму.

Удзельнікам мясцовых, рэспубліканскіх і міжнародных сходаў і форумаў гарантуецца права выбіраць мову выступленняў з забеспячэннем перакладу на рабочую мову.

**Артыкул 12. Мова дакументаў па выбарах дэпутатаў і іншых асоб, выбіраемых на дзяржаўныя пасады народам**

Дакументацыя па выбарах дэпутатаў і іншых асоб, выбіраемых на дзяржаўныя пасады народам, афармляецца на беларускай або рускай мове.

Выбарчыя бюлетэні друкуюцца на беларускай або рускай мове.

**Артыкул 13. Мова ў сферы абслугоўвання**

На транспарце, у гандлі, у сферы медыцынскага і бытавога абслугоўвання ўжываецца беларуская або руская мова, а пры неабходнасці – іншыя мовы.

**Артыкул 14. Мова судаводства**

У Рэспубліцы Беларусь судаводства вядзецца на беларускай або рускай мове.

Пры разглядзе ў судах крымінальных і грамадзянскіх спраў, гаспадарчых спрэчак асобам, што прымаюць удзел у справе і не валодаюць мовай судаводства, забяспечваюцца права азнаямлення з адпаведнымі матэрыяламі, удзел у судовых дзеяннях праз перакладчыка, права выступаць у судзе на мове, якой яны валодаюць.

Следчыя і судовыя дакументы выдаюцца асобам, што прымаюць удзел у справе, па іх патрабаванню ў перакладзе на мову, якой яны валодаюць.

**Артыкул 15. Мова вядзення спраў аб адміністрацыйных правапарушэннях**

Вядзенне спраў аб адміністрацыйных правапарушэннях у Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на беларускай або рускай мове.

Калі асоба, што прыцягваецца да адміністрацыйнай адказнасці, не валодае мовай, на якой вядзецца справа, яна можа выступаць на роднай мове і карыстацца дапамогай перакладчыка.

**Артыкул 16. Мова натарыяльнага справаводства**

Натарыяльнае справаводства ў Рэспубліцы Беларусь вядзецца на беларускай або рускай мове.

Калі асоба, што звярнулася за ажыццяўленнем натарыяльнага дзеяння, не валодае мовамі, на якіх вядзецца справаводства, тэксты дакументаў павінны быць перакладзены ёй натарыусам або іншай службовай асобай, што ажыццяўляе натарыяльнае дзеянне, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 17. Мова пракурорскага нагляду**

Акты пракурорскага нагляду ў Рэспубліцы Беларусь складаюцца на беларускай або рускай мове. Пры ажыццяўленні пракурорскага нагляду на гэтых мовах вядзецца і перапіска з усімі дзяржаўнымі органамі, органамі мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі і грамадскімі аб’яднаннямі, размешчанымі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

У зносінах з органамі пракуратуры, пракурорскага нагляду іншых дзяржаў выкарыстоўваецца прымальная для бакоў мова.

**Артыкул 18. Мова юрыдычнай дапамогі**

Юрыдычная дапамога грамадзянам і арганізацыям аказваецца на беларускай ці рускай мове або на прымальнай для бакоў мове.

**Артыкул 19. Мова міжнародных дагавораў**

Міжнародныя дагаворы Рэспублікі Беларусь заключаюцца:

на беларускай і (або) рускай мовах і мове (мовах) другога боку дагавора;

на беларускай і рускай мовах, а таксама на мове трэцяга боку, выкарыстоўваемай у якасці даведачнай;

па дамоўленасці бакоў на мове трэцяга боку.

**Артыкул 20. Мова ва Узброеных Сілах, іншых вайсковых фарміраваннях Рэспублікі Беларусь**

Ва Узброеных Сілах, іншых вайсковых фарміраваннях Рэспублікі Беларусь ужываюцца беларуская і (або) руская мовы.

## ГЛАВА 3. МОВА АДУКАЦЫІ, НАВУКІ І КУЛЬТУРЫ

**Артыкул 21. Права на выхаванне і атрыманне адукацыі на нацыянальнай мове**

Рэспубліка Беларусь гарантуе кожнаму жыхару неад’емнае права на выхаванне і атрыманне адукацыі на беларускай або рускай мове. Гэта права забяспечваецца сістэмай дашкольных устаноў, агульнаадукацыйных школ, прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў.

Права на выхаванне і атрыманне адукацыі на роднай мове маюць і асобы іншых нацыянальнасцей, якія жывуць у рэспубліцы.

Кіраўнікі і іншыя супрацоўнікі сістэмы адукацыі павінны валодаць беларускай і рускай мовамі.

**Артыкул 22. Мова выхавання ў дзіцячых дашкольных установах**

У дзіцячых дашкольных установах, а таксама ў дзіцячых дамах у Рэспубліцы Беларусь выхаванне вядзецца на беларускай і (або) рускай мовах.

У адпаведнасці з пажаданнямі грамадзян па рашэнню мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў могуць стварацца дзіцячыя дашкольныя ўстановы або асобныя групы, у якіх выхаванне вядзецца на мове нацыянальнай меншасці.

**Артыкул 23. Мова навучання і выхавання, вывучэнне моў у агульнаадукацыйных школах**

У Рэспубліцы Беларусь вучэбная і выхаваўчая работа ў агульнаадукацыйных школах вядзецца на беларускай і (або) рускай мовах.

У адпаведнасці з пажаданнямі грамадзян па рашэнню мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў могуць стварацца агульнаадукацыйныя школы або класы, у якіх вучэбна-выхаваўчы працэс вядзецца на мове нацыянальнай меншасці або вывучаецца мова нацыянальнай меншасці.

Ва ўсіх агульнаадукацыйных школах Рэспублікі Беларусь вывучэнне беларускай, рускай і адной з замежных моў з'яўляецца абавязковым.

Парадак вывучэння беларускай мовы вучнямі, якія часова знаходзяцца на тэрыторыі рэспублікі, вызначаецца рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання ў галіне адукацыі.

**Артыкул 24. Мова навучання і выхавання ў прафесійна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах**

Навучанне і выхаванне ў прафесійна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах Рэспублікі Беларусь ажыццяўляецца на беларускай і (або) рускай мовах.

Беларуская мова ва ўсіх навучальных установах Рэспублікі Беларусь вывучаецца незалежна ад іх ведамаснай прыналежнасці.

**Артыкул 25. Мова ў сферы навукі**

У Рэспубліцы Беларусь вынікі навукова-даследчых работ афармляюцца на беларускай або рускай мове.

Выканаўцы навукова-даследчых работ могуць выбіраць мову публікацый навуковых вынікаў.

**Артыкул 26. Мова ў сферы культуры**

У Рэспубліцы Беларусь мовамі ў сферы культуры з'яўляюцца беларуская і (або) руская мовы. Гарантуецца захаванне і развіццё культуры на мовах іншых народаў, прадстаўнікі якіх жывуць у рэспубліцы.

## ГЛАВА 4. МОВА ІНФАРМАЦЫІ І СУВЯЗІ

**Артыкул 27. Мова сродкаў масавай інфармацыі**

У Рэспубліцы Беларусь мовамі сродкаў масавай інфармацыі з'яўляюцца беларуская і (або) руская, а таксама мовы іншых народаў, прадстаўнікі якіх жывуць у рэспубліцы.

У сродках масавай інфармацыі не дапускаецца скажэнне агульнапрынятых норм выкарыстоўваемай мовы.

**Артыкул 28. Мова работы пошты і тэлеграфа**

У межах Рэспублікі Беларусь паштова-тэлеграфная карэспандэнцыя ад грамадзян, дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў прымаецца на беларускай або рускай мове.

Пошта і тэлеграф забяспечваюцца маркамі, канвертамі, паштоўкамі, бланкамі і г. д., надпісы на якіх выконваюцца на беларускай або рускай мове і адпавядаюць патрабаванням актаў Сусветнага паштовага саюза і Міжнароднага саюза электрасувязі.

**Артыкул 29. Мова аб'яў, паведамленняў і рэкламы**

Тэксты афіцыйных аб'яў, паведамленняў, плакатаў, афіш, рэклам і г. д. выконваюцца на беларускай або рускай мове.

**Артыкул 30. Мова маркіроўкі тавараў**

Маркіроўка тавараў, этыкеткі на таварах, інструкцыі па карыстанню таварамі выконваюцца на беларускай або рускай мове.

Маркіроўка тавараў, прызначаных на вываз за межы Рэспублікі Беларусь, выконваецца на беларускай ці рускай мове або на мове заказчыка.

Назвы ў таварных знаках падаюцца на беларускай або рускай мове.

## ГЛАВА 5. МОВА НАЗВАЎ

**Артыкул 31. Мова назваў дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў**

Афіцыйныя назвы дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў даюцца на беларускай і (або) рускай мовах. Пры неабходнасці гэтыя назвы могуць давацца ў перакладзе на іншую мову.

**Артыкул 32. Мова тапонімаў і картаграфічных выданняў**

У Рэспубліцы Беларусь тапонімы (назвы населеных пунктаў, адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, вуліц, плошчаў, рэк і г. д.) даюцца на беларускай або рускай мове.

Назвы геаграфічных аб’ектаў, якія знаходзяцца па-за межамі Рэспублікі Беларусь, даюцца на беларускай або рускай мове ў адпаведнасці з традыцыяй, а новыя – у транскрыпцыі з мовы арыгінала.

Картаграфічныя выданні, прызначаныя для карыстання ў Рэспубліцы Беларусь, рыхтуюцца і друкуюцца на беларускай або рускай мове.

**Артыкул 33. Мова асабовых імён**

Беларускія (рускія) асабовыя імёны і прозвішчы ўжываюцца ў адпаведнасці з традыцыяй, нормамі і правіламі беларускай (рускай) мовы.

Асабовыя імёны і прозвішчы з іншых моў пішуцца і ўжываюцца на беларускай (рускай) мове ў адпаведнасці з правіламі перадачы іншамоўных уласных імён.

## ГЛАВА 6. САДЗЕЙНІЧАННЕ НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАМУ РАЗВІЦЦЮ ЭТНІЧНЫХ БЕЛАРУСАЎ, ЯКІЯ ЖЫВУЦЬ ЗА МЕЖАМІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Артыкул 34. Садзейнічанне нацыянальна-культурнаму развіццю этнічных беларусаў, якія жывуць за межамі Рэспублікі Беларусь**

Рэспубліка Беларусь на аснове пагадненняў з іншымі дзяржавамі садзейнічае нацыянальна-культурнаму развіццю этнічных беларусаў, якія жывуць у гэтых дзяржавах.

Рэспубліка Беларусь у адпаведнасці з нормамі міжнароднага права садзейнічае задавальненню нацыянальна-культурных інтарэсаў асоб беларускага паходжання, якія жывуць у замежных краінах”.

**Артыкул 2.** Гэты Закон уступае ў сілу з дня апублікавання.

**Артыкул 3.** Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

падрыхтаваць і ўнесці ва ўстаноўленым парадку ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прапановы па прывядзенню заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам;

прывесці рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам;

забяспечыць перагляд і адмену рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, падначаленымі Савету Міністраў, іх нарматыўных актаў, што супярэчаць гэтаму Закону.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь
А. Лукашэнка

13 ліпеня 1998 г., г. Мінск, № 187-З

**26 ліпеня 2008 года**
**№ 138 (26251)**

**ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ Аб Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі**

Прыняты Палатай прадстаўнікоў 24 чэрвеня 2008 года
Адобраны Саветам Рэспублікі 28 чэрвеня 2008 года

**Артыкул 1.** Зацвердзіць Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі (прыкладаюцца).

**Артыкул 2.** Дзяржаўныя органы, іншыя арганізацыі, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, а таксама замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна ці часова пражываюць або часова знаходзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, павінны кіравацца Правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, зацверджанымі гэтым Законам, ва ўсіх сферах і выпадках выкарыстання пісьмовай беларускай мовы.

**Артыкул 3.** Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 верасня 2010 года:

забяспечыць прывядзенне актаў заканадаўства ў адпаведнасць з гэтым Законам;

прыняць іншыя меры, неабходныя для рэалізацыі палажэнняў гэтага Закона.

**Артыкул 4.** Гэты Закон уступае ў сілу з 1 верасня 2010 года, за выключэннем гэтага артыкула і артыкула 3, якія ўступаюць у сілу з дня афіцыйнага апублікавання гэтага Закона.

Прэзідэнт
Рэспублікі
Беларусь **А.Лукашэнка**

23 ліпеня 2008 года, г.Мінск.
№ 420—З

**ЗАЦВЕРДЖАНА**
**Закон Рэспублікі Беларусь**
**23.07.2008 № 420-З**

## РУСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК ЮРЫДЫЧНЫХ ТЭРМІНАЎ

Авторское право – аўтарскае права
Аграрное право – аграрнае права
Адвокат – адвакат
Административное право – адміністрацыйнае права
Административно-территориальная структура – адміністрацыйна-тэрытарыяльная будова
Административный кодекс – адміністрацыйны кодэкс
Административный надзор – адміністрацыйна нагляд
Аккредитация – акрэдытацыя
Акт юридический – акт юрыдычны
Акты гражданского состояния − акты грамадзянскага стану
Акционерные товарищества – акцыянерныя таварыствы
Арест административный – арышт адміністрацыйны
Арест дисциплинарный – арышт дысцыплінарны
Арест имущества – арышт маёмасці

**Б**

Банковский кредит – банкаўская пазыка
Банкротство – банкруцтва
Бездельничание – марнатраўства
Бездеятельность преступная – бяздзейнасць злачынная
Безопасность – бяспека
Безработица – беспрацоўе
Бесспорные факты – бяссрэчныя факты
Беспечность человека –нядбайнасць чалавека
Беспрерывный стаж работы – бесперапынны стаж работы
Бесспорное взыскание – бясспрэчнае спагнанне
Брак – шлюб
Бракоразводный процесс – шлюбаразводны працэс
Брачный возраст – шлюбны ўзрост
Бюджетное право – бюджэтнае права

**В**

Валютное законодательство – валютнае заканадаўства
Валютные операции − валютныя аперацыі
Валютные преступления – валютныя злачынствы
Валютные ценности – валютныя каштоўнасці
Введение в обман − увядзенне ў зман
Верительная грамота – даверчая грамата
Ветеран труда – ветэран працы
Вещественное доказательство – рэчавы доказ
Вещественное право – рэчавае права

Взятие под стражу – узяцце пад варту
Взяточничество – хабарніцтва
Виды наказания – віды пакарання
Вклады денежные – уклады грашовыя
Власть государственная – улада дзяржаўная
Внешнеторговое объединение – знешнегандлёвае аб'яднанне
Внешнеторговые сделки – знешнегандлёвыя здзелкі
Возбуждение уголовного дела – узбуджэнне крымінальнай справы
Воздушное право – паветранае права
Возобновление уголовного дела по вновь открывшимся обстоятельствам – аднаўленне крымінальнай справы па новаадкрытых акалічнасцях
Военные преступники – ваенныя злачынцы
Воинская (военная) служба – вайсковая служба
Воображаемая защита – уяўная абарона
Воспитательно-трудовая колония – выхаваўча-працоўная калонія
Временное отсутствие – часовая адсутнасць
Временная нетрудоспособность – часовая непрацаздольнасць
Встречный иск − сустрэчны іск
Выговор – вымова

**Г**

Гарантии процессуальные – гарантыі працэсуальныя
Гарантийные выплаты – гарантыйныя выплаты
Гарантийный срок – гарантайны тэрмін
Гласность судопроизводства – галоснасць судаводства
Государственная пошлина – дзяржаўная пошліна
Государственное право – дзяржаўнае права
Государственные преступления – дзяржаўные злачынствы
Государственный строй – дзяржаўны лад
Государственный язык – дзяржаўная мова
Гражданское дело –грамадзянская справа
Гражданский иск – грамадзянскі іск
Гражданский кодекс – грамадзянскі кодэкс
Гражданский ответчик – грамадзянскі адказчык
Гражданский процесс – грамадзянскі працэс
Гражданские права и обязанности – грамадзянскія правы і абавязкі
Гражданское право – грамадзянскае права
Гражданство – грамадзянства
Границы государства (государственные) – межы дзяржавы (дзяржаўныя)

## Д

Давность привлечения к уголовной ответственности – даўнасць прыцягнення да крымінальнай адказнасці
Движимое имущество – рухомая маёмасць
Декларация о доходах – дэкларацыя аб даходах
Денежные вклады – грашовыя ўклады
Денежное начисление – грашовы налік
Депутатская неприкосновенность – дэпутацкая недатыкальнасць
Дипломатическая неприкосновенность – дыпламатычная недатыкальнасць
Добровольный отказ от совершения преступления – дабраахвотная адмова ад учынення злачынства
Добросовестный приобретатель – добрасумленны набытчык
Добровольное товарищество – добраахвотнае таварыства
Доведение до самоубийства – давядзенне да самагубства
Договор о материальной ответственности –дагавор аб матэрыяльнай адказнасці
Договор в пользу третьего лица – дагавор на карысць трэцяй асобы
Договор о совместной ответственности – дагавор аб сумеснай адказнасці
Договор трудовой – дагавор працоўны
Дополнительное расследование – дадатковае расследаванне
Досрочное освобождение от наказания – датэрміновае вызваленне ад пакарання

## Е

Единоличные действия судьи − аднаасобныя дзеянні суддзі
Единоначалие – адзінаначалле
Единыя фонд недр – адзіны фонд нетраў

## Ж

Жалоба – скарга
Женский труд – жаночая праца
Жилищное законодательство – жыллёвае заканадаўства
Жилищный кодекс – жыллёвы кодэкс
Жилое помещение – жылое памяшканне
Жилой фонд – жыллёвы фонд

## З

Завещание – завяшчанне
Задержание – затрыманне
Закон о собственности – закон аб ўласнасці

Законный представитель – законны прадстаўнік
Законодательство – заканадаўства
Замена временная – намесніцтва часовае
Занятие запрещенной предпринимательской деятельностью – занятак забароненай прадпрымальніцкай дзейнасцю
Заочное обучение – завочнае навучанне
Заочное рассмотрение дела – завочны разгляд справы
Запрос депутатский – запыт дэпутацкі
Захват заложника – захоп заложніка
Заранее необещаное укрывательство – загадзя неабяцанае ўкрывальніцтва
Зачёт встречных требований – залік сустрэчных патрабаванняў
Защита Отечества –абарона Бацькаўшчыны
Земельное право − зямельнае права
Землевладение – землеўладанне
Землепользование – землекарыстанне
Земли общего пользования – землі агульнага карыстання

**И**

Избирательный округ –выбарчая акруга
Излишки жилой площади – лішкі жылой плошчы
Иммунитет дипломатический – імунітэт дыпламатычны
Имущественные права – маёмасныя правы
Имущественные преступления – маёмасныя злачынствы
Имущество – маёмасць
Имущество недвижимое – маёмасць нерухомая
Индивидуальное жилищное строительство – індывідуальнае жыллёвае будаўніцтва
Индивидуальная трудовая деятельность – індывідуальная працоўная дзейнасць
Инкриминирование – інкрымінаванне
Иностранные граждане – замежныя грамадзяне
Инспекция государственная – інспекцыя дзяржаўная
Интеллектуальная собственность – інтэлектуальная ўласнасць
Исключительная мера наказания – выключная мера пакарання
Исковое заявление – іскавая заява
Исполнительное введение –выканаўчае ўвядзенне
Исполнительные документы – выканаўчыя дакументы
Исполнение наказания – выкананне пакарання
Исполнение обязательств – выкананне абавязкаў
Исполнение приговора – выкананне прыгавору
Исполнение судебного решения – выкананне судовага рашэння
Испытательный срок – выпрабавальны тэрмін

Истец – iсцец
Источник права – крыніца права

**К**

Кассационная жалоба − касацыйная скарга
Кассационный протест – касацыйны пратэст
Качество – якасць
Коллегия адвокатов – калегiя адвакатаў
Коллективная безопасность – калектыўная бяспека
Коллективная собственность – калектыўная ўласнасць
Колхозное право – калгаснае права
Комиссия по трудовым спорам – камiсiя па працоўных спрэчках
Комиссионная торговля – камiсiйны гандаль
Коммерческий акт – камерцыйны акт
Коммерческий банк – камерцыйны банк
Компенсированная выплата – кампенсаваная выплата
Конституционное право – канстытуцыйнае права
Контроль общественный –кантроль грамадскi
Конфискация имущества – канфiскацыя маёмасцi
Кооператив – кааператыў
Кооперативная собственность – кааператыўная ўласнасць
Криминальное право – крымiнальнае права
Криминально-процессуальное право – крымiнальна-працэсуальнае права
Косвенное доказательство – ускосны доказ
Косвенное намерение – ускосны намер
Купля-продажа – купля-продаж

**Л**

Лесное законодательство – лясное заканадаўства
Лесной кодекс – лясны кодэкс
Лечение незаконное – лячэнне незаконнае
Лечение принудительное – лячэнне прымусовае
Лжесвидетельство – iлжэсведчанне
Листок нетрудоспособности – лiсток непрацаздольнасцi
Лицензионный договор – лiцэнзiйны дагавор
Личные неимущественные права – асабiстыя немаёмасныя правы
Личный досмотр – асабiсты агляд
Лишение родительских прав – пазбаўленне бацькоўскiх правоў
Лишение свободы – пазбаўленне волi
Льготы – iльготы

**М**

Малое предприятие –малое прадпрыемства
Массовые беспорядки – масавыя беспарадкі
Материальная ответственность – матэрыяльная адказнасць
Международное право – міжнароднае права
Международное частное право - міжнароднае прыватнае права
Международный терроризм – міжнародны тэрарызм
Мелкое хулиганство - дробнае хуліганства
Мера пресечения – мера стрымання
Места лишения свободы – месцы пазбаўлення волі
Местные органы государственной власти – мясцовыя органы дзяржаўная улады
Минимальный потребительский бюджет - мінімальны спажывецкі бюджэт
Мирное сосуществование – мірнае суіснаванне
Мнимая (воображаемая) защита - уяўная абарона
Многоступенчатые выборы – шматступенныя выбары
Мотив преступления – матыў злачынства
Мошенничество – махлярства

**Н**

Награды государственные – узнагароды дзяржаўныя
Назначение наказания - назначэнне пакарання
Накладные платежи - накладныя плацяжы
Налог на землю – падатак на зямлю
Налоги государственные – падаткі дзяржаўныя
Налоги и сборы местные – падаткі і зборы мясцовыя
Налоговое право – падатковае права
Наркотические средства – наркатычныя сродкі
Народные заседатели - народныя засядацелі
Народный суд - народны суд
Народный судья - народны суддзя
Наследство – спадчына
Наследственное право – спадчыннае права
Научно-производственное объединение – навукова-вытворчае аб'яднанне
Небрежность преступная – неахайнасць злачынная
Невозможность исполнения обязательства - немагчымасць выканання абавязацельства
Недопустимость поворота к худшему - недапушчальнасць павароту да горшага
Недостача – нястача
Независимость судей - незалежнасць суддзяў

Незаконное лишение свободы - незаконнае пазбаўленне волі
Ненормированный рабочий день – ненарміраваны працоўны дзень
Необходимая защита - неабходная абарона
Неотвратимость наказания – няўхільнасць пакарання
Непосредственность судебного разбора - непасрэднасць судовага разбору
Неприкосновенность личности – недатыкальнасць асобы
Несчастный случай – няшчасны выпадак
Нетрудовые доходы – непрацоўныя даходы
Нетрудоспособность – непрацаздольнасць
Норма права – норма права
Нормативный договор - нарматыўны дагавор
Нормативно-правовой акт – нарматыўна-прававы акт
Нотариальная сделка - натарыяльная зделка
Нотариат – натарыят

**О**

Обвинитель – абвінаваўца
Обвинительное заключение - абвінаваўчае заключэнне
Обжалование действий официального лица - абскарджанне дзеянняў службовай асобы
Обжалование действий прокурора - абскарджанне дзеянняў пракурора
Обжалование действий следователя - абскарджанне дзеянняў следчага
Обжалование действий судебного исполнителя - абскарджанне дзеянняў судовага выканаўцы
Обжалование судебных постановлений – абскарджанне судовых пастаноў
Обеспечение иска - забеспячэнне іску
Обман – ашуканства
Обратная сила закона - адваротная сіла закону
Обратная сила криминального закона - адваротная сіла крымінальнага закону
Обратное требование – адваротнае патрабаванне
Обязательство доказывания – абавязацельства даказвання
Обязательство факультативное – абавязацельства факультатыўнае
Общая собственность – агульная ўласнасць
Общежитие – інтэрнат
Общественная безопасность - грамадская бяспека
Общественная опасность – грамадская небяспека
Общественная охрана правопорядка – грамадская ахова правапарадку

Общественное воздействие – грамадскае ўздзеянне
Общественноопасный способ совершения преступления – грамадсканебяспечны спосаб учынення злачынства
Общественные фонды потребления – грамадскія фонды спажывання
Общественный защитник – грамадскі абаронца
Общественный контроль – грамадскі кантроль
Общественный порядок – грамадскі парадак
Общественный строй – грамадскі лад
Обычай торговый – звычай гандлёвы
Объединение исков – аб’яднанне іскаў
Объект права – аб’ект права
Обязательная доля – абавязковая доля
Обязательное право – абавязковае права
Опись имущества – вопіс маёмасці
Оплата труда – аплата працы
Определение суда – вызначэнне суда
Ордер – ордар
Организатор преступления – арганізатар злачынства
Организованное преступление – арганізаванае злачынства
Органы государственной безопасности – органы дзяржаўнай бяспекі
Освобождение досрочное – вызваленне датэрміновае
Освобождение от уголовной ответственности – вызваленне ад крымінальнай адказнасці
Осмотр вещественных доказательств – агляд рэчавых доказаў
Осмотр места происшествия – агляд месца здарэння
Осмотр следственный – агляд следчы
Осмотр судебный – агляд судовы
Основы законодательства – асновы заканадаўства
Особое ведение – асобае вядзенне
Оставление в опасности – пакіданне ў небяспецы
Оставление заявления без рассмотрения – пакіданне заявы без разгляду
Осужденный – асуджаны
Ответственность административная – адказнасць адміністрацыйная
Ответственность гражданская – адказнасць грамадзянская
Ответственность дисциплинарная – адказнасць дысцыплінарная
Ответственность коллективная – адказнасць калектыўная
Ответственность материальная – адказнасць матэрыяльная
Ответственность несовершеннолетних – адказнасць непаўналетніх
Ответственность предприятия – адказнасць прадпрыемства
Ответственность уголовная – адказнасць крымінальная
Ответственность частичная – адказнасць долевая
Ответственность юридическая – адказнасць юрыдычная

Отвод судьи – адвод суддзі
Отдание под суд – аддане пад суд
Отзыв судей – адкліканне суддзяў
Отказ в правосудии – адмова ў правасуддзі
Отказ от иска – адмова ад іску
Открытие наследства – адкрыццё спадчыны
Относительные права – адносныя правы
Отрасль права – галіна права
Отсрочка исполнения приговора – адтэрміноўка выканання прыгавору
Отягчающие вину обстоятельства – акалічнасці, што абцяжарваюць віну
Очная ставка – вочная стаўка
Ошибка фактическая – памылка фактычная
Ошибка юридическая – памылка юрыдычная

**П**

Платежеспособность – платаздольнасць
Платежное поручение – плацежнае даручэнне
Платежное требование – плацежнае патрабаванне
Поворот исполнения судебного решения – паварот выканання судовага рашэння
Пограничное соглашение – пагранічнае пагадненне
Подготовка документов – падрыхтоўка дакументаў
Подготовка к преступлению – падрыхтоўка да злачынства
Подозреваемый - падазроны
Подписка о невыезде – падпіска аб нявыездзе
Подсудимый - падсудны
Покушение на преступление – замах на злачынства
Пользование - карыстанне
Поощрение - заахвочванне
Попрошайничество - папрашайніцтва
Пособник преступления – памагаты злачынства
Постановление следственного органа – пастанова следчага ограна
Постановление суда – пастанова суда
Поступок преступный – учынак злачынны
Право пользования – права карыстання
Правовое регулирование – прававое рэгуляванне
Превышение границ необходимой защиты – перавышэнне межаў неабходнай абароны

Предварительное заключение – папярэдняе зняволенне
Предварительное следствие – папярэдняе следства
Презумпция невиновности – прэзумпцыя невінаватасці
Преступная самодеятельность – злачынная самадзейнасць
Преступник - злачынца
Приговор - прысуд
Причастность к преступлению – дачыненне да злачынства
Причины преступности – прычыны злачыннасці
Производственная марка – вытворчая марка
Производственное объединение – вытворчае аб'яднанне
Производственная травма – вытворчая траўма
Прокурорский надзор – пракурорскі нагляд
Публичное право – публічнае права
Пытка (пытки) – катаванне

Р

Работник внештатный – работнік пазаштатны
Разгосударствление – раздзяржаўленне
Раздел имущества – падзел маёмасці
Разоружение – раззбраенне
Рассрочка – растэрміноўка
Расчетный счет – разліковы рахунак
Расчеты международные – разлікі міжнародныя
Реализация права – рэалізацыя права
Режим наибольшего благоприятствования – рэжым найбольшага спрыяння
Решение суда – рашэнне суда
Рецидив преступлений – рэцэдыў злачынстваў
Родительские права и обязанности – бацькоўскія правы і абавязкі
Родство – роднасць

С

Санкции договорные – санкцыі дагаворныя
Санкции кредитные – санкцыі крэдытныя
Сельскохозяйственное право – сельскагаспадачае права
Система права – сістэма права
Систематичность преступлений – сістэматычнасць злачынстваў
Судебный спор – судовая спрэчка
Субъект права – суб'ект права
Судебный надзор – судовы нагляд
Судебный разбор – судовы разбор
Судебные издержки – судовыя выдаткі

Совокупность преступлений – сукупнасць злачынстваў
Совокупность договоров – сукупнасць дагавароў
Совместное предприятие – сумеснае прадпрыемства
Сроки процессуальные – тэрміны працэсуальныя
Судебная защита – судовая абарона

**Т**

Тайна голосования – тайна галасавання
Таможенное право – мытнае права
Таможня – мытня
Тарифная система – тарыфная сістэма
Текущий счет – бягучы рахунак
Телесные повреждения – цялесныя пашкоджанні
Территориальная неприкосновенность – тэрытарыяльная недатыкальнасць
Территория государственная – тэрыторыя дзяржаўная
Террористический акт – тэрарыстычны акт
Техника безопасности – тэхніка бяспекі
Товарищеский суд – таварыскі суд
Толкование закона – тлумачэнне закона
Торговля комиссионная – гандаль камісійны
Торговое право – гандлёвае права
Тюремное заключение – турэмнае зняволенне
Тяжесть наказания – цяжар пакарання

**У**

Убийство – забойства
Увольнение с должности (с работы) – звальненне з пасады (з работы)
Увечье – калецтва
Уголовное дело – крымінальная справа
Уголовный процесс – крымінальны працэс
Уголовный розыск – крымінальны вышук
Улучшение жилищных условий – паляпшэнне жыллёвых умоў
Устность судебного разбирательства – вуснасць судовага разбору
Уступка требованию – уступка патрабаванню
Участники уголовного процесса – удзельнікі крымінальнага працэсу
Участники гражданского процесса – удзельнікі грамадзянскага працэсу
Условное осуждение – умоўнае асуджэнне

Ущерб (вред) имущественный – шкода маёмасная

**Ф**

Факт юридический –факт юрыдычны
Фактический брак – фактычны шлюб
Фактический воспитатель – фактычны выхавацель
Фальшивомонетничество – фальшываманецтва
Фиктивный брак – фіктыўны шлюб
Фиксация в законодательстве – фіксацыя ў заканадаўстве
Финансовое право – фінансавае права
Фонд материального поощрения – фонд матэрыяльнага заахвочвання
Фонд развития производства – фонд развіцця вытворчасці
Фонды общественного потребления – фонды грамадскага спажывання
Форма государства – форма дзяржавы
Форма правления – форма праўлення

**Х**

Халатность – халатнасць
Ходатайство – хадайніцтва
Хозяйственное объединение - гаспадарчае аб'яднанне
Хозяйственное право - гаспадарчае права
Хозяйственное преступление - гаспадарчае злачынства
Хозяйственный расчёт - гаспадарчы разлік
Хозяйствененый суд – гаспадарчы суд
Хозяйственные споры – гаспадарчыя спрэчкі
Хозяйственный договор – гаспадарчы дагавор
Хулиганство – хуліганства

**Ч**

Чародейство –募араўніцтва
Частное обвинение – прыватнае абвінавачванне
Чековая книжка – чэкавая кніжка
Чрезвычайное положение – надзвычайнае становішча

**Ц**

Цель преступления – мэта злачынства
Цена – цана
Цена иска - цана іску
Ценные бумаги – каштоўныя паперы
Церковное право – царкоўнае права
Церковный брак – царкоўны шлюб

**Ш**

Шайка – шайка
Штраф – штраф

**Э**

Экспертиза трудоспособности – экспертыза працаздольнасці
Эксплуатация имущества - эксплуатацыя маёмасці
Экстрадиция – экстрадыцыя
Эксцесс защиты – эксцэс абароны
Эксцесс исполнителя – эксцэс выканаўцы
Эмиграция – эміграцыя

**Ю**

Юридическая безупречность (безукоризненность) – юрыдычная бездакорнасць
Юридическая консультация – юрыдычная кансультацыя
Юридическое лицо - юрыдычная асоба
Юридические нормы – юрыдычныя нормы
Юридическое образование – юрыдычная адукацыя
Юридическое обязательство – юрыдычны абавязак

**Я**

Явка с повинной – яўка з пакаяннем

